АПОВЕСЦЬ ПРА ТЫХ,
ХТО БУДУЕ
ЛЮДЗЯМ ШЧАСЦЕ

УСЕСАЮЗНЫ
ФОРУМ ПІСЬМЕННІКАЎ

КВІТНЕЕ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ

ПРА СЯБРОЎ-ЗВЯЗДОЎЦАЎ

КАМСАМОЛЬСКІ
ВАЖАК З БАРЫСАВА

ТАК МЫ ГАНДЛЮЕМ

СЛОВА ПАЭТА ПРА ПАЭЗІЮ

ПЕРШЫНСТВО ЕЎРОПЫ
Ў МІНСКУ



**7**

**ЛІПЕНЬ**

**МІНСК, 1967**

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе — № 7 ліпень 1967**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **В. Шаранговіча.**





**Дзень металурга сёлета ўпершыню адзначае падручны сталявара Пятро Пішчык. Ён памагае варыць сталь для беларускіх трактараў.**

Фота **В. Ждановіча.**



**Юрась СВІРКА**



# МНЕ ЗАЎТРА Ў ДАРОГУ...

Мне заўтра ў дарогу,
Паеду дадому —
У ціхі Бягомль, партызанскі раён,
Туды,
Дзе мне кожная хата вядома,
Дзе далеч гудзе ад пчаліных раёў.

Там маці мяне кожны вечар чакае,
Там бацька даўно мне наладзіў касу.
Мне гэты куток уяўляецца раем:
Там вершы мае —
Мая радасць і сум.

Не знаю,
Як доўгую ноч пералежаць:
Так цягне прайсціся па золкай расе!
Я чую,
Як пахне надрэчны алешнік,
Як шастае нехта у спелым аўсе...

Няхай мне прысніцца:
Для сэрца — нядзеля,
Вачам — далячыні,



Дарогі — нагам...
Кладу пад падушку
Любоў і надзею,
Як клалі вайной партызаны наган.



Сасонкі на магілы наступаюць.
Вянкі падсохлі.
Мёртвыя вянкі.
А пчолы цяжка з красак выпаўзаюць
І кулямі ўразаюцца ў блакіт.

Ніжэюць партызанскія магілы.
А я да іх, як да гары, ішоў.
Тут вербы нізкарослыя, пахілыя
Замест абеліскаў і крыжоў..

Магілы!
Вы — мае вышыні веку.
Да вас ісці мне, падаць,
Зноў ісці.
Вы для мяне — мая жывая Мекка
І першая малітва у жыцці.

Сучок сасновы хруснуў пад нагамі —
Здаецца, ў аўтамат заціснут дыск...
І, як палонны, я стаю над вамі —
Хадзячы і часовы абеліск.



Хачу глядзець
Як рукі паднімаюць
У класе тым,
Дзе ведаюць урок.
На скрыжаваннях,
Дзе машын чакаюць,
І на судзе,
Дзе лёс твой вырашаюць,
Не збочыўшы ад праўды ні на крок.

Баюся уявіць імгненне тое,
Калі узняты ўгору дзве рукі,
Калі нагрэты пальцамі куркі,
І вораг,

Нібы звер, перад табою
Абцасам стане на крывавы брук —
Ніколі б мне не ўбачыць гэткіх рук.

## ТЫ ПАЗВАНІЛА НЕЧАКАНА...

Ты пазваніла нечакана
І асвяжыла, як рака.
Я зноў у смеласць закаханы
Твайго далёкага званка.

І мне здалося:
Зноў я вольны,
І пацягнула зноў туды,
Дзе над Бярозай дрэмлюць вольхі,
Дзе даспяваюць жалуды.

Туды,
Дзе ты збіваеш росы,
Дзе краскі хіляцца да ног...
І я ляцеў у край дзівосны
Тваіх і думак і трывог.

І не хацелася мне думаць,
Як заглушу сямейны шум...
Ды што той шум,
Калі ад суму
Званок твой вылечыў душу.

□ □ □



Міхась ГУБЕРНАТАРАЎ



Зязюлі шэрыя кувалі,
Пачуўшы мірныя гады.
Бацькі прыходзілі ў медалях,
Як распускаліся сады.
І дом гудзеў, як муравейнік,—
Цяплей пад татавым крылом.
І сонца светлай каравелай
У хату новую плыло.
Ды не ва ўсе глядзела вокны
Святая радасць на зямлі:
Удоў заплаканыя вочы
Асеннім верасам цвілі.
Было цяжэй ім супакоіць
Малых, і толькі зрэдку ў сне
Да іх прыходзілі ў пакоі
Бацькі, што вечна на вайне.



Мал. П. Драчова.



Алесь САВІЦКІ



# САМЫ ВЫСОКІ ПАВЕРХ

Аповесць

1

Наш цягнік адыходзіць апоўначы. А цяпер яшчэ толькі вечар, і ў нас з Валяй багата часу, і мы стаім на каменным мосце, і нам хораша. Дзень быў спякотны, але гладкі гранітны парапет ужо халодны, і гэты холад студзіць локці; мне думаецца, што і Валі холадна — яна таксама абаперлася локцямі на граніт, але я баюся спытаць, баюся парушыць маўклівую прыгажосць расстання. Мы нічога не гаворым. Глядзім. Слухаем.

Мы развітваемся з Масквою...

На Спаскай вежы б'юць куранты. Міжвольна ўзнімаю руку і гляджу на гадзіннік. Як звычайна: спяшаецца на дзве мінуты.

— А мой — дакладна. Мы не спознімся?

— Яшчэ толькі восем. Калі хочаш, мы можам нават паспець у кіно.

— У кіно не хочацца. Мо паедзем па рацэ да Кіеўскага? А там — на метро...

— Лепей пешкі. Мы ж дамовіліся: усё так, як тады, калі прыехалі...

— Толькі крыху пастаім тут. Добра?..

Мы зноў стаім моўчкі, і зноў слухаем, і зноў глядзім. За сцяной Крамля, па ўзвышшу, роўным шнурам зеляненюць дрэвы. У прагалах відаць чырвоныя пяцікутныя клумбы — гэта цвітуць гваздзікі.

Замірае бомканне гадзінніка. Знікаюць шырокія промні, але неба яшчэ ружавее, і ў трапяткім малінавым бляску выразна акрэсліваюцца ў вышыні контуры шматпавярховых гмахаў.

— Трэба ісці. Хадзем,— кажа Валя, і па яе голасе я адчуваю, што кажа яна гэта без вялікай ахвоты.

— А мо застанемся на дзень які?

— А білеты? Білеты ж прападуць.

— Прадамо. А самі — застанемся. Я паступлю ў які-небудзь інстытут. Нешта мне дужа да спадобы вучоба.

— А мне хочацца хутчэй дамоў. Я вось думаю: якая цяпер наша Ірка? А ты што, сур'ёзна гэта пра інстытут?..

— Вядома, жартую.— Мне не меней за Валю хочацца апынуцца там, на беразе Дзвіны, у нашым горадзе. Мы прыязджалі туды ўлетку, пасля заняткаў, потым зноў ад'язджалі, нас чакала Масква, а цяпер трэба развітвацца з ёю. Пяць год мінула. У мяне

**Частка другая.** Першая частка аповесці публікавалася ў №№ 11 і 12 нашага часопіса за 1965 год.

такое адчуванне, што праляцелі яны, як пяць дзён. І дзіўна: толькі сёлета, зімою, калі мы былі дома, я адчуў, што дзень — гэта не абстрактная мера часу, а рэальнасць. Выключнай важнасці рэальнасць. Я адчуў гэта і ўпершыню падумаў: наш дзень падобны на імгненне — такі ён кароткі...

— Валя, я ўсё збіраўся папытаць, пра што вы гаманілі тады, зімою, на кухні? І — забываў. І вось цяпер прыгадаў...

— Пра Віктара. Я гэта добра памятаю. Мама мне ўсё казала, што нам не трэба варочацца ў Прыдзвінск.

— Гэта не навіна. Я ведаю, што яна Віктара не вельмі любіць.

— А ты?

— Што, «ты»? — я перапытваю гэта, хоць і ведаю, пра што пойдзе гаворка. Мне не хочацца гаварыць пра Віктара.

— Любіш Віктара?

— Я люблю толькі цябе.

Валіны бровы смешна выгінаюцца, яна глядзіць на мяне, таячы добрую ўсмешку.

— Ён сказаў мне: «Я кахаю цябе». Я здзівілася, але паверыла. Ён сказаў мне другі раз: «Я кахаю цябе». Я насцярожылася. Ён сказаў мне трэці раз: «Я кахаю цябе». І я зразумела: ён хлусіць.

З прытворнай строгасцю я стукаю пальцам па гранітным парапеце. «Яшчэ адно слова і ты апынешся ў вадзе!» А яна спакойна працягвае мне сумачку.

— Ты стамілася?

Я бяру з яе рук сумачку.

— Цяпер можаш... Ну, чаго ж ты чакаеш? Кідай!..

Яна глядзіць уніз, на раку, і я не бачу яе твар, але добра ўяўляю сабе, як торгаюцца Валіны вейкі і спее ў вачах смех; Валя лёгка прыхінаецца да мяне, і я адчуваю цеплыню яе пляча, і ад гэтай цеплыні, ад блізкасці Валі, ад яе ласкавай насмешлівасці мне робіцца вельмі хораша.

Гэтае месца на мосце над Масквой-ракою было пяць год для нас запаветным і застанецца такім назаўсёды, і кожны раз, калі нам давядзецца быць у Маскве, мы будзем прыходзіць сюды.

— Не мы, а я,— папраўляе мяне Валя.

— Так. У верасні — ты зноў тут. Я нават зайздрошчу, што табе яшчэ год вучыцца.

Мы ідзём па Краснай плошчы, вельмі людная у вечаровы час. Неба ўвысі крыху пацямнела, і агністы сцяг над зялёным купалам, што ўзвышаецца за чырвонай сцяною, падобны на жывую паласу агню. Болей за ўсё людзей у цэнтры, ля Маўзалея: чакаюць, каб паглядзець змену вартавых.

— Яны ўжо ідуць,— гаворыць Валя.— Глядзі!..

У новай, дбайна адпрасаванай форме ідзе змена вартавых. Яны ідуць ля нізкіх каменных трыбун, абцасы ботаў цокаюць гулка, чыста, і плошча раптоўна сціхае, здаецца, замерла ўсё, апрача гэтых чоткіх, рытмічных крокаў. Вартавыя ўзнімаюцца па прыступках, робяць імклівыя павароты і застываюць, нібыта скамянеўшы, ля дзвярэй Маўзалея. І зноў чуваць пошчак крокаў — ідзе на адпачынак варта, што адстояла свой час. А людзі не разыходзяцца, і не хочацца ісці нам. Хочацца стаяць, і глядзець, і нічога не казаць, а толькі стаяць, і толькі глядзець, адчуваючы, як сплывае ў нябыт марудны і імклівы час...

Валя бярэ мяне за руку, і мы крочым павольна, не спяшаючыся: мы — адны ў густой і стракатай людской плыні. На рагу, ля Гістарычнага музея, мы спыняемся, акідваем развітальным позіркам плошчу. Апошні раз перад ад'ездам. Заўтра нас не будзе тут, а сёння мы яшчэ можам стаяць, глядзець, бачыць сваімі вачыма тое, што заўтра будзе далёка, але назаўсёды застанецца жыць у сэрцы. Бывай, плошча!.. Нават, не, лепей — да сустрэчы. Будзе час, і мы зноўку сустрэнемся з табою, пройдзем па тваіх цёмных гранітных плітах, і прыгадаем гэты вечар і ўсё тое, пра што думаецца цяпер, калі да адыходу цягніка застаецца колькі там гадзін.

— Значыцца, пешкі да самага Беларускага? — пытаюся я ў Валі.

— Вядома. Але перад гэтым ты павінен нешта зрабіць. Помніш, як тады гаварылі?

— Хіба мы мала тады пра што гаварылі?

Наўмысна пацiскаю плячыма. Мне ўсё яшчэ думаецца, што Валя не памятае падрабязнасцей, і мне хочацца нечакана яе ўразіць: зайсці ў кандытарскую і купіць доўжанькі пакецік маскоўскіх пернікаў — зрабіць усё так, як было тады, у той першы дзень нашага маскоўскага жыцця. Тады іспыты былі не здадзены, і ніхто з нас не ведаў, што рыхтуе нам свавольны экаменацыйны лёс, і стаялі мы над Масквою-ракою ўсхваляваныя і ўзрушаныя. Мы зноў ішлі пешкі ад Беларускага вакзала, стаялі на мосце, глядзелі на крамлёўскія зоры і елі маскоўскія пернікі — я купіў іх на латку ля кандытарскай. Пернікі былі вельмі смачныя, але пакецік маленькі, усяго чатыры штукі, і Валя сказала, што потым, калі скончым вучобу, прыйдзем яшчэ сюды.

Валя памятае, не забылася. Але мой наўмысны адказ засмуціў яе...

У кандытарскай я дзейнічаю па-купецку: купляць дык купляць!

На Валіным твары здзіўленне. Дзесяць? Навошта? Але прадаўшчыца ўжо загортвае пернікі ў вялікі аркуш сіняй паперы, і я прашу пакінуць адзін пакецік. Потым падчэпліваю пальцам ладны, але лёгкі пакунак, і мы выходзім на вуліцу.

— Мабыць, пернікаў болей і не засталося,— жартуе Валя.— І куды гэтулькі? Ты часам такое прыдумаеш!..

— За гэта ты будзеш пакарана.

— Цяпер?

— І цяпер. І дома. Мы з Іркаю будзем есці маскоўскія пернікі, а ты — толькі на іх глядзець. Радуе цябе такая перспектыва?

— Не вельмі. Але ў мяне ёсць надзея: сэрца — не камень. Глядзі! Сёння тая ж п'еса, што ішла тады!..

Успаміны выплываюць нечаканыя, выразныя, нібы ўсё тое, пра што думаецца, было толькі ўчора і таму не выветрылася з памяці, не страціла свае вастрыні і свежасці. Мне ўвесь час здаецца, што Валя павінна нешта спытаць, але яна нічога не пытае, крочыць упоравень са мною. «Лепшыя гады жыцця...» Валіны словы да дзіўнага рэальна выплываюць у памяці, неяк рэльефна нават, нібыта вялізныя літары неонавай рэкламы, што разгортваюцца ў вечаровых прыцемках над будынкам па той бок вуліцы. Праўда, лепшыя гады былі тут, у Маскве. Самыя цяжкія і самыя добрыя, самыя прыгожыя гады. Студэнцкія гады; пяць у мяне, чатыры ў Валі. Яна рабіла перапынак у вучобе, бо пад канец першага курса нарадзілася Ірка. Адсюль, з гэтага вялізнага будынка тэлеграфа, я званіў у Прыдзвінск, і мне паведамілі з раддома навіну, якая зрабіла мяне бацькам і самым шчаслівым чалавекам. Тады, як і сёння, бесперапынна адчыняліся і зачыняліся дзверы, і было шмат людзей ля ўваходу, і я бег, абмінаючы іх, па доўгіх каменных прыступках.

— А чаго ты надумаў званіць менавіта ў той дзень? — пытаецца Валя. Мы прыпыніліся ля будынка тэлеграфа, і Валя разглядае вялізны круг гадзінніка на доўгім кранштэйне.

— Быў ліст ад бацькі. Я адразу пабег сюды.

— Мне сказалі, што ты званіў. Быў дужа крэпкі вецер — клёны стукаліся да нас у шыбу.

— А тут ішоў дождж. Слабы, праўда.

— У нас дажджу не было. З майго ложка я бачыла кавалак неба. І клёны. Ад ветру галіны гнуліся і дрыжалі. Я была падумала: напішу, каб не дрыжаў на экзаменах...

— Я атрымаў той ліст і смяяўся. На экзаменах я ніколі не дрыжаў. Спачатку, калі білет не ўзяў, трывожышся, а потым — спакойны.

— Хвалько! А што ў цябе было на выпускным? Забыўся формулу бетону.

— Але ж я яе прыгадаў!

— Барада на цябе пакрыўдзіўся.

— Тут зусім іншае. Пакрыўдзіла яго мая аспірантура. Ён і цяпер лічыць, што я павінен быў застацца.

— Хіба ты не казаў яму пра свае планы?

— Казаў. Але праз два гады ён, відаць, пойдзе з кафедры. Я гэта адчуў. Яго і паважаюць на кафедры і крыху пабойваюцца. А пасля гісторыі з Віктарам...

— А я і дагэтуль не разумею, навошта Віктар пісаў тую скаргу ў дэканат? Ну, зрэзаўся на экзаменах — дык вучыся! А так гэта выглядае помстаю.

— Яно так і ёсць. Віктар помсціў яму за экзамен. Экзамен вырашаў лёс аспірантуры.

— Між іншым, я табе даўно хацела сказаць: ты не схацеў паступаць у аспірантуру з-за гэтай гісторыі?

— І гэта адыграла нейкую ролю. А прыняў я правільнае рашэнне: гады тры папрацую — і будзе відно. Лепей быць добрым будаўніком, чым пасрэдным вучоным...

Мы пачынаем даўнюю нашу гаворку. І кожны раз выплывае імя Віктара, і мне непрыемна неяк, і не хочацца спрачацца з Валяю.

На Цвярскім бульвары ў шырокіх каменных вазах цвіце чырвоная настурцыя. Лавачка ў кутку пустая, і мы садзімся на яе, і адразу, нібыта чакалі нашага з'яўлення, запальваюцца ліхтары, і доўгая паласа бульвара выплывае са змроку аграмаднай бліскучай яшчаркай. Галіны дрэў спляліся ўверсе, і пад зялёным шатром цемнавата, хоць і гараць ліхтары.

— О! Гэта ж Барыс! — Валя паспешліва хапае мяне за руку.— З дзяўчынаю... Не, памылілася... Дужа ж на яго падобны хлопец!

— Вельмі. Але Барыс цяперка ловіць рыбу на Байкале. У нас вечар, а там — світанне...

— Я ніколі не была ў тых мясцінах.

— Падрасце Ірка, і мы паедзем туды адпачываць. Памятаеш, як марылі? Сядзем і пакоцім — ад Масквы да Уладзівастока.

— Ён, здаецца, нешта піша пра Байкал?

— Пра рыбакоў. Гэта яго дыпломная работа... Ты ведаеш, я аднойчы падказаў яму цікавую штуку для кнігі. Мы тады гулялі з табою ў парку, а потым я вярнуўся ў інтэрнат, а ён сядзеў і пісаў. Памятаеш, у аповесці: стаіць чалавек ноччу ля акна і глядзіць на горад. Гэта я падказаў яму!

— Але ж Барыса крытыкавалі менавіта за гэты вобраз!



— Адны — крытыкавалі. Другія — хвалілі. Як толькі паявілася ў газеце першая рэцэнзія, ён сказаў, што адмовіўся б ад кнігі і напісаў новую, каб толькі тое можна было зрабіць. І казаў сур'ёзна.

— А ён увогуле чалавек сур'ёзны.

— А я?

— А ты — гэта ты.

— Магутная формула!

— Дай пернік, калі ласка.

— Толькі палавінку. Бачыш, пакаранне пачынаецца. А заканчэнне будзе там, на Дзвіне.

— Пабачым. Дасі палавінку?

— Бяры цэлы. І ведай маё добрае сэрца!..

Валя сядзіць, прыжмурыўшы вочы. Ідуць людзі па дарожцы бульвара, пярэстай ад святла ліхтароў, зацененых густым сплячэннем лісця,— ідуць хутка, не спыняючыся. І ад таго, што ніхто на нас не звяртае ўвагі, ніхто нічога не гаворыць нам, ні пра што не пытаецца, робіцца сумна, нібыта крыўдна на нешта.

Чамусьці зноў думаю пра Барыса. Чаго прыгадала яго Валя? Не, яна проста ўбачыла хлопца, вельмі падобнага. А мо спачатку падумала, а потым убачыла? «Ён чалавек сур'ёзны». Мабыць, правільна. Але ж, і патайны! Мы колькі пражылі разам, а я не так і добра ведаю яго. Памятаю, Барыс не вельмі любіў расказваць пра сваё жыццё, пра тое, што было з ім у Віцебску, адкуль ён прыехаў да нас на будоўлю. А ў Маскве ён з'явіўся на трэці год пасля мяне — паступіў у Літаратурны інстытут імя Горкага. Раней я нават і не ведаў, што такі інстытут існуе. А Барыс ведаў. Паступаў ён туды два гады: спачатку не прынялі, а потым ён паслаў на творчы конкурс рукапіс свае кнігі. Рукапіс ухвалілі, нават паспрыялі ў выдавецтве. Цяпер у Барыса ёсць кніга, ён падараваў мне яе з аўтографам. А сёлета ў яго практыка, і ён паехаў на Байкал. Усё казаў, што хоча пабачыць, як ловяць омуля. Які ён, гэты омуль? Я нават не бачыў яго ніколі. Барыс абяцаў прысласць. Але нешта няма ад яго вестак. Мажліва, яны прыйдуць у Прыдзвінск?..

— Мабыць, час ужо,— гаворыць Валя і ўстае.

— Ты сёння як бы спалоханая... Гарантую, не спознімся.

— Такое адчуванне, нібыта даўно вельмі сядзім тут.

— А цяпер да помніка.

— На хвілінку. І адразу ж пойдзем, і нідзе не будзем спыняцца. Нам яшчэ рэчы трэба атрымаць.

— Гэта зойме пяць хвілін. Усё спланавана, усё падлічана!

За помнікам Пушкіну, унізе за шырокім гранітным парапетам, плешчацца вада. Чорныя зыркія струмені ападаюць на вялізныя чашы, бруяцца, пеняцца. Вецер гоніць ад фантана дробны, непрыкметны вадзяны пыл, ён асядае на дарожкі, пасыпаныя дробнай тоўчанаю цэглай, на вільготнае блішчастае лісце кудлатых ліп, што стаяць наўкола. Па вузкаму франтону цёмнага гмаху, які ўзносіцца за верхавінамі дрэў, ззяючы, прабягаюць вялізныя неонавыя літары — з іх нараджаюцца словы, а потым гэтыя словы знікаюць, і ўслед за імі бягуць і бягуць бясконцаю стужкаю новыя; у водбліскаах іх амаль прападае гмах, і тады здаецца, што словы вырастаюць проста ў цёмным паветры і знікаюць у ім жа, толькі пакінуўшы кароткі ўсплёск зыркага агню.

— Мы будзем праходзіць тут практыку,— гаворыць Валя і глядзіць на неонавыя літары. Там, у двары, друкарня... Спачатку пла-

навалася на камбінаце «Праўды», а потым нас падзялілі на дзве групы: адна будзе там, а наша — тут...

— Скажы, пра што ты думаеш? — пытаецца яна.— Толькі шчыра.

— Пра цябе,— кажу я і тут жа забываюся на свой клопат і думаю ўжо зусім пра іншае і кажу ёй пра тое.— Заўтра — дома. Адразу ж возьмем човен і — па Дзвіне. Падрыхтую спінінг і нашморгаю вам шчупакоў.

— А помніш, якога мы сома тады злавілі?

— Сом быў важнецкі. Рогач казаў: прыедзеш з Масквы — збяромся ўсёй брыгадаю, і ты раскажаш пра ўсё, што бачыў у Маскве. Помніш, як тады мы сабраліся і хораша пагаманілі? А каму цяпер збірацца? Казімір з Нінаю ў Брацку! Барыс на Байкале! Сініцын і Ткач толькі...

— А Віктар?

— А што — Віктар?

— Ты пытаешся такім тонам... Быццам шкадуеш, што прыняў яго прапанову працаваць у Прыдзвінску.

— Хіба ж гэта Віктарава прапанова? Я сам хацеў. І хіба ты не настойвала?

— Настойвала.

— І мы абмеркавалі ўсё разам з табою. Так? Навошта ж спасылацца на Віктара?

— Ён — галоўны інжынер упраўлення. А ты — зайздросціш. Прызнавайся!

— Глупства...

Я кажу рашуча, кажу цвёрда, каб у Валі не ўзнікала болей ніякіх сумненняў. Але ў гэтай цвёрдасці ёсць нешта крыўднае для мяне самога, ёсць незадаволенасць Валяй. Навошта яна зноў пачынае гаворку пра Віктара? Навошта яна мяне дражніць? Знарок ці з нейкаю мэтаю яна павяла ўсё гэта? Спачатку Барыса ўспомніла... Цяпер гэты Віктар... Нібыта іншай гаворкі няма!

І ў гэтым папроку, які я не выказваю ўголас, а які жыве ва мне, ёсць тое, што так адразу насцярожыла, настроіла ваяўніча супраць Валіных слоў. А мо і сапраўды зайздрошчу, што Віктар стаў галоўным інжынерам?.. Не, не зайздрошчу. І гэта — шчыра. Каб мне, у прыватнасці, прапанавалі такую пасаду сёння, я б адмовіўся. У мяне мала вопыту, мала практычных ведаў, каб кіраваць такім вялікім калектывам. Цэлае ж упраўленне! А Віктар — згадзіўся. І нават больш: прыслаў у інстытут ліст з просьбаю накіраваць мяне ў Прыдзвінск. А я і раней, яшчэ як толькі паступаў, вырашыў: прасіцца ў свой горад. У інстытуце ляжыць папера, падпісаная Віктарам, і пры думцы пра тое мне робіцца непамысна. Уласна кажучы, у тым, што я еду ў Прыдзвінск, Віктараў ліст не адыграў аніякай ролі, бо мая заяўка была пададзена раней, і на папярэднім размеркаванні гаворка ішла толькі пра наш горад: жадаючых паехаць сюды, акрамя мяне, не было. Так што не дужа Віктару трэба выпінацца, і Валі не варта ўвогуле гаварыць пра тое. Але пісьмо з упраўлення ляжыць у інстытуце, я еду ў Прыдзвінск, і Валя гаворыць пра Віктара. Гэта — факты. А мо я і сапраўды зайздрошчу? Глупства!

— Пойдзем,— кліча Валя.

— Яшчэ пяць хвілін. Толькі пяць... Вось глядзі на гадзіннік. Як толькі пяць пройдзе — адразу ж шнуруем на вакзал...

Валя сочыць за стрэлкаю гадзінніка. А я гляджу на тонкія стру-





мені вады, што залятаюць у аранжавае кола святла і нібыта разбіваюцца аб яго, рассыпаюцца і зорным блішчастым сяйвом ападаюць уніз, у чорны прамавугольнік басейна. Вецер крыху прыгінае струмені, кола зорнага вадзянога сяйва раздаецца ўшыркі, сплывае ўбок, і лёгкі дымны пыл ападае мне на рукі. Я задзіраю галаву і гляджу. Светлае аранжавае кола над франтонам дрыжыць, і дрыжыць за гэтым колам чорная прастора ночы, рэдкая, спаласаваная водбліскамі дрыготкіх агнёў, і я гляджу на іх і дыхаю на поўныя грудзі, дыхаю так, нібыта вось зараз жа, як толькі пройдуць гэтыя пяць хвілін, скончыцца маё жыццё. Час нібыта спыніўся, і я не думаю цяпер ні аб чым, толькі адчуваю на твары халодны туман: вадзяны пыл асядае на лоб, на шчокі нячутна, і здаецца, што ідзеш ля ракі пасля дажджу праз туманную парнасць, і хоць дажджу ўжо няма, у паветры ўсё яшчэ вісіць шэрая імгла.

І раптам аднекуль з глыбіні душы, як штуршок, як загад, хуткая і ясная думка: трэба ісці. Я працягваю руку Валі, і яна гаворыць:

— Роўна пяць. Вось паглядзі!..

Мы крочым хутка, і нам добра і весела ад таго, што на развітанне мы пабылі ва ўсіх месцах, звязаных з нашым мінулым, з нашым жыццём у Маскве, з нашым каханнем. На мосце ля Крамля мы сустракалі святочныя салюты. На лавачцы ў кутку Цвярскога бульвара абмяркоўвалі сямейныя справы, калі Валя прыехала з Прыдзвінска. У скверыку ля фантана сустракаліся кожны раз, калі збіраліся ісці ў новы кінатэатр. Па вуліцы Горкага прайшліся ўпершыню, як толькі прыехалі і апынуліся разам у Маскве. Мы тады ішлі і здзіўляліся, гаварылі шмат пра сваё жыццё, захапляліся ўсім, што бачылі вакол, часта прыпыняліся на скрыжаваннях і плошчах, і вуліца здавалася нам бясконцаю...

А цяпер вуліца нібы пакарацела. Неяк зусім непрыкметна мінаем адно скрыжаванне, другое, і вось ужо наперадзе зіхатлівыя агні прывакзальнай плошчы.

Рэчы свае мы прывезлі на вакзал яшчэ зранку. Чаргі ля багажнага аддзялення няма, і мы адразу ж атрымліваем свае чамаданы і крочым на перон.

— Ты бачыш, як хораша ўсё атрымалася,— кажу я Валі.— Па раскладу... Зараз пакінем чамаданы ў вагоне, і я прынясу табе марожанае...

Валя не хоча мяне пускаць, але ў вагоне мы ўладкоўваемся вельмі хутка, часу яшчэ хапае, і я выходжу на перон. Верх акна, ля якога стаіць Валя, адчынены, яна сочыць за мною, і ад гэтага ў мяне хораша на душы.

— Дзве порцыі,— прашу я прадаўшчыцу.— Дзве порцыі на развітанне.

— Калі ласка. Ешце і нас не забывайце.

— Цяжка забыць. У вас самае салодкае марожанае ва ўсёй Маскве. Я кожны раз купляю ў вас.

— І правільна робіце. Але ж нешта я вас не прыкмячала...

Нам не даюць завяршыць гэтую галантную размову: за спіною ў мяне ўжо бубняць пакупнікі, і я адыходжу, памахваючы прадаўшчыцы рукою. Валя хмурыцца, і гэтая строгасць, калі я ўваходжу ў вагон, мяне дзівіць.

— Не падабаецца марожанае? — пытаюся я.

— Не падабаецца, што з прадаўшчыцай гаворыш паўгадзіны. Знаёмая?



— Вядома. Я звычайна перад ад'ездам заказваю марожанае на свой густ.

— Нядобры густ. Людзі чакаюць, а ён лясы точыць!

— Я сказаў ёй камплімент. Павінен я быў сказаць яго на развітанне? Ты паспытай, якое смачнае!

— Смачнае,— згаджаецца Валя.— Але ты мог і меней гаварыць з прадаўшчыцай. Мне зрабілася ніякавата, калі ты ёй усміхаўся.

Адказаць Валі не паспяваю. У наша купэ заходзяць дзве жанчыны. Паліцы ў іх верхнія, і жанчыны запытальна глядзяць на нас. А я гляджу на Валю. Нам усё роўна, дзе ехаць, але я не хачу ўсміхацца незнаёмым жанчынам і прапаноўваю абмяняцца месцамі падкрэслена суха, але далікатна. Жанчына ў тонкіх, з пазалочаным абадком акулярах, папраўляе каўнер шарсцяной кофтачкі і паспешліва дзякуе нам.

Я ладкую паклажу нашых спадарожніц пад ніжнім сядзеннем і выходжу ў калідор, дзе ўжо крыху сунялася мітусня і развітальная гамана. Мы стаім з Валяй ля акна і глядзім на ярка асветлены перон.

— Ты чаго такі хмурны? — пытаецца Валя.— Яны табе дзякуюць, а ты нават не ўсміхнуўся.

— Я ўжо ўсміхаўся прадаўшчыцы. На сёння хопіць.

— Не трэба быць дагматыкам. Ты заўважаеш, як можна ўзрадаваць чалавека маленькай паслугаю, драбязою нават...

— З дробязей складаецца ўсё наша жыццё,— кажу я з робленай шматзначнасцю.— Нават каханне...

— І гэта ўсё, чаму ты навучыўся ў Маскве за пяць год?

— Не. Яшчэ я ведаю акрамя гэтага: марожанае смачнае.

— Брава. Ты не дарэмна вучыўся тут пяць год!

Цягнік крануўся ціха і плаўна. Гайдануліся і пасунуліся назад ліхтары, людзі, металёвая вязь апорных слупоў. Бывай... Не, лепей — да сустрэчы! Да сустрэчы, цудоўны і слаўны горад!

Агні прыстанцыйных будынкаў падступілі да самай чыгункі. А за імі паўсталі сцяною высокія жылыя гмахі, і вокны іх асветлены па-рознаму, і некаторыя зусім цёмныя і здаюцца плямамі на светлай сцяне; але вось адплылі і яны, і адкрыўся далягляд, адкрылася панарама вялізнага горада. Сярод безлічы рознакаляровых агнёў велічна ўзняліся ззяючыя абрысы высотнага гмаха на Ленінскіх гарах, і яго роўныя светлыя грані выразна акрэсліліся, паўсталі ў цёмнай далёкай высі, як казачны міраж, як нерэальнасць. Гэты гмах заўжды бачыш здаля, калі пачынаюцца толькі маскоўскія прыгарады. І цяпер ён доўга праводзіць нас.

У калідоры ўжо не так людна, пасажыры зайшлі ў купэ, і праваднiца збірае білеты. Працягваю ёй нашы білеты, і мы зноў моўчкі стаім ля акна і глядзім. Я думаю пра горад, дзе пражыў пяць год, дзе вучыўся, дзе зведаў шмат добрага і слаўнага.

## 2

Віктар адчыняе дзверы на поўны мах, гукае гасцінна і ўзрадавана:

— Прашу! Прашу, масквічы! А я чакаю! А я ў акно гляджу... Ну, думаю, заганарыліся! Чаму ж гэтак позна?

Радасць яго не робленая, а шчырая, і гэта мяне прыемна ўражвае. Мне думалася, што сустрэча наша будзе крыху як бы афіцыйная, што ўбачу фанабэрыю вялікага і ганарлівага начальніка. А Вік-

тар, аказваецца, нават і знешне амаль ніколькі не змяніўся, і апрануты неяк па-хлапецку: светлыя вузкія штаны, сіняя, з белымі палоскамі, кашуля, каўнер расшпілены, а на плячы, як шалік, неахайна вісіць вузкі і не надта чысты ручнік.

— Ірку спаць клалі,— пачынае апраўдвацца Валя.— І яшчэ на пароме затрымаліся. Таму і позна.

— Але ж гэта лепей, чым ніколі!

— Я табе дам — ніколі! Віктар штурхае мяне ў плечы, усміхаецца.— А павярніся ты, павярніся, сынку, як казалі гогалеўскія казакі. Ды пакажыся!..

— Не, гэта ты лепей пакажыся! Ну, як ты тут кіруеш?

— А нічога, ведаеш. Ну, прашу, прашу! А то трымаю гасцей ля парога. Праходзьце!

Кратаю ручнік на Віктаравым плячы.

Віктар спахопліваецца, зрывае з пляча ручнік, камечыць у руках: яму нібыта сорамна, што Валя ўбачыла яго ў такім выглядзе.

— Па гаспадарцы кручуся,— ён пaглядае то на мяне, то на Валю.— Маіх жа дома няма. Паехалі ў Слуцк. Цётка там усё хварэе. А я тут вячэру гатаваў...

— Мо памагчы? — прапаноўвае Валя.

— Усё, усё гатова на вышэйшым узроўні.

Стол у пакоі накрыты, ля талерак стаяць высокія чаркі на тонкіх ножках. Я гляджу на стол, а на мяне глядзіць жанчына, што стаіць у прасценку ля квяцістай, амаль да самай падлогі, шторы. Штора і сукенка ў жанчыны крыху падобныя па колеру, і таму, мабыць, я не адразу прыкмеціў, што мы не адны ў пакоі.

— Лена! Што ж ты! Прымай гасцей! — гукае Віктар, уводзячы нас у пакой. Тваё землякі яшчэ пахнуць сталіцаю. Смялей, смялей... Давайце знаёміцца! І — вячэраць!..

Рукаемся, а жанчына, заўважаю, крыху збянтэжана, але хавае гэта за бадзёрай і прыветнай, крыху робленай, усмешкай. Здаецца, недзе сустракаліся. Мая ўвага, відаць, празмерная, і я крыху болей, чым трэба, мабыць, спыняю свой позірк на яе твары: Лена знарок адварочваецца, бярэ Валю за руку, і яны ідуць да канапы.

— Сядайце, калі ласка, сядайце. Вы праўда толькі што з Масквы? Ці гэта Віктар жартуе? Ён любіць жартаваць, я ведаю.

— Пазаўчора прыехалі.

— Ой, а я ўжо месяц там не была. Мы як выехалі на гастролі, дык і дагэтуль усё на колах. Летні час для нас — падарожжа, падарожжа і падарожжа. І пакуты, што з імі звязаны. Праўда, сёлета маршрут цікавы і вясёлы. Памятаю, калі Віктар яшчэ вучыўся, ён мне казаў: пабачыш нашу Дзвіну — не захочаш ніколі адсюль ехаць. І вось цяпер давялося: і пакупацца, і пазагараць, і паглядзець яе.

— Віктар не памыліўся?

— Ніколькі. Ёсць нешта ад Ангары. І на Аку крышку падобна, ля Кашыры. Вы не былі там?

— Не, не была.

— Ах, даруйце. Што гэта я ўсё вам пра вашу Дзвіну... Вы, калі ласка, пра Маскву гаварыце... Яна мне кожную ноч сніцца. Учора званіла маме, дык так расхвалявалася — да раніцы амаль і не заснула...

Я стаю, не ведаю, што мне рабіць, і слухаю. У дзвярах нячутна з'яўляецца Віктар, робіць мне пальцам знак — выйсці. Потым, уголас, весела, крыху ненатуральна смеючыся, гукае:

— Таварышы жанчыны, мы вас на міг пакінем. Леаніда я вяду на кухню, каб выкарыстаць у якасці рабочай сілы. Але гэта толькі на хвілінку. Згодны?

Валя парываецца ўстаць з канапы.

— Дык давайце я памагу!

— Сядзіце, сядзіце,— Лена прымушае яе сесці.— Масква, Масква... Віктар, не перашкаджай нам, калі ласка!

На кухні адчынена акно, але моцна пахне смажанай рыбай, цыбуляй і яшчэ чымсьці мне невядомым.

— Бяры гэта,— камандуе Віктар і падае мне вузкую вазу з круглым тортам.— І вось яшчэ яблыкі на пляцёнцы. А я пацягну рыбу. Смажыў сам, браце. Лена ў гэтай справе не вельмі разбіраецца. Яна вось торт пякла з карыцаю...

Цяпер я здагадваюся: гэта пахне карыца. Але мне карціць даведацца пра іншае, і я пытаюся асцярожна:

— А хто яна, Лена гэтая?

— А ты хто?

— Упершыню мяне бачыш?

— Не ўпершыню. Але сёння ты — госць. А калі госць задае шмат пытанняў — гэта не зусім прыстойна. Разумееш?

— На жаль, не ўсё. Затое абяцаю: больш пытанняў нетактоўных не будзе.

— Малайчына. Але пакольк прэсканферэнцыя на гэтую тэму ў нас узнікла, я павінен табе паведаміць: Лена — даўняя мая сяброўка па Маскве. Артыстка. Яны тут на гастролях. Так што, як бачыш, не толькі будую дамы, але і патроху захапляюся мастацтвам.

— І некаторымі прадстаўнікамі гэтага мастацтва...

— Што паробіш: не люблю абстрактнае мастацтва. Там, на стале, каньяк. Ці, можа, ты хочаш «сталічнай»?

— Я — госць, з твайго дазволу. Але няхай будзе каньяк.

— А нашым дамам прапануем «Усмешку». Ты не піў такое віно?

— Здаецца, не чуў нават.

— І не карай сябе за гэта. Зусім новая марка. Спецыяльны разліў для спецыяльнага продажу.

— Ты, я гляджу, робішся вузкім спецыялістам.

— Яшчэ і не тое ўбачыш. Але на ўсё — свой час. Пабеглі, бо там нас чакаюць.

Пакой — я адразу заўважаю гэта — пусты: ні Валі, ні Лены. Але дзверы на балкон адчынены, вецер ветразем выгінае тонкі белы цюль. Адтуль чуваць смех.

Віктар ставіць патэльню з рыбай на падстаўку, выцірае ручніком пальцы і кідае ручнік мне на рукі.

— Ну, управіліся! Лена! Валя! Што вы там робіце на балконе?

— Глядзім на горад,— гукае Валя.— Як хораша ён відзён! Нават Дзвіна як на далоні — да самай паваро́ткі!..

— Дзвіна не ўцячэ. А рыба мая гнецца ў чаканні. Лічым да трох. Раз... Два!..

Адкідваючы рукамі цюль, улятае ў пакой Лена, за ёю — Валя. А Віктар ужо налівае чаркі, першы ўзнімае руку, прапаноўвае тост, голас у яго незвычайна вясёлы:

— За Маскву! За самы цудоўны і самы светлы горад на гэтай планеце! За тое, каб цягнікі часцей падвозілі нас да Беларускага вакзала! За ўсё гэта — першы тост!

— І за маю Таганку,— гаворыць Лена і летуценна мружыць шэрыя вочы.— За таполі ў нашым двары.

— І клён,— дадае Віктар.— Той клён, што стаіць ля ўваходу з вуліцы...

Здзіўляе мяне раптам Валя. Яна нейкая ўзбуджаная, вясёлая і празмерна смелая — такой я яе нават і не бачыў; імпэтна ўзняўшы чарку, Валя глядзіць на мяне, і вочы яеззяюць весялосцю.

— Тады так... Усе... за Маскву. І кожны — за сваё паасобку. З Масквою мы ўсе звязаны крэпка!..

Віктар, трымаючы келіх у адной руцэ, другою хапае відэлец і бразгае па бутэльцы.

— Ніякіх аднаасобніцкіх тэндэнцый. Толькі адзін агульны тост: Масква! За горад, дзе мы вучыліся, дзе сталі інжынерамі, дзе гараць рубінавыя зоры, што дораць людзям усяе зямлі цяпло, святло і добрыя надзеі!..

— А я ўсё-ткі п'ю за сваю Таганку,— раптам гаворыць Лена.— І за добрыя надзеі. За свае добрыя надзеі! — і выпівае келіх да дна.

Мне пачынае падабацца Лена. За гэтыя яе апошнія словы, за гэтую сваю зацятасць: сказала — і не адступаецца. Спачатку, як толькі я яе ўбачыў, яна чымсьці не падабалася, а цяпер я гляджу на яе, і ўсё мне падабаецца: і вельмі добрыя шэрыя вочы, нейкія дужа мяккія вочы, і густыя светлыя бровы, не кранутыя фарбаю, падабаецца яе голас, і яе рашучасць асабліва. Вось сказала, што Таганка ёй самае блізкае і роднае, і што яна хоча выпіць за яе, і нічога не змяніла. Малайчына! Гляджу больш уважліва і раптам здагадваюся: афіша! Вось адкуль я ведаю яе твар. Гэта ж на тэатральнай афішы, якую мы сёння ранкам чыталі ў скверы, я бачыў яе твар.

За сталом усім хораша, весела і слаўна — так мне думаецца. Віктар сапраўды добра засмажыў рыбу. Я бяру ў Лены талерку, выбіраю з патэльні самы лепшы кавалак.

— Што вы! Што вы! Мне гэтулькі не трэба! — просіцца Лена.

— Вы яшчэ не ведаеце, у якую кампанію трапілі. Яны — сапраўдныя рыбакі.

— Так што рыбкі цяпер вам давядзецца паесці,— кажу я, падтрымліваючы Валю.— Вы ведаеце, якога я аднойчы славіў сома? Амаль на два пуды. Мы яго елі цэлы тыдзень.

Лена раскоціста рагоча. Віктар з уяўнай дзелавітасцю, нібыта чытае які фармуляр, гаворыць:

— Гэта, Лена, праўда было. А потым, на другі тыдзень, Валя адкрыла рыбны ларок, каб прадаць тое, што засталося. Два месяцы прадавала, а галаву так і не прадала. Бо ані ў кога ў горадзе не знайшлося такога вялізнага чыгуна, каб зварыць.

— І што ж зрабілі з той галавою?

— Абмянялі на дробязь. На печкуроў!

— А-э! Дык вось адкуль гэтая рыба тут на патэльні!

— Ну-ну! — пагражае Віктар мне пальцам.— Такога судака ў вашым ларку ніколі не было і не будзе. Экстра!

— Значыцца: з цэнтральнага рыбнага магазіна. Наш ларок пераабсталяваны ў фірменны магазін.

— Не, не,— смеючыся, пярэчыць Лена.— Гэта мы з Віктарам судака злавілі. Самі. На маторцы ехалі і цягнулі спінінг. Я думала, што зачапілі за нешта. А гэта — судак!

Віктар глядзіць на Лену з захапленнем, потым нахіляецца да мяне, гаворыць таямнічым шэптам:

— Такія мясціны на рыбу адкапаў — не прысніцца! Праўда, далекавата. Кіламетраў трыццаць на маторцы трэба гнаць.



Ну і Віктар! Няўжо ён сабе і маторку прыдбаў? Хутка ж ён тут развярнуўся!

— Ды не мая маторка,— апраўдваецца Віктар.— Бяру ў бухгалтара ўпраўлення. Заядлы рыбак. А пасудзіну зляпалі яму на шкловалакне. Матор, праўда, магутны паставіў: цягне, як звер. Можаш мне паверыць...

— Уніз па Дзвіне хадзілі?

— Не. Уверх. Да вусця рачулкі. І потым па ёй яшчэ кіламетраў з пяць... О-ох і мясціны там! Глуш. Берагі топкія, ніхто падступіцца з вудамі і сеткамі не можа. А рыбы — поўна.

— Дык, можа, падскочым заўтра?

— Заўтра? А што ў нас заўтра? Серада? Не, нельга. Заняты. Бюро гаркома.

— Ого! Ужо і член бюро?

— Не. Запрошаны. Наш шэф робіць справаздачу аб выкананні квартальнага плана. А разам з ім і нас пацягнулі. Яно, між іншым, цікава і паслухаць: яму там па мазгаўні лупнуць.

— У вас што — не зусім гладка з планам?

— Не, план мы далі. Але шэф мой... Ведаеш, нюансы некаторыя... Пачнеш — сам убачыш. Гэта не тое, што было некалі, калі мы з табою ў брыгадзе былі. Цяпер і механізмаў шмат, і аб'ектаў шмат, і недахопаў яшчэ больш. Аднаго мала — людзей. І матэрыялы затрымліваюць. Тысяча і адна ноч, як гаворыць наш планавік.

— Між іншым, гэта і да яго казалі. Ён проста паўтарае.

Віктар глядзіць на мяне, усміхаючыся.

— Толькі не ўздумай яму сказаць гэта ў вочы,— раіць мне Віктар і бярэ талерку.— На ўсё жыццё ворагам будзеш... Слухай, табе вяндлінкі пакладу. Хатні выраб. Ёсць у мяне тут адзін брыгадзір, нядаўна з вёскі. Ён і пачаставаў...

— Цябе чамусьці ўсе частуюць. Маторкаю, вяндлінкаю...

— Паважаюць! — Віктар патэтычна ўскідвае палец угору.— Паважаюць. Але пра мяне гаворка пазней. Спачатку расказвай пра наш Алімп. Як там Барада?

Міхася Ціханавіча, загадчыка кафедры будаўнічых матэрыялаў, у нас увесь курс зваў Барадой.

Віктар слухае мяне ўважліва, але ў вачах тоіцца смяшок, і я ўвесь час адчуваю, што ён скептычна ставіцца не да маіх слоў, а да ўсяго таго, што засталося там, у інстытуце. Зразумець Віктара не так і цяжка: Міхась Ціханавіч — гэта якраз той прафесар, які на вучоным савеце, дзе гаворка ішла пра будучых аспірантаў, катэгарычна паўстаў супраць кандыдатуры Віктара. Не ведаю як, але Віктар даведаўся пра гэта ў той жа дзень і, сустрэўшы прафесара ў калідоры, даволі бесцырымонна запытаўся, чаму ён, прафесар, ставіць яму, Віктару, палкі ў колы.

Прафесар не чакаў такога пытання, разгубіўся на нейкі момант, потым пачырванеў і сказаў рэзка, трасучы сівою барадой:

— Ваша нахабства, малады чалавек, мяжуе са смеласцю. А смеласць я паважаю. Таму прыміце, як належыць, і мой шчыры адказ: вы без колаў, мой юны сябар. І гэта — радуе. Бо на колах, нават самых слабенькіх, можна ў навуцы так-сяк і ехаць. Але ў навуцы — запомніце гэта на ўсё жыццё! — нельга поўзаць вужакаю.

— Значыць, народжаны поўзаць, лятаць не можа?

— Вось іменна. Не можа!

Гэтую гаворку Віктара з прафесарам чулі студэнты. Мажліва, нават і не чулі, мажліва, нешта было і не так, але праз гадзіну ўвесь

наш курс ведаў, што адбылося. Мы знайшлі Віктара і патрабавалі тлумачэнняў. Ён нічога не ўтойваў і шчыра, нават з гонарам, прызнаўся, што сапраўды гаварыў з прафесарам і той даў не дужа ласкавы адказ.

Прыгадваю цяпер тое і, здаецца, разумею прытоены Віктараў смяшок, разумею і знарок не шкадую слоў, малюючы дзейнасць нашай кафедры, натхнёна расказваю пра лекцыі прафесара, пра тое, як хораша і цёпла развітаўся ён з намі, што казаў на развітанне. Віктар слухае, нервуецца, спрабуе саркастычна ўсміхацца, а потым не вытрымлівае, перапыняе мяне рэзкім пытаннем:

— А чаго ж ён цябе не пакінуў на кафедры, гэты твой барадаты бог?

— Я не захацеў сам.

— Сам? Хіба ён табе прапаноўваў?

— Уяўляеш, прапаноўваў!

— І ты адмовіўся?

— Катэгарычна. І, здаецца, вельмі пакрыўдзіў Міхася Ціханавіча. Праўда, перад ад'ездам мы з ім гаварылі, абмяркоўвалі маю тэму. Ён нават сказаў, што нікому яе пакуль што не аддасць.

— Паставіў на кансервацыю?

— Проста мы дамовіліся. Незалежна ад таго, як павернецца ў мяне праца, я буду збіраць патрэбны матэрыял. Павінен сказаць табе: тэма мяне і самога цікавіць. Але я лічу: лепей два добрыя інжынеры, чым тры пасрэдныя вучоныя. Іх, дзякуй богу, хапае. А інжынеру можна займацца навуковаю працаю і без аспірантуры.

— Ты выказаў гэтыя думкі яму?

— Выказаў. Але не ў такой форме. Я не хачу быць абстрактным аспірантам. Я інжынер. Я хачу будаваць. А там — будзе відно...

Віктар, прыгнуўшыся, пацёр рукою твар, потым далонь яго закрыла правае вока, і ён пасядзеў гэтак нейкі час, паглядаючы на мяне толькі адным левым вокам — насмешліва мружыўся.

— Слухай,— сказаў Віктар,— а Барада ўсё яшчэ песціць сваю ідэю аб планаванні жылля па колькасці кватэр?

— Сваёй ідэі ён заўсёды верны. І ты гэта ведаеш.

— А ты падзяляеш яго думку? Кажы шчыра, Барада цяпер далёка...

Маруджу. Зусім не хачу спрачацца з Віктарам. І нават не іронія яго прычынаю. Прыгадваецца Міхась Ціханавіч, яго голас, прыгадваецца, як ён стаіць на кафедры і гаворыць нам пра сваю ідэю новага планавання. Планаванне ў метрах — гэта спадчына мінулага, таго часу, калі асноваю нашага будаўніцтва была камунальная кватэра. Але той час мінуў беззваротна. Старыя эканамічныя катэгорыі і новыя патрабаванні сённяшняга дня — вось дзе тормаз. Ідзе новая эра горадабудаўніцтва, у якой асноваю для складання плана будаўніцтва жылля ў кожным горадзе будзе ўлік патрэб людзей, патрэб кожнай сям'і, кожнага чалавека. Мы павінны ведаць і гэтыя патрэбы і гэтых канкрэтных людзей, і планаваць не метры, калі складаем перспектыўны план, а колькасць кватэр. Адсюль — яшчэ адзін напрамак рэвалюцыі, якая тады адбудзецца ў нашым горадабудаўніцтве: асноўным эканамічным крытэрыем ацэнкі нашых праектаў будзе не кошт аднаго метра пакоя, калідора, кухні, а кошт усяго жыллёвага комплексу. Кошт і мера, у якой ацэньваемы аб'ект задавальняе патрэбы чалавека,— вось гэтыя суадносіны вызначаць галоўную эканамічную лінію...

Мне прыгадваецца ўсё гэта, і я ўжо не магу стрымацца, каб не паўтарыць, не сказаць Віктару. А ён з лянотаю і пагардай адмахваецца.

— Ат... Няхай пра тое думаюць архітэктары.

— Павінны думаць усе. Разам. І тое, што ўчора было тэорыяй, сёння павінна быць практычнай неабходнасцю.

Віктар глядзіць на мяне, не хаваючы іроніі, потым гуллівая ўсмешка наплывае на яго твар.

— «Суха теория, мой друг. А древо жизни вечно зеленеет». Памятаеш гэта?

— Значыцца, не згодзен?

І зноў у яго на твары тая ж усмешка, ад якой Віктар становіцца далёкі і безуважны.

— Ну, вось ізноў... Хіба справа ў тым, згодзен я ці не згодзен? Наш час — суровая і неабвержная рэальнасць. Адсюль і галоўнае патрбаванне: трэба быць рэалістам. Помніш байку Міхалкова пра разяву і трамвай? Хочаш мець дзве нагі, будзь рэалістам.

— Ты хочаш сказаць, што той, хто вучыў нас, стаяў на адной?

— Не. Зусім не! Барада нешта марыць, плануе... На здароўе. Ён — на кафедры. А мы — у жыцці. Мы павінны будаваць. Гэта ж твае словы. Мы павінны выконваць канкрэтныя планы. І гэтыя планы — не абстракцыя, а мары людзей. Тых канкрэтных людзей, пра якіх любіць гаварць твой Міхась Ціханавіч! Дарэчы, ці ведае ён, колькі ў нашым Прыдзвінску чалавек стаіць на чарзе, чакаючы кватэры?

— Чарга не апраўдвае анархізм. Разумееш?

Я пачынаю гарачыцца, у душы варушыцца даўняя непрыязнасць да Віктара. Мне здавалася, што яна даўно забыта, выветрылася, што яе няма. Не, аказваецца, нічога не закрэслена, нічога не забыта; іронія ў словах Віктара трывожыць, пачынае настройваць мяне варожа. Спрабую прагнаць гэтае пачуццё, прыглушыць, але адчуваю: яно мне непадуладна, я не магу саўладаць з ім.

Жанчыны — мабыць, гэта і вельмі правільна! — умешваюцца ў нашу гаворку, не даюць нам спрачацца.

— Хопіць, хопіць! — рашуча патрабуе Лена.— Віктар, мы хочам чаю!

Віктар прыносіць чайнік і чырвоныя кубкі. Ён амаль і не затрымаўся на кухні, толькі пайшоў і адразу ж вярнуўся.

Мы зноўку ўсе сядзім за сталом. Лена гаворыць пра свой тэатр, пра тое, што тут, у Прыдзвінску, прымаюць кожны іхні спектакль з цеплынёю незвычайнай, нават лепей, чым дома. На ўсе спектаклі білеты прададзены за тыдзень наперад. Але нас гэта не павінна трывожыць. Мяне і Валю.

— Вам будуць персанальныя месцы. Паседзіце на прыстаўных, але на выгодзе. Гэта я абяцаю.

— А Віктару?

— Заўтра не магу,— Віктар паспешліва адказвае Валі.— Заўтра поўна важных спраў. І самае галоўнае — не ведаю, калі закончыцца бюро...

— Дзяржаўны дзеяч...— гаворыць Лена, і я адчуваю за непрыхаванай іроніяй крыўду.

— Мне цяжка глядзець гэтыя спектаклі.

— Чаму? — дзівіцца Валя.

— Убачу яе на сцэне,— Віктар ківае галавою на Лену,— і слёзы ліюцца, я ўжо нічога не бачу і не магу глядзець. Таму і не хаджу.



Лена смяецца разам з намі. Смех даецца ёй цяжка, але яна сябе трымае ў руках і тоіць свае сапраўдныя пачуцці.

Віктар дастае з кішэні пачак папярос: пачак пусты, ён кідае яго на маленькі столік, што побач з канапаю, нахіляецца і з палічкі дастае папяросы.

— Хадзем на балкон,— раптам прапаноўвае ён.— Пакурым там. І пагаворым. Ёсць у мяне прапанова сур'ёзная і табе патрэбная...

На балконе ў вузкіх, доўгіх скрынях цвітуць белыя гладыёлусы. Разглядаю кветкі, чакаю, што будзе казаць Віктар. Мажліва, крыху пагарачыўся я, калі сказаў ён мне пра той трэці інтэрнат. Нічога крыўднага ў яго прапанове не было. А што тады мяне ўзвінціла? Назва лекцыі, якую прапаноўваў Віктар? Але што цяпер Віктар казаць будзе? Думаецца, пачне нешта пра будучую маю працу. Лепей, каб гэтая гаворка ішла тут.



— Гэта ты кветнік гадуеш? — пытаюся, жадаючы неяк выйграць час. Зараз павінны вярнуцца з кухні Лена і Валя, і ў нас пачнецца зусім іншая гаворка.

— Маці. Яна кветкі любіць.

— Здаецца, іх не было, калі я той раз заходзіў. Нават і не помню...

— Бацька, памятаю, усё крыўдаваў, што ты ў той год толькі аднойчы і заходзіў.

— Прыносіў кніжкі.

— Бацька цябе любіць. А гаварыць я хачу з табою пра іншае. І стаўлю пытанне рубам: працаваць да мяне пойдзеш?

...«Да мяне пойдзеш»...— што, ён мае сваю прыватную будаўнічую арганізацыю? Які князь знайшоўся! Ёсць упраўленне. І Віктар там галоўны інжынер. Вось і ўсё. Але ж якая фанабэрыя! Строіць з сябе такога валявога, буйнага кіраўніка! Цікава, што ён там мне падрыхтаваў?

— Да кабінетнай працы, ты сам ведаеш, я не падыходжу. І рыхтаваў я сябе...

Я пачынаю асцярожна, але не паспяваю нічога сказаць. Віктар паварочваецца, глядзіць мне проста ў вочы і перапыняе імпэтна і рашуча:

— Калі ты мяне лічыш кабінетным інжынерам, дык ты глыбока памыляешся. Ніякіх кабінетаў! Я хачу прапанаваць табе канкрэтную работу на эксперыментальным участку... Каб у цябе пытанняў болей не было, я даю табе расшыфроўку. Участак — тры жылыя дамы. Вядзем іх хуткасна. Паставім іх у тэрмін — усё будзе на вышыні...

— А чые праекты?

— Во, гэта падабаецца! Чалавек адразу бярэ быка за рогі. За тэрміны ён не турбуецца...

— Але чый праект. Наш?

— Праекты добрыя. Праўда, валтузні з імі было. Планаваўся ўвесь раён. З размахам, ведаеш, на новыя там матэрыялы, на новыя формы... Ну, вядома, тое-сёе паабкарналі трохі... Але праект цікавы. І галоўнае — пра яго ўжо раструбілі. Калі да свята Кастрычніка паставім першы, астатнія на май, гарантую сапраўдны бум. І месца ў прэзідыуме. За чырвоным сталом з кветкамі.

— А сам ты дзе сядзеш?

— Побач,— Віктар усміхаецца, не разумеючы іроніі.— Думаеш, месца ў прэзідыуме не хопіць? Стол вялікі.

— Не ведаю. Не сядзеў.

— А мне даводзілася. Глядзіш — усе перад табою ўнізе... А ты чаго крывішся? Думаеш, што я дык ужо толькі аб прэзідыумах і мару?

— Ды не, з чаго ты гэта выводзіш? Проста я слухаю цябе. Слухаю і ўзважваю прапанову. І давай дамовімся: скасуеш адну сваю ўмову — і я іду на той аб'ект прарабам.

— Якую ўмову?

— Прэзідыум. Гэта мне не падыходзіць.

— Ты што, не верыш?

— Ахвотна веру. Але ў мяне няма патрэбнага гальштука.

— Ну, урэзаў!..

Віктар шчыра, як зусім нядаўна за сталом, рагоча.

— Значыцца, гальштук? — смеючыся, перапытвае Віктар.— Добра, пачакаем, пакуль прыдбаеш. Але прарабам без гальштука таксама цяжка — гэта ўжо я лічу асабіста. Старшым! Старшым прарабам! Ну, як? Гэта табе не ў прэзідыуме сядзець. Старшаму прарабу папрацаваць давядзецца. І адказнасць, акрамя ўсяго іншага!

— Згодзен. Толькі спачатку трэба азнаёміцца з праектам. Ты там, дзе быў Якімцаў? Дык заўтра раніцою...

— А ты, мабыць, думаў, што як зрабіўся Віктар начальнікам, дык адразу і кабінет памяняў на большы. Было такое?

— Крыху.

— А яшчэ што? Давай на шчырасць!.. Я люблю шчыра. І любому толькі дзякуй скажу, калі ён мне — праўду-матку ў вочы...

— Гэта ўсё, вядома, добра. Але...

— Што, «але?»

— Увесь час ты ўжываеш толькі асабовы займеннік. А граматыка, як вядома, мае і іншыя...

— На «мы» хочаш павярнуць?

— Ты хацеў шчырасці.

— За шчырасць — дзякую. Толькі пагляджу, што заспяваеш на аб'екце, якія займеннікі пачнеш ужываць, калі давядзецца за нешта самому адказваць. Некалі і мне такое ж думалася: асабістае «я» нічога ў калектыве не важыць. А што аказалася? Важыць! Важыць, калі ты хочаш кіраваць народам. Быў у мяне, ведаеш, адзін прараб на пятым. Свайго «я» ў яго ніколі не існавала: кожны там сябе начальнікам лічыў і камандаваў. І дакамандаваліся: другі год мы той аб'ект не можам здаць. Рамонт вядзем. У новым доме — рамонт! Бо калі будавалі — сапраўднага кіраўніка і гаспадарскага вока не было. А цяпер не паспяваем скаргі ўлічваць — хоць ты іх у мех складай. Пішуць, і пішуць, і пішуць.

— І ўсё без падстаў?

— Не кажу, што без падстаў. Ёсць падставы. Таму я прарабу і сказаў: як будавалі, у цябе ўсе камандавалі, каму хацелася, а цяпер адказваць аднаму давядзецца. Зноў у «я» ўпіраемся...

— Значыцца, дамовіліся: заўтра глядзім кальку. Мо і на аб'ект дапаспеем. Хацелася б разам...

— Заўтра кожная гадзіна распланавана. Цябе калі загадам аформіць?

Ад прамога адказу я ўхіляюся. Спачатку трэба зірнуць на праект. І гэта будзе правільна: пагляджу, потым на аб'ект дабяруся, а ўвечары Віктара адшукаю. Во! Дамоў і пазваню. І ён будзе ведаць маё канчатковае рашэнне і маю думку пра аб'ект.

— Ёсць. Дамовіліся. А цяпер — да жанчын. Нагрузілі іх работаю. Пайшлі, хоць маральна падтрымаем. А-а-а... Вось і яны! Ну, як вы там, таварышы жанчыны? Справіліся без нашай дапамогі і кіраўніцтва?

— Жанчыны не любяць, каб імі кіравалі на кухні. Кухня — наша стыхія. Праўда, Лена?

— А жанчынаю ўвогуле не трэба кіраваць ні на кухні, ні на вуліцы.— Лена кратае пальцамі доўгія і вострыя стрэлы гладыёлусаў. гаворыць нібыта сабе, але словы яе — адчуваю гэта вельмі добра — у першую чаргу датычаць Віктара.— Якое ж гэта сяброўства, калі адзін кіруе, а другі толькі яго распараджэнні выконвае? Гэта — падначаленасць. Гэта ад старога нешта, накшталт «жена да убоится»... У вас як з гэтым прынцыпам?



Валя не разгубілася, адказвае адразу ж:

— А мы яшчэ толькі прымерваемся. І яшчэ невядома, хто і каго «убоится».

...Мы ідзём па вуліцы таропка: час позні, хутка спыніцца пераправа, і калі мы не паспеем, дык давядзецца тэпаць аж да моста — далекавата. Валя з Ленаю крочаць наперадзе, а мы з Віктарам шнуруем следам.

Развітваемся на беразе. Паспяваем ускочыць на паромны кацер і стаім ля борта, развітальна ўзняўшы рукі глядзім на прычал, дзе засталіся Віктар і Лена. Вецер гойдае дрэвы на беразе, гойдаецца і кацер, і ўвесь час здаецца, што постаць Віктара пад ліхтаром дрыжыць і хістаецца.

— А Лена мне падабаецца,— нечакана гаворыць Валя.— Разумная і добрая жанчына. І як яна кахае Віктара!

— Адкуль у цябе такія звесткі?

— Вучыўся разам з ім, а гэтага і не ведаеш!

— Яна ніколі не прыходзіла да нас у інстытут. І на вечарах Віктар звычайна быў не з ёю. Ён круціў невялікі раман з лабаранткаю. Такая маленькая, чорненькая. З кафедры гідраўлікі.

— А як ставіцца ён да Лены?

— Хацеў быў запытацца. Але ён адразу папярэдзіў: госць не павінен быць занадта цікаўны.

— Значыцца, ён лічыць цябе толькі госцем?

— Не. У нас пачалася зусім іншая гаворка. Ён усё намагаўся іграць ролю вялікага і валявога начальніка.

— А гаварыў канкрэтна пра тваю працу?

Коратка перадаю змест нашае гаворкі з Віктарам. Валя нічога пэўнага не гаворыць, але мне хочацца ведаць яе думку, і яна, урэшце, прызнаецца, што не ведае, добра гэта ці блага — мая будучая работа. Яе словы мяне насцярожваюць. Як жа яна не ведае? Гэта ж якраз тое, пра што я марыў у часе вучобы і пра што гаварыў з ёю не аднойчы. Акрамя таго, работа на ўчастку пойдзе па вельмі цікавых праектах.

— Ён табе іх паказваў?

— Заўтра. Пагляджу праект і вырашу. Але Залессе, відаць, давядзецца нам адкласці.

— А мне думаецца, што варта паехаць. Бабуля хварэе, і невядома, калі потым мы зможам яе ўбачыць. І ты стаміўся. Тыдзень які ля возера не пашкодзіць. Гэты адпачынак табе проста неабходны.

— А што, калі і іх туды запрасіць?

— Лену? Вядома! Вось паедзем на рыбалку і дамовімся. Месца ў бабулі ўсім хопіць. Будзем спаць на сене.

— А хто ёй, старой, накасіў таго сена?

— Бацька. Ён жа казаў, што ездзіў і касіў. Хіба ты не памятаеш? Прыехалі, ён і расказваў...

За бортам кацера пеніцца чорная, бліскучая вада. Бераг аддаліўся, і там, пад ліхтаром, ужо сабралася некалькі чалавек — чакаюць пераправы. Віктара і Лены, здаецца, сярод іх не відно.

## 3

У Залессе мы не паехалі. Можа з майго боку гэта было крышку эгаістычна, і Валя пакрыўдзілася. Я не апраўдваўся, толькі паабяцаў, што ў наступную нядзелю мы, магчыма, шухнем на во-

зера. Паабяцаўшы, я вельмі мала думаў пра Залессе, мяне зацікавіў праект, нават больш таго — ён мяне захапіў.

У агульных рысах ён выглядае так. На самым беразе Дзвіны мы павінны паставіць тры дамы. На пяць паверхаў кожны. Яны і будуць адкрываць вялікі комплекс жылых збудаванняў, што павінны стаць на паўднёвай ускраіне горада, на былым пустыры. А перад гэтым пустыром падковаю выгінаецца невялічкая вулка прыватных дамоў — старых, даваенных, маленькіх і счарнелых ад часу. Іх трэба будзе зносіць.

Тлумачэнні да праекта даваў мне архітэктар Раман Пятровіч Крыштоп, з якім мы сустрэліся ў Віктаравым кабінеце. Крыштоп мне спадабаўся адразу ж. Ведаў ён праект бліскуча, трымаўся з Віктарам незалежна, выказваў свае меркаванні ўпэўнена і адстойваў іх смела і рашуча. Праўда, ніякіх там асаблівых спрэчак не ўзнікла, але я адчуў, што Крыштоп з тых людзей, якія сябе ў крыўду не дадуць нікому.

Тады я і сказаў, што хацеў бы, каб прарабам да мяне прызначылі Рогача: па дарозе да Віктара я сустрэў свайго былога брыгадзіра. Мы пагаманілі і дамовіліся — працаваў ён на аб'екце, які заканчвалі. Але Віктар заўпарціўся. Праўда, я адчуў, што спрачаўся ён, каб паказаць, хто мае права вырашаць лёс людзей на будоўлях, якія вядзе ўпраўленне. Я настойваў, і Віктар, урэшце, пагадзіўся.

Цяпер на нашым участку праца набыла добры размах. Натужна равуць і грукочуць бульдозеры, імчаць самазвалы. Глуха гакае коўш экскаватара, і, асядаючы пад грузам, рыпяць рысоры машын. Самазвалы падкатваюць да катлавана, становяцца на пагрузку і хутка ад'язджаюць, саступаючы месца новым.

Кіруе пагрузкай Рогач. Яшчэ не скончана ачыстка катлавана, дзе стане падмурак першага дома, а на будоўлю ўжо даставілі першую партыю апорных пліт. Па графіку мы павінны заўтра пачынаць закладку першага падмурка. Нам хочацца апярэдзіць гэты графік.

— Я так думаў... Каб машыны не знялі ў нас сёння, дык увечары пагналі б пліты,— гаворыць Рогач.

Гаворка пра машыны мяне адразу трывожыць. Куды іх могуць зняць? Самазвалы павінны працаваць тут да заўтрашняга дня.

— На пяты. Там з прыборкаю затрымаліся. Сядзелі, сядзелі, а цяперака спахапіліся.

— Самазвалы не адпускай,— кажу я Рогачу.— Так шафёрам і скажы: пакуль катлавана не падчысцім — нікуды. Зразумеў?

— Але ж у іх пуцёўкі, да абеду на нашым, а потым — туды. Віктара Паўлавіча загад.

— Табе асабіста ён загадаў? Ну і добра, што не загадаў. Я тут распараджаюся. І таму ты мой загад чуў. Так?

Рогач шкрабе за вухам. На мяне не глядзіць і гаворыць, што, маўляў, правільна, вядома, каб спачатку тут усё закончыць, а потым туды машыны накіраваць, лайдакоў тых выручыць. Але адно трывожыць: як перад упраўленнем апраўдацца?

— Разам будзем апраўдвацца,— абяцаю я Рогачу.— На мяне спашліся. Ты, па закону, павінен выконваць загад старшага прараба?

— З ахвотаю. Заўжды!..

— Вось і давай! Выконвай!..

Саджуся на халодны брус апорнай пліты, экскаватар чэрпае жоўтую, вільготную глебу, і ад udараў каўша пліта ледзь прыкметна



уздрыгвае; іклы каўша адпаліраваны да бляску і зырка зіхацяць на сонцы. Побач, на другім баку катлавана, ідзе мантаж крана. Шпалы з рэйкамі пакладзены, застаецца паставіць тросы і падключыць кран да электрасеткі. Электрыкі павінны былі прыйсці яшчэ раніцай, але іх не відно: яны, мабыць, сапсуюць нам усе планы. Нават калі і паспеем ачысціць катлаван, дык як класці апорныя пліты без крана? А мо, калі прыйдуць зараз, паспеюць да вечара працягнуць кабель? Павінны прыйсці. Павінны паспець! Нават як і не прыйдуць, дык усё роўна машыны адпускаць нельга, бо заўтра іх яшчэ на якінебудзь аб'ект шугануць, а нам потым — кукуй... Так што правільна: спачатку скончым работу тут, а потым няхай самазвалы перакідваюць на той участак.

Дзень сонечны, але не вельмі цёплы — ад ракі дзьме вецер, і плынь Дзвіны пасечана цёмнымі палосамі рабаціння. Адсюль відаць фасад Казіміравага дома. Учора я быў там, бачыў Казіміраву маці. Яна ўстрывожана: ад Казіміра ўжо месяц няма лістоў. Ён не вельмі часта пісаў і мне, але перад ад'ездам з Масквы вестку я атрымаў. Маці ўзрадавалася, пачуўшы гэта. Я пераказаў ліст, дадаўшы шмат свайго, і зрабіў, мабыць, правільна. І правільна, вядома, зрабіў я пазней, прыйшоўшы дахаты: напісаў яму рэзкае і крыху злоснае пісьмо. Няхай ведае!

Гудуць самазвалы. Бухае коўш экскаватара. За драўлянай сцяной прарабкі ахрыплым голасам крычыць механік з гарадской тэлефоннай станцыі.

— Чаго маўчыцё вы там усе? Што? Ты правер сёмы. Сёмы, кажу!.. Камутатар! Вось зноў добра чую. Я кажу, правер сёмы на шчытку. Знайшоў? А што я табе казаў! Я адсюль ведаю, што вы там партачы. Сюды звані. Чакаю...

За сцяной прарабкі звоніць тэлефон. Зноў чую вясёлую гаворку тэхніка. Неўзабаве ён выходзіць, працягвае бланк і просіць падпісаць нарад на выкананую работу.

— Працуе? — пытаюся я, не адчуваючы асаблівай радасці, бо ведаю, што цяпер нам спакою не будзе. Да гэтага дня нам было добра: тэлефонныя званкі не надакучалі...

— Правярайце, пакуль я тут...

— Навошта? Працуе і — добра...

У прарабцы зноў звоніць тэлефон. Пакуль даходжу да дзвярэй, званкі спыняюцца. Я накіроўваюся да крана. Паспяваю зрабіць толькі некалькі крокаў і зноў чую доўгі тэлефонны званок. Варочацца не хочацца: чамусьці думаю, што гэта звоніць Віктар. А што мне з ім гаварыць? Калі гэта ён, дык, пэўна ж, папярэджваць пачне, каб не затрымлівалі машыны. Але шафёрам Рогач перадаў ужо мой загад, і працы ім засталося не так ужо і многа. Да канца дня мы закончым падчыстку катлавана, і тады, калі ласка, бярыце самазвалы і перакідвайце на другі ўчастак.

Тэлефон аж захліпаецца, але я іду далей.

Па зыбкіх мастках спускаюся ў катлаван. Рогач тут, арудуе рыдлёўкаю — паказвае маладому брыгадзіру на неахайна выкананую працу. Голас прараба ціхі, але незадаволены.

— Ты што ж гэта, Уладысь? Га? Гэта ж мы хутка праз тваю ляноту макам сядзем. І ўсіх затрымліваць будзем. Во якія глыжы пакінуў!

— Не вылізваць жа мне канаву гэтую,— адмахваецца Кізіла.— Пліты як прыціснуць — гладка будзе. Падумаеш, камяк нейкі...

Рогач моўчкі раўнуе неглыбокі роўчык, куды павінны легчы цяж-

кія пліты падмурка. Потым, падраўнаваўшы, усё тым жа ціхім голасам, але цяпер сярдзіта, гаворыць:

— Як сабе будзеш дом ставіць — тады гэтак і рабі, на камяках. А мы тут людзям робім, і праз тваю ляноту чырванець мне не хочацца. Змікіціў?

— Змікіціў.

— Бяры тады,— Рогач аддае рыдлёўку брыгадзіру.— І заві сваіх хлопцаў. Нешта доўга яны перакурваюць.

— Зробім, таварыш праpаб. Зробім!

Убачыўшы, што я іду па мастках у катлаван, Кізіла дае знак хлопцам, і яны, як гракі, пасыпаліся з адхону ў катлаван. Вёрткага ў яркай каляровай кашулі хлопца, што стаў побач з ім, я ведаю — гэта Раман Руды. Учора ён працаваў у прарабцы,— Рогач паслаў яго туды паставіць столік,— і я быў тады ў прарабцы. Мы пазнаёміліся і крыху пагаманілі. Я сядзеў, вывучаў праектную сіньку, а ён пляскаў малатком — заганяў цвікі ў негабляваныя дошкі і адказваў на мае пытанні ахвотна і весела. Скончыў дзесяцігодку. На будоўлі трэці год. Пра далейшую вучобу пакуль што не думае. А навошта вучоба? Хіба ён меней за інжынера зарабляе?..

Вось такая ў нас з ім гаворка была. А другіх хлопцаў з брыгады Кізілы я не ведаю. І вялікай ахвоты сабрацца і пазнаёміцца з імі няма, але затое ў мяне выспявае да іх нейкая непрыязнасць. Мне не падабаецца, што яны ў час працы пасвістваюць і рагочуць без дай прычыны. Не падабаецца ў першую чаргу — іхні брыгадзір, якога яны ахрысцілі іранічна і насмешліва: «Чупрына». І мянушка гэтая не падабаецца. Кізіла, праўда, хлопец паслухмяны. Але чорныя вочы заўсёды глядзяць смела, дзёрзка, за лішнім словам ён у кішэню не лезе. На добра адгадаванай чупрыне ў Кізілы заўсёды фарсіста сядзіць карычневы берэт.

Рогач сустракае мяне ля масткоў. Я стаю на апошняй прыступцы, а ён — ніжэй, на зямлі, і твар у яго вельмі заклапочаны.

— Наўрад ці паспеем сёння з тымі плітамі, Леанід Яўгенавіч,— гаворыць Рогач, і мяне дзівіць не тое, што ён паведамляе, а тая сур'ёзнасць і пачцівасць, з якой ён вымаўляе маё імя па бацьку. Я яшчэ не прызвычаіўся да гэтага, увесь час здаецца, што мне па-ранейшаму трэба слухацца Рогача і выконваць яго загады.

— Адкуль такі песімізм?

— Як пайшлі гружаныя самазвалы па краі, дык грунт пачаў асыпацца. Вось нам работы і прыбаўляецца.

— А я ж сказаў, каб самазвалы толькі з гэтага боку падкатвалі. Толькі тут! Ці вы шафёрам не перадалі?

Рогач пераступае з нагі на нагу, схіляе галаву, потым сціснутым кулаком пацірае кончык носа.

— Асабіста я не казаў шафёрам.

— А чаму? Мы ж дамовіліся ўчора, каб не ездзілі тут. Хіба не так?..

— Але тады ж, учора, як вы загадалі, Руды падвярнуўся, то я і прасіў яго. А ў хлопца з галавы, відаць, і вылецела...

— А чаму не праверылі?

— Думаў, ды пліты падвезлі. На разгрузку кінуліся...

— Гэтак далей не пойдзе. Прыміце неабходныя меры...

— Добра. Прыму...

І па той нядбаласці, зусім нечаканай пасля пачцівага тону, з якой гэтыя словы вымаўляюцца, я здагадваюся: Рогач не вельмі высокай думкі аб маім распараджэнні. І здагадваюся яшчэ: Рогач ніколі не



выкажа сваю нязгоду з маімі загадамі, змоўчыць, не будзе шчырым ва ўсім і да канца. І не магу зразумець, чаму ён не хоча спрачацца і пярэчыць? Такія ўжо вельмі правільныя загады? Ці лічыць сваім абавязкам толькі падпарадкоўвацца?

— Якія меры? — пытаюся я, спрабуючы хоць што-кольвек праясніць у кароткім адказе Рогача.

— Неабходныя.

— А ўсё-ткі?

— Як вы і загадалі: неабходныя меры...

У гэты самы момант на краі катлавана, там, дзе пачынаюцца сходкі, з'яўляецца Сініцын. Размахвае кепкаю, гукае:

— Леанід Яўгенавіч! Вам тэлефон. Тэрмінова!

Адразу здагадваюся: гэта, напэўна ж, звоніць Віктар. Але не кранаюся з месца, пытаюся, што там такое здарылася. І хто, галоўнае, звоніць?

— З упраўлення. Не пазнаў па голасе. Здаецца, таварыш Зубок кліча вас...

— А што ён хоча, не казаў?

— Загадалі вас тэрмінова адшукаць і паклікаць. Трубка там, на стале. Яны на тэлефоне вас і чакаюць...

Вусны Рогача сціскае амаль няўлоўная грымаса. Але ён тут жа гасіць яе і глядзіць на мяне ўстрывожана.

— За машыны, мабыць, будуць лаяць. Я казаў..

— А што ты казаў?

— Трэба было адпускаць шафёраў...

— А можа, нам за гэта цяпер падзяку вынесуць!

— Э-э-э... Не! Калі тэрмінова клічуць, дык тут не падзякаю пахне. На падзяку не спяшаюцца... Я казаў...

— Казаць лёгка. Думаць спачатку трэба, а потым і казаць!..

Я выпальваю гэта рэзка, пакрыўджаны ўсмешкаю Рогача. Мне здаецца, што ён крыху задаволены, што ўсё атрымалася так, а не інакш. Вось, маўляў, цяпер ты там паскачаш, пагаворыш з упраўленнем — гэта табе не прарабу загадваць... І разам з тым гэтая ўсмешка Рогача радуе — яна настройвае мяне яшчэ больш ваяўніча: калі гэта звоніць Віктар, калі будзе ён лаяць за тое, што мы не адаслалі машыны, дык я не саступлю, не пагаджуся з тым загадам, буду спрачацца, адстойваць сваё!..

Сініцын усё яшчэ стаіць на краі катлавана ля сходкаў. Я ўзнімаюся, і ён пачынае тлумачыць, што ніяк не мог дазваніцца да электрасеткі, але з упраўлення паведамілі, што брыгада нам выдзелена, што і працаваць яна павінна ў нас з самай раніцы.

— Добра,— кажу я Сініцыну.— Дзякуй. Я зараз буду гаварыць з упраўленнем, дык паспрабую знайсці канцы...

План будучай гаворкі выспявае ў самых драбніцах, і калі я ўваходжу ў прарабку і бачу трубку, што ляжыць на століку, ужо канча прымаю рашэнне.

Бяру трубку. Так і ёсць, голас Віктара.

— Чаму затрымалі машыны?

Спакойна, нават крыху весела, тлумачу яму, што работы ў нас засталося зусім мала. Навошта ж пераганяць машыны на іншы ўчастак, каб заўтра ж гнаць іх назад? Мажліва, сёння мы зробім усё на гадзіну раней — тады самазвалы паспеюць і туды. Уласна кажучы, няма вялікай розніцы, хто з нас першы завершыць работу: адно ўпраўленне кіруе, адзін план выконваецца. А ў сэнсе дзяржаўнай

выгады — яна ёсць нёмалая. Вось такія нашы меркаванні. Мы пра гэта падумалі і ўсё разлічылі...

Мне падумалася, што я пераканаў Віктара — на тым канцы провада ніводнага гуку. А потым раптоўна рэзкае і непрыемнае:

— Яны, бачыце, разлічылі! А мне пляваць, што вы разлічылі. Ёсць загад. Ёсць парадак!

— Паслухай, Віктар, гэта ж зусім неразумна. Навошта непатрэбныя перагоны пустых машын?!

— Я пытаюся, чаму не выканалі маё распараджэнне?

— Ты не крычы, Віктар. Спакойна выслухай.

— Кіньце гэтую фамільярнасць, таварыш Бугрым! — голас Віктара зноў рэзкі і непрыемны.— Вы начальнік участка? Дык я да вас і звяртаюся: чаму вы не выканалі распараджэнне?

— Паслухай, Віктар...

— Віктар Паўлавіч, мабыць, хацелі сказаць?

Значыцца, гэта не жарт. Смеху варта ягоная афіцыйнасць. Чаго ён дамагаецца ёю? Але калі ён хоча, дык няхай і будзе сёння не Віктар, а Віктар Паўлавіч!

— Так павінна быць заўжды,— падкрэслівае Віктар.— І я хачу ведаць: чаму не выканана маё распараджэнне?

Ён гаворыць гэта з перапынкамі, намагаецца надаць свайму голасу ўраўнаважанасць і самавітасць, але ў кожным яго слове прабіваецца гнеў. Я слухаю, на момант заплюшчваю вочы і добра ўяўляю сабе, як чырванее Віктар, як сціскае ў руках аловак; мне нават здаецца, што зараз хрусне зламаны аловак, і мне нечага шкада Віктара.

— Ваша распараджэнне, Віктар Паўлавіч, не зусім прадуманае,— пачынаю і намагаюся гаварыць спакойна, падбіраю словы памяркоўныя і мяккія.— І таму я не магу яго выканаць. Больш таго, я адмаўляюся і ў далейшым выконваць загады ўпраўлення, якія пойдуць насуперак разумнаму сэнсу, на шкоду інтарэсам нашай агульнай будаўнічай справы. І я не толькі адмаўляюся выконваць такія распараджэнні, але і абяцаю змагацца з імі ўсімі сіламі і сродкамі. Вы чуеце?

Хвілінка маўчання. А тады адразу:

— Кожнае слова... І таму папярэджваю: у самы бліжэйшы час будзе ўзнята пытанне аб вашай здольнасці кіраваць такім адказным аб'ектам. Вы, спадзяюся, чуеце?

Адчуваю, што мяне пачынае «заносіць», але стрымліваю сябе і, узрадаваны гэтым, пачынаю, як маломy, тлумачыць, што, далікатна кажучы, Віктар Паўлавіч крыху спяшаецца. Старшы прараб Бугрым служыць не яму асабіста. І калі гаворка пойдзе пра лёс будоўлі, якая яму даручана, пра загады, якія накіраваны не на карысць агульнай справы, дык ніякай баязлівасці з боку Бугрыма не будзе. І няхай Віктар Паўлавіч ведае: калі спатрэбіцца — і Бугрым будзе ўзнімаць пытанні! І перад упраўленнем, і перад іншымі інстанцыямі.

— Што, пагроза? Ці дробны шантаж?

— Гэта — праўда,— кажу я цвёрда.— Гэтак я думаю, і думкі свае не хачу таіць.

У трубцы маўчанне. Потым зноў чуецца голас Віктара, але за гэты кароткі час голас крыху змяніўся: ён не тое што памякчэў, але нейкая як бы паспешлівасць у ім.

— Што ж атрымліваецца? Вы там усе разумныя, а мы тут, ва ўпраўленні, дурні і толькі тое і робім, што няправільныя загады габлюем?



— Я гэтага ніколі не казаў. І не скажу. Бо гэта — абраза.

— Дзякую. А калі вы адпусціце машыны? Давайце канкрэтны тэрмін. І рэальны.

Гляджу ў адчыненыя дзверы прарабкі, бачу людзей, што аднекуль з'явіліся на краі катлавана. Рогач ім нешта абурана гаворыць, ківаючы галавой на кран, потым выстаўляе руку, стукае пальцам па гадзінніку. Ну, нарэшце. Гэта — электрыкі! Значыцца, усё будзе ў парадку.

— Сёння работы будуць закончаны,— я абяцаю гэта пераконана і весела.— Не выканаю — пішыце вымову!

І ўжо зусім лагодна, нават са смяшком, Віктар пагаджаецца:

— На тым мы і спынімся. Сам увечары прыеду. Пагляджу і праверу асабіста.

— Калі ласка, прыязджайце. Чакаем...

Трымаю руку на тэлефоннай трубцы, спрабую зразумець, што адбылося з Віктарам. Крычаў, гарачыўся... І раптам палагаднеў, згадзіўся. І як? Весела, з усмешкаю, нібы хвілінаю раней не пагражаў, груба не патрабаваў выканаць загад. А мо хто там зайшоў у кабінет, дык няёмка было гарланіць?..

За сцяной прарабкі нехта ціха барабаніць пальцамі па карабку запалак. Выходжу і бачу Крыштопа: ён сядзіць на камені, што падкочаны да самай сцяны.

— Даруйце, слухаў вашу размову,— гаворыць ён і ўстае.— Размова прынцыповая. І цікава было б паглядзець на Віктара Паўлавіча. О-о-ох, і не любіць, калі яму пярэчаць! Вельмі не любіць...

— А мне што з таго? Калі гаворка ідзе пра агульныя інтарэсы, формула «любіць» — «не любіць» не падыходзіць. Трэба рабіць тое, што рухае справу наперад. А то ён там загады піша, а нас і папытаць не хоча. Нібыта мы толькі механічныя выканаўцы...

— Не ведаю, што ён вам казаў. Але тое, што вы яму казалі — мне спадабалася. Часам, у нас бывае... Як гэта сказаць... ну, нейкая баязлівасць... Вось я прыкмячаў: думае чалавек адно, па вачах бачу, што не згодзен. А маўчыць. І гаворыць тое, што, ведае, будзе прыемна пачуць начальніку. І не таму, часам, што баязлівец. А таму, што галоўнае забывае: не начальніку ён служыць, а нашай агульнай справе. Дык чаго ты, чалавеча, гнешся? Інтарэсы, справы — самы важны, самы галоўны крытэрый...

Я не бачыў Крошгопа два дні: ён ездзіў у Віцебск. Я зусім цяпер не гатовы да такой гаворкі і адчуваю, што павінен выказаць сваё стаўленне да таго, аб чым ён так паэтычна гаворыць. Жартую: гэта, маўляў, падобна на філасофскае паглыбленне тэмы і загадзя падрыхтаваныя дыфірамбы.

— Не, не! Проста прызнанне: мы з вамі — аднадумцы. У вас такая ж натура, як і ў мяне. І тады, у кабінеце галоўнага інжынера, я зразумеў, што мы з вамі будзем сябрамі.

— Прыемна чуць. Хаця, шчыра кажучы, падстаў на такое прызнанне малавата...

Кажу гэта знарок крыху рэзка. Мне думаецца, што ён будзе пярэчыць, будзе пераконваць мяне, прыгадваць тую гаворку, што адбылася тады ў кабінеце Віктара. Але Крыштоп пагаджаецца, пагаджаецца неспадзявана хутка.

— І правільна. Але нам з вамі працаваць разам. І часта хочацца па-сяброўску пагаманіць. А ў мяне так сталася, што інстытуцкія сябры раз'ехаліся па розных гарадах, а новых не завялося... Але гэта гаворка доўгая. Буду ўдзячны, калі мы прадоўжым у іншай аб-

станоўцы. Дапраўды, прыходзьце да нас з жонкаю. Мы пакуль што на прыватнай, але пасядзець ёсць дзе.

— Дык тады ўжо вы да нас лепей! І не адкладваючы — сёння. Згода?

— Лепей заўтра. Сёння ў жонкі нейкая работа на прышкольным участку...

Разам з Крыштопам я шыбую да катлавана: хочацца расказаць прарабу пра гаворку з галоўным інжынерам. Рогач стаіць усё на тым жа месцы, ля сходкаў, дзе я пакінуў яго. Але цяпер ён не глядзіць у бок прарабкі, а на самазвалы, якія, натужна равучы маторамі, паўзуць ад катлавана на дарогу. Рогач нічога не распытвае, але па той зацятасці, з якою ён маўчыць, я разумею, што мне трэба гаварыць першаму.

— Машыны застаюцца,— кажу я Рогачу, і мне чамусьці прыемна сказаць гэта ў прысутнасці Крыштопа.— Але мы павінны завяршыць ачыстку катлавана сёння. Я абяцаў гэта галоўнаму інжынеру.

— Электрыкі прыйшлі. Працуюць. Даў ім прачоску. Абяцалі, што за гадзіну падключаць...

Вось дык Рогач! Нібыта і не чуў маіх слоў, нібыта тое, што сказаў я, не павінна і не магло зрабіцца інакш. Слухаю яго, гляджу на катлаван і нечакана заўважаю, што работы тут яшчэ шмат: нібыта пабольшала грунту ў катлаване за той час, што я размаўляў з упраўленнем. Ці паспеем мы?

— Павінны,— супакойвае мяне Рогач.— Толькі, відаць, трэба сабраць на падчыстку ўсіх. Каб экскаватар не пераганяць на правы кут.

— А каго — усіх? Брыгада ж Кізілы ўся тут!

— З крана людзей зняць. Пакуль электрыкі провад цягнуць, ім там рабіць няма чаго. І самі рыдлёўкі возьмем.

— А што? Можна і рыдлёўкі ўзяць,— пагаджаецца Крыштоп.— Думка не вельмі прагрэсіўная, але — карысная. Так сказаць, спалучэнне разумовай і фізічнай працы. Толькі ці хопіць на ўсіх рыдлёвак?

Рогач абнадзейваюча трасе рукою:

— Гэта мой клопат. У мяне інструменту на дзве брыгады хопіць. Уладысь! Цягні струмент! Зараз аб'яўляем аўрал!

— Ёсць, таварыш прараб! Усіх забяспечым!..

Кізіла мігам прыносіць рыдлёўкі, і мы скідваем пінжакі. Самазвалы падкатваюць часта, экскаватар нагружае іх, а мы падчышчаем услед за ім траншэю і вядзем ачыстку з правага кута — туды экскаватар не дацягнецца сваім каўшом, а пераганяць яго блізка да краю небяспечна: скос катлавана там вельмі рыхлы, у вялікіх расколінах.

Спачатку не адчуваю стомы. Потым неяк адразу цяжка дыхаць, рыдлёўка пацяжэла, рассыпчаты жвір саслізгвае, не трымаецца на ёй, а дзяржак балюча цісне далонь.

Раблю на нейкі міг перапынак, стаю, скоса пазіраю на працу хлопцаў з брыгады Кізілы і любуюся імі. Усе ўляглі ў работу — ні жартаў, ні смеху. Рыдлёўкі гахаюць, вызвоньваюць, паблісківаюць.

Рогач ад хлопцаў не адстае: павярнуў кепку казыркам назад, расчырванеўся, закасаў рукавы і шугае рыдлёўкаю, як машына: толькі пазвоньваюць каменьчыкі па жалезе. А Крыштоп прыпыніўся, разглядае свае рукі, выцягвае з кішэні насоўку, выцірае пот на твары і зноў бярэцца за работу, але рыдлёўка слаба слухаецца яго.



— Што, Раман Пятровіч, горача?

Ён абапіраецца на дзяржак рыдлёўкі, нібыта баіцца, што не зможа стаяць без гэтага апірышча; шэрыя вочы глядзяць на мяне весела і задаволена.

— Горача. І вельмі. Але ў цэлым — няблага. Зусім няблага, я вам скажу. Каб мы штодня працавалі з рыдлёўкаю, мы б шмат чаго ўспомнілі карыснага з нашай гісторыі. Я вось працую і думаю: ёсць вялікі сэнс у тым, што чалавек, працуючы з рыдлёўкай, павінен часцей глядзець на зямлю. Не вісець недзе там, у аблоках, а глядзець на рэальную зямлю.

Папляваўшы на далоні, ён зноў бярэцца за рыдлёўку, але ў гэты момант гучыць імпэтная і гуллівая каманда Рогача:

— Перакур! Працавалі з аганьком, пасядзім — з дымком.

— Дружна, як і браліся, усе спыняюць работу. Кізіла першы садзіцца на дзяржак рыдлёўкі, адцягвае, бы гумавую, цяльняшку, дзьмухае на грудзі.

— У-ууф! Горача. У самы акурат прараб наш каманду дае. Так што закурым і пакурым. Гена, кладзі свой арсенал...

Генадзь Дук, чарнявы, з вострым смуглявым тварам, хуткім рухам падкідвае на далоні вузкі пачак цыгарэт у празрыстым хрусткім цэлафане. Ён робіць гэта падкрэслена неахайна, так, як робяць хлопцы, што пачалі курыць зусім нядаўна.

— А мо маіх? Калі ласка. У мяне — папяросы,— прапануе Крыштоп.

— А што? Можам. Наваліся дружней!

Уверсе, ля прарабкі, сігналіць машына. Рэзкія і настойлівыя гудкі выразна чуваць тут, у катлаване. Яны падобны на сігналы нейкай трывогі. Я ўстаю, але Кізіла апярэджвае мяне.

— Сядзіце, адпачывайце. Зараз зірну, чаго ён там рассігналіўся...

Ён хутка ўзбягае па драўляных сходках і знікае наверсе. І амаль адразу ж аціхаюць гудкі. Потым і сам Кізіла з'яўляецца на краі катлавана, але зусім з другога боку, насупраць сходкаў, там, дзе жоўты скос амаль стромы, як сцяна.

— Гэ-эй! — гукае Кізіла і, прысеўшы, узмахвае рукамі і сігае ўніз, на круты адхон.

Саскочыў ён прыгожа, але не ўтрымаўся, ногі загрузлі ў крохкім грунце, і ён, зрабіўшы некалькі цяжкіх, няпэўных крокаў, паваліўся. Ён глядзеў на нас, рагатаў, а зверху нечакана хіснуўся край скосу, на якім толькі што стаяў Кізіла, асеў, пасыпаўся ўніз, і гэтая лавіна жвіру і крохкай сыпучай гліны імгненна, як жоўтая хваля, накрыла яго.

Мы знямелі. Усё гэта здарылася так нечакана, што ніхто нават не паспеў крыкнуць, каб папярэдзіць Кізілу. Мы бачылі, як гайданулася і пасыпалася ўніз жоўтая сцяна катлавана, а калі апамяталіся, дык адхон быў пусты, і па ім каціўся густы россып гліняных камякоў.

Рогач падхапіўся раней за ўсіх, і мы, пахапаўшы рыдлёўкі, кінуліся следам за ім.

Роўны, шырокі скос ляжыць перад намі, і ў ім, пад тоўшчай гліны і жвіру, схаваўся Кізіла. А гліняныя камякі асыпаюцца, сыплюцца ўніз, падкочваюцца да нашых ног. А мы стаім, утрапёна глядзім — здаецца, што адхон жывы. Трэба ратаваць Кізілу. Але як? Рыдлёўкамі капаць? А раптам — у твар?!

— Рукамі! Рукамі адкопвайце! — крычыць Рогач.

Міг утрапення прайшоў. Я капаю, разам з усімі, грабу зямлю ру-

камі. Каменне абдзірае пальцы да крыві, але боль адганяе зусім іншы клопат: ці жывы Кізіла?

— Трэба клікаць яшчэ людзей! — крычыць Рогач.— Хто там бліжэй — бяжыце наверх! Усіх — сюды!

Крыштоп кінуўся па сходках з катлавана. А мы, стаўшы на калені, усё капаем, капаем. Хвіліны мінулі, а мне здаецца, што праляцелі гадзіны. Дук, што працаваў побач з Рогачам, раптам прапаноўвае капаць рыдлёўкамі: толькі не за дзяржак трымацца, а за жалеза — тады не абраніш...

Мы хапаем рыдлёўкі так, як гэта раіць Дук, і зноў, моўчкі, сапучы, разграбаем сыры і вільготны жвір.

I раптам ціхі і здзіўлены голас Рогача:

— А гэта ж ягонае плячо! Тут! Ён...

Мы рынуліся да Рогача, але ён, вызверыўшыся, крычыць, адганяе нас:

— Куды? Стой! Не трамбуйце! Рыдлёўкамі! Рыдлёўкамі цяпер ад маіх ног! Каб потым абваліць! Генадзь! Генадзь, памажы мне!..

Коцяцца, шухцяць камякі — гэта прыбеглі і сталі на краі катлавана экскаватаршчык і два шаферы.

— Хлопцы! Можа я экскаватар падганю? Ды каўшом. А?

— Не, не! Падалей ад краю! — крычу я.— Павядзеце машыну, дык тут увесь бераг можа рынуцца. Рыдлёўкі бярыце!..

Мы стоўпіліся ля нізіны, а калі раптам пачнецца новы абвал, дык ён пахавае нас усіх. А гэта можа быць: мы падрыем зямлю вакол Рогача, і патрывожаны жвір пасунецца ўніз. Рашэнне выспявае імгненна: станавіцца ланцужком ад краю, падсыпаць, умацоўваць адхон!

Мы застаемся ля Рогача ўтрох. А ўсе астатнія вядуць падсыпку жвіру, ствараючы ахоўны вал на выпадак абвалу. Звонка шахаюць, звіняць рыдлёўкі. З узвалу час ад часу коцяцца маленькія камякі гліны, падкочваюцца, стукаюць па нагах, і ад гэтага робіцца трывожна. Як толькі Кізілу вызвалім, нам трэба адразу ж адбягацца. Ды і яшчэ невядома, ці паспеем мы адбегчыся. Але цяпер пра гэта думаецца мала. Галоўнае — Кізіла жывы.

Яго ўратавала тое, што, падаючы, ён прыгнуўся і закрыў твар скрыжаванымі перад сабою рукамі — утварылася невялічкая паветраная падушка, і нейкі час ён мог дыхаць. Мы крыху адкапалі яго, і ён адразу павярнуў галаву, зяваў ротам, голас яго перапыняўся цяжкім і хрыпатым дыханнем:

— Но-огі... Ногі цісне...

Усе стаяць ланцужком ад краю катлавана. А мы ўтрох — Рогач, Генадзь і я — спрабуем як мага хутчэй вызваліць Кізілу ад землянога палону. Цяпер, калі можна капаць, не баючыся параніць Кізілу, мы націскаем на рыдлёўкі з усяе моцы.

Урэшце, ён вызвалены. Рогач падтрымлівае яго, вядзе далей ад небяспечнага месца. Кізілаў твар бледны, усмешка,— ён спрабуе ўсміхацца, калі глядзіць на мяне, — вінаватая і не вельмі вясёлая.

— З таго свету выбраўся. Можа дасцё на гэтым закурыць...

— Курыць? Яшчэ што надумаў! Да ракі яго трэба адразу несці, памыць... I няхай ляжыць.

Кізіла слаба спрабуе пярэчыць. Навошта ж, маўляў, яму ляжаць? Пад зямлёй наляжаўся...

А мяне ахоплівае злосць.





— Вядзіце яго да ракі! Няхай памыецца і ляжыць! І ніякіх там штукарстваў! Во што з ягоных выбрыкаў нам стала!
Мажліва, не варта ў такі час папракаць чалавека, але цяпер, калі небяспека мінула, калі Кізіла жывы і здаровы, мяне апаноўвае злосць. Вядома, ніхто не вінаваты ў тым, што здарылася, бо скос мог абваліцца і сам па сабе. Але я не хачу прызнаваць гэтага. Навошта Кізіла рынуўся туды? Ён саскочыў, жвір скрануўся з месца і папоўз, а потым і ўвесь адхон шухнуў. Кізіла і вінаваты! Праз яго штукарства цяпер усё і ламаецца...
Хлопцы ўсёй брыгадаю вядуць Кізілу да ракі. Зноў сігналіць наверсе, зусім блізка, машына. Рогач шыбуе па сходках, але паспявае дайсці толькі да сярэдзіны: на краі катлавана, якраз на тым месцы, дзе нядаўна стаяў перад абвалам Кізіла, з'яўляецца Віктар.
— Назад! Назад! Абваліцца! — крычу я.
Нешта гукае і Рогач і, скачучы цераз прыступкі, ляціць па сходках наверх. А мне не хочацца бегчы туды. Я зноў нібыта чую тыя інтанацыі, што былі ў голасе Віктара, калі мы спрачаліся з ім па тэлефоне. Так, наша тая спрэчка з Віктарам вырашылася не ў маю карысць. Зламаў усё дурны выпадак. А яго магло і не быць. Але што цяпер бедаваць па тым! Скос катлавана абваліўся. Гэта — факт. І вінаваціць не будзеш сыпкі жвір, трэба глядзець на ўсё аб'ектыўна. І калі зірнуць менавіта так, дык, мабыць, сапраўды віна тут мая ёсць. Я павінен быў прадбачыць тое, што здарылася, павінен быў загадаць умацаваць край катлавана, альбо ўзяць яго шырэй, калі выграбалі экскаватары, павінен быў, зрэшты, паставіць указальнікі і забараніць рабочым хадзіць па тым месцы. Ёсць, карацей кажучы, шмат акалічнасцей, якія гавораць не ў маю карысць. Няхай нават дробязныя, але ж менавіта праз іх аказаліся дарэмныя нашы намаганні. Абвал няхай сабе вялікай шкоды і не нарабіў, але ён — быў. І Віктар, вядома, гэты факт выкарыстае. І я нічога не змагу запярэчыць. Хто нясе адказнасць за тэхніку бяспекі? Начальнік участка. Хто абяцаў скончыць ачыстку катлавана сёння? Начальнік участка. Хто цяпер павінен несці пакаранне? Начальнік участка.
— *А я спяшаўся, нібыта прадбачыў...*
Віктар спусціўся ў катлаван разам з Рогачам, і той, вядома, паспеў яму расказаць пра здарэнне. Ды і што ўтойваць, калі ўсё, як на далоні!
— Прадбачыць гэта цяжка...
— І нібыта што цягнула...— кажа Віктар, не звярнуўшы ўвагі на маё пярэчанне.— Абяцаў жа ў канцы дня прыехаць, а потым падумаў: не, паеду. І ўвесь час было прадчуванне: нешта там у іх здарылася.
— А нічога асаблівага і не здарылася,— кажу я, і цяпер Віктар звяртае ўвагу на мае словы.
— Не здарылася? — здзіўлена перапытвае ён, але ў гэтым здзіўленні выразна прабіваецца злараднасць.— Ну і ну! Калі начальнік участка лічыць, што нічога не здарылася, калі нічога не бачыць за такім фактам,— гэта вельмі трывожна. Добра, без ахвяр. А каб яны былі!
— Дык што, лепей было б?
— Вам, таварыш Бугрым, як старшаму прарабу, не да твару такія разважанні. Але яны мяне не здзіўляюць. Загад па ўпраўленню будзе напісаны сёння...
Віктар ідзе наперадзе, я моўчкі сунуся следам, і дошкі сходкаў зыбаюцца пад маімі нагамі. Потым я бачу нерухомыя самазвалы — шафёры, экскаватаршчык і кранаўшчыкі гайсанулі з уратаваным брыгадзірам на раку — і разумею, што Віктар, вядома ж, зробіць папрок, і не адчуваю ніякага жадання што-небудзь запытаць.
Але ён гаворыць зусім не тое.
— Заўтра машыны ад вас я забіраю!
І — усё. Потым ён моўчкі садзіцца ў машыну, урачысты, надзьмуты, недатыкальны. Ён нават не глядзіць болей на мяне, але твар аж зіхаціць ад радасці і задаволенасці. «Ну што, таварыш Бугрым,— гаворыць мне гэты твар,— бачыш? Так пакарана твая неразумная дзёрзкасць. Чаго ж ты цяпер не апраўдваешся? Чаго ж ты не пагражаеш, што будзеш ставіць пытанні перад упраўленнем і ЦК? Не, дарагі мой! Пытанні буду ставіць я! Толькі я!»
Віктара ўжо няма, а мне здаецца, што я чую яго голас, чую гэтыя словы, павучальныя і зларадныя. Чую і ненавіджу яго. Мажліва, нядобра гэта. Але я ненавіджу яго за гэтыя словы, ненавіджу і разумею, што частка гэтай нянавісці скіравана не на Віктара, а на маю ўласную слабасць, на тыя хвіліны разгубленасці, якая апанавала мяне ў часе абвалу.
Ад ракі варочаюцца хлопцы. Кізіла крочыць наперадзе, час ад часу прыпыняецца, нешта расказвае хлопцам, і ўсе рагочуць, аж кладуцца. Застаецца крыху болей за дзве гадзіны да канца рабочага дня. Вядома, за гэты час мы не паспеем ачысціць катлаван, але тое зусім мяне не трывожыць. Я стаю і гляджу на гаманкі гурт, што сунецца ад ракі, і слухаю, як там рагочуць.

## 4

У нядзелю зусім нечакана да нас завітаў Крыштоп. Ён шыбаваў да хаты, аглядаючыся па баках; пад пахаю ў яго жаўцела тонкая папка з кардону. Побач з ім тупала наша Ірка, несла, прыціскаючы да грудзей, новую цацку.
— А ты зірні, хто да нас у госці коціць, Валя! — я паклікаў Валю, і яна адразу падбегла да акна.
— А праўда... Раман Пятровіч. А чаму ж адзін?
Яна спытала гэта і ў Крыштопа, калі мы выбеглі з хаты насустрач. Ён павітаўся весела і шумна, развеў рукамі:
— Ніва народнай асветы. Зноў жонка на прышкольным участку бароніць пасевы ад слімакоў. А я кінуты на волю лёсу...
— Дык чаго ж вы пасталі тут? Давайце на тэрасу,— запрасіла Валя.
— Можа, правядзем партыю? — ківаю я на маленькі столік, размаляваны квадратамі.— Гэта мой цесць тут намаляваў. Любіць, каб квадраты былі вялікія...
— Даўненька... Даўненька не гуляў я ў шашкі,— весела сказаў Крыштоп і паклаў сваю папку на лавачку.
— Э-ээ! Не! Гогалеўская школа не пойдзе!
— Няхай сабе. Тады тры звычайныя партыі. Каб нікому не было крыўдна.
— Гэтак і Валін бацька кажа. А як пачнём — канца няма.
— А мы ўмовімся: тры партыі. І — кропка! Толькі з увагаю!
Ён, аднак, не клапаціўся пра апошнюю ўмову — гуляў вельмі няўважліва, і я без вялікай цяжкасці яго абгуляў. Расставілі шашкі зноў. Ужо на трэцім ходзе я зрабіў памылку, ён яе заўважыў, і мне каштавала намаганняў звесці да нічыйнага выніку.

— Ну, апошнюю! — павесялеўшы, прапанаваў Крыштоп.
— А мо на гэтым і прыпынімся? Баявая нічыя.
— Якая? Паўтары на палавінку! Дамовіліся на тры? Дык трэба ісці да канца. Абяцаю ўважлівасць. Спачатку я прыглядаўся, вывучаў вашу школу... А зараз зраблю вам Сталінград!..

Хацелася выйграць — ваяўнічасць Крыштопа мяне падахвоціла. Уважліва абдумваю кожны ход. Але і Крыштоп гуляе старанна, хоць і спяшаецца. Я прыглядаюся да выразу яго твару, зрэдку кідаю позірк на жоўтую папку, якая ляжыць побач, і ўвесь час чакаю, што ён пачне гаворку пра тую справу, дзеля якой завітаў да мяне. I трапляю ў пастку. Камбінацыя простая, не заўважыць яе недаравальна. Але я яе не заўважыў. За ёй накатваецца яшчэ адна — я ўздымаю рукі.
— Нічога не паробіш. Разгром. Ну, яшчэ адну!
— Не! Дамовіліся ж... А цяпер хачу параіцца. I нешта прапанаваць...

Ён падсоўвае папку, развязвае кароткія сінія матузкі і выцягвае шырокі аркуш, спаласаваны карычневымі лініямі. Я адразу ж здагадваюся: праект жылога дома. I дужа падобнага на той, які мы цяпер будуем ля Дзвіны. Гляджу на край аркуша: прозвішчы кіраўніка майстэрні і галоўнага праектыроўшчыка мне знаёмыя. Дык гэта ж наш праект!
— Не! Наш — вось...
Крыштоп выцягвае з папкі другі аркуш і кладзе побач. Гэта рабочы ліст праекта — дакладна такі ж ляжыць у кішэні Рогача штодзень. Потым Крыштоп моўчкі згортвае яго і пакідае на стале толькі той, першы.
— Гэта была мая мара,— гаворыць ён, углядаючыся ў спляценне карычневых ліній.— Студэнцкая мара. I яе ўхвалілі паўсюль. Паўсюль мой дыпломны праект атрымліваў самую высокую ацэнку. Я жыў і сніў свой дом. Я бачыў яго на беразе ракі. Потым я працаваў у Віцебску, і мая мара пачала сваё новае, цяпер ужо зусім іншае, жыццё. Яе ўдакладнялі, не спытаўшы мае думкі, яе ўзгаднялі, нават не паведаміўшы мне нічога, яе абмяркоўвалі, не запрасіўшы аўтара. Урэшце, нейчая рука вывела дзелавіта-звілістае, але зразумелае і яснае: «дазваляю». I гэтыя восем літар перакрэслілі маю мару. Праект належаў Крыштопу, бо ўнізе стаяў яго подпіс. Але мары ўжо не было, бо яе падагналі пад нязвыклыя для яе абручы непахісных стандартаў, і яна памерла.
— I вы не змагаліся?

Пытанне, мабыць, прагучала вельмі наіўна, але Крыштоп успрымае маё здзіўленне шчыра, без усмешкі і іроніі.

— З кім? — пытаецца ён сур'ёзна, бы вядзе які допыт.— Над праектам забудовы раёна працавала цэлая група. Тэрміны сціслыя, нават жорсткія, калі хочаце. Не хапала часу нават на грунтоўнае агульнае абмеркаванне, не кажучы ўжо пра дэталёвае абдумванне дэталей комплексу. Дык што ж было казаць пра эканамічны і эстэтычны аналіз іншых варыянтаў і рашэнняў?.. Акрамя таго, усе мы людзі. I вы павінны ведаць, які гэта магутны рычаг—прэмія. Прэмія за эканомію часу і сродкаў па праектаванню!.. Ну, а мой праект, ён яшчэ і сёння — у пераробках...

Прыходзіць Валя — яна толькі што прабегла па сцежцы ў садзе— і ставіць на столік нізкі пляцёнік з яблыкамі.
— Частуйцеся. А я зноў пакідаю вас — бягу Ірку шукаць...



Мы застаемся ўдвух з Крыштопам, і я заўважаю, што ранейшая нітка думак парвалася. Нешта такое прыкмячаю і за маім госцем.
— Калі яблык толькі што з дрэва — у ім зусім іншы смак. А паляжыць дзень-другі, ужо не тое,— гаворыць Крыштоп.
Ён разглядае белую, з тонкімі чырвонымі пражылкамі мякаць, потым адкусвае, павольна жуе, і на твары яго задавальненне. Для мяне гэтыя яблыкі не навіна, але я таксама бяру вялізны, чырванабокі, і таксама пагаджаюся: смачны!
— А дзе, на якім дрэве яны растуць? На тым?
— Не. Там — «цыганка». Вельмі позні гатунак: як лісце ападзе, тады паспяваюць. А гэтыя — далей. Пройдзем?
Крыштоп згодзен, і я вяду яго ў канец саду. Там, ля студні, расце нізкае, але вельмі кудлатае дрэўца, абсыпанае яблыкамі. Выбіраю самы вялікі і працягваю яго Крыштопу.
— Дык што за пераробкі?— пытаюся, каб зноў вярнуцца да ранейшай нашай гаворкі.
— Пераробкі ў праекце.
Пераробкі? Якія могуць быць пераробкі, калі канчаем падмурак класці! Незразумела. Углядаюся ў твар Крыштопа і нічога не магу прачытаць на ім.
— Пераробкі плануюцца на другім паверсе. I вёў пра тое са мною гаворку сёння таварыш Зубок Віктар Паўлавіч.
— А чаму я нічога не ведаю?
— Спачатку, мабыць, хацелі ведаць маю думку. I атрымаць згоду на тыя пераробкі.
— Мне здаецца, што Крыштоп завітаў да мяне зусім не дзеля таго, каб паведаміць пра гаворку з Віктарам. Гэтае паведамленне нічога не дае. Я хачу ведаць усё: якую пазіцыю займае Віктар, у чым сутнасць пераробак, навошта яны робяцца.
— Навошта? Палепшыць жыллёвыя ўмовы некаторых начальнікаў...
Не, такая гаворка мне не па душы. Калі Крыштоп не хоча казаць шчыра, дык нашто ён увогуле пачынаў? Зноў кажу гэта яму, кажу, мажліва, нават крыху рэзкавата. I Крыштоп не крыўдуе.
— Толькі факты? Добра. Мне загадалі перарабіць праект. На другім паверсе столь павінна быць вышэйшая на сорак сантыметраў, чым на ўсіх астатніх. На другім паверсе павінны быць асобныя ванны. На другім паверсе ванны і кухні павінны быць абліцаваны кафляю.
— I вы пагадзіліся?
— Я проста выслухаў.
— А далей?
— Далей я сказаў, што праект прайшоў усе ўзгадненні і што нельга яго так проста ламаць. Але мяне супакоілі: узгадненні, маўляў, не ваш клопат. Усё, маўляў, ужо ўзгаднілі, санкцыі на такія пераробкі атрыманы, а мне застаецца толькі ўнесці іх на кальку, а потым разам з будаўнікамі — а будаўнікі гэта вы — увасобіць у жыццё. Я сказаў, што не магу зрабіць усё адразу, што мне патрэбен час, каб падумаць. I вось я прыйшоў да вас. Параіцца. I скажу вам адразу: я не хачу перарабляць праект так, як хоча Зубок. Я не хачу ўдзельнічаць у ягоных шахерах-махерах...
Гракі прыляцелі на клёны, галёкаюць, лопаюць крыламі. Галіны клёнаў гнуцца, і ўсё навокал, здаецца, пачынае дрыжаць, ад шалёнага бязладнага граю. Хапаю яблык, што ляжаў на зямлі, і кідаю яго ў густую навісь галля. Гракі, лапочучы крыламі, зрываюцца з

клёнаў і лятуць прэч. Але мне не робіцца спакайней: нічога не змянілася ад таго, што цяпер у садзе стала ціха — гэтая цішыня не супакойвае, а прыгнятае.

Думаю над словамі Крыштопа, спрабую ўявіць сабе падрабязнасці таго, як ішла гаворка з Віктарам. Відаць, была яна не дужа і ціхая. Пэўна ж! Бо Крыштоп не выпадкова завітаў да мяне! Ён хоча не проста скардзіцца на лёс свайго праекта, ён шукае шчырай парады, яму патрэбна шчырая падтрымка. А як мне яго падтрымаць? Што параіць? Я чуў пра выпадкі, калі на асобных аб'ектах змянялі праекты і рабілі розныя адхіленні, каб збудаваць частку кватэр з дадатковымі выгодамі. Але пра тое я толькі чуў. Няўжо цяпер мне самому давядзецца рабіць тое? Не! Гэтага не будзе!

Крыштоп зрывае з яблыні два яблыкі і адзін працягвае мне. Нейкі час мы стаім, нічога не гаворым і хрумстаем яблыкі. Потым я кажу, што на гэтыя перароблі мае згоды не будзе, я не зраблю гэта, нават калі і загадаюць.

— А вам не будуць загадваць,— гаворыць Крыштоп, уважліва разглядаючы яблык.— Вас будуць пераконваць, што вы памыляецеся, думаючы, што гэта робіцца з мэтаю антыдзяржаўнай. Усё будзе пададзена пад пэўным і даволі прыстойным соусам. Гаворка пойдзе пра лепшых людзей, пра тое, што мы павінны асабліва клапаціцца пра тых, іменамі якіх ганарыцца наш горад.

Ну, гэта нават у вуснах Крыштопа гучыць вельмі ж непераканаўча. Чаму Крыштоп не дамагаецца, каб ажыццяўляліся не нейкія там перароблі, а ўвесь ягоны праект, яго мара, аб якой ён так хораша гаварыў?..

Крыштоп углядаецца ў мой твар. Я ніколі такім не бачыў Крыштопа: чорныя бровы ссунуліся, веі апусціліся — ён нібыта свідруе мяне сваімі карымі вачыма.

— Я б пагадзіўся зрабіць гэта, каб вы далі згоду пайсці на рызыку.

— Рызыку?

— Так. Бярыце і будуйце дом па маім праекце, вось гэтым, які ніхто не абскубваў з усіх бакоў, пакуль не змянілася ўсё, апрача падмурка. Зрэшты, мы не зробім вялікага злачынства — простае балансаванне ў межах будаўнічых і дазволеных стандартаў. Але затое і дом будзе цудоўны, і ў далейшым зусім іншы выгляд атрымае квартал. Дом як бы адкрые яго. А потым, калі пабудуецца ўвесь комплекс, гэта будзе тое, пра што я марыў. І пабачыце: тыя, хто будзе жыць тут, скажуць нам толькі дзякуй...

— А вы разумееце, чым гэта можа скончыцца для вас асабіста?

— Пераможцаў не судзяць.

— Але Пірава перамога мне не патрэбна.

— Я веру ў іншую.

— Тады — робім! А як што — жартаваць будзем: пераблыталі, маўляў, праекты...

Гэта, вядома, наіўна. Віктар будзе прыходзіць на аб'ект і заўважыць, што робіцца на будаўнічай пляцоўцы.

— Безумоўна,— пагаджаецца Крыштоп.— Але чатырнаццатага пачынаецца абласны семінар-нарада. Зубок будзе там дзён пяць. А за гэты час мы ўжо выйдзем на трэці паверх. А там нас няхай судзяць ці мілуюць...

А што, калі паставіць рубам пытанне перад упраўленнем і адстаяць праект Крыштопа?



І раптам Крыштоп адказвае на маё пытанне — гаворыць паспешліва і заўзята:

— Позна. Позна ставіць пытанні. І, самае галоўнае, гэта нічога нам не дае. Больш таго, калі мы паспрабуем адмовіцца, нашу адстаўку прымуць з ахвотаю і знойдуць людзей патрэбных. Таму я і завітаў да вас, таму і гавару з вамі пра ўсё шчыра — спадзяюся на вас і веру вам...

Я толькі цяпер, пачуўшы гэтыя словы, пачынаю разумець, чаму так хутка і адразу прыняў прапанову Крыштопа. Я таксама паверыў яму. Паверыў адразу, паверыў без ваганняў і падазронасці. Паверыў, як самому сабе.

— Дык што? — пытаюся я ў Крыштопа.— Зірнем яшчэ на праект.

Мы зноў варочаемся да століка, сядзім, гаворым, глядзім. Ужо амаль зусім ацямнела. Прыходзіць Валя і кліча нас на тэрасу. Але Крыштоп пачынае развітвацца, просіць прабачыць, што заняў увесь вечар, на які, магчыма, былі ў нас нейкія іншыя планы.

— Пакуль мама не вернецца з Залесся, нашы планы адны: Ірка. Палажыла яе цяпер. Спіць.

Крыштоп дазваляе толькі мне аднаму праводзіць яго да вуліцы. Развітваемся мы цёпла, гаворка з ім мяне ўзрушыла. Гэтае ўзрушэнне не пакідае мяне і пазней, калі я сяджу на тэрасе і гляджу на праект, які пакінуў Крыштоп. Упершыню прыходзіць цвярозая думка: вельмі рызыкоўна, магчыма, адважыўся я на тое, што прапанаваў Крыштоп. Але яго ідэя ўжо захапіла мяне, я ўжо жыву ёю, я ўжо бачу яе, увасобленую ў бетон, шкло, дрэва. Так, той, ранейшы, праект Крыштопа не вельмі адрозніваецца ад цяперашняга, але ў ім ёсць дэталі, якія не спрацілі будынак, не зрабілі яго падобным на дзесяткі іншых, выразна акрэслілі тое, што Крыштоп назваў «індывідуальнасцю», «тварам» дома.

Мне хочацца, вельмі хочацца будаваць такі дом. Але гэты другі паверх, прапанаваны Крыштопу Віктарам?.. І як паставіцца Віктар цяпер да мяне? Вымова, вядома, ёсць вымова. Згодзен. Але навошта было ўзнімаць вэрхал на ўсё ўпраўленне, папярэджваць у загадзе ўсіх кіраўнікоў аб'ектаў? Магчыма, гэтак і трэба. Калі разважаць лагічна, дык галоўны інжынер павінен быў, грунтуючыся на здарэнні ў нашым катлаване, патрабаваць ад кіраўнікоў іншых аб'ектаў строгага захоўвання правіл бяспекі. Але ўсё гэта ён мог зрабіць тактоўна, без крыку, не выстаўляючы на першы план сваё пыхлівае «я». А мо Віктар зрабіў усё тое сумысля?..

Тахціць, бунтуе ў грудзях сэрца. Чаго ж я раней не падумаў пра гэта? Ды вядома ж, вядома! Віктар, запрашаючы мяне сюды, у Прыдзвінск, і пазней, калі мы былі ў яго разам з Валяй, разлічваў, што знойдзе са мною агульную мову. Потым знарок — па-начальніцку паставіўся да абвалу, спадзеючыся, што запалохае мяне, што я ўжо нічога не адважуся рабіць самастойна, процiў яго волі, процiў таго, што ён з кімсьці там удумаў. А калі гэта так, дык ты, дарагі таварыш Віктар Паўлавіч, глыбока памыляешся. Будзе не так, як ты намысліў. Будзе зусім не так!..

Цікава, як пачне са мною гаворку Віктар, як падступіцца ён да гэтага? Ён жа павінен аддаць мне загад, уручыць зменены і перароблены праект? А можа, ён нічога не будзе мяняць у праекце, а проста загадае зрабіць так? Не, Крыштопу загадалі перарабіць...

Асцярожна набліжаецца Валя. Чую яе крокі, але не паварочваю-

ся, і яна садзіцца побач, таксама глядзіць на разлінаваны аркуш паперы.

— Новы дом? — пытаецца ціха.

— Новы. Спіць Ірка?

— Ногі мылі, дык яна ўжо ківалася. А як лягла, дык адразу ж і заснула. Налётаецца за дзень... Чаго ён прыходзіў? Нешта з праектам?

— Не, праект цудоўны. Глядзі, які стане дом...

— Дом харошы,— гаворыць Валя. Яна пераконана: усё тое, да чаго я прыкладваю рукі, павінна быць добрым і прыгожым. Звычайна, я ўдзячны ёй, але цяпер гэтая паспешлівая згода абуджае пачуццё насмешлівае і іранічнае.

— Чаму ты так думаеш?

— За благое Бугрым не можа ўзяцца.

— Ты думаеш?

— Пераконана. Я цябе ведаю.

— А ці ведаеш ты, што калі я буду ажыццяўляць гэты праект, дык да тваіх абавязкаў, мажліва, дадасца і яшчэ адзін — насіць мне перадачы ў казённы дом?

— Пакажы толькі дарогу. Хлеб прынясу абавязкова.

— Я не жартую.

— Тады расказвай. І — па парадку. Усё!..

Яна кладзе мне рукі на плечы, і мы сядзім, схіліўшыся над сталом, і глядзім на праект, які пакінуў Крыштоп. Я думаю пра тое, што чакае мяне наперадзе, і расказваю пра гаворку з Крыштопам. Яна слухае, не перапыняе, і мне здаецца, што Валя не толькі разумее мяне, але і пераконана ў нашай праваце, у тым, што задумалі мы з Крыштопам правільна. Але гэта я так думаю. А Валя маўчыць, уважліва вывучае рыскі і лініі, углядаецца, нібыта шукае нешта вельмі важнае і патрэбнае...

— Ты зразумела ўсё, што я тут табе пляту? — пытаю і дакранаюся да Валіных рук; пальцы ў яе агрубелыя і шурпатыя.

— Амаль што. Толькі думаю пра Віктара. Навошта яму ўсё гэта? Зрабіць кар'еру? Наўрад ці зробіць ён яе на гэтым. Тады навошта? Адказ, на маю думку, адзін: ён рвецца ў аспірантуру. Калі гэта так, тады становіцца зразумелым усё астатняе. Яму патрэбна добрая характарыстыка, нешта накшталт накіравання адсюль.

Валя разважае лагічна. Я слухаю яе, і ўсе тыя раскіданыя і сумятлівыя думкі набываюць строгі кірунак, і калі я раптам, бы з высі якой, бачу гэты кірунак, мне робіцца горача. Чамусьці прыгадваю той дзень, калі, некалькі год назад, Віктарава маці прынеслася на будоўлю з выклікам у інстытут. Тады Віктар паехаў, кінуўшы мяне. Цяпер мне пагражае тое ж. Дом збудуецца. Ён паедзе, а я астануся тут. Рана ці позна ўсё адкрыецца. Хто будзе адказваць? Начальнік участка. Правільна ты, Валюха, усё зразумела! Ты нават паглядзела глыбей і зразумела больш, чым я. Але ты не сказала самае важнае: ці разумна тое, што мы хочам зрабіць з Крыштопам? Нават калі ты скажаш, што гэта няправільна — мы ўсё роўна не павернем назад! Я ніколі не рабіў, не хачу і не буду ніколі нічога рабіць процію свайго сумлення!..

Валя бярэцца ладкаваць пасцель. Пад яе рукамі мякка шухціць накрухмаленая прасціна, і ўвесь клопат чэзне, адкінуты цёплай і харошай думкай пра Валю.

— Пайду зачыню весніцы,— кажу я.

— Прынясі Ірчыны плацейкі. Яны там вісяць...



У садзе ціха. Шахціць па лісці, сарваўшыся з галіны, і гулка покае на зямлю яблык. Сонна галёкнулі на клёнах гракі. З акна светлыя палосы ўпіраюцца ў бухматыя яблыні, і яблыкі на галінах загадкава бялеюць.

У асветленым акне, за фіранкаю, рухаецца цень — гэта ходзіць па пакоі Валя. Потым яна спыняецца, не варушыцца, і гэта цягнецца нейкі час, і цёмныя абрысы на фіранцы нерухомыя. Аб чым яна задумалася? Трывожыцца за мяне? Дарэмна. Усё павінна быць добра. Усё будзе добра, бо ты — побач са мною...

## 5

Віктар, вядома ж, чакаў іншага ад мяне — рэзкасці, катэгарычнасці. А я размаўляю памяркоўна, спрабую нават жартаваць, і тон мой яго дзівіць. Ён бярэ са стала праект, у якім Крыштоп ужо зрабіў пераробкі, і разглядае ўважліва, быццам ён адзін у пакоі, быццам я і не існую ўвогуле.

— Значыцца, лічыш няправільным? — урэшце пытаецца ён.— Лічыш. А хочаш, я табе скажу шчыра, што я думаў і на што разлічваў, калі клікаў цябе? Ведаў: скажаш менавіта гэта. І адчуваў: з табою цяжка будзе згаварыцца.

— А навошта са мною згаворвацца? Мы робім не сваю асабістую справу.

— Вось у тым і штука! У тым і загваздка, што мы не сабе служым!

— Я працую, а не служу!

— Бачыш ты: з падкавыркаю!.. А ў мяне на тое зусім настрою няма. Ну, не хочацца мне з табою спрачацца. Я ж табе казаў: не Зубок прыдумаў тыя пераробкі. Там! — ён тыцкае пальцам у столь, круціць ім над галавой.— Там гэта вырашаюць. Мне загадваюць — выконваю. І твая памяркоўнасць мне сёння да спадобы. Таму і раю: глядзі на ўсё гэта цвяроза...

— Гляджу. І не разумею аднаго...

Віктар са смехам кідае аркуш на стол, потым становіцца са мною побач і тлумачыць мне, як вучню, які не можа зразумець простай задачы, што я вельмі шчаслівы чалавек, бо я не разумею толькі аднаго. А ён, Віктар, не разумее аднаго, другога, трэцяга... І не спрабуе нават зразумець...

Мяне гэта ўзвінчвае. Няма, не можа быць пытанняў, на якія нельга знайсці адказ!..

— Філасофія! А тут — жыццё! — Віктар хапае кальку, трасе яе ў руках і, не гледзячы, кідае на стол.— Вось... Гэта — жыццё! І хочаш ты ці не хочаш, а ты — у ім... Але хопіць філасофіі. Ёсць загад.

— Я хачу мець пісьмовы загад.

— Будзе. Надрукуе машыністка — зойдзеш і возьмеш. Хоць тры экземпляры. А цяпер — працаваць!..

Стаю ля стала і сачу позіркам за Віктарам. Тое, што я не вельмі і пярэчыў, хоць выказаў свае думкі аб пераробках у праекце, яго не толькі прыемна здзіўляе: ён святкуе перамогу. Ён нават ляпае мяне па плячы, калі я іду да дзвярэй, і праводзіць па калідоры. Ён мне гаворыць, што вельмі задаволены тым, што я ўрэшце пачынаю разумець усё правільна, што ўскладняць нам не трэба ў жыцці нічога, бо мы — простыя выканаўцы.

— Ёсць простыя, а ёсць — праставатыя. Ты за якіх?

Не ведаю, ці мой тон, ці само пытанне, але нешта ўразіла яго, ён насцярожыўся, потым роблена ўсміхнуўся, затрос рукамі:

— Хопіць, хопіць, хопіць! Бо ты зараз будзеш мне даводзіць, што мы не простыя выканаўцы, а людзі творчыя, што кожны з нас павінен мець адказнасць за даручаную справу, што мы, будаўнікі, ствараем новае, што ў кожнага павінна быць сумленне... Гэтак жа? Ну, вось.. А хіба я адмаўляю ўсё гэта? Ніколі!

Што ні кажы, а Віктара дурнем не назавеш. Ён абяззбройвае мяне і сваімі пытаннямі, і сваім рашучым тонам, і ён, я гэта добра разумею, адразу ж, варта мне толькі пачаць, паверне мае пярэчанні на сваю карысць, і я не хачу болей з ім спрачацца. Праўду казаў Крыштоп: ніякая спрэчка з ім нічога не дае. І я ведаю цяпер: я свядома буду рабіць тое, аб чым мы дамовіліся з Крыштопам. Віктар хоча некаму дагадзіць. Хоча і, разам з тым, баіцца. Загад да гэтага часу не падрыхтаваны, і ён не хоча яго мне ўручыць. А загад мне патрэбен. Цікава, ці падпіша ён яго сёння? Калі падпіша — значыцца, я ў чымсьці памыляюся ў сваіх думках пра Віктара. А не падпіша... Але гэта ўжо нічога не зменіць. Заўтра раніцаю я падыду сюды па загад абавязкова...

На вуліцы людна. У кожнага свая дарога, свае справы, свой клопат... І ад усёй гэтай будзёншчыны робіцца спакайней, нават крыху весела. А ўсё-такі цікавая сітуацыя складваецца! Віктар думае, што дамогся свайго, прымусіў мяне скакаць на свой лад. А які будзе ў яго выгляд, калі ён даведаецца, што памыліўся? Але што мне да ягонага выгляду! Важна, хто з нас рабіў правільна. І толькі час пакажа гэта...

На будаўнічай пляцоўцы ўсё ідзе сваім парадкам. Звоніць кран. Плаўна апускаюцца на тросах апошнія блокі падмурка. У правым кутку, там, дзе некалі быў абвал, пакладзены ўжо чатыры пліты перакрыцця, і на крайняй з іх стаіць Кізіла: ссунуў берэтку на правае вуха, голасна гукае кранаўшчыку:

— Ге-эй! Сініца! Бяры лявей. Ві-іра! Ха-арош!

І гэты голас, і роўны гул крана, і спакойныя, дзелавітыя рухі рабочых — усё гэта вельмі падобна на тое, калі я працаваў у брыгадзе Рогача і мы ставілі дом ля парку. Мне нават здаецца, што я лётаў званіць Валі, і што зараз з-за штабеля белых блокаў з'явіцца Казімір і я пачую яго голас.

Крыштоп стаіць ла прарабкі, і з катлавана шнуруе да яго незнаёмы хлопец у светлым пінжаку, з жоўтым чамаданчыкам. Крыштоп нешта гаворыць гэтаму хлопцу, паказвае рукою ў мой бок, і яны стаяць і чакаюць, пакуль я падыду да іх.

— Карэспандэнт абласнога радыё прыбыў да нас. Таварыш Шліман,— гаворыць мне Крыштоп.— Я казаў ужо таварышу Шліману, што ім, мабыць, лепей весці рэпартаж з іншай якой будоўлі. Дзе, скажам, работы завяршаюцца. А ў нас... Ну, што ў нас?

Знаёмлюся з карэспандэнтам і адразу ж пагаджаюся з Крыштопам. Але Шліман, паблiскваючы чорна-сінімі вачыма, глядзіць весела, быццам добра ведае ўсё тое, што я зараз кажу яму, супакойвае мяне пачціва і дабрадушна. Работы толькі што пачаліся. Гэта заканамерна. Не можа быць такога становішча, каб на ўсіх аб'ектах работы завяршаліся. Дакладней, можа. Але ж дзе тады перспектывы? Нібыта мы ўсё завяршаем і нічога не пачынаем новага? Не адпавядае сапраўднасці. А яго, шліманаўскія рэпартажы заўсёды



былі цалкам і да канца аб'ектыўныя. І, акрамя ўсяго іншага, сёння галоўны інжынер упраўлення рэкамендаваў зазірнуць менавіта сюды. І ў выканкоме гарсавета такой жа думкі прытрымліваюцца: участак паказальны, аб'ект вельмі перспектыўны ў сэнсе разгортвання шырокага фронту работ. І галоўнае: панарама будучага квартала яму, Шліману, вельмі падабаецца, натхняе на гаворку ўзнёслую. А гэта вельмі важна, калі вядзецца запіс...

— А калі ў вас плануецца перадача?

— У канцы тыдня. Магчыма, у нядзелю. Раніцою. У вас тут няма радыё? Шкада. Калі хочаце, мы паставім гэтае пытанне ў перадачы. Няхай упраўленне паварушыцца, зробіць належныя захады, каб правялі. Гэта не так і цяжка...

— А нам не трэба яго праводзіць,— гаворыць Крыштоп.— Тут непадалёк стаіць дынамік. Дык з яго добра чуваць — поўная радыёфікацыя аб'екта...

Крыштоп смяецца, а мне непамысна. Значыцца, Шліман быў у Віктара раніцаю. Але чаго ж Віктар мне нічога не сказаў пра тое? Забыўся? Не, наўрад. Гэта на Віктара не падобна. Тут, хутчэй за ўсё, псіхалагічны разлік. Вось мы з табою, маўляў, спрачаемся, нешта даводзім адзін аднаму, а аб'екту тым часам надаецца вялікае значэнне. І ў выканкоме гарсавета такая ж думка. Так што, таварыш Бугрым, трымайся гэтай лініі, кіруйся на вялікую перспектыву. Але ж галоўны інжынер павінен быў паведаміць начальніку ўчастка, што накіроўвае да яго карэспандэнта!

Шліман тым часам ужо зняў з пляча сумку, адкрыў верхняе вечка, размотвае шнур з мікрафона.

— Я думаю, што пачнем запіс адтуль, ад катлавана. Гэта будзе правільна...

Крыштоп прапануе хоць крыху прымерацца. Бо адразу ў нас не атрымаецца добра. І я згодзен з ім. Нейкая як бы трывога.

— Ні-ні-ні! Паверце вопыту. На прыкідках добра атрымліваецца, жыва і цікава, а як пачнем пісаць — нудота, бо чалавек хвалюецца. Таму мая метода — першае ўражанне, непасрэднасць гаворкі... У нас з вамі пойдзе такім чынам. Я даю тры пытанні. Першае — кіраўніку аб'екта: гэта адказ у агульным плане аб тым, ведаеце, што будуецца. Другое пытанне — прадстаўніку архітэктурнай думкі: таварыш Крыштоп гаворыць пра асаблівасці праекта, пра тое новае, што ёсць у планіроўцы квартала. Разумееце?

— У асноўным, вядома, разумеем.

— Гэта — добра. Галоўнае — непасрэднасць. Каб было чуваць, што мы — на будоўлі: гудзе, грыміць, грукоча... Карацей — голас працы. А трэцяе пытанне пасля вас абодвух — слова будаўніка. Хто, вы казалі, брыгадзірам? Таварыш Кізіла. Вельмі добра.

— Ён ля крана стаіць. Паклікаць?

— Ні-ні-ні! «Краном висящим тяжести тащим...» Паэзія, паэзія... Гукі будоўлі — фон нашай гаворкі. Калі працоўная сімфонія не чуваць — гэта пусты фарс. Праца, праца нам патрэбна. Значыцца, паўтараю яшчэ раз.... І майце на ўвазе: кожнае наша слова — гэта эфір. Гатовы? Тады пачнем...

Шліманава ўвішнасць пачынае падабацца. Мы стаім ля сходкаў, якія вядуць цяпер не ўніз, у катлаван, а падняты на апошнія блокі падмурка. Шліман смела ўзбіраецца на пліты перакрыцця. Заклапочаны і строгі, ён увесь час паварочваецца то ўлева, то ўправа, то паглядае на нас і ўсё гаворыць, гаворыць у мікрафон, які трымае ў руцэ: здаецца, што ён нічога, апрача мікрафона, і не заўважае. Але

гэта толькі здаецца. Гаворка ў Шлімана ліецца плаўна, прыгожа, ён гаворыць пра Дзвіну, пра людзей, што працуюць вакол, і потым паведамляе, што зараз пойдзе да старшага прараба, які кіруе работамі і недзе тут непадалёк, а потым ён, Шліман, паспрабуе адшукаць архітэктара, які, як ён даведаўся, таксама недзе тут, на будоўлі.

Шліман нечакана апускае мікрафон уніз і, гучна тупаючы чаравікамі, ідзе да нас.

Мікрафон у маіх руках. Трымаю яго перад сабою, але Шліман моўчкі згінае маю руку ў локці, набліжаючы мікрафон да губ, і робіць знак пачынаць. Калі Шліман быў наверсе, а мы стаялі адны, мне здавалася, што я змагу, не бянтэжачыся, расказаць пра тое, што будзе тут, на беразе Дзвіны, праз нейкі час. Але ў той жа момант, як Шліман зрабіў знак пачынаць, у мяне адразу прапалі ўсе словы. Дакладней, яны ёсць, як бы ўяве я бачу новыя дамы, бачу ажыццёўлены Крыштопаў праект, але сказаць пра тое не магу. Зрэшты, перасільваю сябе, вымаўляю першае слова і адразу ж адчуваю сябе вальней. Кажу пра тое, як і калі пачаліся тут работы, кажу пра наш галоўны клопат — хутчэй збудаваць новы дом, збудаваць так, каб людзі, што будуць жыць тут, не толькі дзякавалі нам, будаўнікам, але і былі шчаслівыя, і жыццё іхняя ішло слаўна і добра. Я хачу яшчэ сказаць пра тэрміны, пра тое, што нам перашкаджае марудная дастаўка некаторых матэрыялаў, але Шліман выхоплівае мікрафон.

— Прабачце, дарагія радыёслухачы. Здаецца, я бачу ля крана архітэктара... Так, гэта Раман Пятровіч Крыштоп. Зараз мы падыдзем да яго, і ён раскажа нам пра свае планы...

Шліман зноў нахіляе мікрафон да зямлі і гучна тупае чаравікамі — ствараe ілюзію таго, што ідзе да архітэктара.

Не ведаю, ці хвалюецца Крыштоп, але бярэ ён мікрафон неахвотна. Мне нават здаецца, што і ў голасе яго гучыць незадаволенасць. Тым не менш, гаворыць ён роўна, не збіваючыся, не паўтараючыся.

А з брыгадзірам у Шлімана пачынаецца зусім іншая гаворка — жывая, імпэтная, жартаўлівая часам нават. Пытанні Шлімана хуткія, нечаканыя, але Кізіла зусім не бянтэжыцца, адказвае ўпэўнена, нават са смяшком, нібыта і не заўважае, што перад ім мікрафон.

— Скажыце, таварыш Кізіла, а як вы, асабіста, уяўляеце жыццё людзей у гэтым цудоўным раёне?

— Ды я б — з ахвотаю. Парк шыкоўны плануецца. Дзвіна побач. Раніцою ўстаў і на раку з вудаю. Калі ласка, сняданак гатовы. Толькі не лянуйся.

— Вы любіце рыбаліць?

— Калі ёсць час.

— А яшчэ што вы любіце?

— Дзяўчат. Але толькі вясёлых. І байдарку. Сёлета мы ўдзельнічалі ў гарадскіх спаборніцтвах і занялі першае месца.

— Цудоўна. А тут не плануецца водная станцыя? Ці, можа, вы не знаёмы з праектам у цэлым?

— Станцыя будзе крыху ніжэй. Вунь там... Вось гэта — вуліца. А далей — парк. За ім — байдаркі. Так што можам і гайсануць!

— А хто будуе станцыю?

— Наша ўпраўленне. Там таксама — работы на ўсю шырыню. Гранітны прычал будзе. Ды вы можаце самі зірнуць.

— Гэтай дарогаю ісці?

— Гэтай. Пад узвалам яны і працуюць.

— Дзякуй... А зараз, дарагія таварышы, мы накіруемся да будаўнікоў новай спартыўнай станцыі. Хвілінку цярплівасці, і я прывяду вас на бераг Дзвіны, вы пачуеце плёскат рачных хваляў і адчуеце на сваіх тварах подых свежага рачнога ветру...



Шчоўкае выключальнік. Шліман усё яшчэ трымае мікрафон у руцэ і пераможным позіркам аглядаецца навокал. Ён — задаволены. Ён вельмі задаволены і вясёлы.

— Ведаеце? Гэта лепшы запіс за ўвесь месяц. Жыва, цікава, непасрэдна. А брыгадзір! Ды гэта ж прыроджаны талент. Якая дыкцыя!..

— Пагаманіць Кізіла любіць,— згаджаецца Крыштоп.

— Не, не. Тут прыроджаны талент рэпарцёра. Я перагавару з рэдактарам: магчыма, мы паспрабуем сілы хлопца для рэпартажаў на радыё. А цяперака я прапаную вам паслухаць, што мы запісалі. У бытоўку вашу пойдзем — там меней шуму.

У прарабцы Шліман адразу ставіць магнітафон на стол, перамотвае ленту, слухае крыху сам і потым дае мне навушнікі, і я прыціскаю іх да вуха. Голас Шлімана крыху зменены, але добра знаёмы. Знаёма грукоча бульдозер, звоніць кран. Потым гучна і чыста гучаць крокі — гэта ідзе Шліман. Свой голас я ледзь пазнаю. Тады мне здавалася, што хваляваўся я толькі на самым пачатку, але стужка магнітафона добрасумленна сведчыла ўсё: і дзе я проста хваляваўся, і дзе крыху разгубіўся, раздумваючы над тым, што мушу сказаць і што скажу, і дзе гаварыў упэўнена і добра.

— А цяпер вы, калі ласка, — гаворыць Шліман і забірае ў мяне навушнікі.

Крыштоп слухаць перадачу не хоча.

— Я ўжо лепей па радыё паслухаю. Як пачняце перадаваць...

— Тады позна будзе што-небудзь выпраўляць. А тут, калі што не так, перапісаць можна. І праўда не хочаце? Тады хвілінку... Я праслухаю сам...

Шліман слухае, мружачы вочы ад задаволенасці, потым узнімае руку з адстаўленым вялікім пальцам:

— Бляск!

Ён закрывае скураную каробку магнітафона, закідвае яе за плячо і развітваецца. Шліман шыбуе да ракі, размахваючы рукамі, нешта вясёлае насвіствае, зусім, відаць, забыўшыся пра наша існаванне. Не, успомніў! Ля самай ракі ён раптоўна паварочваецца, робіць нам развітальны ўзмах рукою і хаваецца пад рачным узвалам.

## 6

Нарада ў кабінеце галоўнага інжынера цягнецца доўга. Цяпер гаворыць Іван Красько, начальнік трэцяга ўчастка — на абмеркаванне пастаўлены вынікі работы за месяц. Уласна кажучы, хваліцца яму няма чым, няма і падстаў гаварыць так доўга: паказчыкі па брыгадах у іх, праўда, добрыя, але ў цэлым планавае заданне на ўчастку выканана горш, чым у нас. Гэта падкрэсліў Віктар у сваім уступным слове перад пачаткам нарады. Гэтага не аспрэчвае і Красько.

У мяне, такім чынам, ёсць усе падставы выступіць. Але ад выступлення я адмовіўся, і цяпер, слухаючы Красько, не адчуваю аніякай радасці ад таго, што ён хваліць наш участак. Думкі мае там, ля Валі. Сёння ўвечары яна едзе ў Маскву. Ведаю, што памагаць Валі збірацца ў дарогу няма чаго, бо бацькі прыехалі яшчэ на тым тыдні, уся работа ў хаце пароблена, усё падрыхтавана, Ірынка дагледжана. І ўсё роўна хочацца бегчы дамоў, нешта рабіць там.

Сяджу ля акна, якраз напроці стала Віктара. Хацеў быў заняць крэсла бліжэй да дзвярэй, але крыху прыпазніўся, нарада пачалася, і знайшліся разумнейшыя за мяне — крэслы толькі тут, перад сталом, былі вольныя. Ды і Віктар, як толькі я ўвайшоў, паклікаў і прапанаваў садзіцца бліжэй.

За акном грукочуць машыны. Іх не відно, а толькі чуваць гул матораў, ляскат жалеза, і ад гэтых гукаў пачынае трымцець шыба.

На стале ў Віктара звоніць тэлефон. Зморшчыўшыся, ён бярэ трубку, раскручвае шнур і толькі потым прыціскае да вуха: але, прыціснуўшы, ён тут жа згінаецца над сталом і ўзнімае руку — просіць цішыні. Ён слухае ўважліва, неяк паспешліва вымаўляе: «Так, так... Слухаю», потым радасна і імпэтна паўтарае двойчы: «Правільна! Правільна!» і, паўтараючы гэта, распраўляе плечы: зморшчынкі ля вачэй разгладжваюцца і ўвесь ягоны твар як бы мажнее, налівaецца чырванню, за якой адчуваецца ганарлівасць, упэўненасць і сіла. Потым Віктар кладзе трубку і нейкі час моўчкі аглядае нас усіх — позірк яго вясёлы, але далёкі, безуважны. А потым як бы цень насоўваецца на ягоны твар, і Віктар нечакана прапаноўвае спыніць спрэчкі.

— Мне, здаецца, што пагаманілі мы, у асноўным, няблага. Абагулілі вопыт, і аб недахопах нашых тое-сёе сказалі — не таілі. Можна было б, вядома, і яшчэ паспрачацца, але,— ён стукае пальцам па тэлефоне,— паклікалі ў гарком. Думаю, што на гэтым мы і скончым. А мо хто хоча яшчэ гаварыць?

Яго прапанова да спадобы ўсім: ніхто больш выступаць не хоча. Пакой адразу напаўняецца вясёлымі галасамі: грукаюць крэслы, шоргаюць чаравікі. У гэты самы момант, калі я наважваюся, паставіўшы сваё крэсла да сцяны, выйсці ў калідор, Віктар робіць мне знак пачакаць.

Кабінет пусцее. Віктар хутка шукае нешта ў шуфлядзе стала, совае паперы ў жоўтую папку. Мне здаецца, што ён узрушаны і крыху ўстрывожаны.

— Ну, таварыш Бугрым, трымайся цяперака. Ведаеш, што мне паведамілі зараз? — ён пытаецца гэта весела, але па-ранейшаму заклапочаны пошукамі, варушыць на стале зводкі, выбірае дзве з іх і разглядае.— Чорт жа яго ведае, што там спатрэбіцца! Гэта, разумееш, зусім нядобра, калі стаіш, цябе нешта спыталі, а ты не ведаеш, што адказаць. Э-эх! — совае сінія паперкі, якія толькі што разглядаў, у папку.— Дык вось... Званіў Маркін...

— Сакратар гаркома партыі па прамысловасці?

— Ён! Кажа, што ўважліва слухаў рэпартаж. І — задаволены! Ты разумееш, што гэта азначае?

Хуткім узмахам рукі Віктар закрывае папку і, узяўшы мяне пад руку, вядзе да дзвярэй.

— І нечакана ўсё выкіроўваецца, мабыць, на самае лепшае,— гаворыць ён мне з даўняй цеплынёю.— Маркін кажа, што ёсць думка паслухаць мой даклад на пленуме па прамысловасці. Намячаецца, адным словам, такі пленум. І вось ён хоча пагутарыць са мною, тое-сёе высветліць. Але пра што ён можа запытаць? Тут не ўгадаеш.

— Заўжды хочаш угадваць? На гэтым далёка не паедзеш. Лепей на факты разлічвай...

— Ты не яршыся. Не яршыся і не будзь дужа разумны. Калі ў гаркоме такой высокай думкі пра твой участак — рэпартаж жа адтуль ішоў! — дык пра тое і ў абкоме будуць ведаць. А што гэта азначае?



Я пацiскаю плячыма. Не думаў я пра гэта зусім!

— Вось у тым і штука,— гаворыць Віктар павучальна, і мне раптам робіцца вельмі смешна з яго пыхлівай надзьмутасці.— Калі не думаў, дык я табе скажу: на арбіту выходзіш! І на якую арбіту! Цяпер табе назад ходу няма! Толькі наперад. Толькі наперад, як кажуць смелыя людзі!..

Мы развітваемся на вуліцы. Іду на аўтобусны прыпынак і ўвесь час нібы чую апошнія Віктаравы словы: «Табе назад ходу няма...» І чым больш я думаю над імі, тым усё больш мацнее, шырыцца трывога, і пакрысе выкрышталізоўваецца думка, што я, мабыць, пачынаю разумець сапраўдную прычыну, чаму Віктар тады не сказаў мне, што да нас накіроўваецца Шліман. Ён свядома зрабіў гэта, ён знарок накіраваў карэспандэнта да нас нечакана, каб мы, уражаныя гэтай нечаканасцю, не пярэчылі, выступілі па радыё і расказалі пра свае справы. Расказалі і, тым самым, адрэзалі сабе ўсе дарогі назад: узнікне гаворка аб нашых поспехах, пачнецца ўсхваленне гэтых поспехаў, і мы, вядома ж, не захочам кідаць цень на сваю славу, мы будзем спакойна рабіць і далей тое, што загадвае Віктар, спакойна пераробім праект... А я, асабіста, дык я павінен буду, мабыць, дзякаваць яму, бо ён спачатку мяне пакараў, а потым памілаваў...

У адным, вядома, Віктарава праўда: нам з Крыштопам і сапраўды дарогі назад няма. Ды я і не хачу шукаць такой дарогі. Я раблю тое, што лічу правільным. Невядома, што чакае нас з Крыштопам наперадзе, але ніякай павароткі нікуды не будзе.

Але тое, што будзе наперадзе, яшчэ далёка. А блізка тое, што ёсць: я прыйду дамоў рана, і мы паспеем з Валяй пайсці яшчэ на раку. Усё будзе так, як мы і планавалі...

## 7

Тэрыторыя завода жалезабетонных вырабаў вялікая. Я прыехаў сюды раніцаю. Прыехаў, як кажуць, «выбіваць» фасонныя пліты для балконных перакрыццяў, якія і дагэтуль не даставілі на наш участак. Але лаяцца няма з кім. Дырэктар некуды паехаў, а галоўны інжынер завода — чалавек тут зусім новы, працуе толькі трэці дзень і нічога толкам не ведае. Адно параіў, каб я чакаў дырэктара.

Мажліва, гэта была не самая мудрая парада, але я выкарыстаў яе і блукаю па заводскай тэрыторыі. Блукаю, нібыта іду па нейкім казачным горадзе, перада мною ўсюды штабялі блокаў, пліт, апорных слупоў, пад нагамі шахціць россып бетоннага друзу, звіняць кавалкі арматуры. Але фасонных пліт, па якія я сёння прыехаў, нідзе не бачу. А яны нам патрэбны, як паветра: мы заканчваем другі паверх, і нам патрэбны пліты, бо калі мы сёння ці заўтра не атрымаем іх — зламаецца ўвесь наш графік, які мы так дэталёва распрацавалі з Крыштопам.

І раптам, зусім неспадзявана, я бачу гэтыя пліты — вузкімі штабялямі яны ляжаць ля самага плота, у кутку, побач з дарогаю, што вядзе праз усю тэрыторыю завода. Пліты засыпаны тоўстым пластам пылу, парабіліся ўсе чорныя, і, мабыць, таму я не заўважыў іх з высокага заводскага ганка. Непадалёк аўтакран вядзе пагрузку блокаў. Мужчына ў белым палатняным пінжаку падлічвае іх, робіць нейкія запісы ў блакноціку, і я здагадваюся, што гэта, відаць, брыгадзір, а тыя ўдвух, што працуюць ля крана, грузчыкі.

Я падыходжу да яго.
— Вы брыгадзір?
— Брыгадзір. А што вам трэба?
Мы знаёмімся, і я ўзрадавана трасу руку Яўгена Суржана. Ён прыхільна слухае мяне, разумее ўсё, што я яму кажу, і ахвотна тлумачыць, што гэтыя пліты былі заказаны яшчэ вясною, але нібыта заказчык ад іх адмовіўся, і цяпер яны ляжаць без патрэбы. Хто рабіў заказ і хто павінен быў забраць — ён не ведае. Але і адпусціць пліты без дазволу дырэктара Суржан не можа.
Дазвол? Зараз будзе дазвол. Суржан нешта спрабуе тлумачыць мне, але я ўжо не слухаю яго і, як апантаны, кідаюся ў кантору. Дырэктар яшчэ не прыехаў. Знік і галоўны інжынер. Сакратарка гаворыць, што нядаўна званіў дырэктар завода і загадаў інжынеру тэрмінова ехаць. Куды? Гэтага яна не ведае.
— А галоўны інжынер нічога не казаў дырэктару пра пліты?
— Не ведаю. Але ён сказаў, што хутка вернецца.
— Хто? Інжынер ці дырэктар?
— Дырэктар.
Выбягаю з канторы і стаю на ганку, не ведаючы, што рабіць. Рашэнне выспявае нечакана, і яно не здаецца мне дзёрзкім. А што, як і сапраўды так зрабіць? Машын шмат. Пліты я знайшоў. Цяпер толькі дамовіцца з брыгадзірам...
Суржан слухае мяне няўважліва, нешта вывучае ў сваім блакноціку, моршчыцца, і яго чырвоны твар ад гэтага становіцца вельмі непрыгожы і хмурны. А я ўсё гавару, гавару, гавару, і мне здаецца, што, калі я спынюся, ён абавязкова адмовіцца, і таму не даю Суржану нават слова ўставіць. Зрэшты, гэта яму ўдалося.
— Ага... Зразумеў. Вы хочаце зараз іх і пагрузіць?
Ён пытаецца гэта ў мяне і працягвае пачак папярос. Я не адмаўляюся, бяру папяросу і нават не кажу, што я кінуў курыць даўно. Я зноў пачынаю яго пераконваць. Гэта ж, сапраўды, разумна! Машыны ёсць, аўтакран побач — пагрузіць можна хутка. І потым яшчэ адзін рэйс зрабіць.
— А хіба ж я пярэчу? Мне нават добры куток вызваляецца. Мы дарогу тут пусцім, і не будуць машыны круціцца.
— А дакументы я вам афармлю. Дырэктар зараз вернецца — усё зробім.
— Э-э-э! Дакументы. Пакуль першы рэйс пойдзе — паспееце...
Я памагаю грузчыкам, падахвочваю шафёра, а ў сэрцы жыве неспакой. Пагладаю на шырокую браму, за якой хаваецца пыльная, спаласаваная следнікамі дарога, і з асцярогай думаю: а што, як зараз прыбяжыць хто-небудзь, пачне лаяцца на Суржана за тое, што той перабольшыў свае паўнамоцтвы, і ўсё разбурыць, і нам загадае скінуць пліты, і адашле машыны зусім у іншы бок?..
Спакой пакрысе варочаецца толькі ў кабіне, калі мы выязджаем з тэрыторыі завода. Ну, здаецца, абышлося! Разумею, што мы з Суржаном зрабілі правільна, але пачуваецца невядома перад кім вінаватасць, неяк нядобра, быццам прынёс якую шкоду людзям.
— Спынімся на хвілінку,— прашу я шафёра, калі машына мінуе браму.— У кантору заскочыць трэба. Нарад падпішу.
Шафёр закурвае, а я саскокваю на пыльную дарогу і лячу ў кантору. Сакратарка сядзіць на сваім ранейшым месцы. Дзверы ў дырэктарскі кабінет адчынены, і адтуль далятае густы незадаволены бас.
— Ён? — пытаюся, кіўнуўшы галавою на адчыненыя дзверы.— А калі ж прыехаў? Я нават і не заўважыў...



— Ідзіце, ідзіце... Калі ў вас што тэрміновае. Бо дырэктар зараз паедзе зноў. У выканком выклікаюць са справаздачаю. Болей сёння не вернецца.
— Як яго па бацьку? Даруйце, забыў...
— Мікалаевіч. Віталь Мікалаевіч Сімін. Ці, можа, вы і прозвішча не ведаеце? — сакратарка глядзіць на мяне з дакорам, здзіўленая і пакрыўджаная.
Стрымліваю сябе і не ўсміхаюся нават.
— Дзякуй. Цяпер буду ўжо ведаць...
Сімін — высокі, крыху грузны мужчына — глядзіць на мяне, калі я ўваходжу ў кабінет, але не адрывае тэлефоннай трубкі ад вуха і торкае алоўкам на крэсла, што стаіць напроці стала. Потым, прыкрыўшы далонёю трубку, пытаецца ціха, але вельмі хутка:
— Ну, што там у вас?
Пачынаю расказваць пра тое, што мы знайшлі пліты, што яны ўжо на машыне, што трэба толькі падпісаць нарад. Ён падграбае да сябе нарады, якія я паклаў на стол, але гаворыць не мне, а ў трубку:
— Зноў паўтараю: вывозьце неадкладна. Не зможаце? Напішыце мне паперу на тое... А я другому заказ аддаю і выстаўляю на інкаса. Што? Нельга рабіць? Сам ведаю. А што зробіш на маім месцы?
Сімін, прытрымліваючы бланкі локцем рукі, у якой заціснута прыстаўленая да вуха тэлефонная трубка, піша рэзалюцыю, але аддае мне іх не адразу, а, падпісаўшы, пачынае чытаць. Чытае, і твар яго асвятляецца задаволенай усмешкаю.
— Ну, вось і знайшлося месца гэтым фасонкам. А мне Суржан спакою не даваў — пабіць іх грэзіўся, бо яны там замінаюць яму.
— Ваш брыгадзір вельмі прыязна да нас паставіўся. Усё арганізаваў. І вельмі хутка...
— Значыцца, спадабаліся вы яму. З ім гэта бывае...
Сімін усё яшчэ трымае ў руках бланкі нарадаў, слухае тое, што гавораць яму ў трубцы, а сам пагладае на мяне і ўсміхаецца.
— Сёння на завод двойчы званілі з гарвыканкома. Цікавіліся: як забяспечваем ваш участак. Ці, можа, вы там скардзіліся на нас?
— Што вы? Я згодзен хоць сёння падзяку напісаць Суржану!
— А навошта яна яму? Вы ў гарвыканком пішыце!.. Што? Не, не. Гэта не вам, тут у мяне размова,— Сімін, спяшаючыся, гаворыць гэта ў тэлефонную трубку, працягвае мне накладныя, а потым энергічна паціскае руку.— Ну, поспехаў вам! — і зноў у трубку, нібыта закрэсліў мяне.— Слухаю... Але ж і вы павінны паслухаць. Што? Тое, што я кажу!
Выбягаю з канторы, саджуся ў кабіну. Шафёр, які нават не прыглушаў матор, адразу ж уключае хуткасць і паказвае мне цыгарэціну.
— І праўда. Не паспеў дакурыць...
Ён вядзе машыну асцярожна, зухавата паклаўшы локаць левай рукі на адчыненае акно, курыць, і дым ад цыгарэты, як воблачка, праплывае перад маім тварам.
Добрая ўсмешка то знікае, то зноў з'яўляецца на яго тонкіх губах, вочы прыжмураны, і ён быццам не заўважае нічога вакол сябе, апрача каляін, што кладуцца пад колы машыны.
Гэтак моўчкі мы ўязджаем у горад і тут таксама нічога не гаворым, апрача таго, што двойчы я паказваю, куды трэба павярнуць. На ўчастку, заглушыўшы матор, шафёр гаворыць, быццам пра нешта ўспомніўшы:

— Вось і прыкацілі...
— Зараз разгрузімся. І вы яшчэ адзін рэйс зробіце. А я тут застануся.
Рогач ужо чакае мяне. Ён робіць знак рукою — адысці далей ад машыны. Устрывожаны, я іду следам за ім.
— Арубка прыкаціў,— паведамляе Рогач таямніча.— Ходзіць, усё аглядае...
— Што ён аглядае?
— Увесь другі паверх аблазіў. А цяпер пакоі вымярае. І нешта ўсё запісвае.
— Дык трэба было папытаць, што яму трэба.
— Як я буду пытаць? Начальства! Але, думаю, нейкая мэта ж у яго ёсць... А-а... Вось і ён. Ну, я на разгрузку...
Стаю і чакаю, калі падыдзе Арубка, дырэктар гаркамунгаса. Маленькі і ўвішны, ён не ідзе, а нібыта коціцца па зямлі, лёгка пераскоквае каляіны. Я ведаю яго, але мы з ім сустракаліся мала. Чаго ж ён тут? Рогач праўду кажа: нейкая мэта яго прывяла сюды. Э-э, ды ці не будучы гэта жыхар другога паверха? Відаць...
Арубка выцірае насоўкаю пачырванелы ад хуткае хады твар і вітаецца. Потым, нічога не папытаўшы, паведамляе, што паспеў абгледзець усю будоўлю.
— Падабаецца? — пытаюся і чамусьці адразу ж пераконваюся ў правільнасці свае здагадкі.— Нічога ў нас тэмпы?
— Тэмпы высокія. Я быў тут на тым тыдні. Цяпер, зірнуўшы, нават здзівіўся. У вас жа тады толькі пачыналася... План дома ў вас пад рукамі?
Рогач не паспеў яшчэ далёка адысціся, і я гукаю яму ўслед, каб прынёс нам праект.
— Праект у прарабцы, Леанід Яўгенавіч.
— Не трэба несці,—гаворыць Арубка.— Мы самі туды зойдзем.
Мы ідзём у прарабку — Арубка наперадзе, я за ім. Цікава, ён быў тут на тым тыдні... Чаго ж я не бачыў яго? Ці ён прыходзіў, калі мяне не было, ці ўвогуле пасля работы. Можа нават і так...
Праект ляжыць у прарабцы на стале. Арубка пачынае разглядаць яго і робіць выгляд, што паглыбіўся ў вывучэнне. Але я адразу ж здагадваюся, што ў праекце ён не можа разабрацца.
— А дзе тут дваццаць першая кватэра? — нарэшце пытаецца ён.
Я паказваю.
— Але ж вы будуеце яе, адступаючы ад праекта! — выгуквае ён.— Я вымяраў вышыню. Яна заніжана на трыццаць сантыметраў!
— Мажліва. Дапушчана, мажліва, памылка.
— Дык яе ж трэба выпраўляць! Выпраўляць, пакуль не пастаўлены трэці паверх!
— На тое ў мяне няма паўнамоцтваў. Ды, уласна кажучы, я не ведаю, хто зрабіў такую памылку. Мы будуем у адпаведнасці вось з гэтым праектам. Без адхіленняў... І, даруйце, што вас так хвалюе тая кватэра?
— Мяне цікавіць увесь паверх.
— А чаму не ўсе паверхі?
Ён, адчуўшы цяпер мой настрой, загортвае блакноцік, хавае яго ў кішэню і строга, нядобра зыркае на мяне.
— Гэта для вас можа не вельмі добра скончыцца, таварыш Бугрым...
— Не думаю!





— А варта было б! — ён грозіць мне пальцам.— Варта думаць! І, пакуль не позна, кінуць свае жартачкі!..

— Магу я вас папрасіць? — пытаюся знарок вельмі ветліва і пачціва.

— Папрасіць? — перапытвае ён падазрона і тут жа дадае мякка і дабрадушна.— Так, вядома... Прасіце!

— Ніколі не крычыце на людзей, калі ласка. Нават у сваім кабінеце.

— Вы можаце дорага заплаціць за ўсё гэта. Вельмі дорага!

Гэтая яго пагроза і абурае мяне і смяшыць. Але я не смяюся, я толькі акуратна складваю праект і кладу яго ў папку; разам з тым адчуваю, што мне трэба нешта сказаць, што будзе памылкаю, калі я толькі выслухаю яго і нічога не адкажу на тую пагрозу.

— І ніколі не спрабуйце запалохваць людзей,— кажу тое, што прыходзіць адразу, кажу, бо не маю часу абдумаць лепшы адказ.— Гэта непрыстойна. І не прымушайце людзей будаваць вам персанальную кватэру. Гэта ў нас не атрымаецца...

Ён на міг сумеўся, але тут жа страпянуўся: тоўстыя губы яго затрэсліся ад шалу.

— Хто вам сказаў, што мой клопат — толькі пра нейкую адну кватэру? Мяне трывожыць лёс усяго паверха, усяго дома. І я, як старшыня жыллёвай камісіі гарадскога Савета, павінен вам сказаць, што не разумею ні вашых дзеянняў, ні вашых тлумачэнняў. І абяцаю: гэтым пытаннем мы зоймемся.

— У добры час!

— Што? — ён вызверыўся на мяне.

— У добры час, кажу...

Арубка прыжмурвае вочы, пакутліва, бы ад болю, моршчыцца, шукаючы, мабыць, абразлівыя і крыўдныя словы, але потым перасільвае сябе, моўчкі адварочваецца і шыбуе-коціцца на дарогу. Па дарозе якраз грукоча машына, якая ўжо разгрузілася і выязджае з участка. Ён спыняе яе і садзіцца ў кабіну.

Неўзабаве машына хаваецца за зялёнымі шатамі дрэў.

Усё ва мне напінаецца: сціскаю кулакі, але не лаю сябе за тое, што гэтак размаўляў з Арубкам. Крыўдныя і гарачыя словы мне трэба берагчы. Яны яшчэ спатрэбяцца і мне і Крыштопу. Візіт Арубкі — гэта толькі пачатак, галоўнае, мабыць, пачнецца на будучым тыдні, калі прыедзе Віктар. Але ён, відаць, затрымаецца. Нарада скончыцца ў пятніцу, а там, у абласным цэнтры, цяпер на гастролях тэатр, дзе працуе Лена. Наўрад ці прыедзе Віктар у пятніцу... Мабыць, нам варта разлічваць на сустрэчу з ім у панядзелак. Трэба абавязкова параіцца з Крыштопам, расказаць яму пра сённяшні візіт.

Выходжу з прарабкі і бачу Крыштопа. Ён стаіць з Рогачам ля фасонных пліт, якія ўжо складзены ў роўны штабель. Крыштоп нешта гаворыць Рогачу і паказвае рукою на кран.

Я іду да Крыштопа. Твар у яго стомлены і хмурны.

— Ну, як пліты? — пытаюся, быццам і не бачу, што ён чымсьці незадаволены.— Зараз яшчэ прывязуць. Так што мы з Рогачам заслугоўваем узнагароды...

— Хутка атрымаеце.

— Па ордэну кожны?

Ён ці то не разумее мой жарт, ці гэтак стаміўся ў горадзе, што не хоча нават і падтрымаць жарт: па-ранейшаму хмурыцца і выцягвае з кішэнькі вузкі папяровы шматок.



— А што тут?

— На тое і даю, каб ведалі. Можаце і ўголас пачытаць. А я — паслухаю цудоўную сімфонію гукаў і імёнаў...

На аркушы — прозвішчы. А супраць кожнага — лічба. Моўчкі паціскаю плячыма, але вочы ўжо абабеглі слупок прозвішчаў, і плечы застыглі, і позірк спыняецца на знаёмым прозвішчы, насупраць якога стаіць лічба — «21». Арубка?.. А-аа... Дык гэта ж спіс жыхароў другога паверха! Вось дык малайчына, Крыштоп. Дзе ж ён выдраў гэты кандуіт?

— Э-ээ... Не! Пакуль што не скажу... І не таму, што не давяраю. Слова даў нікому не казаць. Так што даруйце. Магу толькі даць каментарый да спісу — хто гэтыя імянітыя грамадзяне... Свяцін — сакратар гарвыканкома. Пухаў — цесць Свяціна. Працуе на піўзаводзе. Замба — сястра Свяціна, прадаўшчыца крамы № 15. Каняхаў — зяць Арубкі — працуе загадчыкам склада на аўтабазе...

— Дык чаго ж нам мудрагеліць? — перапыняю я Крыштопа.— У гарком! У гарком яго адправіць. Няхай ім усім хвасты накруцяць!

Працягваю руку, каб узяць спіс, але Крыштоп хавае паперу ў кішэню.

— Не гарачыцеся. Спакойна. І яшчэ раз спакойна!..

А мне ўжо не хочацца гэтага спакою. Мне хочацца дзейнічаць. Актыўна. Рашуча. Непрымірыма. Цяпер, калі ў нашых руках гэты спіс, не варта марудзіць. Трэба зрабіць тое, што я кажу Крыштопу: адправіць спіс у гарком. А там разбяруцца, што да чаго.

— А там ніхто не будзе разбірацца. Чаму? Па той простай прычыне, што гэты спіс нідзе не існуе афіцыйна. Людзі, якія тут выпісаны, сапраўды маюць патрэбу ў жыллі, адны большую, другія — меншую. І сапраўды стаяць на чарзе, адны бліжэй, другія — далей. Так што юрыдычна — усё правільна...

Правільна? Не і не! Упершыню мне не хочацца пагаджацца з Крыштопам, але спрачацца ахвоты няма. У чымсьці я не зусім разумею яго, не магу даўмецца: што ён намысліў? Што яму трэба? Пытаюся. Ён пазірае на мяне, нібыта на вучня, якому павінна быць сорамна за сваю неадукаванасць. Што яму патрэбна? Доказы. Толькі доказы, якіх, на жаль, ёсць пакуль што мала. Прыходзіў Арубка і сам пацвердзіў: ягоная кватэра дваццаць першая і яна павінна быць лепшая, чым астатнія. І зноў у мяне пярэчанне, якое я ўжо не магу стрымаць:

— А праект? А загад Віктара? Хіба гэта не доказы?

— Слабыя,— гаворыць мне Крыштоп.— Віктар можа сказаць, што не зусім разабраўся. Загад? А ў ім жа не сказана, што другі паверх — кватэры для выбраннікаў.

Так, у чымсьці ты маеш рацыю, мой мудры і добры Крыштоп. Але чаму я думаю, што ты, мабыць, не зусім давяраеш мне. Можа, нават гэта не тыя словы — «не давяраеш». Проста, можа, не спадзяешся, што я змагу быць мужчынам да канца? Не, гэта не так. Ты сам першы прыйшоў да мяне са сваім праектам, і я быў першы, з кім ты дзяліўся сваімі планамі. І гэта ж разам — ты і я! — павярнулі супраць плыні. Першая хваля ўжо ўдарыла — Арубка. Але гэта слабая хваля. А калі гэтыя хвалі пакоцяць на нас адна за адною? Дык што ж ты раіш? Проста чакаць іх у бяздзейнасці?

— Чаму ў бяздзейнасці? — яго дзівяць мае пытанні.— Мы павінны заканчваць тое, што пачалі. Пачаў — ідзі да канца! У мяне такі прынцып. І калі ты хочаш перамагчы, гэтае правіла трэба выконваць...

— Значыцца, асцярожнасць?

— Абавязкова. І — будаваць. Хутчэй будаваць...

Сапраўды, патрэбна асцярожнасць і вытрымка. Прыбег і крычаў Арубка. Няхай. Прыбягуць і будуць крычаць другія. Няхай. Нам патрэбны факты. Але галоўнае не ў гэтым. Галоўнае — Крыштопава мара. Галоўнае гэта тое, што мы будуем новы дом. І зусім няважна, хто і на якім паверсе будзе жыць. На кожным паверсе павінна быць усё добра. Галоўны наш клопат — збудаваць дом. Новы і цудоўны дом. Людзі павінны ўспамінаць нас, будаўнікоў, толькі добрым словам.

**8**

Вечар. Я сяджу ў садзе, пішу ліст да Валі.

Сцежкаю ад тэрасы прыбягае Ірынка, і гэта мяне дзівіць..

— Ты не спіш? Спаць трэба. Позна!

— Не. Бабуля казала яшчэ пагуляць. І мне спаць не хочацца.

— Трэба і гаварыць, што не хочацца. А на бабулю не спасылацца...

У нашу размову ўмешваецца Валіна маці — яна глядзіць у адчыненае акно:

— Няхай пагуляе, няхай пагуляе. Покуль светла, яна і спаць не будзе.

Валя піша мне часта, але мала, і ўсё пра адно і тое ж: шмат, маўляў, трэба чытаць кніг па праграме, вельмі хочацца прыехаць дамоў, а дні бягуць вельмі марудна. І яшчэ трывожыцца — мала зусім расказваю ёй пра будоўлю.

А я раблю гэта свядома. Праўда, кожны раз думаю напісаць паболей, але спачатку пачынаю пісаць пра тое, што робіцца дома, пра Ірынку, пра розны клопат, а там ужо і часу мала застаецца.

А на ўчастку ў нас, між іншым, наспяваюць, як мне думаецца, нейкія вялікія падзеі. Не ведаю, калі грымне навальніца, але бачу, што хмары гусцеюць, і ў нашых адносінах з Віктарам няма ніякай, нават самай маленькай, прасветліны. Віктар прыехаў з нарады ў панядзелак, але мы ўбачыліся толькі ў сераду. Пазваніў ён пасля абеду, пацікавіўся, як ідуць справы, і сказаў, што будзе на ўчастку праз гадзіны паўтары, і каб я чакаў яго.

Віктар, аднак, прыехаў раней, і па ягоным хмурным твары я зразумеў, што пра ўсе нашы справы ён ведае значна больш, чым нам думалася. На будоўлі за апошнія чатыры дні пабылі і Пухаў, і Каняхаў, і Замба. Але ўсіх іх бачыў не я, а Крыштоп.

А сёння раніцаю я сустрэў Свяціна. Ён агледзеў будоўлю дэталёва. Спачатку хадзіў з Рогачам, потым гутарыў са мною, але гутарыў дабрадушна, распытваў, як забяспечвае нас завод жалезабетонных вырабаў і растворны вузел. Але я здагадаўся, што Свяцін быў у галоўнага інжынера. Не памятаю, на падставе чаго, але такі вывад я зрабіў.

Віктар павітаўся са мною цяпер хмурна і неахвотна, і адразу ж загадаў даць праект. Глядзеў ён на яго мала і тут жа сабраўся ісці аглядаць аб'ект.

Спачатку мы зазірнулі на першы, потым дэталёва агледзелі другі і спыніліся на трэцім паверсе. Віктар нічога не гаварыў, толькі часта заглядваў у праект. Потым мы сышлі ўніз, выйшлі з пад'езда і сталі ля слупа, на якім прымацаваны чорны шчыток з рубільнікам.



— Значыцца, з'явіліся і лоджыі... — сказаў Віктар, пазіраючы на звужаныя прасценкі пад балконамі.— Яны што — былі ў праекце?

— У пазнейшым не былі, іх пазнімалі. Былі ў першым. А яго мы і паклалі ў аснову.

— А хто вам даў права на гэта? Хто? Вы што, уласны дом сабе будуеце?

Як ён глядзеў на мяне!..

— Мы кіраваліся дзяржаўнымі меркаваннямі...

— А якія тады меркаванні ў галоўнага інжынера?

Пытанне было хуткае. Можна было, вядома, адказаць на яго, але я прыгадаў парады Крыштопа і надаў свайму твару выгляд поўнай неўсвядомленасці. Мне думалася, што Віктар пачне настойваць на тым, каб я даў тлумачэнні зараз жа, але ён змоўчаў, нічога не папытаў болей, а толькі зноў пачаў разглядаць праект, бы вывучаў яго. Гэта цягнулася не вельмі доўга, але я чакаў ад Віктара нейкага пярэчання, і маўклівае чаканне здалося бясконцым.

— А лоджыі ўпрыгожваюць фасад... — неспадзявана сказаў Віктар, і мне здалося, што нешта я не дачуў.— Будынак будзе добра глядзецца ад ракі. Я памятаю, як тады спрачаліся ў вобласці, калі абмяркоўвалі праект, як бунтаваў Крыштоп... Пазнаю яго і тут. Штукар!

— За гэта штукарства я буду несці адказнасць разам з ім.

— Адказнасць? Як да таго дойдзе, дык хопіць усім. У першую чаргу — мне.

— Спашліцеся на нас.

— На каго гэта «вас»?

— Старшага прараба і архітэктара.

— Во, во... На іх толькі і спасылацца...

Ён неяк няпэўна махнуў рукой, аддаў мне згорнуты праект і зноў зрабіўся маўклівы і засяроджаны. Віктар пазіраў на дом, але цяжка было зразумець, ці то ён уважліва вывучае архітэктуру будынка, ці проста глядзіць, ні аб чым не думаючы; але разам з тым прыкмячалася, што нешта яму было тут да спадобы, што гнеў крыху аціх, нейкія змены ўжо адбыліся ў Віктаравым настроі і, мабыць, у лепшы для мяне бок. Зноў прыйшла да мяне ранейшая думка: што там ні кажы, а Віктар здольны інжынер, і таму ён, вядома, адразу ж зразумеў, што праўда на баку Крыштопа, што невялічкія змены ў праекце мяняюць вонкавы выгляд будынка, робяць яго зусім непадобным на іншыя.

— А чаму б і не спаслацца? — спытаў я, і гэта, вядома, была гаворка не пра нешта абстрактнае, а зусім канкрэтная прапанова добрага міру і згоды.

Віктар скіраваў позірк на неба, усміхнуўся нейкім сваім думкам і сказаў зусім не тое, чаго я чакаў.

— Мэтазгоднасць... Я думаю зараз аб ёй... І ніяк не магу даравадь сабе, што не падумаў пра гэта, калі дабіваўся, каб менавіта Бугрым быў пастаўлены кіраваць гэтым участкам. Няхай бы ён у іншым месцы займаўся сваімі эксперыментамі... Не магу ўцяміць: памыляецца чалавек ці робіць знарок? Калі знарок, дык навошта? У імя якой мэты?

— У мяне мэта адзіная: будаваць. І я хачу, каб усё тое, што я будую, было збудавана добра і прыгожа...

— Значыцца, толькі адзін Зубок не хоча гэтага? Так?

Ён пярэчыў мне разважліва, нават з нейкім роздумам, але апошняе слова выгукнуў рэзка, і пытанне ў гэтым слове прагучала як

удар, як патрабаванне адказаць зараз жа, неадкладна. Гэта мяне абяззброіла. Я не ведаў, што адказаць. Я проста моўчкі глядзеў на Віктара. Ён уздыхнуў, нахіліў крыху голаў, ягоны позірк слізгануў па маім твары, і я ўбачыў у Віктаравых вачах прытоеную злосць і, убачыўшы, зразумеў, што галоўная гаворка яшчэ не адбылася, што Віктар не схацеў пачынаць новую сварку, стрымаўся, але нічога не адкінуў, стаў яшчэ больш зацяты ў сваёй крыўдзе і непрыязнасці. Я зразумеў гэта, і мне зрабілася прыкра.

— Маўчыцё? — спытаў Віктар мякчэй.— Але ж аб'ектыўна выходзіць так. А я з гэтым не магу пагадзіцца,— на яго твары з'явілася ўсмешка, якая нічога не магла больш ні вытлумачыць ні дадаць да таго, што я ўбачыў і зразумеў.— Відаць, давядзецца мне самому тут часцей бываць. Пастараюся штодня заглядваць, каб меней было розных «падарункаў». А то ў вас тыдзень які не пабудзеш, дык потым за месяц не зразумееш, што да чаго і адкуль узялося... I яшчэ: вы памыляецеся, калі думаеце, што толькі вы з Крыштопам здольны вырашыць усё правільна... што толькі ваша думка нешта вызначае ў руху краіны наперад...

— Такімі вялікімі катэгорыямі мы не мыслілі. У нас клопат меншы — толькі наш дом!

— Вось ім і будзем займацца. Плітку для абліцоўкі прывезлі? Не? Заўтра ж сам прасачу...

Назаўтра ж апоўдні плітку сапраўды прывезлі, і цяпер яна ляжыць на часовым складзе, што збудаваны непадалёк ад нашай прарабкі. Стрымаў Віктар і другое сваё абяцанне: штодзень на якую гадзіну прыходзіць да нас, аглядае тое, што зроблена, прыдзірліва сочыць за мантажнікамі. I я заўважаю: некаторым хлопцам з брыгады Кізілы ён па душы. Віктар, праўда, іх ніколі не падганяе, але абавязкова пачастуе папяросамі, пажартуе, пляце розныя байкі і сам ахвотна слухае Кізілавы жарты. Не ведаю чаму, але мне не вельмі верыцца ў шчырасць гаворак гэтых, у шчырасць такой прыязнасці. Мажліва, нейкая рэўнасць абудзілася ва мне? Не ведаю. Але як толькі ўбачу, што Віктар сядзіць там, пачую вясёлы рогат, і ў мяне адразу прападае ахвота пайсці да іх, слухаць і прымаць удзел у іхніх гаворках. Калі Віктар з мантажнікамі, я знаходжу сабе занятак альбо у прарабцы, альбо ля крана...

Зараз я пішу пра ўсё гэта Валі. Праўда, не зусім падрабязна, прапускаючы розныя дэталі, абмінаючы вастрыню ў гаворках і спрэчках з Віктарам. Пішу крыху жартаўліва, каб нічым не ўстрывожыць Валю. Ёй там хапае свайго клопату.

Між іншым, Ірынка вельмі хутка забылася на тое, што маці паехала. У яе хапае і клопату, і цацак, і толькі малавата часу — вельмі не хочацца класціся спаць рана. Учора з Ірынкаю і дзедам мы хадзілі на раку, былі на той касе, дзе ляжыць плоскі граніт. Дзвіна разлілася пасля дажджу, і вада цяпер ля самага каменя, і Ірынцы не давялося пазбіраць ракавінкі...

## 9

Правае крыло будынка на трэцім паверсе яшчэ не завершана, але на левым мы ўжо выбраліся на чацвёрты і ставім блокі будучых сцен.

Віктар па-ранейшаму верны свайму слову. Часта з'яўляецца ён на



нашым участку, але цяпер амаль заўжды прыходзіць не адзін, а, як гаворыць Кізіла, з «адказнымі кватарантамі». Не ведаю, адкуль з'явілася гэтая мянушка, але ёсць у ёй штосьці грэблівае і не вельмі добрае. Кізіла ўвогуле цяпер ставіцца да галоўнага інжынера зусім не так, як у пачатку. Віктар, праўда, па-ранейшаму частуе хлопцаў папяросамі, спрабуе жартаваць, але жарты гэтыя падтрымліваюць не дужа ахвотна; ён часта распытвае хлопцаў і аб заробку, і тут ім няма на што крыўдаваць—нарады закрываюцца рэгулярна, без затрымкі, і заробкі ў хлопцаў добрыя. Але, тым не менш, былой павагі і шчырасці да галоўнага інжынера я не прыкмячаю.

Кізілавы хлопцы ўжо ведаюць амаль усіх людзей, якія прыходзяць з Віктарам, ведаюць нават кватэры, якія гэтыя людзі аглядаюць, і жартуюць паміж сабою злосна і нядобразычліва. Кізіла нават спрабаваў узняць вэрхал: ходзяць, маўляў, тут людзі розныя, перашкаджаюць працаваць, але Рогач абрэзаў яго, і той болей не пачынае адкрытых спрэчак. Але жартуе, і мы гэта чуем.

Сёння Віктара акружаюць людзі мне невядомыя. Здаецца, мы не бачылі іх тут. Пытаюся ў Рогача. Ён крывіцца.

— Не ведаю. Упершыню да нас завіталі. Мо трэба падысці туды?

— А навошта? У іх свая справа. У нас — свая. Калі трэба — самі падымуцца.

— Наўрад. Вышэй трэцяга яны не глядзяць.

— Тым лепш...

Я знарок не хачу ісці ўніз, бо ведаю: сёння не мінаваць мне непрыемнай гаворкі з Віктарам. Учора на другім паверсе пачаліся аддзелачныя работы, і я загадаў ставіць белую кафлю толькі на адну сцяну ў кухні і на адну сцяну ў ваннай. Нават калі мы зробім і так, дык не хопіць пліткі на ўсе кватэры: давядзецца спыняць работы альбо чакаць, бо пліткі запланавана на наш дом мала, і на складзе яе ўвогуле няма.

Саджуся на блок і чакаю. Ведаю, што будзе, і рыхтуюся да гаворкі. Неяк нядобра і непамысна. Сапраўды, у імя чаго я змагаюся з Віктарам? Ён надумаў некаму зрабіць паслугу, а я спрабую ўсё перайначыць. А мо Віктар і не вінаваты? Над ім таксама ёсць начальства. Але ж чаму тое начальства не дае Віктару пісьмовых распараджэнняў? Чаму сам Віктар не прысылае пісьмовых загадаў? Але ж і я сам даю распараджэнні, і сам патрабую, каб яны выконваліся. Патрабую, бо лічу свае распараджэнні справядлівымі. А мо і Віктар гэтак ставіцца да сваіх загадаў? Але я нічога не баюся і гатовы пад кожным сваім распараджэннем паставіць подпіс, і стаўлю гэты подпіс, і не думаю, што памыляюся. Я веру ў тое, што раблю. А Віктар? Што ён думае, калі аддае мне загады, якія я лічу няправільнымі, якія часам спрабую проста не выконваць?..

Унізе, за штабялямі блокаў, марудна крочаць мужчыны, што прыйшлі разам з Віктарам. Пройдуць крыху, запыняцца і стаяць, нешта адзін аднаму даводзяць, і спрачаюцца вельмі заўзята, размахваючы рукамі. Слоў не чуваць, але мне здаецца, што гаворка ў іх менавіта пра дом, пра гэты другі паверх. А дзе ж Віктар? Куды ж ён гайсануў? А-а-а... Сюды лезе...

Віктар караскаецца на пліту перакрыцця, потым, сагнуўшыся, атрасае штаны, не спяшаючыся, ідзе да мяне. Робіць колькі там крокаў і стаіць. Я гляджу, як кран цягне з зямлі белы брус. Мне добра відзён і кран, і бачна Дзвіна на паваротку, і сам Віктар, і ён прыцягвае маю ўвагу; пазіраю скоса, спрабую нешта прачытаць на ягоным твары, але ён мружыць вочы ад сонечнага святла і ветру, і я не магу ні аб

чым здагадацца. Мяне пачынае насцярожваць тое, што ён так доўга стаіць і чакае і робіць выгляд поўнай абыякавасці да мяне і вельмі пільнай цікаўнасці да ўсяго таго, што ёсць вакол. Не, Віктар прыйшоў сюды зусім не для таго, каб зірнуць з вышыні на Дзвіну, і, вядома ж, не дзеля гэтага спрачаюцца там, унізе...

Віктар па-ранейшаму чакае, і я ведаю, што мне трэба першаму падысці да яго. І гэта, вядома, будзе разумна: ён галоўны інжынер і мне трэба не толькі захоўваць нейкую субардынацыю, але і адчуваць, што я на ўчастку гаспадар. А ён, у нейкім сэнсе, госць. А абавязак гаспадара — ветлівасць...

Ён адказвае на маё прывітанне, але не працягвае рукі, закурвае, потым хавае пачак у кішэню, і тут жа спахопліваецца, выцягвае яго зноў.

— Куры... Хаця... Ты ж не курыш!

— Кінуў. Раз і назаўсёды,— кажу я. Мне здаецца, што гэтая рэпліка яму не падабаецца.

— І добра. А вось што іншыя свае звычкі не кідаеш — блага. І вельмі.

— Не ўсё адразу.

— А варта было б... Тым больш, што гаворка ў нас была. І даволі грунтоўная.

— Гаворка нічога не дае,— я спрабую жартаваць.— Гаварыць лягчэй. А тут — звычкі!

— А мы думаем гэтыя звычкі ламаць. Ды так, каб яны болей не варочаліся!

Віктар стрымлівае сябе, намагаецца не крычаць, гаварыць спакойна. Але бровы ў яго торгаюцца ад злосці. А я ўсё яшчэ не магу кінуць вясёлы і крыху жартоўны тон. Ого! Упершыню, здаецца, сказана не «я», а «мы». Прагрэс!

— Пасееш звычкі — сажнеш натуру. Гэтак гаворыцца, Віктар Паўлавіч!..

— Хопіць алегорый! Я сыты імі па горла. І цяпер я хачу ведаць: чаму вы зноў мудрагеліце?

— Кажыце канкрэтна,— прашу я, разумеючы, што жарты скончыліся.

— У семнаццатай і дваццатай кватэрах плітка на кухні і ўваннай не пастаўлена. Чаму?

— Пліткі не хопіць. Мы падлічылі... Таму робім кафлю на адну сцяну, але ва ўсіх кватэрах.

— Хто вам дазволіў? Хто загадаў?

— Ніхто.

— А цяпер я загадваю: перарабіць! І папярэджваю: паўторыцца такое — за ваш кошт пойдуць пераробкі. Ці вы ўжо, можа, Ротшыльд? Грошы лішнія завяліся?

— Справа не ў грашах...

— Філантропія гэта. Раю ў апошні раз: сталічныя звычкі трэба кідаць. Тут не Масква.

— Значыцца, калі Масква далёка, дык можна на ўсё напляваць? Так, ці не? Можа вы мне растлумачыце?

— Тут не інстытут, дзе ўсё растлумачваюць. Тут — будоўля. Тут трэба працаваць і выконваць план.

— Мы яго выконваем. І, здаецца, няблага.

— Гэта вас і ўратоўвае. Ды яшчэ тое, што за вашай будоўляй уважліва сочаць...

Мы стаім блізка ля краю, непадалёк ад таго месца, дзе толькі што



прабег Кізіла. За краем пліты — бездань, але яна як бы і нерэальная: такое адчуванне, быццам няма вышыні і стаім на зямлі. Неяк адразу ва мне атухае жаданне спрачацца з Віктарам і зусім ужо не хочацца жартаваць. Але мацнее і расце іншае пачуццё, якое я не хачу ні ставіць пад сумненне ні закрэсліваць: паміж мною і ім, як паміж гэтай плітою, на якой мы стаім, і зямлёю — бездань. Яна здаецца нерэальнай, але варта зрабіць два крокі — яна адкрыецца і прыме ў свае абдоймы.

— І ўсё-ткі я не магу даўмецца,— працягвае Віктар, але гаворыць ужо зусім іншым тонам, раздумліва, бы прыслухоўваецца да сваіх слоў.— Не магу даўмецца, чаму вы не разумееце, што не сабе Зубок стараецца, не сабе будуе дом, не збіраецца ён тут жыць, што нулю роўна ягоная ўласная зацікаўленасць? Чаму? Я скажу шчыра: галоўны клопат Зубка гэта тое, каб на яго не глядзелі, як на кіраўніка, які не можа, не здольны забяспечыць выкананне пэўных патрабаванняў...

— Дык адмаўляйцеся! Няхай ставяць такога кіраўніка, які зможа забяспечыць тыя патрабаванні.

— Вам з тым чалавекам не будзе лягчэй!

— Пра мяне гаворка малая. Я заўсёды раблю толькі тое, што лічу правільным і патрэбным...

Віктар шумна, бы пасля хуткае хады, уздыхае.

— Ён — робіць. Ён — разумны. Ён — пуп зямлі. А ўсе астатнія — дурні і прыстасаванцы? Так?

Я пачынаю баяцца спрэчак з Віктарам. Ён умее, пачаўшы здалёк, прывесці гаворку вось да такога пункта, дзе ты павінен альбо апраўдвацца, альбо пагаджацца, альбо некага абвінавачваць. А я не хачу абвінавачваць, калі няма ў мяне на тое падстаў. І не хачу пагаджацца і апраўдвацца. Я — будаўнік. І гэтага з мяне хопіць. Я рабіў і буду рабіць тое, што гаворыць мне маё сумленне. Мой абавязак...

— Стоп! Стоп! — перапыняе мяне Віктар.— Сумленне — застаецца пры вас. Я яго не кантралюю. А вось пра абавязкі такога сказаць не магу: буду не толькі кантраляваць, але і патрабаваць, каб яны выконваліся — абавязкі старшага прараба. У дваццаць першай і семнаццатай кватэрах перакрыцці паверхаў зацэментаваны нядбала.

— Добра. Я пагляджу...

— Паглядзець мала. Трэба выправіць. І сёння ж!

— Выправім сёння!

Кіўнуўшы галавою на развітанне, Віктар спускаецца ўніз. Неўзабаве бачу яго ўнізе, ля прарабкі, ён нешта гаворыць шаферу, які толькі што згрузіў блокі і стаіць ля машыны, прапаноўвае папяросы. Шафёр закурвае ад яго запалкі, яны пра нешта гавораць, і я бачу, што гаворка ў іх вясёлая.

Да мяне падыходзіць Рогач. Нават не ведаю, дзе ён быў гэты час. Як толькі з'явіўся Віктар, Рогач некуды знік.

— Пагаманілі? — пытаецца ён.

— Не толькі. Атрымалі і загады. І ўсе — строгія.

— Я чуў. Стаяў на трэцім... Пайшоў уніз, а там чуваць кожнае слова...

— І добра. Значыцца, не трэба паўтараць загады.

Рогач сочыць за машынаю, якая ўнізе выбіраецца на дарогу: у кабіне машыны сядзіць Віктар.

— Мне што... Я ведаю, што рабіць. А вось што рабіць начальніку ўчастка — трэба падумаць...

Ён змаўкае, болей нічога не гаворыць, а толькі зацята глядзіць уніз на штабялі блокаў, ля якіх завіхаюцца людзі. Нешта Рогач не выказаў да канца.

— А што... Можна і да канца,— пагаджаецца Рогач.— Калі ўжо да канца, дык я б, на вашым месцы, да гэтага канца тут і не быў саўсім.

— Нешта не разумею. Як гэта?..

— А проста. Узяў бы і пайшоў у якое іншае месца. Праца знойдзецца...

— Пайсці адсюль? Дзеля чаго? Слухаю і не магу даўмецца: ад чаго ён спрабуе мяне засцерагчы? Але ж, мабыць, нешта ведае, нешта яго ўстрывожыла, нешта такое небяспечнае заўважыў. Што? Няхай гаворыць!

— А тое, што галоўны не дасць вам спакойна жыць. Гэта ж відно... Некалі такое з Грушалём было... Ён таксама, Грушаль, наважыўся праўду ў вочы разануць... Ну, яго і разанулі. Ды так, што ля Данбаса апынуўся: кінуў усё, плюнуў і паехаў...

І гэта яшчэ болей для мяне нечакана. Рогач ніколі раней мяне не папярэджваў, ніколі ні ў чым не папракаў. Ён паважае мяне, і я паважаю яго. Паважаю яго працавітасць, здольнасць разумець кожны мой загад, паважаю яго строгае стаўленне да людзей. Прыехаўшы пасля вучобы на будоўлю, я быў шчыра ўзрадаваны, што знайшоў яго тут, і ён, здаецца, адчуваў тое ж. Мы заўжды гаварылі з ім шчыра, і цяпер тое, што ён мне сказаў, прагучала як папярэджанне, якога я не чуў раней і на якое не спадзяваўся. І гэтая спасылка на Грушаля... Я ведаў толькі, што ён зволіўся і паехаў, але я нават і не спрабаваў раней шукаць нейкія прычыны: захацеў і паехаў. Ды якое, зрэшты, мае дачыненне той ад'езд Грушаля да падзей, што адбываюцца цяпер тут, са мною?

— Ат...—Рогач махае рукою, быццам адкідваючы нешта ад сябе, і па хмурнасці, што паўзе, гусцее на яго твары, я здагадваюся: гаварыць тое яму не хочацца.— Не будзеце вы з галоўным ніколі ў згодзе. Не дасць ён вам працаваць спакойна: не да аднаго, дык да другога прычэпіцца. А ў нашай справе гэтых прычэпак... во, як тут жвіру: куды не павярнуўся — факты. Толькі паварочвай іх умела. Зубок задумаў выслужыцца. А вы яму папярок дарогі сталі, ходу не даяце... А ён жа не адзін. Хіба ж не бачылі, колькі тут за ім на будоўлю ходзіць? І кожны з іх пры выпадку будзе вас падтрымліваць?

— А мне іхняя падтрымка не патрэбна. І не ім мы служым. Не Віктару ўласны дом будуем.

— Яно, канешне, правільна...

— А калі правільна, дык навошта ж мне ўсё кідаць і ісці ў другое якое месца?

— Ведама што... Толькі я сваю ўласную думку выказаў.

— А я сваю. І мая думка вам ясная, нікуды ісці не збіраюся, у іншае якое месца ехаць шукаць працу не хачу!..

Сухі гучны трэск чуецца ў вышыні, і разам з ім праз нейкі міг — роспачны і трывожны крык: «Э-ээээ-эй!» І тут жа — кароткі глухі ўдар: бухае так моцна, што цэментаваная пліта пад нагамі ўздрыгвае, і такое адчуванне, нібыта пахіснулася сцяна і дом наш зараз разваліцца. Не адразу магу ўцяміць, што здарылася. Услед за Рогачам, які кідаецца да вуглавой сцяны, дзе збянтэжана мітусяцца будаўнікі, бягу і я.

Толькі выбегшы з пад'езда, я ўбачыў, што ў нас натварылася. На зямлі ляжыць шырокая пліта балконнага перакрыцця. Хлопцы нясуць на руках Кізілу, у якога шыя і рука акрываўлены. Але Кізіла жывы, ён слаба ўсміхаецца, прыціскаючы рукою чырвоную ад крыві майку.



Усе расступаюцца, калі я падбягаю да брыгадзіра.

Злосць і трывога дзіўна спляліся ў маім сэрцы. Нешта даўкае падступае да горла, калі я бачу акрываўленую руку Кізілы і цёмныя плямы на майцы.

— У бальніцу! У бальніцу зараз жа! — урэшце кажу я, і гэта зусім не тое, што думаю. Мне хочацца лаяць Кізілу, і я мучуся разам з ім.

— Хлопцы пабеглі. Зараз павінна быць «хуткая».

— Не трэба ніякай бальніцы. Мне толькі ёду ды бінту крыху... Усё і пройдзе...

Кізіла спрабуе ўзняцца на ногі, але твар яго становіцца ненатуральна бледны, губы перакошвае грымаса болю, і ён ціха просіць:

— Закурыць... У пінжаку... Там... Маім...

Яму працягваюць запаленую папяросу. Рогач папраўляе пад галавой Кізілы скручаны пінжак.

Мы асцярожна пераносім яго да сцяны бытоўкі і робім на дошках пасцель з пінжакоў. Але Кізіла не хоча класціся і сядзіць нерухома, прыхіліўшыся да сцяны, вочы ў яго заплюшчаны. Потым галава яго звешваецца на грудзі, і сам ён усё хіліцца і хіліцца, каб легчы. Мы кладзём яго на пінжакі, і ён ужо не пярэчыць і не стогне, а толькі моцна сціскае губы.

Сігналіць «хуткая дапамога». На шэрых брызентавых насілках Кізіла здаецца маленькі і кволы. Мы пераносім яго ў машыну і потым нейкі час стаім і глядзім на дарогу, дзе, асядаючы, растае жоўты пыл.

## 10

Загад, які падпісаў Віктар, строгі і бязлітасны. «Вызваліць тав. Л. Бугрыма ад займаемай пасады старшага прараба першага ўчастка...» Абгрунтавана гэта даволі ўнушальна і важка — ігнараванне ўказанняў упраўлення, парушэнне працоўнай дысцыпліны і правіл па тэхніцы бяспекі, што прывяло да няшчасных выпадкаў на ўчастку.

Я прачытаў гэты загад і ўзбунтаваўся. І першае, што прыйшло ў галаў: трэба гаварыць з Віктарам, давесці яму, што ў загадзе дапушчана памылка, якую трэба выправіць абавязкова, што Кізіла жывы, што яго праз два дні выпішуць з бальніцы. Навошта ж такая мера пакарання? Мне, калі казаць шчыра, нават не верыцца ў тое, што напісана ў загадзе, мне ўвесь час здаецца, што павінна яшчэ нешта адбыцца, і ўсё тады стане на сваё месца.

Таму я сяджу ў прыёмнай і чакаю гаворкі з Віктарам. Ён заняты — да яго прыехалі будаўнікі з суседняй вобласці.

У прыёмнай нічога не змянілася пасля тых дзён, калі тут сядзела Валя — дзіўна, але я ўпершыню падумаў пра тое. Праўда, тады стол стаяў бліжэй да акна і не было гэтай маленькай пальмачкі ў вузкай драўлянай дзежцы. А стол усё той жа, і тэлефон стаіць на тым жа баку, бліжэй да ўваходу, і крэслы — ланцужком ля сцяны. А сакратарка зусім не падобная на Валю — маленькая, тоўсценькая, з натапыранымі ад важнасці губкамі. Калі я прыйшоў, яна складвала нейкія паперы ў жоўтую папку, потым праглядала, ставіла нейкія нумары і зноў складвала.

Я сяджу ў прыёмнай, і думкі ў маёй галаве складваюцца ў стройную і паслядоўную сістэму. Будучая мая гаворка з Віктарам так і пойдзе. Хоча ён ці не хоча — мусіць выслухаць тое, што я збіраюся яму сказаць, тое, што думаю. Толькі мне не трэба гарачыцца, абдумваць кожнае слова...

Дзверы кабінета адчыняюцца раптоўна, Віктар выходзіць, абкружаны гасцямі, сустракае мой позірк, але робіць выгляд, што не заўважае — зірнуў паверх галавы, павярнуўся да гасцей, бы адгароджваецца імі ад мяне; уся ўвага яго звярнута на гасцей, ён адчыняе дзверы ў калідор і сам выходзіць туды.

У калідоры, аддаляючыся, заціхаюць галасы: потым вуркоча машына за акном, і я зноў чую знаёмыя крокі — Віктар варочаецца.

— Што ў вас? — ён пытаецца гэта, а сам глядзіць на паперы, што ляжаць на стале ў сакратаркі. Але я цвёрда вырашыў гаварыць з Віктарам, і няўвага такая мяне не крыўдзіць, пагардлівы і абыякавы тон ніколькі не палохае і не бянтэжыць. Няхай!

— У мяне гаворка асабістая...

— Не ведаю, ці будзе ў мяне час на такую гаворку,— Віктар доўга, занадта доўга, глядзіць на гадзіннік і задумліва выгінае губы.— Дзесяць хвілін — ніяк не больш! Ён зноў вывучае паперы на стале ў сакратаркі — я для яго не існую.— З выканкома званілі?

— Не, Віктар Паўлавіч, не званілі.

— Як пазвоняць — адразу пераключыце.— І зноў да мяне: — Дык я слухаю. Але як і дамовіліся — толькі дзесяць. Прашу! — ён гасцінна адчыняе перада мною дзверы кабінета і чакае, пакуль я ўваходжу.

— Хачу папярэдзіць: загад абмяркоўваць не будзем. Ён падпісаны, і тут усё ясна.

— А мне не ўсё ясна.

Ён зачыняе дзверы за маёю спіною і не садзіцца ў крэсла, а стаіць ля стала, і мне сесці не прапаноўвае. Сухаватым тонам, вельмі афіцыйным, ён гаворыць, што загад адасланы ў вобласць, і ні адмяняць яго, ні перарабляць ён, Віктар, не бачыць ніякай патрэбы.

— А навошта такая паспешлівасць? Трэба ж было спачатку разабрацца ва ўсім...

— Ах... Разбірацца... Адзін пра Фаму, а другі — пра Ярому...

Ён дастае папяросы і ўздыхае так густа, з такой абыякавай пустэчаю ў вачах, што ўсе мае ілюзіі прападаюць адразу і да канца, саступаючы месца крыўдзе; тое, да чаго я так старанна рыхтаваўся, страчвае свой сэнс. Што я буду даводзіць Віктару? Аб чым мне з ім гаварыць? Папракаць яго нашым мінулым сяброўствам? Яно для яго не існуе. Папракаць яго ў фанабэрыі, прыслужніцтве? На вецер тыя папрокі! Патрабаваць справядлівасці?.. Але ж у загадзе ёсць і правільныя падставы. Быў выпадак з Кізілам? Быў. І не адзін. Загад упраўлення не выкананы? Не выкананы. Праўда, ва ўсім гэтым трэба добра разабрацца. Не хоча ён разбірацца? Не трэба. Тады няхай дазволяць мне працаваць на ўчастку да канца будаўніцтва. Збудуем дом, і я пайду.

— Не магу гэтага дазволіць,— Віктар разводзіць рукамі і паціскае плячыма.— Загад ёсць загад.

— А я чалавек. І мяне нельга проста так... адкінуць!

Твар Віктара раптоўна і хутка цямнее. Віктар круціць у руках пачак папярос, пстрыкае па ім пальцам, потым падносіць блізка да вачэй, угледаецца, вывучае, нібыта намалявана на ім нешта вельмі цікавае і дзіўнае.



— Правільна. Нельга «проста так». Нельга! Бо вы — кіраўнік. Ясна? — Віктар кідае пачак на стол.— Кіраўнік! І вы павінны несці адказнасць не толькі за свае ўчынкі, але і за лёс людзей. Калі вы рабілі там свае штукарствы з Крыштопам — я цярпеў. А калі ад іх робяцца інвалідамі людзі — я бязлітасны. Сёння ж здайце ўчастак Рогачу!

— Ён не будзе яго прымаць.

— Як гэта не будзе?

Разумею, што зрабіў памылку. Навошта ж падставіў пад удар яшчэ і Рогача? Навошта сказаў тое, чаго няма на самай справе? Я ж і не спрабаваў перадаваць участак. Праўда, Рогач абурана сказаў, што ён кіраваць участкам і не можа, і не хоча, і не будзе. Ён сказаў гэта, прачытаўшы загад. Але канкрэтнай гаворкі аб перадачы ўчастка мы з ім не вялі.

— Як гэта не будзе? — перапытвае Віктар.

— Я перадам участак сёння.

— Во! Гэтак і трэба было казаць з самага пачатку!

— І я прашу пакінуць мяне на ўчастку простым рабочым. Мне трэба дабудаваць дом...

— Гэта з поспехам зробяць і без вас.

— Я не толькі прашу, але і настойваю!

— А я паўтараю: загад падпісаны. І змен у ім не будзе ніякіх.

— Тады я не выканаю яго. І прарабам на сёмы ўчастак не пайду!

— А гэта ўжо ваша асабістая справа. Акрамя таго, я змушаны папярэдзіць: калі з брыгадзірам будзе не ўсё добра — мы прыцягнем вас да судовай адказнасці. Рыхтуйцеся і да гэтага!

Наіўнымі і смешнымі здаюцца мне цяпер тыя мае думкі ў прыёмнай, усё тое, аб чым думалася ў чаканні гаворкі з Віктарам. Каго я думаў пераканаць? Ён жа чакаў гэтага дня! І цяпер ён не выпусціць такую выключную мажлівасць разлічыцца са мною. Загад напісаны. І ніхто не будзе абвяргаць той загад. Мажліва, будзе і суд. Будзе, нават не гледзячы на тое, што з Кізілам нічога страшнага не здарылася — я сам учора гаварыў з ім, паслязаўтра, магчыма, ён будзе працаваць. Ці ведае гэта Віктар? А калі і не ведае, казаць пра тое зусім не варта, бо нічога гэта не зменіць. Але толькі Віктар памыляецца, калі думае, што запалохаў мяне, што цяпер я буду з ім ва ўсім пагаджацца. Пасланы загад у вобласць? Няхай. Але я нікуды не пайду, пакуль дом не будзе збудаваны. Гэта галоўнае. Гэта павінна быць зроблена.

Стрымліваю сябе, намагаюся быць спакойным, нават крыху бесклапотным, і кажу, што я ўлічу парады Віктара і падрыхтую сябе да суда.

— Толькі ўлічыце,— перапыняе ён мяне і пускае тонкі струмень дыму на адстаўленую далонь,— у пэўнай ступені маральную адказнасць за ўсе справы на першым участку нясе і галоўны інжынер упраўлення. І ўся гэтая гісторыя для мяне, як для кіраўніка, таксама вельмі непрыемная...

Я пагаджаюся з ім і тым жа, па-ранейшаму міралюбным, тонам паўтараю, што з участка нікуды не пайду і застануся працаваць радавым рабочым. Потым, калі завершым будаўніцтва, я сам напішу заяву, што не хачу заставацца тут.

Віктар таксама пераймае мой тон, гаворыць разважліва, спакойна, нават са шкадаваннем нейкім, нібыта ён зусім не мае ніякага дачынення да таго, што робіцца.

— Але з сённяшняга дня зарплата вам налічвацца не будзе. Загад у бухгалтэрыю паступіў таксама...

— А яшчэ куды паступіў загад?

— Ну, навошта, навошта гэты тон? Я толькі паведаміў, што вам, таварыш Бугрым, грошы налічвацца не будуць...

— А таварышу Бугрыму, даруйце за слова, напляваць на тыя грошы. Ён папрацуе гэты месяц і без іх. А як рабочаму, вы павінны мне будзеце заплаціць. За працу. Дом збудуем, а потым — паглядзім.

— Глядзець трэба было спачатку, а не потым. І мы ўжо досыць наглядзеліся штукарстваў.

Ён злосна чыркае запалкай, дым трапляе яму ў вочы, і Віктар моршчыцца, крывіцца, дзьмухае. Але мне здаецца, што крывіцца ён не ад дыму, а ледзь стрымлівае сябе, каб не закрычаць, не затупаць нагамі, не пачаць лаянку...

А я гатовы ўжо і да гэтага. Разумею яго нянавісць, разумею, што ўсе словы, якія могуць быць яшчэ сказаны тут, нічога ўжо болей не зменяць у нашых адносінах, нічога не выправяць, нічога не пераробяць. Адносна мяне ўсё ўжо вырашана, і, думаецца, не толькі тут, у гэтым кабінеце. Віктар, безумоўна, пастараўся і ў гарвыканкоме, а мажліва, і ў гаркоме паказаць усё належным чынам. Цяпер, як і ў той раз, калі быў першы той выпадак у нас з катлаванам, ён наўрад ці скупіўся на фарбы...

Мы развітваемся, але наша развітанне — простая даніна абавязку. Я выходжу з упраўлення і варочаюся на будоўлю. Ведаю, што час позні, што там нікога ўжо няма, але саджуся ў аўтобус і кіруюся туды. Кандуктарка аб'яўляе прыпынкі, і яе голас гучыць для мяне ў нейкай далёкай, зусім нетутэйшай прасторы. Спрэчка з Віктарам спустошыла мяне. Адчуваю сваю правату і не бачу ніякіх шляхоў, каб давесці яе, не ведаю, якой дарогаю трэба пайсці цяпер, каб стрымацца, не нарабіць глупства. Мо варта параіцца з Валіным бацькам? Не, не! Толькі не гэта! Скажаш яму, будзе ведаць і маці. А яна не ўтрымаецца — напіша Валі. А Валя, не задумваючыся, кіне ўсё і прыкоціць сюды, а ў яе цяпер дыпломная праца — самы адказны і напружаны час. Не, нікому нічога не трэба казаць. Адно варта, мабыць: параіцца яшчэ раз з Крыштопам. Але што з ім раіцца? Мы з ім гаварылі і ўчора, і пазаўчора. Ён лічыць самым правільным тое, аб чым мы казалі і раней: трэба стаяць да канца, трэба спачатку збудаваць дом, а потым пачынаць сапраўднае змаганне, нешта даводзіць і нешта аспрэчваць. Але чаму ён гаварыў гэта не вельмі, быццам, і ўпэўнена? Гаварыў так, нібыта толькі слухаў мяне, слухаў і пагаджаўся, а сам сваіх думак не выказваў? Не, чаму не выказваў? Ён пагадзіўся і сказаў, што я раблю правільна... Але тады ён не ведаў пра тое, што загад ужо разасланы па ўсіх напрамках. Цікава, што скажа Крыштоп цяпер? Але хіба гэта важна, што скажа ён? Важна тое, што я думаю сам, у што веру, за што гатовы змагацца і што гатовы адстойваць!..

## 11

Сяджу на тэрасе адзін. Валін бацька пайшоў на партыйны сход, а маці на вуліцы з Ірынкаю. Не чую ні галасоў з вуліцы, ні тлуму. Цішыня. Нішто не перашкаджае пісаць.

Я пішу ліст у Мінск. У рэдакцыю газеты.

Ніхто не ведае, чым я заняты, ніхто не распытвае мяне, але кожны вечар, як толькі я саджуся з сваімі паперамі на тэрасе, усе выходзяць з хаты, каб не перашкаджаць. Я спяшаюся. Я хачу напісаць як мага



хутчэй. Напісаць добра. Напісаць пераканаўча, сціпла. Гэта ліст не толькі аб тым, што адбылося на будоўлі, гэта мае думкі, мой роздум аб справядлівасці і шчырасці чалавека, аб яго абавязку заўжды і паўсюль гаварыць праўду, адстойваць і бараніць справядлівасць.

Чохаюць нечыя крокі ля ганка. Я чую іх, але не паварочваю галавы. Я гляджу ў сад, на клёны. Думкі, што прыйшлі да мяне, устрывожылі зноў, я адкладваю ручку і гляджу на воблакі, што спыніліся над макавінкамі клёнаў. Рыпяць дзверы тэрасы. Ціхія крокі спыняюцца, глухнуць за маёй спіною. Не, гэта, здаецца, нехта чужы. Крокі чужыя. Хто ж гэта?..

Дзіва дый годзе: на тэрасе стаіць Барыс. У адной руцэ ён трымае карычневы плашч, у другой — складзены палоскаю часопіс, у якім тырчыць вузкі газетны скрутак. Барыс маўчыць. Ён намагаецца не ўсміхацца. Але губы яго расплываюцца ва ўсмешцы, якая робіць Барысаў твар і вясёлым і разгубленым.

Я ўскокваю, кідаюся да яго, і мы абдымаемся. Стаім. Аглядаем адзін аднаго. Нават не ведаю, што гаварыць.

— Пішаш, а? — Барыс, смеючыся, ляпае мяне па плячы.— Хочаш адабраць у нас хлеб? О-оў! І паперы зглуміў колькі? Раман? Аповесць? Ці, можа, трылогія?

— Кароткая і сумная аповесць жыцця Леаніда Бугрыма. Але яна не варта цяпер увагі. Кінем гэта. Потым...

— Чэхаўская сціпласць. Гэта добра. Дазволь хоць зірнуць на твой стыль...

Ён бярэ са стала аркуш паперы, але я паспешліва выхопліваю ў яго з рук сваё пісанне, хаваю ў папку. Мне робіцца чамусьці ніякавата.

— Тоіш прафесійны сакрэт,— жартуе Барыс.— І дарэмна. Некалі ты быў шчодры. Памятаеш тую ноч, калі ты вярнуўся з гулянкі і падараваў мне цікавы і добры сюжэтны ход. Спачатку мяне за яго лаялі. Цяпер знайшоўся крытык, які лічыць, што гэта глыбока псіхалагічны, жыццёва праўдзівы ход. Ты не чытаў артыкула ў «Літаратурцы»? На тым тыдні...

— На жаль... Але як ты апынуўся тут?

— Увайшоў,— ён паказвае рукою на дзверы.— Праз іх. На вуліцы сустрэў маці. Яна сказала: сядзіць і піша. І якая тайна вакол тваёй творчасці! Ніхто не ведае, што ён піша!

— Слухай, Барыс. Як ты апынуўся ў горадзе?

— А я не проста — Барыс. Уласны карэспандэнт саліднага часопіса. Прашу! — Ён працягвае мне маленькае пасведчанне. Нават не чытаю, адхіляю руку, але Барыс настойліва совае яго мне.— Ты зірні, зірні! Ну, як? Гучыць? Так што стаўся да мяне з павагаю. А гэта — омуль. Трымай,— ён бухае на стол газетны скрутак.— І прапаную скінуць пінжак і памыцца. А мо злётаем на Дзвіну? Ці, можа, вада халаднаватая? Пазнавата я прыкаціў.

— Можна паплаваць. Калі ты загартаваны...

— А што? Можам! Быць ля Дзвіны і не пабоўтацца ў ёй? Аб чым жа тады я буду пісаць?

Загортваю ў газету вяхотку, мыла і ручнік. Барыс увесь час гаворыць аб сабе: як цяжка было яму выбрацца ў камандзіроўку сюды, як ён маліў рэдактара паслаць у Прыдзвінск, як наабяцаў яму залатыя горы — і напісаць нарыс пра Дзвіну, і арганізаваць выступленні будаўнікоў...

— А самае галоўнае — я пачуў твой голас. Была перадача па радыё. І тады я падумаў: там мае даўнія сябры. Еду кудысьці на Бай-

кал, а часу паехаць і напісаць пра іх — няма. Ды і хто напіша пра іх так, як гэта змагу зрабіць я?

— О! Сталічны апломб і самаўпэўненасць. Дзе ты набыў яе?

— Спадчына. На вуліцы, дзе жыла мая бабка, некалі памёр граф! Ты, бачу, гатовы. Ідзём. Між іншым,— мы прыпыняемся на момант ля прыступкаў тэрасы,— між іншым, ведаеш, у якое няёмкае становішча я трапіў? Прывёз у падарунак Ірынцы ляльку.

— І дарэмна. Яна пачынае лічыць ужо, што гэты свет існуе толькі, каб рабіць ёй падарункі.

— Ты паслухай, што яна мне сказала. Уручаю ляльку. «А я ўжо не маленькая. І з лялькамі не гуляю. У мяне ёсць электравіктарына». І так паглядзела! Возьмем яе на Дзвіну?

— Не, не. Мы хуценька вернемся. Раз, раз і — назад!

Дарогаю не даю Барысу і хвілінку маўчаць, і ўвесь час дакучаю яму пытаннямі: я баюся, каб ён не пачаў распытваць. Мне не хочацца адказваць ні на якія пытанні, але я здагадваюся, што раней ці пазней нам без іх не абысціся, і адчуваю, што гэты нечаканы Барысаў прыезд павінен нешта змяніць у маім жыцці.

На рацэ ціха, пясчаная паваротка на тым беразе пустая, але крыху ўлева ад яе, з чоўнаў, хлопцы вудзяць рыбу. Барыс распранаецца першы, бяжыць па касе да вады. Пырскі ляцяць ад яго ног, і ён кідаецца з разгону, дае нырца і выплывае даволі далёка ад берагу.

— Гэ-эй! — крычыць ён і ўзмахвае рукою.— Давай! Ах слаўна ж! І вадзіца харошая!...

Пацепваючы плячыма, іду па касе. Вада апякае ногі. Разбягаюся, даю нырца. А выплываю на паверхню, і плынь пацяплела. Цёплая і незвычайна мяккая вада.

— Ну, пагналі! — гукае Барыс і хвастае шырокімі сажонкамі — плыве на сярэдзіну ракі.— У-уу... Плынь гонкая! Бяры сюды!..

Мы заплываем далёка, потым варочаемся і доўга брыдзём па мелкаводдзі. Вылазім на бераг, дзе ляжыць наша адзенне, і толькі тады адчуваем, што вечар не вельмі цёплы. Твар у Барыса пасінеў.

— А што, як вунь да таго паваротку? — прапаноўвае Барыс і, прысядаючы, размахвае рукамі!— Улупім навыперадкі?

— Не хочацца.

— Не хочацца? Проста баішся. Ты тут заседзеўся і аброс тлушчам. І бегаць развучыўся. Давай, кажу, да паваротку! І — назад.

— Ну, пачакай. Я табе зараз пакажу, сталіца! Станавіся! Лічу да трох!..

Зрываемся з месца і ляцім па мурожнай траве. Барыс адразу пераганяе мяне: ён бяжыць па сцежцы. Але неўзабаве я вырываюся наперад, імчу, пакідаю Барыса ззаду і спыняюся толькі на паваротку. Падбягае Барыс, становіцца побач, дыхае цяжка і шумна. Ён адстаў ад мяне крокаў на дваццаць.

— Ну, як? — пытаюся.— Цяпер давай назад!

— Хопіць, Лёня. Бо замест нарыса, мажліва, давядзецца змясціць некралог.

— Не турбуйся. Я напішу яго. Давай, давай. Сам напрасіўся!

Бяжым назад уповарень, не вельмі хутка. Адзенне здаецца вельмі халодным, калі мы пачынаем апранацца. А выцірацца ручніком нам амаль што і не трэба — абсохлі. Барыс, прычэсваючы мокрыя валасы, апраўдваецца:

— Ты тут кожны вечар, відаць, лётаеш. Таму і не дагоніш цябе. А рака якая! Слаўна! Нездарма ж цягнуў я цябе сюды!..

На паваротку, за чорнай пілкаю лесу, што лягла на даляглядзе, барвовым полымем чырванее неба. Агнявы водсвет кладзецца на ваду шырокай паласою якраз пасярэдзіне ракі, быццам разразаючы яе на дзве роўныя пуцявіны: вада здаецца барвовай, бы нагрэтая да чырвані; рыбацкі човен высоўваецца з-за паваротку, разразае гэтую паласу і за ім кладзецца след, але не чырвоны, а нейкі цьмяны і зусім не бліскучы.

Ісці ад ракі не хочацца. Барыс пра нешта думае і раптам пытаецца знянацку:

— Што ў цябе з Віктарам?

— А чаму гэта цябе цікавіць?

— Не цікавіць, а здзіўляе. Я бачыў Рогача — выпадкова сустрэліся ля гасцініцы. Тое-сёе ён мне расказаў...

— Вось і пішы нарыс.

— А куды твой тады?

— А я пішу зусім не тое, каб друкаваць. Я хачу разабрацца ва ўсім!..

— Дык што ён гэтак ужо закаснеў, што з ім да ісціны дакапацца нельга? Ну, заўтра я на Віктара нашага зірну!..

Мы ідзём дахаты і гаворым, і мяне зусім не здзіўляе Барысава здагадлівасць. Хоць якая ж тут здагадлівасць, калі ён ужо гаварыў з Рогачам! Таму і здагадаўся, калі ўбачыў маё пісанне на тэрасе, пра што пішу. А вось пагроза зірнуць на Віктара... Не трэба, зусім не трэба, каб Барыс, гаворачы з Віктарам, абараняў мяне, хадайнічаў...

— А я і не збіраюся быць тваім адвакатам! А дакапацца да першакрыніцы — ты мне не забароніш. Між іншым, гэта ўжо было са мною: едзеш па добры нарыс, а прывозіш фельетон. Няўжо і тут тое ж? Рогач здзівіў мяне па-сапраўднаму. Але, думаецца, ён не ўсё сказаў. Таму гавары цяпер ты. Усю гісторыю давай...

— Не люблю гісторый. Лепей мы дабрыдзем дахаты, павячэраем. І ты мне раскажаш пра Байкал. Калі ўжо ты так захочаш — я табе дам пачытаць тую сумную аповесць...

— Ты мне спачатку раскажы. Там, у хаце, пры бацьках — няёмка будзе.

— Не вельмі прыемна яе мне і тут расказваць.

— А я слухаю. І пачынай з самага пачатку.

Барыс не перапыняе мяне, крочыць побач, апусціўшы галаў, слухае моўчкі і хмурна. Мне нават часам здаецца, што ён заняты зусім іншымі думкамі, але варта мне замаўчаць, як ён адразу ўскідвае галаў і я бачу ў яго вачах неспакой і зацікаўленасць. І дзіўна: мне хочацца гаварыць, мне зусім не сорамна прыгадваць усе падрабязнасці. Крыўды на Віктара ў мяне няма. Калі я складаў ліст у рэдакцыю і потым яго перачытваў, дык мне часам здавалася, што думкі мае занадта дробязныя, што ў маіх справах — толькі асабістае, не вартае вялікай увагі. Цяпер гэтае адчуванне знікла. Я нават і не Віктара абвінавачваю, а нешта большае, чым адзін чалавек, і, абвінавачваючы, пачынаю разумець, што мая спрэчка з Віктарам закране ўсіх на будоўлі — і Рогача, і Крыштопа, і хлопцаў з Кізілавай брыгады...

— Ну і ну! — зрэшты выгуквае Барыс.— Скажы, дык і не кожны паверыць. Кватэры для выбраннікаў! Адным — ванна з кафляю, столь высокая... А ўсім іншым — па стандарту, калі ласка. Вось дык Віктар! Ніколі не падумаў бы, што ён пойдзе на такое. Чым яго хто купіў? А мо і сапраўды купілі?

— Ніхто яго, думаецца, не купляў.

— Вось бачыш: ёсць у чым разбірацца. І я — паспрабую. Не толькі таму, што давяраю табе: гаворка — тут я з табою цалкам зго-

дзен — ідзе пра вялікае. І абяцаю. На маю падтрымку можаш разлічваць. Заўтра ж... Не, сёння ж я буду гаварыць з Віктарам.

— Сёння табе гэта не ўдасца. Ён паехаў у вобласць. І прыедзе толькі паслязаўтра. Не раней.

— Не гарыць. Пачакаю.

— Але прашу цябе: не абараняй мяне перад ім. Сам за сябе пастаю.

— Я буду правяраць факты. Толькі факты. Тады я не толькі змагу забраць твой ліст у Мінск, але і выказаць свае меркаванні ў рэдакцыі.

— А за гэта — дзякуй. Бо калі пашлю па пошце, нехта прыедзе правяраць... Пачнецца розная цеганіна... А час ідзе.

— Тады вось як робім: возьмеш ліст і — да мяне ў гасцініцу. Я пачытаю. І ў рэстаране павячэраем.

— Не хочаш начаваць у нас?

— Размова на адзінаццаць — трэба званіць дамоў. Рыта не засне, пакуль не даведаецца, як даехаў, што раблю. Такая, ведаеш, творчая справаздача. Толькі не крыўдуй, у цябе мы яшчэ пагасцюем. Я буду з тваімі весці перагаворы — хачу вымаліць на будучае лета адзін пакойчык.

— Якія табе перагаворы! Дыпламат! Прыедзеш — і ўсё. Месца хопіць.

— Пакінем гэтае пытанне адкрытым. Заўтра я вяду дыпламатычную місію. А сёння ты рыхтуеш глебу. Разумееш? Трэба паважаць старэйшых.

Пакуль што разумею не ўсё. Але тое, што Барыс гаворыць пра будучае лета, мяне радуе. Валя ўжо будзе дома. Лета мы правядзём весела.

## 12

Барыс паехаў у аўторак. А сёння субота — «святы», як кажа Кізіла, дзень. Настрой ва ўсіх прыўзняты. Гэта адчуваецца і па жартах і па нейкім асаблівым вясёлым і хуткім рытме нашае працы.

Апошнія дні мы ўвогуле працавалі з імпэтам незвычайным. Усе на ўчастку ведаюць, што звольнены я па загаду ўпраўлення, але не выканаў гэты загад і застаўся на ўчастку радавым будаўніком. Не прызнаў загаду і Рогач. Ён часова выконвае абавязкі начальніка ўчастка, але ў сапраўднасці кірую ўсімі работамі я сам: Рогач без мяне не аддае ніводнага распараджэння, а мае выконвае строга і няўхільна. І гэтак жа ставяцца да мяне ўсе былыя мае падначаленыя. Ніхто не выказвае ніякіх спачуванняў, нічога не распытвае і нічога, не гаворыць пра той загад, быццам нічога і не здарылася. Але ўсе ўляглі ў працу так, нібыта ад вынікаў яе залежыць не проста нешта вельмі важнае, а асабісты іхні лёс. Адчуваю гэтую маўклівую падтрымку і шчыра ўдзячны людзям, чаго, праўда, аніяк не выказваю, але бачу, што ўсе мы добра разумеем адзін аднаго. За апошнюю дэкаду зроблена тое, што пры звычайных умовах наўрад ці можна было зрабіць і за тры тыдні. Пяты паверх амаль закончаны: застаецца на правай палавіне засыпаць цеплаізаляцыю, пакласці сем дахавых пліт, пакрыць рубероідам і заліць стыкі варам.

Апоўдні прыязджае касір — прывозіць зарплату. Перш чым зайсці ў прарабку, ён падыходзіць да мяне, вітаецца, але маўчыць, не пытае, як звычайна, дазволу выдаваць зарплату; шэрыя вочы за шкельцамі акуляраў нейкія разгубленыя і быццам вінаватыя.



— Выдавайце,— кажу я, забыўшыся, што не маю права даваць такое распараджэнне.— А тое, што мне не налічана зарплата, я ведаю, і няхай гэта вас не трывожыць.

— Так. Віктар Паўлавіч цікавіўся і ўчора,— касір аглядаецца па баках, нібыта паведамляе мне страшэнную тайну.— І папярэджваў...

— Нават папярэджваў? Строгі які, гэты Віктар Паўлавіч! А людзі вас ужо чакаюць. Бачыце, сядзяць...

Дзверы прарабкі нахлашч расчыненыя. Услед за касірам Кізіла вядзе ў прарабку сваіх хлопцаў. Як і звычайна ў такі дзень — жарты, смех. А мне ў прарабцы рабіць няма чаго, і я саджуся на старую скрыню, у якой прывозілі плітку, і выцягваю з кішэні газету.

Звычайна ранкам, па дарозе на будоўлю, я купляю «Звязду» — дамоў яе прыносяць пазней, калі мяне ўжо няма. І кожны раз, беручы ў рукі газету, я думаю: а што калі надрукавалі! Не прызнаюся сабе, але — думаю. Тым часам дні ідуць, а ліст мой не друкуюць. Суцяшаю сябе тым, што прайшло не так ужо і многа часу. Ды і смешна разлічваць, каб там адразу ўхапіліся за маё пісанне. Барысу яно спадабалася. Але ж не ён усё вырашае! Ёсць рэдкалегія. Ёсць рэдактар. Ляжыць, мабыць, не толькі мой ліст у рэдакцыі, існуе не толькі мая праблема.

Сёння, шчыра кажучы, не гэта мяне расчароўвае. Я бачу, як выходзяць з прарабкі хлопцы: ішлі туды з жартамі, а выходзяць ціха, употай пазіраюць у мой бок. Разумею: гаворка ў іх пра мяне, і разумею, пра што канкрэтна. Я ведаў і раней, што зарплата, у строгай адпаведнасці з загадам, мне не будзе налічана, падрыхтаваў сябе да гэтага, нават даволі весела, як мне здалося, пагаманіў з касірам і адчуваў сябе няблага, калі бачыў ягоную збянтэжанасць. А цяпер адчуваю нейкую няёмкасць, нейкі нават сорам. Адганяю гэтае пачуццё ад сябе, але яно вельмі трывала асела ва мне, і ад яго цяжка і непамысна. Непамысна яшчэ і ад таго, што гэта я віною таму, што ў нас на ўчастку няма весялосці, не чуваць звычайнай Кізілавай прапановы — «арганізаваць на ўсю брыгаду з повconfiguration такога дня»...

Гэтыя дні мне не хапае Крыштопа, і не хапае цяпер, зараз. Ён паехаў у вобласць. Мне чамусьці думаецца, што гэты выклік звязаны неяк з нашай справай, з будаўніцтвам гэтага дома. Відаць, не абышлося і тут без удзелу Віктара. Пакуль што ў мяне няма падстаў сцвярджаць гэта з упэўненасцю, але я ўжо абвінавачваю яго, адчуваю, як спее, расце мая нянавісць. Разумею, што не зусім добра гэта — ненавідзець чалавека, але нічога не магу з сабою зрабіць: адчуванне тое сёння вострае, як ніколі.

Чую за спіною знаёмае пакашліванне — падыходзіць Сініцын. Нейкі час стаіць побач, потым садзіцца ля мяне і працягвае невялічкі газетны пакецік, падобны на канверт.

— Тут вось... Я падумаў гэта, Леанід Яўгенавіч... Адным словам... І не бярыце за крыўду. Ад шчырага сэрца я...

Я адразу ж здагадваюся, калі ён гаворыць, што ў тым пакеціку, але разгортваю. Так і ёсць: грошы! Ды што гэта яны! З глузду з'ехалі ці што?.. Сабралі, відаць, скланіся... Хто прасіў? Нашто яны мне соваюць нейкую міласць! Я працаваў не горш за любога гэты час. І за гэтую маю працу мне заплоцяць — прыйдзе час! — усё, як належыць, колькі б Віктар там не мудраваў. І грошы чужыя мне не патрэбны!..

— Я пакуль што не жабрак! І з торбаю ў сваёй краіне хадзіць не збіраюся! — амаль крычу я і соваю Сініцыну пакецік у кішэньку пінжака; я так злосна гляджу на яго, што ён узнімаецца і стаіць побач, вінавата апусціўшы долу вочы.— І хто ўвогуле гэта надумаў?

— А ніхто, Леанід Яўгенавіч. Сам гэта я... Раней я кожную трэцюю суботу Даніку ў Ленінград слаў. А цяпер... А цяперака, як надыдзе гэтае чысло, дык і не магу: мучыць гэта мяне — не паслаў. Таму і намысліў вашай Валі паслаць. Яна ж вучыцца. А мне — спакой тады на душу...

Ён гаворыць гэта проста, разважліва неяк, але куточкі вуснаў у яго торгаюцца, уздрыгваюць, і ў вачах змрочны, зусім невясёлы одум; ён гаворыць гэта проста і разам з тым як бы крыху няпэўна, нібыта яму дужа няёмка, і ён адчувае гэтую няёмкасць, але зрабіць інакш не можа, і рабіць тое, што намысліў рабіць, і быццам просіць прабачыць.

Разумею, што пакрыўдзіў Сініцына, пакрыўдзіў без падставы, не маючы аніякага права на папрокі. Але ранейшая ніякаватасць не праходзіць, не прападае, а мацнее. Паміж ёю і адчуваннем свае вінаватасці перад Сініцыным ніякай сувязі няма, гэтыя пачуцці жывуць паасобку, і мне цяжка адысці ад першага і яшчэ цяжэй закрэсліць другое: і тое, другое, чамусьці мацнее, расце — яно яшчэ не адолела вінаватасць, але ў ім ёсць сіла, якую я адчуваю і з якой не магу змагацца.

Сініцын запіхвае грошы глыбей у кішэньку, уздыхае, але нікуды не ідзе. Я міжвольна, без усялякай ахвоты, пачынаю гаварыць. Я спрабую апраўдвацца, пераканаць Сініцына ў тым, што выпадак з маёй зарплатай — часовае непаразуменне, што за сваю працу я павінен і, безумоўна, атрымаю грошы, бо грошы тыя — гэта мая праца, якая стала ўжо рэальнасцю, часткай нашай агульнай справы, што яна існуе незалежна ад любых загадаў, бо яна зроблена і ў ёй увасобіліся мае намаганні, мары, сіла маіх рук...

Гэта я кажу Сініцыну.

— Ну, то так,— гаворыць Сініцын, і я не ведаю, што хавае ён за гэтымі словамі.— То я тады і пайду... Будзем узнімаць пліты...

— Дык не засыпана ж яшчэ ўсё?

— А чаго! Дзве можна ставіць. Рогач казаў, што дзве паставім сёння. А потым — тыя. І — усё!..

Я не ведаю, што яму адказаць, у мяне проста няма слоў. А Сініцын, між тым, ужо ля крана. Ён паволі-паволі ўзнімаецца па вузкай лесвічцы, а на доле хлопцы завялі ўжо тросы на крукі пліты — чакаюць. З гучным шчоўканнем уключаецца матор крана. Уздрыгваюць, варушацца бліскучыя, як жывыя, тросы.

Ад ракі дзьме вецер. Разгарэліся і трашчаць кавалкі дошак пад закуранай жалезнай бочкай, у якой грэецца вар. Нехта сыпануў на агонь дробнага вару, і цяпер ён гарыць-сіпіць, пухкае, а полымя празрыстае, амаль непрыкметнае на сонцы, і над бочкаю клубіцца чорны тлусты дым; вецер круціць яго, гне да зямлі.

Валюхастай хадою дыбае Кізіла. Мне чамусьці думаецца, што зараз і ён пачне гаворку пра грошы, пачне папракаць, што паставіўся я да Сініцына нядобра. Але ў Кізілы гаворка зусім іншая.

— А чаго рубероіду не вязуць? — пытаецца ён, і я нават крыху губляюся ад нечаканага гэтага пытання.— Гэта ж маглі б пачынаць раскатку... І ў сераду б — шабашылі!

— Абяцалі сёння.

— Што тыя абяцанкі! Трэба, мусіць, званіць і ўзнімаць вэрхал. А то чаго чакаць? Званіць!

— Рогач званіў учора.

— І сёння не пашкодзіла б. Брыгада прастойвае. Калі вы дазволіце — я магу і звякнуць...



У голасе Кізілы ні ценю насмешлівасці — ён пытаецца майго дазволу сур'ёзна, пачціва, і мне хочацца гаманіць яшчэ: гаворка з ім неяк згладжвае пачуццё няёмкасці, што засталося і дагэтуль ад размовы з Сініцыным.

— Пазвані, пазвані... Ты — брыгадзір!

Ён выгінае верхнюю губу, чмыхае, цягне з кішэні цыгарэціну, весела і зухавата прыціскае берэт.

— А што? Мне з упраўленнем дзяцей не хрысціць. Я ім зараз парабочаму выдам — на тры паверхі.

— Лаянкай нічога не выправіш.

— А я і не буду. Навошта лаяцца? Проста скажу... Тое, што ёсць, скажу, няхай варушацца...

Насвістваючы, Кізіла дыбае ў прарабку. Потым я бачу ў адчыненыя дзверы яго плечы, бачу, як ён узмахвае і ківае рукою — гаворыць па тэлефоне, нешта даводзіць. Каму, цікава? Магчыма, Віктару? Няхай, можа нават гэта і лепей...

Кізіла нечакана вылятае з прарабкі, кліча мяне, круціць ў паветры рукою.

— Вобласць! Вобласць звоніць!..

Тэлефонная трубка яшчэ цёплая ад Кізілавай рукі. Прыціскаю яе да вуха і адразу чую далёкі, але дужа чысты голас Крыштопа. Крыштоп цікавіцца, што ў нас робіцца, і я адказваю яму. Я ўзрушаны, усхваляваны і таму спяшаюся, баюся, што ў нас не хопіць часу на размову. А Крыштоп усё закідвае мяне пытаннямі, і, зрэшты, я стаўлю яму і свае: чаму ён так доўга там затрымаўся, калі прыедзе?

— У чацвер прыеду,— гаворыць Крыштоп.— У чацвер. Тут я да аднаго таварыша на прыём запісаўся. Разумееш? У абкоме. А ён толькі ў сераду з Масквы вернецца. Таму вырашыў затрымацца. Буду ў чацвер, раніцаю...

Тэлефаністка папярэджвае, што застаецца адна хвіліна. Яна пралятае незаўважна — мы амаль што нічога і не паспяваем сказаць. Вельмі шкадую, што не распытаў у Крыштопа пра ўсё як след. Але што распытваць. Ён не вельмі і хацеў расказваць. Аднак тое, што ён сказаў, вельмі важна. Я здагадваюся, што Крыштоп хоча гутарыць з сакратаром абкома партыі, і таму затрымаўся, чакае яго прыезду з Масквы. А пра што ён будзе гаварыць — я ведаю...

Дзьме вецер. Гнецца, варочаецца на зямлі чорны дым — надвор'е зменіцца, відаць. Свеціць сонца. Зырка блішчаць тросы, на якіх павольна паўзе ўверх доўгая шэрая пліта. На даху, ля самага краю, стаіць Рогач, раскінуўшы рукі на бакі — камандуе. У вузкім, адсунутым убок, вакенцы бачу твар Сініцына — засяроджаны, уважліва-строгі, але, здаецца, зусім не хмурны. Бачу ўсё гэта, і, неспадзеўкі, прыходзіць радасць. Яна накатваецца хваляю, адмятаючы, адкідваючы нядаўнюю непамыснасць і няёмкасць: усё тое, што нудзіла, трывожыла, не давала спакою. І мне хочацца абняць далёкага цяпер Крыштопа, абняць Рогача, Сініцына, Кізілу — усіх, рынуцца наверх, туды, на самы высокі наш паверх, апошні паверх нашага дома, раскінуць рукі, як гэта зрабіў Рогач, падставіць свой твар пад пругкі і рэзкі вецер з Дзвіны...

У сераду мы закончым наш дом. А ў чацвер прыедзе Крышпот. Ён прыедзе з перамогаю. З перамогаю? Не, па яе нікуды не трэба лётаць. Яна — у нашым доме. Яна там, куды плыве на бліскучых тросах доўгая шэрая пліта...

## 13

Надрукавалі!!

Я купіў газету ў кіёску, дзе купляў звычайна, па дарозе на аўтобусны прыпынак; разгарнуў і адразу ўбачыў свой артыкул. Яго змясцілі на першай старонцы, на самым відным месцы, пад вялікім кідкім загалоўкам. І пад ім — маё прозвішча: не ўнізе, дзе звычайна ставіцца подпіс, а ў цэнтры артыкула, вялікімі чорнымі літарамі напісана.

Стаю ля кіёска і чытаю. Я саступіў на край тратуара, каб не замінаць людзям, прыхінуўся да рэдкай драўлянай агароджы і стаю, не зважаючы на тое, што робіцца вакол. Такое адчуванне, нібыта ўсё знікла, правалілася ў прорву, а наверсе, пад сонцам, засталіся толькі я ды газета. Чытаю артыкул і адчуваю, што робіцца горача і цяжка дыхаць. Маё пісьмо скарацілі, з'явілася нават некалькі новых выразаў, але ў асноўным яно засталося такое ж, як і было: нічога не выкрэслена, нічога не папраўлена, з таго, што я лічыў самым галоўным і патрэбным. Раней, калі я пісаў і потым перачытваў рукапіс, шмат што ў ім здавалася мне нязграбным, супярэчлівым, нават не вартым вялікай увагі. А цяпер я поўны гонару. Артыкул, несумненна, важны, калі яго друкуюць на першай старонцы, калі даюць такі вялікі загаловак, калі ставяць мой подпіс уверсе. Я чытаю газету, і кожнае слова поўніцца вялікім і незвычайным сэнсам. На нейкі час нават здаецца, што напісаў гэты артыкул нехта іншы, але напісаў тое, што я думаў, што было ў маім сэрцы...

Спахапіўшыся, бягу на аўтобусны прыпынак. На хаду ўскокваю ў аўтобус. Сядзенні ўсе заняты. Ля акна чытае газету незнаёмы мужчына. Чытае, не адрываючыся. Чытае мой артыкул! Я прыпыняюся ў праходзе насупраць, скоса пазіраю на таго чалавека. Светлыя, без адзінай прыкметы сівізны, валасы гладка зачасаны. Чытае, увесь час моршчыць лоб, а левай рукою падпірае шчаку. Рукі чырвоныя, з кароткімі і моцнымі пальцамі.

І нечакана мне ўспамінаецца Віктар. Як ён успрыме гэты артыкул? Што ён скажа, калі прачытае? А прачытае абавязкова ж. І хутка. І будзе, пэўна, званіць на ўчастак. Ці, можа, не будзе? Цікава, як ён паставіцца да ўсяго гэтага? Будзе грому! Ой, будзе! Але цяпер ужо ніякі гром не закрэсліць гісторыю нашага дома, гісторыю розных пераробак, розных загадаў, гісторыю той працы, што прарабілі Рогач, Сініцын, Ткач, Кізілавы хлопцы... І ў гэтай гісторыі будзе працяг! І як гэта добра, што Крыштоп зможа весці ў абкоме партыі гаворку, маючы на руках гэты нумар газеты!..

Вылятаю з аўтобуса і шпарка імчу на ўчастак. Ля прарабкі ўжо сабраліся будаўнікі, сядзяць на заплямленых вапнаю дошках, а стаіць толькі адзін Кізіла — у цэнтры. З газетаю ў руках.

Падыходжу, вітаюся. Адказваюць дружна, як па камандзе.

— Перакур? — гэта самае нейтральнае пытанне, якое, мне думаецца, неабходна зараз.

— Чытка,— гаворыць Кізіла і трасе газетаю.— Чытаем вось, каб усе чулі. А вы чыталі?

— Чытаў. Але ж гэта не прычына, каб траціць рабочы час. Справы ў нас на сёння ёсць.

— Ну дык што?

— А тое, што іх рабіць трэба.

— Ды нагонім. Нагонім, таварыш старшы. Тут хоць пачытаем, дык душу аблегчым. Думаеце, нам было добра, калі Арубка нас па камандзе «смірна» стаўляў? А другі прымушаў тынкоўку на палец таўсцей класці — свая ж кватэрка.

— А чаго я пра тую тынкоўку нічога не ведаю?

— А што казаць было? — пытаецца Кізіла і хавае газету ў кішэню.— Мы ўжо тут пісямко народнаму кантролю чухнулі. Няхай каго трэба пашкрабуць...

— І зноў жа мне нічога не сказалі. Пісьменныя тут пасабіраліся ўсе... Ці не так? А Рогач ведае, пра што вы там пісалі?

Каб табе слоўца ў адказ. Кізіла не апускае вочы долу, а глядзіць смела, незалежна. І ўся брыгада за ім — натапырылася, нібыта збіраецца рынуцца на мяне. Рогач і Сініцын сядзяць крыху воддаль ад усіх. Рогач курыць. А Сініцын сядзіць неяк бокам да мяне, нібыта наважыўся ўзняцца і ісці, але затрымаўся на нейкі міг.

У гэтай маўклівай цішыні з прарабкі далятае звяглівы тэлефонны званок. Адзін... Другі... Значыцца, нам. Раблю крок да прарабкі, і тут жа ўзнімаецца Рогач.

— Хлопцы, работа! Сёння мы тут кропку на ўсім павінны паставіць...

А тэлефон звініць працягла, доўга, увесь час, пакуль я іду да прарабкі. Бяру трубку, разрываючы сухі напорысты званок. І адразу ж — голас Віктара: злосны, раздражнёны голас.

— Што вы там, павыміралі ўсе? Хто?.. Хо-хо! Пісьменнік! Не пазнаў нават — багаты будзеш!..

Голас адразу памякчэў, як толькі я сказаў сваё прозвішча. І гэтая раптоўная змена ў голасе і апошняя заўвага Віктара настройваюць мяне на добры і жартаўлівы лад.

— Вядома, буду,— кажу я.— Атрымаю зарплату — пабагацею.

— А чаго ты не атрымаў яе дагэтуль? Я праверыў усё... І даў распараджэнне. Прыходзь і атрымлівай.

— Пачакаю.

— Чаго ты пачакаеш?

— А пакуль працэнты нарастуць. Як у ашчаднай касе.

— Жартуеш усё. А ў мяне гаворка сур'ёзная. Слухай, я табе шчыра кажу: трэба сур'ёзна пагаманіць. Сёння на дванаццаць мяне тэрмінова выклікае першы сакратар гаркома.

— Не дзіва. Хутка пленум. А табе — выступаць...

— Чаго ты прыкідваешся? Гаворка пойдзе пра першы ўчастак. Сядзіць ён, гэты твой участак, у мяне ў вантробах...

— А ў мяне няма ніякага ўчастка. Участкам першым кіруе Рогач.

— Можа, ты яшчэ скажаш, што і артыкул сёння ў «Звяздзе» не твой?

— Гэтага не скажу.

— Адчуваю: міру ты не хочаш... А мір я лічу, лепей за гэтую валтузню.

— Не я пачынаў яе. І, думаю, што канчаць яе трэба не гаворкаю па тэлефоне.

— Дык я і кажу. Да дванаццаці мы павінны з табою сустрэцца і дамовіцца. Ты ж ведаеш, што на мяне таксама ціснулі. Таму і кажу: самае разумнае — знайсці шлях да прымірэння. Хто не памыляецца?..

— Прымірэнне немагчыма. І яго не будзе.

— Дык чаго ж ты хочаш?

— Праўды і справядлівасці!

— Праўдашукальнік! Святы ёлуп ты, а не праўдашукальнік!..

Суха шчоўкае мембрана — Віктар кінуў трубку. А мне яго ўжо

быццам і шкада крыху. І тут жа, толькі падумаўшы пра тое, я адкідваю сваю нікчэмную і непатрэбную жаласлівасць. Цяпер Віктар добранькі, калі ўсё павярнулася так, калі ў маёй кішэні ляжыць газета і ў ёй надрукаваны артыкул пра нашу будоўлю; цяпер ён добранькі стаў, калі Крыштоп сядзіць у вобласці і чакае гаворкі з сакратаром абкома, калі праз нейкія дзве гадзіны Віктару трэба ісці ў гарком.

Выходжу з прарабкі з адчуваннем перамогі. Нашай перамогі. Але ў сэрцы жыве нейкая незадаволенасць. Нешта я ўсё-ткі зрабіў не зусім правільна. Але што? Вось Віктар хутка пойдзе ў гарком, будзе гаварыць там, апраўдвацца, вярнуць, безумоўна, розную лухту на мяне, на Крыштопа... А чаму я даў яму такую мажлівасць! Чаму сам, першы, я не знайшоў дарогу ў гарком, чаму змагаўся толькі разам з Крыштопам, а не звярнуўся за дапамогаю да Рогача, Сініцына, Кізілы, да ўсіх тых, з кім я працаваў? Вырашылі ўсё зрабіць удвух, толькі самі, адны... Відаць, у гэтым і памылка...

Але ў галоўным — я рабіў правільна. У галоўным — праўда на маім баку! Наш дом збудаваны! І я не саступіў, не сышоў з правільнай дарогі. І вось дом стаіць, стаіць такі, які марыў бачыць яго Крыштоп! І гэты дом — яшчэ адзін паверх, самы высокі паверх, у маім асабістым жыцці, тым жыцці, што было да гэтага дня. Я адолеў яго. І я цяпер дакладна ведаю, што ў нашым будзённым жыцці, у нашай паўсядзённай працы заўжды трэба быць шчырым і мужным. Інакш нельга. Калі ты быў шчыры і мужны ў дробязі сёння — заўтра ты будзеш шчыры і мужны ў вялікім. Сёння ты не збаяўся, смела выступіў супраць няпраўды і бруду, сказаў смела тое, што думаў, і адстойваў свае думкі — заўтра ўдвая больш будзеш паважаць сябе і ўтрая больш будуць паважаць цябе людзі. Сёння ты памог сябру ці зусім незнаёмаму чалавеку — заўтра адчуеш, што гатовы на высокі і мужны подзвіг.

Я гляджу на наш дом і гэтак думаю. Здаецца, гэта і не мае ўласныя думкі — мы неяк гаварылі пра тое з Барысам. Ды і хіба важна, ці Барысавы гэта словы? У іх — праўда! Жыццё кожнага чалавека, як будаўніцтва новага дома: які збудуеш, такі ён і будзе. І толькі ён, сам чалавек, можа вызначыць, які гэта будзе дом, якое гэта будзе жыццё: і тое, што ён вызначае, і што ажыццяўляе потым,— гэта ўжо не яго, чалавека, асабістае — гэта і справа сяброў, якія з ім побач. І калі ўсё тое, што ты робіш — гэта ўжо не толькі тваё асабістае, а і справа ўсіх, дык ад цябе, асабіста, залежыць вельмі шмат, залежыць ад твае мужнасці і смеласці. А мужнасці табе ніхто не пазычыць, і смеласці табе ніхто не дасць: мужнасць і смеласць павінны быць у тваім уласным сэрцы...

А над домам — блакітнае неба. І чорная страла крана здаецца лёгкай. І Кізіла зухавата ходзіць па даху, размахвае рукамі, нешта гукае, а потым спыняецца і глядзіць у чыстае блакітнае неба. Што ён там убачыў? Не ведаю.

Гляджу і я на неба. А на ім — аніводнай хмурынкі, і толькі ў высокай і далёкай высі, як стрэлы, мільгаюць чорныя стрыжы.

◆ ◆ ◆

---

Марыя БАРАВІК



# ГАДЗІННІК

Гадзіннік твой — на стале, тата,
А мне цябе не стае, родны...
Ужо і мной першы крок зроблен,
Ды й перадумана так багата.

Атрымана не адна зарплата.
Як бы ты ганарыўся, родны!
Ты прабач
І мне і брату,
Што мо ў чым не былі мы згодны.

Можа тыя між намі спрэчкі,
Што здаваліся недарэчы,
Памяць абаім завастрылі,
На жыццё глядзець навучылі...

Гадзіннік твой на стале цікае,
А я — маўклівая, ціхая —
Сачу ўпарта за стрэлкамі,
А стрэлкі — у сэрца стрэламі.

Як цябе не хапае, тата,
І тваіх далоняў шурпатых...
Няўжо цябе больш не будзе,
Мой кліч твой сон не разбудзіць!

Але згадзіся, мой любы,—
Мы моцна верым і любім...
Я крочу шляхам адзіным.
І ты прабач, што такая:

Што кожны дзень свой гадзіннік
З тваім, мой мужны, звяраю.

●

Адчапіцеся — я занята...
Тут і сэрца — бы не маё!
І раптам гэтыя вачаняты:
— У вас просты алоўак ёсць?
Стаю і маўчу ў здзіўленні.
На сэрцы сонечна стала.
Няма, кажу, мой маленькі,
А быў бы — не шкадавала б.

□ □ □

## У ЖНІВЕНЬСКІМ НУМАРЫ

яшчэ адна

## «ЖМЕНЯ СОНЕЧНЫХ ПРОМНЯЎ»

## Янкі БРЫЛЯ,

апавяданні Вячаслава АДАМЧЫКА і Кастуся КІРЭЕНКІ



Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ

●



# РАЗМАЎЛЯЮ З АДСУТНЫМІ

Зноў спакою ўсю ноч
Няма,
Зноў надзея на сон
Малая.
Зноў, нібы чараўнік
Ці маг,
Я з адсутнымі
Размаўляю.
Размаўляю,
І ўласны крок
Прападае між слоў
Нячутных.
Размаўляю,
Нібы на ўрок
Зноў сабраў я
Усіх адсутных.
Размаўляю
У начной цішы
З сябрукамі сваімі
Былымі,
Нібы тут — перад імі —
Рашыў
Зноўку стаць
Хлапчуком малым я.
Размаўляю,
Нібыта пішу
Успамін пра той час
Суровы.

Размаўляю,
Нібыта грашу,
Ім сказаўшы
Такія словы.
Размаўляю з матуляй,
Якая нас
Чацвярых гадавала
У хаце
І якую у грозны час
Ад навалы
Не змог схаваць я.
І з настаўніцай тою,
З якой
Мы буквар перачытвалі
Разам
І якая маёю рукой
Над тым першым
Вадзіла сказам.
Размаўляю
З дзяўчынаю той,
Што ля школы
Мяне цалавала,
Што мой першы
Забрала спакой
І апошні мой сон
Забрала.
Ноччу сэрца тугá грызе,
Ноччу грудзі
Мне боль сціскае.
Я адсутных усіх
Па чарзе
Для размовы к сабе
Выклікаю.
Суцяшаюць яны мяне,
І знікае след дум
Пакутных,
І знікае
Мой цень на сцяне,
Нібы сам я —
Таксама адсутны.

# ПІНСКАЯ НОЧ

Нібы вялікая вёска,
Спіць
Пінск,
Прыплюшчыўшы вокнаў
вочы.
Здаецца, ні есці ён,
Ні піць,
І дыхаць нават
Не хоча.
Цішком ідзе
Вартаўнік, нібы ліс,
І гутарыць
Сам з сабою.
І недзе далёка,
Як хвост, павіс
Дым над сівой трубою.
З падвальнай кацельні
Мой нумар прапах
Паветрам мясцовым,
Горкім.
І, нібы цвікі ў бляшаны дах,
Забіты у неба
Зоркі.
Плятуць закаханыя
Свой раман,
І ліпне да дрэваў іней.
Пуховай падушкай
Павіснуў туман
Над шэрай лянівай Пінай.
Суседзі за сценкаю блочнай
Спяць.
А я — над чарнільніцай
Дрыхну.
Пакуль нечакана —
Гадзін у пяць —
Гудкі не спалохаюць
Рыфму.

# ДЗЯЛІЛІ РАЁН

Дзялілі палескі раён —
Балотны, лясны і купчасты...
Дзялілі палескі раён
На некалькі дробных частак.
Казалі —
Так будзе бліжэй
Да горада
Па бездарожжы,
Што цэны
Там значна ніжэй:
На цукар, тытунь
І на дрожджы.
Казалі, што будзе кіно
І ў лаўцы —
Абутак фабрычны.
Што прыйдзе ў Залессе
Даўно
Чаканая
Электрычнасць.
Прынёс гэту вестку да нас
Алёшка —
Паштар наш увішны.
На працу таму ў калгас
Ніхто у той дзень
Не выйшаў...
Пачуць захацелася ўсім

Навіну —
На ўласныя вушы.
— Алёшка!
Пайшлі ў магазін —
Там квасу якога асушым.
А то на дварэ
Красавік —
Прастудзішся, брат,
Да лета...
— Нічога! Да слоты
Прывык,
Цягаючы вам газеты!
Патрос я
Свае рублі,
Зірнуў над сабой на неба.
Успомніў,
Як сена граблі
І як грыз скарынку хлеба.
Успомніў —
І ледзь не зароў,
Як госць, што за стол
Не званы...
Успомніў,
Як пасціў кароў
І як карміў партызанаў.
Успомніў,
Як некалі тут
З пажарышчаў
Попел ссоўваў,
І моўчкі
Падаўся ў гурт,
Туды — ў магазін мясцовы.
Бурчаў пасівелы Тарас:
— Не хочам ні з кім
Дзяліцца:
Была тут у грозны час
Усіх партызан
Сталіца.
Дык хіба ж
Нам сёння рэзон
Ісці ў прымакі нібыта,
Туды, дзе калісь
Гарнізон
Атрадам маім
Быў разбіты?..
...Дзялілі раён,
І гудзеў
Два дні магазін
Незачынны...
Я рады, што ў гэткіх
Людзей
Лічыўся ў дзяцінстве
Мужчынам.

□ □ □

Іван КІРЭЙЧЫК



# РАСЦІ, МАЯ БЯРЭЗІНКА...

Апавяданне

Мал. В. Шаранговіча.

Недзе там, за лесам, была вёска. Недзе там, за лесам, цяпер па-буслінаму весела клекаталі малаткі; падымаючы па дарозе заваложаны расою пыл, у лёгкім ранішнім тумане лянівым гуртам выплывалі за вёску каровы; над нечым садком голасна кувала зязюля; і ўсё ж недзе там было нязвыкла сціпшана; і недзе там, за лесам, жыло маё дзяцінства.

Фыркнуў, спыніўшыся, аўтобус, які прывёз мяне сюды, на гэты палявы камяністы прагалак — пакаціўся далей па няўклюднай шашы-камяніцы, а я пастаяў яшчэ крыху ды пайшоў напрасткі к лесу.

Было шчымлівае хаценне і лесам прайсці вось так, без дарог, напрасткі.

Можна б счакаць да паўдня ў райцэнтры ды ехаць аўтобусам у самую вёску. Але па гарачыні, у перапоўненым і пыльным аўтобусе — не... Ад шашы, з гэтага прагалка, у той ціхі куточак майго дзяцінства ўсяго якіх вёрст дзесяць, ды яшчэ лесам, ды яшчэ ў такую пару, калі аж шалее лясное птаства, а бярозавае лісце, далікатнае, сонцам прасвечанае, пасля гармідарнага горада так і лашчыць табе вока,— прайсці пешкі — адно захапленне.

Быў пачатак лета, вельмі ж ранняга ў гэтым годзе. Яшчэ ў красавіку адцвілі чаромха і бэз, у маі — акацыі; было цёпла, часта ішлі ціхія дажджы, і пасля іх распараная і густа парэпаная зямля рабілася падобнаю на соты. Буйна выкаласілася збажына, рана паспелі травы: на лугах завіхрыліся, пераблыталіся гарошак і ліпучкі, што фіялетавымі кветкамі цвітуць, з дзяцелінай, баркуном і вятроўніцай, а ўскрай праляглі пасачкі жоўтых, яшчэ не высушаных сонцам барабанчыкаў званцу.

Не сказаць, каб ужо так даўно не бываў я ў гэтым краі. Бываў. Але ж пратаўчэшся ў аўтобусе, намучышся ў цеснаце, ды гарачыні, а потым швагер — хлопец някепскі і кампанейскі — і гаварыць не дасць, пакуль чарку-другую не прыгубіш. І ўжо не тое: ужо захочацца адпачыць, а там — зноў у дарогу, і тое, з чым так хацелася сустрэцца, адкладвалася да наступнага зручнага выпадку. Такіх адкладаў і набралася гадоў на дзесяць, не меней.

Ну што ж. Нарэшце — хвала нагам, якія водзяць у дзяцінства!..

Што ні крок — цяжэюць знізу штаніны, мокра аблепліваючы ногі аж да кален; да туфляў ліпнуць збітыя пялёсткі люцікаў і насенне мятліцы. І ўжо мокра і непрыемна

нагам — раса аж рэжацца. А на душы так хораша — хоць заспявай... З-пад ног вылятае, фурчыць понізу перапёлка і зноў падае ў траву. З белага каменя ўскінуўся ўгору жаўрук, павіс, як на нітачцы, і школьным званочкам зайшоўся ў сваёй радасці. Ля самага твару пагрозліва і салідна завіў кола-другое вялізны чорны чмель. Пры лесе завіхаецца рухавае птаства: падыходжу, і яно,— хто ў лёт, хто ў ногі,— кідаецца ў гушчар.

А ў лес аж страшна лезці. Ён стары, пануры і дзікі, густа парослы багуном і малiннікам, пераблытаны хмелем і — мокры. Але гэта толькі спярша страшнавата. А там, калі ўжо ўнурыўся ды праціснуўся паўз першыя ялінкі, глядзіш — і сцяжынка сама пад ногі натрапілася, і кашлаты шацёр над галавой свеціцца блакітным небам і зялёным лісцем, і раса, марная понізу і капяжная зверху, толькі свежасці і бадзёрасці прыдае. Яно каб прайшоўся ўскрай прагалка, дык недзе тут павінна вывівацца з лесу глухаватая дарога. Але ж ёсць яшчэ трапяткое хваляванне: ці прайду напрасткі, ці не заблуджуся ў гэтым уладарным царстве лясін, поўным загадкавага шорхату ды бойкага ранішняга разнагалосся?

Мне здавалася, што ведаў я гэты лес з той самай пары, як пачаў ведаць самога сябе. Нават і дзень той помню...

То была сунічная нядзеля. Раскатурхаў мяне бацька рана-раненька, абуў у лапці, павесіў мне цераз плячо палатняную торбачку з пляшкай малака, скваркай сала і добрай такі скібай хлеба, задзёрыста падміргнуў: «Чым не пастух, га! — і мы пагналі нашу Ляльку, нашу пярэстую і рахманую карову Ляльку, наранкі ў лес. Я добра помню, што ў гэты лес, але мне і сёння здаецца, што гналі мы яе тады іменна ў нядзелю, у якой усё хораша, гналі ў сунічныя пахі, у светлы ранішні туман, яшчэ святлейшы, чым сёння. Тады маці баялася, што я згублюся ў лесе. А бацька пасмейваўся і казаў: «Трымайся ў нашай Лялькі за хвост, і ўсё будзе добра. А то хлопцы, дзеўчуры тыя, і статак згубяць і цябе гатовы згубіць».

Каровы ў нас пасвілі кожны сваю. І на палянцы, дзе гуртаваўся статак, набралася столькі пастухоў,— рослых хлопцаў і дзяўчат,— што мо і кароў таквелечы не было. Бацька пагаварыў, пажартаваў з хлопцамі і пайшоў дадому, а мы пагналі статак далей, на лясныя лугі, у светлы і свежы туман... Потым пры лузе быў высокі — аж пад самае галлё — касцёр, ля якога моцна рагаталі і дурэлі хлопцы, і яшчэ пяклі на ражэнчыках сала, і ўсім не хапала пры агні месца. І, вядома ж, статак усё-ткі згубілі. Потым бегалі, галёкалі на ўвесь лес, а я «трымаўся ў нашай Лялькі за хвост» і чамусьці баяўся адгукнуцца. Знайшлі мяне разам з каровамі пад самы абед ужо, як гнаць дадому. І ўсю дарогу падсмейваліся, што от такую торбу апаражніў, як за сябе выкінуў, а як спатрэбілася, дык і гукнуць не змог, згубіў свой голас сярод піскпявых пташак...

Аніводнага з тых «дзеўчуроў» я не запомніў у твар, бо ніводзін з іх не вярнуўся з вайны. Як не вярнуўся і бацька.

А яшчэ помнілася мне адна ноч. Яна была цёплая, цёмная і зорная. Цёплая, мусіць, таму, што я не па летняму быў захутаны ва ўсе свае адзёўкі ды яшчэ ляжаў на возе пад рознымі лахманамі. Я часам засынаў, а калі прахопліваўся, то чуў, як сакаталі па лясным карэнні колы, як трывожна ўздыхала наша Лялька, ідучы за возам, а ззаду абозу трывожна рыкала нечая дурніца, нібы вялі яе рэзаць, і напаўголаса гаманілі людзі. Здаецца, яны гаварылі аб тым, што недзе поблізу вялікае зарава і недзе пад Слуцкам ракеты пускаюць. Слухаў я, і пакрысе цішэлі галасы, адплывалі кудысьці і ападалі назусім. Потым



ужо нехта падахвоціўся ісці на разведку, а нехта адгаворваў яго, нехта раіў панаглядаць за вёскай з узлеску, а пасля прыйсці пад нейкае Стусовіска і расказаць, што там робіцца. І я зноў правальваўся некуды ў тое цёмнае, прапаленае зоркамі неба... Нарэшце я прачынаюся ўжо раніцай: не то светлы туман, не то запыленыя праменні прабіваюцца паміж дрэў і мякка плаваюць ля нашых шалашоў, але перш чым я паспяваю ўсё гэта заўважыць, я бачу, як на мамінай далоні едзе проста да майго рота паўнюткі бяростаны кадаўбец з суніцамі. Таму і дзень той застаўся для мяне сунічным, і я адчуваю нават, як ён пахне.

Я не ведаю, адзін ён у мяне быў такі ці многа іх было, толькі помню, што, як вярнуліся, праз нашу вёску бясконцай калонай ехалі «нашы».

Так і прыйшоў да мяне гэты лес. Не, не зусім гэты: мой лес пачынаўся глыбей, недзе ад самай сваёй сярэдзіны, туды я і кіраваўся. І, мусіць, нават не тады прыйшоў, а крыху пазней, неўзабаве, як адплыла на захад тая бясконцая калона «нашых» і як адгаласілі бабы, праводзячы мужчын на вайну. Тады быў ён, лес, ужо не такі святочны і сунічны, а самы звычайны, будзённы. Мо таму, што кожную вясну да глухой восені запрагалі мяне ў пастухі — наймалі на дзесяць, на дванаццаць кароў, і ўжо цэлае лета хадзіў я, не выспаўшыся, вечна мокры, з папрэлымі пальцамі на нагах, а ў вёску вяртаўся, мусіць, каб толькі ўпасці ў сон і прахапіцца на самым салодкім месцы. А мо мне толькі здаецца, што ўжо нічога не было святочнага? Я ж во і ішоў, каб сустрэць сваё даўняе і святочнае, і ў думках падыходзіў ужо да трухлявага і высокага, бурай зламанага пня і аглядваў яго, абмацваў, як і некалі, як даўно.

Аднаго разу, з гадзіну пакалупаўшыся, я змайстраваў у ім ладнае дупельца, кожную вясну падпраўляў яго, і ў ім вялася маленькая сінічка. Калі я падыходзіў да пня і зазіраў у дзірачку, на мяне, сцяўшыся і прытаіўшыся, паглядвала прыжмураным вокам маленькае жывое шчасце; яно выпырхвала з дупла толькі тады, калі я адыходзіўся, выпырхвала і залівалася такім шчабятаннем, нібы другі раз на свет нарадзілася. З таго дупельца, як з чароўнага рукава, у адзін прыгожы дзень я выпускаў на волю па шаснаццаць, а то і болей маладзенькіх птушак. Бывалі гады, што і па два разы рабіў я гэты свой маленькі вырай. А аднойчы...

То быў халодны, наскрозь праімжэлы дзень. Мяне як знарок што вяло туды. А падышоў — і нібы хто нядобры знячэўку хвоснуў нечым па мне: параскіданыя, у мокрым крапіўніку курчыліся і жаласна ціўкалі зусім яшчэ голыя няўклюдныя птушаняты.

«Хто ж такі павыкідваў іх?» — ашаломлены, думаў я.

А дупло цэлае!.. Я адрываю ад яго прыстаўленую карыну — і з гнязда глядзіць на мяне вялізны чырвоны рот, такі вялізны, нібы сабраўся мяне праглынуць.

«Пастой жа, я ж цябе накармлю, ідала!» Я грэбліва выграб той чырвоны рот у крапіву, а галапупікаў, пазбіраўшы, пасадзіў назад у гняздо...

Тым летам таксама быў прыгожы дзень, і я рабіў свой чарговы маленькі вырай. А зязюля, колькі помню, пасля таго ні разу ўжо не прыносіла туды сваіх нахабных і злых падкідышаў.

— Што там цяпер? Ці засталося што?

Мусіць, той дамавіты пень усяго толькі і захаваўся ў маёй памяці...

Пасля гэтага я ўжо кіраваўся глыбокай алешавай лугавінай да старых вязаў. Іх было не то тры, не то пяць. У двух усё вяліся шпакі і

галкі, а ў трэцім, без верху,— сава. Колькі яна, бедная, гора спазнала! Як прыгадаць, дык ніводнага года ёй не далі вывесціся: білі яйкі, выкідвалі яе пухова-белых птушанят і ў самую шпурлялі кіямі і шышкамі, што часам аж пер'е з яе ляцела,— мы лічылі саву такой жа драпежніцай, як і каршуна. А яна ўсё роўна кожны год сялілася толькі ў тым дупле.

Падыду, пастукаю кіем па шурпатым целяшы: ці залапоча ў сухім версе савінае крылле — гулка, як і некалі?

А там, за вязамі, калі збочыць з дарогі, будзе дубок-заморак, з чачоткай-загагулінай на сабе, як з гарбом. У той чачотцы было дупло, і за яго кожны год ваявала з шэршнямі нейкая невялічкая, на дзятла падобная, пташка. Гаспадарыла ў дупле пташка — яно хара-



ша было абмазана нечым цвёрдым, як алебастрам, і мірна паглядвала на свет сваім круглым акенцам. А як бралі верх шэршні — ляцела вон тая замазка, і ўжо нядобра ашчэрвалася дупло, сярдзіта гуло, і патыхала ад яго нечым пералежаным. Шэршні пудлавалі кароў, перападала часцяком і нам. Не ведаю, чаму мы іх не вынішчылі. Мусіць, баяліся, не хацелі насіць на сабе балючых гузакоў.

Трэ будзе збочыць да дубка, дазнацца, хто жыве ў дупле цяпер. Калі толькі жыве...

Нарэшце, мне хацелася глянуць на Глыбокі лужок, пацікавіцца, ці ёсць вада ў ім. Як няма, то год будзе засушлівы, і калі б гэта некалі, то ўвосень я меў бы за кожную карову ўсяго па пуду жыта, а не па два, як думалася вясной. Хоць на гэты год так не паказвае. А мо і зусім ужо даўно перасох той колішні мой «барометр»? Мо лесам зарос?..

І ўсё ж недзе на паўдарозе я пачынаю здагадвацца, што заблудзіўся: незнаёмы лес то расступаецца стваламі, прапускаючы мяне, то



заступаед арогу дзікай пораслю. Вось вялікая палянка, дубнячкомрасадай усеяная,— калісь яе не было; вось суцэльная града рослага і светлага беразняку,— таксама не пападалася ніколі... Пэўна ж і гэтыя нетры некалі ўдоўж-упоперак сходжаны. Але ж гэтулькі часу прайшло!

Так і ёсць: я выйшаў з лесу, вярсты на дзве зламаўшы ўлева. У яснай далечы, за шызай наміткай жытоў,— мая вёска: па-летняму рэдкія касмылі дыму над камінамі, белыя дахі, белыя і блакітныя аканіцы, купы цямнеючай зелені садоў і прысад, і — далей, там, за вёскай,— палоска другога лесу, за які перагнулася сіняе сутонне далёкага неба. З-пад тых купаў, дахаў і аканіц ледзь далятае нейчы голас:



— Маня-а! Манё-о-о! Сне-едаць ідзі-і-і!..

Праставаць у вёску — няёмка, і пакуль да дарогі, я трымаюся бліжэй лесу. Узлесак адкідвае яшчэ доўгі цень: тут росна і свежа, як у неглыбокай студні. Напалоханыя знячэўку, закрычаць раптам сойкі ў кустах, застракоча сарока, шмыгне з-пад ног вёрткая яшчарка.. А мне смешна. Смешна ад таго, што во — заблудзіўся! Пахваліся цяпер у вёсцы — не паверань, смяяцца будуць, скажуць, што грабель не пазнаў. І нездарма ж. Ведалі б яны, што і цяпер, як прысніцца што жудаснае,— дык усё каровы, каровы, усё гэты лес, яго дрэвы, такія знаёмыя, такія памяткія — хоць сучча на іх палічы. І во — заблудзіўся! Ні таго дамавітага пня, ні старых вязаў, ні гарбатага дубка: прайшоў і — нічога не напаткаў... Што ж, усё змяняецца... Насілі мяне дарогі па свеце, а лес — рос. Але заўтра нядзеля, можна будзе і заўтра пахадзіць, пашукаць.

Вёска ж мая ўсё не перастае гукаць жаночым голасам, кліча маё дзяцінства:

— Манё-о-о! Снедаць ідзі-і-і!..

За алешнікам цялепае подбегам дэрашаваты кон, пырхае, як перад далёкай дарогай, паражняком пастукваюць на выбоінах драбіны. Над імі куляецца неспакойная кнігаўка, праводзячы іх да самага лесу.

Я крыху зразаю вугал, іду рэдкім беразнячком. Беразнячок такі ж марны, як і некалі. Адсюль пачыналіся нашы небагатыя пашы-працяробы.

«Пастой, пастой,— далёкай знічкай раптам успыхвае даўні-даўні ўспамін.— А тая бярозка і была акурат недзе тут. Над зямлянкаю расла.— Я аглядваюся, шукаючы слядоў той нашай зямлянкі.— Ну, вядома ж, вось яны: апалая дзярна, побач — узгорак, як пясок выкідвалі, ніяк ён купінай не абрасце...»

Ай і добрая ж была наша зямлянка! Мала што хаваліся ў ёй ад непагадзі і асенняй халадэчы, мы і ў спёку біткам набіваліся сюды ды яшчэ і печ жыхтэрылі. Бо вельмі ж хораша гуло полымя ў коміне. І ў коміне гудзе, і зямля гудзе, нібы падпяваючы ціхім басам... Над зямлянкаю і расла тая бяроза. А пня не відно. Струхлеў? Пэўна ж. Бяроза — не дуб: год-два, і — адна парахня з яе... Праўда, над колішняй зямлянкай і цяпер бяроза расце. Але гэта не тая. Тая была старэйшая, хоць і меншая. Яно ж і дрэвы — як людзі: адно ад зямлі не паспела адарвацца — і ўжо закаржанела, састарылася, другое, як і во гэтае, пад сонцам лістамі лашчыцца, а ўсё белае, маладое, моцнае... Гэтая — не раўня колішняй, і колішнюю я ссек.

Яна была каржакаватая, шурпатая і бязверхая. Верх зламалі мы самі: змайстравалі там буслянку. Залезем, усядземся на ёй, схаваемся ў вецці: нас ніхто не бачыць, затое перад намі — цэлы свет, як на далоні. А самымі лютымі маразамі ссеяк я бярозку. Нават помніцца, як сыпаліся з яе мёрзлыя аскабалачкі і дробна секлі па маім кажушку, як трымцела ў руках тапарышча. Потым дома я ніяк не мог пакалоць яе на дровы. Звычайна ў такі, як тады, мароз толькі настаў на бярозавае палена сякеру — яно дзынкне, нібы шкло, і разваліцца напалам. А то ж і дзвюма сякерамі не мог даць рады, і кліны не памагалі. Як заклятая якая: пабілася на адны шчыпулі ды і тыя паляпіліся адзін за другі — не адарваць.

Але гэта было пасля.

А спярша я вёз яе саматугам дадому. Я б мог выбраць бярозку і спраўнейшую, варта было толькі праехаць крыху ў лес. Але я разважаў: як-небудзь і гэтай дома дам рады, затое везці бліжэй. І пакуль вёз да нізовінкі, да сярэдзіны працяроба, санкі беглі лёгка, здаецца, нават наверсе трымала іх. А там і пачалося маё гора: як прыраслі яны да зямлі палазамі, бы на смалу наляцелі. Я і разгрузіўся напалавіну, кажушок і шапку з сябе скінуў, нарэшце, на санках засталіся толькі камлючок і сякера, і — хоць заплач: не ідуць. Тузану з усёй сілы — сарву з месца, яшчэ тузану — зноў сарву... Пакуль тузаю — спіна ўзмакрэе. Толькі сяду, каб перавесці дух, адрау ж кашулю хапае мароз,. І мне пачынае думацца, што я проста аслабеў, з сіл выбіўся.

А працяробамі нехта едзе. Я кідаю на санкі павадок, разгінаюся і ўсміхаюся, узрадаваны, што мне памогуць... Мне нямнога, мне толькі каб выбрацца з гэтай нізовінкі, а там пойдзе, там ужо дахаты — рукой падаць. Я адразу яго пазнаю: гэта Кузя, ляснік, якога ўсе ў нас баяліся. Кузя моўчкі падзывае мяне пальцам: хадзі, малец, хадзі...

«Што, ён і не думае мне памагчы?» — падыходжу я.

— Ты што ж гэта мне, с...кун, лесаматэрыялы псуеш? — не падпусціўшы блізка да сябе, зверху пытаецца Кузя.



Я паціскаю плячыма.

— Ну, чаго вытрашчыўся?

— З пашы гэта,— кажу.— Маці ляжыць хворая. І сястра.

— Я што?.. Я, па-твойму, сляпы? Не бачу?.. Усе вы тут зладзеі і бандзіты!.. Я пытаю: ты што мне лесаматэрыялы псуеш?

Я адчуваю, як пачынаюць калаціцца лыткі і слабець ногі. Але чамусьці зусім не страшна. Чамусьці проста так толькі, утаропіўшыся на мяне, стаіць Кузя, далей — сіва-заінелы ельнік і спрэс белая зямля; за імі — замураваныя белымі і пушыстымі пальмамі шыбы на нашых вокнах; і апошняе — хворая маці і сястра Ліда, абое нерухомыя, знямоглыя: толькі вочы блішчаць з-пад лахманоў.

Во, адбярэ зараз Кузя бярозку, а дома — ані паленца; хутка прыйдзе з далёкага хутара паліць нам у печы цётка Раіна — і не выпаліць; а к вечару і вады ў хаце не будзе: яна замерзне ў вядры да дна... І гэта было самае страшнае. І невыказна крыўднае... Нават калі б Кузя і не зачапіў мяне, калі б толькі моўчкі праехаў міма,— і гэтага было б дастаткова, каб заплакаць.

Я адступаю некалькі крокаў назад і, не могучы трымацца болей на нагах, саджуся на свой бярозавы камлючок. Раптоўныя слёзы засцілаюць вочы, і я ўжо не бачу, а толькі чую, як ідзе да мяне Кузя: шарах, шарах, шарах! — мяккія і аграмадныя яго пальцы доўга шукаюць маё вуха...

...Я акідваю позіркам бярозу, што стаіць перада мною, і нечаканая здагадка аж працінае мяне: «Няўжо тая?.. Няўжо ж так вырасла?..» Я расхінаю траву каля камля — адтуль выглядвае круглае вочка колішняй раны, ужо зацягнутай ружовай бяростай. «Яна! Пасынка пусціла!.. А ўжо і пянёк абняла... Ух ты, як вымахала на матчыных каранях!..» І я спяшаюся нямаведама чаго травяністай сцежкаю, нібы магу захапіць на ёй сляды, што прарэзаліся некалі палазамі ў тым — дай бог памяць, якім! — даўнім-даўнім снезе... Я аглядваюся на бярозу, і мне ёй хочацца задзёрыста крыкнуць: «Расці, бярэзінка, расці!..» Не магу стрымацца і ўсё пасмейваюся сабе: «А яна вырасла! Усё ж вырасла!..» — і спяшаюся... Вось і сіні камень пляската разваліўся ў траве, паблісквае мокрай спіной.

Мне б зараўці тады роўма. А я зарагатаў. Не, якраз і не таму, што Кузя пайшоў. Падняўшыся, перш за ўсё я ўбачыў свае санкі, перакуленыя дагары палазамі: на іх была такая намаразь, нібы іх толькі што з лёду выдралі. І я — зарагатаў... Ай жа і дурань! Ай жа і недапёка! Столькі мучыўся!.. То ж перад тымі маразамі ўшчалася была адліга, снег раскіс, набрыняў вадою, дык зверху адно і прыхапіла яго коркаю, а спадыспаду такі і застаўся — мокры. Недзе прарэзаліся палазы — і тут жа абмерзлі. І куды ж яны такія пойдуць! З такімі палазамі бадай што і конь не кожны пабяжыць... Я саскрабаю сякерай шурпатую намаразь, падбіраю свой кажушок і параскіданыя круглячкі, і ўжо да самай хаты бягуць за мной санкі так лёгка, што і не верыцца... І мне анічуць не крыўдна на Кузю. Здаецца, я і забываю пра яго.

А ў нас дома ўжо выглядвае мяне цётка Раіна. Я пачынаю шчапаць на дрывотніку тую бярозку, а цётка стаіць нада мной, моўчкі чакае, каб набраць у хату дроў. Потым кажа:

— Пакуль я тут ля печы, бяжы ты, дзіця, у Латошніцу па доктара. А то мацеры кепска. І Лідзе не лепш... Папытаеш там, дзе ён жыве, скажуць. Але ж не пытай Піпетку. Гэта дражняць яго так. Скажы проста: «Як доктара знайсці?» — і цётка адварочваецца і зноў маўчыць.

Да Латошніцы не блізка — пяць вёрст. Але я здагадваюся, чаго

адвярнулася цётка Раіна, і тут жа адкідваю сякеру, нацягваю на плечы кажушок і зацята тупаю ў Латошніцу...

І бадаў што лягчэй мне было датупаць у Латошніцу, дапытацца на яе даўжэзнай вуліцы доктараву хату, чым справіцца ў сенцах з клямкаю: адно — што цёмна, а другое — рукі памерзлі.

Мне адчыняе дзверы пацешны не то дзядзька, не то дзядок: ён маленькі, амаль што з мяне ростам, цікаўны такі і ў акулярах. «Ён, Піпетка!» — здагадваюся я, і з парога выкладваю ўсё, з чым прыйшоў да яго.

— Хм... — хмурыць бровы дзядок і цмокае: — Калі ж бо, хлопча, тут наказалі мне ўжо ў Мельнікі, адтуль — у Начу... Хіба мо заўтра зайшоў бы я да вас?

Я маўчу. Слёзы душаць мяне. Усю дарогу я разблытаваў адну толькі праблему: чаму доктару далі такую мянушку — Піпетка? — а тут нібы прарвала мяне, аж калаціць пачало.

— Ды ты што ж гэта?.. Гэта што ж ты, хлопча? — пачынае ніякавата ўсміхацца і завіхацца ля мяне ўжо не заклапочаны дзядок, а рухавенькі дзядзька.— Што, так вельмі маці хворая?

— Ыгы... І сястра... Не падымаюцца... Адно я адзін...

— Даўно ляжаць?

— Даўно.

— Кашляюць?

— Ыго... Маці з крывёй...

— О-ё-ёй! — зноў цмокае языком і круціць галавой заклапочаны дзядок. Ён пачынае зграбаць са стала нейкія фасовачкі, адначасна кажучы некаму на печ: — Таклюся, паглядзі хлопцу чаю пагрэцца...

Я сарамяжа аднекваюся:

— Не, не трэба чаю... Я не змёрз... Я во пайду: дома ж нікога там...

А Піпетка ўжо збіраецца — пераабуваецца, пераапранаецца, пераналадкоўвае нечым свой старэнькі партфель — і ўсё курняўкае, як кот:

— От і дарма чаем не хочаш сагрэцца. Дарма, хлопча! — Трошкі маўчыць і пытае: — Ты як жа: адзін дома і гаспадарыш?

— Ыгы...

— А бацька? Ваюе?

— Ыгы, на вайне.

Той зімой мы яшчэ чакалі ад бацькі пісьмаў.

Піпетка цяжка ўздыхае, нечага нагінаецца, недзе зашпільваецца — і вось ён ужо ў калматай шапцы, у вялікіх валёнках, у сівой бравэрцы, з партфелем у руках.

— Ну, дай бог ногі,— смяецца ён, і мы разам выходзім на вуліцу. На вуліцы адразу ж і разыходзімся: ён — некуды на сяло, я — дамоў. Я нават і не ведаю, прыйдзе ён да нас ці не...

Але Піпетка прыйшоў. Ужо бралася на шарую, як ён пералез да нас у хату цераз парог. І толькі глянуў на маці — пагнаў мяне па банкі.

Я тут жа і прыбег, а ён ужо круціў у руках градуснік і па-старэчы бедаваў:

— Ай-я-яй! Дзе ж цябе, кабета, так прахапіла?.. Двухбаковае запаленне лёгкіх. Двухбаковае!

— От, дзе коратка, там і рвецца,— здаецца, крыху павесялеўшы, гаворыць маці.

— Трошкі лепш?



— Дык я ж і кажу: як далі ўкол, дык і пачула, бы нешта цяжкое з грудзей зваліласся.

— Ну, нічога, нічога... От паставім банкі, пачакаем ды яшчэ разочак уколем цябе... А ў дзеўчыны не страшна. Грып. Паправіцца.

Потым, ужо як пачаў Піпетка збіраць свае струменты, маці кажа:

— Вы ўжо не пакрыўдуйце, дзядзька Пятрусь,— сама ўстаць не магу — хай хоць хлопец паглядзіць вам, чым пагрэцца і прыкусіць.

— А ёсць? — вінавата заморгаў вачыма Піпетка, здаецца, нават пачырванеў.— Знаеш, па такім марозе і не шкодзіла б...

Я ахвотна выкочваю з-за печы бочачку з гарэлкай, дастаю хлеб, бягу ў сенцы па мёрзлае сала. Тым часам Піпетка сам налівае гарэлку, пасмейваецца:

— Эх, была не была, божая слёзка!.. Давай і ты, хлопча,— падсоўвае ён мне шклянку.— Бачу, і табе сёння перапала..

Піпетка перакульвае да дна, за ім — і я. Прыкусіўшы і счакаўшы, ён налівае сабе яшчэ раз, яшчэ раз перакульвае і кажа:

— Піць урэдна... без доктара. З доктарам — можна. А маці тваёй — і ні-ні, ані кропелькі. І табе ўрэдна. Хіба во толькі што з доктарам...

— Якую ж хоць плату вам? — пытае з пасцелі маці.

— Ат, плаціць яна яшчэ нешта будзе...— адмахваецца Піпетка; ён расчырванеўся яшчэ больш, развесяліўся.— От папраўляйся. А пра плату з сынам во сталкуемся. Як цябе, Янкам, кажаш, завуць?

Я ківаю галавою.

— Дык вось што, Янка: маці жыць будзе, але аддасі мне за гэта сваю Жучку.

«Жучку? — думаю я.— Яно і добра, што маці паправіцца: без яе мне ніякага ходу. Але ж і без Жучкі — як?»

— Ну, бярэце,— нехаця згаджаюся я, хоць і шкадую: калі і дастану дзе сабе сабаку, дык такога ўжо не будзе.

— От і добра,— хітруе Піпетка.

І я ўжо шукаю аборку, на якой павядзе ён у Латошніцу Жучку. «А мо і ўцячэ? — яшчэ спадзяюся я.— Але ж ляжыць во пад лаваю! У-у, дурніца, зіркачы свае выкачыла! Хаця б на двор папрасілася».

— Ладна, не шукай: як-небудзь другім разам забяру,— смяецца Піпетка і пачынае збірацца ў дарогу.

Потым ён заходзіў да нас яшчэ цэлы тыдзень, але мяне ўжо як бы і дома не было: нічога не помніцца. Толькі тое, што хацеў ён забраць Жучку...

...У вёску, у свае ціхія Кутасы, я акурат пацэліў на снеданне. Над камінамі давіваліся рэдкія касмылі дыму, пахла маладым агурочнікам, укропам і яшчэ нечым зялёным і далёкім, пахла неабсохлаю расой, і кожны гук — ці то дальні, ці блізкі — чуўся моцна, выразна, чыста. А ў хаце адразу мітусня. Не паспелі як след і павітацца, а ўжо швагер панёсся да некага па гарэлку, ужо сястра нешта нарэзвае, нешта носіць на стол, перстаўляе з месца на месца,— шыкуецца выпіўка.

— Навошта ўся гэтая бегатня? — Я адчуваю сябе як бы недзе яшчэ на паўдарозе, і завіханне здалося мне такім жа непатрэбным, як што-небудзь паказное.— Навошта ўсё гэта? — кажу яшчэ раз.

— От, гэта ж ён яшчэ гаварыць будзе: таквелечы не прыязджаў — і нейкую бегатню ён тут бачыць! Пасядзім от, пагамонім. Ты ж хоць надоўга?

— Якое там надоўга... У панядзелак на работу.

— Дак і добра. Якраз касіць мужчыны едуць у Мокрую Дуброву, і Ясь едзе,— паедзеце разам... А ты пахудзеў.

Не, мусіць, я не пахудзеў, і, мусіць, не так сабе кідала на мяне Ліда падазроныя позіркі,— мусіць, на мне твару не відаць было.

А калі ж за сталом я паспрабаваў яшчэ адставіць убок і чарку сваю, яна занепакоілася не на жарт.

— Ты не захварэў? — запытала.

— Захварэць не захварэў, а так неяк... Ты скажы мне, ці жыве, яшчэ латошніцкі Лукашчык? Ну, што Піпеткай дражнілі?

— Ой, захварэў! Я ж і бачу: з твару змяніўся ўвесь. Паснедаем, ды хіба Ясь па дакторку скокне... А Піпетка памёр. Даўно памёр, мусіць, гадоў пяць ужо будзе.

— Я так. Проста ішоў і ўспомніў. Добры быў чалавек... А дакторкі ніякай мне не трэба...

Хацелася сцішыцца, супакоіцца, неяк разабрацца ва ўсіх гэтых пачуццях, і я, захапіўшы коўдру і падушку, пайшоў у адрынку — якраз там знайшлося з паўкапы свежага сена. Але супакаення не было. Я спрабаваў акунуцца ў водар ранняга сена, ды яно чамусьці не пахла, а толькі біла ў нос да гаркаты рэзкім настоем вялай свірэпы. Аказваецца, падыспадам, пад сенам, было зелле... Блыталіся ўсё тыя ж думкі. Варта было крыху сцішыцца — і паўставала ў ваччу бярозка: то тая, зімняя, якую я ссек, то гэтая, другая, што вырасла на тым месцы; з'яўляўся вялізарны і важны Кузя; з'яўляўся маленькі і вясёлы Піпетка... Пачала назаляць і ластаўка: яна спрытна пікіравала цераз падваротню, ашчапервалася за гняздо — і там ушчыналася неймавернае ціліліўканне,— перабіваліся і гэтыя думкі. Але што было самае непрыемнае, дык гэта Кузя: нават калі і не хацелася пра яго думаць, ён усё роўна выплываў з памяці і плямкаў сваім вялікім чырвоным ротам: «Прабачце, шаноўны, але вось і я».

Ужо некалькі разоў асцярожна прачыняліся дзверы, і ў адрынку заглядвалі то Ясь, то Ліда, але кожны раз я прыкідваўся, што сплю, і яны не чапалі мяне. «Разбудзілі» толькі адвячоркам — у хаце ўжо гаманіла бяседа. А я адчуваў сябе такім зморанным, такім разбітым! Балела галава, ламала ў суставах. А мусіць-такі я захварэў. Не радавала і магчымасць пагаварыць і пасмяяцца разам са сваякамі. Я ледзь выседзеў за сталом той гаманкі вечар. І як толькі развітаўся апошні госць, я зноў пабрыў у адрынку. І зноў — духата, настоеная на свірэпе. Ціха і цёмна. Недзе яшчэ гаманілі і смяяліся, недзе далёка спявалі, але ні слоў, ні мелодыі песні нельга было разабраць. Дзесьці непадалёк пасвіліся коні, яны зрэдку гупалі ў зямлю спутанымі капытамі, ціха пазвоньвалі жалезнымі путамі. Дзесьці ўсё яшчэ крычалі перапёлкі, рыпелі драчы. Потым песня наблізілася: мо спевакі падышлі бліжэй, а мо заспявалі яе іншыя.

Ці я ў лузе не каліна была,
Ці я ў лузе не зялёна была,—

паволі, тужліва і як бы пакрыўджана пачынаў нейчы нямоцны, але пявучы дзявочы галасок; услед неслася дружная скарагаворка:

Узялі мяне паламалі
Ды ў пучочкі пасклададалі,
Така доля мая.

На апошнім выдыху песня была працяжная і моцная; нехта вельмі ж галасіста заводзіў яе...

І мне прыснілася каліна. Снілася мне маё даўняе: гурт кароў, зялёная атава паўз раку, за ляском, мокры снег на атаве і — каліна. Чым далей лугам, тым больш снегу, і тым выразней на яго белым фоне цёмнае зяленіва калінавых лістоў з вугляным агнём спелых ягад. Некалі ў мяне была кніжка: белая вокладка, цёмна-зялёныя малюнкі, а па іх — чырвоныя літары загалоўка. За гэты незвычайны фон і любіў я яе. Але кніжка — кніжкай; я хачу запыніць каровы, не пусціць іх далей у снег — і не магу: я бягу, бягу — і ўсё на месцы, а каровы ўсё далей, далёка ўжо. І я безнадзейна пачынаю клікаць Жучку, а ў адказ: «Ы-ы-га-га-га-га!» — нехта вельмі ж моцна і ўладарна рагоча ў мяне над галавой. Аглядваюся — Кузя... У тым жа чорным кажусе, такі ж вялізны, і трымае ён у прыполе майго шчанюка. «Усё ж надумаў забраць,— успамінаецца мне, але чамусьці не Піпетка.— Не аддам!» І я з усёй сілы цягну Жучку сабе, Кузя — сабе. «Ы-ы-га-га-га-га!» — зноў рагоча ён нада мной. «Не, дудкі! — думаю я.— Во цяпну я табе за палец зубамі — выпусціш...» Кузя разгадвае мой намер,— ён адчайна лапоча крыссём свайго кажуха і крычыць на ўсё горла, але не зычным басам, а прарэзліва-тонка; «Адд-а-ай!» І спрытна хапае мяне за вуха ды так балюча,— ці не навылет прашчыкнуў?.. Я прахопліваюся ад крыку, ад болю. Я амаль інстынктыўна намацваю пад бокам шваграў ліхтарык і пачынаю свяціць па голых кутках адрынкі: куды тут што дзелася?.. Непадалёку, мусіць, адбіўшыся ад гурту, ржаў конь; у падстрэшку адрынкі спяваў певень; скамечылася мая коўдра, з'ехала падушка — я ляжаў на голым зеллі, балела нечым наколатае вуха, па твары кроплямі каціўся халодны пот...

Заснуць я ўжо не мог. Я выйшаў на вуліцу: світала, на ўсходзе ярка рдзелася неба, было росна, трошкі туманна і ціха-ціха, толькі нехта шэры выганяў з бульбоўніку каня і зрэдку цехкаў у суседавым садку сонны салавей...

А над хатай, на старых бярозавых космах, трымцела маладое лісце і недзе за ім ужо шчабяталі ластаўкі — пацешна, як дзеці.



Якім,
як сонейку,
цвісці,
У хмарнасці —
гарэць,
І вабіць,
вабіць у жыцці,
І вечна
думкі
грэць....



Уладзімір ДУБОВІК

●

## У СКВЕРЫКУ КУПАЛЫ

Я пастаю тут. Толькі пастаю
Пад шатамі у скверыку
Купалы.
Дыханне,
слова затаю,
Каб жаўцізной лістоў на дол
не ўпала,
Каб не парушыла у дрэў спакой
І думкі ў песняра
не спалахнула...
Галінкі побач не крану рукой,
Якая, як здранцвелая,
заснула...
Я пастаю тут. Толькі пастаю.
І гэтага з мяне даволі,
Каб невыказную любоў сваю
Нясці у свет і не губляць
ніколі.

●

З травінак
скочваецца
звон
Крыштальных
кропель-рос —
Мой ціхі,
мой салодкі
сон,
Пякучых мар
да слёз,

Іван ЛЕТКА

●



●

Гаворань, нібы сэрца не празрыстае.
Але праз сэрца
Бачу усё чыста...
Яшчэ гавораць,
Нібы шчасце дома,
Шукайце у сабе яго сумленна...
А я яго
Праз сэрца і праз домны
Убачыў раз
Успышкаю імгненнай.
Цяпер стаю, хаджу,
Нібы здурнелы,
Ля печаў, што агнём шалёным
Шчэрацца...
І адчуваю радасна свет белы,
Гляджу зайздросна
На усё праз сэрца.



Рыгор СЕМАШКЕВІЧ

●

# ПРА ЗЯМЛЮ

Колькі вас ад роднага парога
Ў свет пайшло? Прыпомняць караблі...
Што на развітанне, на дарогу?
Жменьку незабыўнае зямлі.

Людзі ехалі у край прыгожы.
Жорсткія віткі дарог чужых.
Шчасця! Усе Амерыкі трывожна,
Непрыветна сустракалі іх.

Толькі нібыта другое сэрца
Быў грудок зямлі, што ўзялі ў шлях.

. . . . . . . . . . . . . . .

Як табе, зямля мая, жывецца
На усіх шасці мацерыках?

Над Віллёй, над Бугам ноч лунае,
Чую я у прадсвітальны час:
— Я зямля, я вечная, я тая,
Што ў далёкай далечы ад вас.

Спяць палі, і неба спіць чужое.
Месяц думу думае сваю.
Толькі я не ведаю спакою,
Я — зямля. Я землякам пяю:

— А-а, а-а, спіце, людзі, спіце.
На радзіме веснавы размах.
Вы зямлю сваю, зямлю любіце.
Я не паміраю у вяках.



●

Не! не з нас пачалося,
Не пры нас прападзе
Той саюз — сугалоссе
Дарог і людзей.

Ты, зязюля, накажаш
Пра дарогу ізноў.
А дарога раскажа
Быль вякоў. Боль гадоў.

...Мчалі коннікі ноччу,
Падганяла іх злосць,
Не туманяцца вочы,
Шлях прапаў. Мэта ёсць.

Хто паўстанцаў, іх, вызнаў,
Вывеў боль на расу?
Коні цуглі пагрызлі.
Глядзі — разнясуць!

Леглі хлопцы на грывы,
Рукі ў жорны зубоў
Конскіх! Толькі маўкліва
З пальцаў капала кроў.

Ціха іскаркі-кветкі
З кропель тых прараслі,
Безгалосыя сведкі
Ля дарог узышлі.

Крыкам лебедзяў раннім,
Сосен стогнам сухім,
Курганом безымянным,
Нават ценем начным.

Ты, дарога, нам вернеш
Іх дыханне і дзень,
Хоць адзінае зерне
З жыта іхніх надзей.

І за тым летуценнем,
Што так хочам знайсці,
Як за светлым натхненнем,
Мы гатовы ісці...

...Зноў зязюля кукуе.
Дыхаць стала лягчэй.
Хлопцы, пэўна, пачуюць:
Сабяруцца хутчэй.

●

Мые вадой дажджавой валасы.
Мала таго — у запас набірае.
Быццам і праўда, для гэтай красы
З рэчкі вада — зусім не такая.
Лівень. Яна яго ў вёдры злівае.
Лёгкія рукі уверх ускідае.
З ганку праз дождж мяне моўчкі пытае:
«Я не зайздросная, я не скупая.
Хіба, што рэчка, таго я не маю?
Хіба не пахнуць вясной і зімою
Косы без рэчкі мятай рачною?
Ці пазычаць жа, скажы, у ракі той
Мне для вачэй маладога блакіту?
Я танцавала, смяялася, пела,
А затужылася — неба не мела.
Вось я і мокну. І лівень зліваю.
Я не зайздросная, я не скупая».

□ □ □





Гэта было 26 мая. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорны прымацаваў ордэн Леніна на сцяг Саюза пісьменнікаў.

Фота **У. Барадзіна.**

# ЗА МОЦНЫ САЮЗ ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

Надыходзіла лета юбілейнага года нашай дзяржавы, калі сабраўся Чацвёрты з'езд пісьменнікаў СССР. Яго доўга чакалі і тыя, хто быў упаўнаважан, як дэлегат, і тыя, хто быў запрошан госцем, і тыя, хто заставаўся дома пры сваіх неадкладных турботах. На поўны рабочы тыдзень надзённыя клопаты адсунуліся перад найпершым: што там у Крамлі, пра што ідзе гаворка, які пануе настрой?

Шчыра кажучы, настрой быў прадвызначан яшчэ напярэдадні адкрыцця з'езда, калі нядзельныя нумары газет 21 мая абнародавалі

Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР пра ўзнагароджанне Саюза пісьменнікаў **ордэнам Леніна.** «За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры, якая ўвасабляе ідэі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, і адзначаючы ўклад савецкіх пісьменнікаў у камуністычнае будаўніцтва і ў перамогу савецкага народа над фашызмам...» — сказана ў скупых радках афіцыйнага дакумента. А за ім — палавіна стагоддзя стваральнай працы для роднага народа, для партыі камуністаў, для справы камунізма.

І нездарма асноўны пункт парадку дня работы з'езда быў сфармуляваны так надзённа: **«Савецкая літаратура ў будаўніцтве камуністычнага грамадства».** З вяршынь паўвекавога шляху будаўніцтва новага свету былі агледжаны велізарная па сваіх маштабах работа, якую вядзе савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, і плённы ўдзел у гэтай рабоце нашай літаратуры — выказніцы дум і спадзяванняў народных.

Шэсць дзён ва ўрачыстай і строгай зале Вялікага Крамлёўскага палаца ішла змястоўная, гарачая і шчырая размова аб праблемах і задачах савецкай літаратуры, пра якую так усеабдымна сказана ў прывітанні Цэнтральнага Камітэта КПСС з'езду: «Народжаная на крутым павароце гісторыі, у агні рэвалюцыі, савецкая літаратура адкрыла новы этап у развіцці мастацкай культуры чалавецтва. Яе міжнароднае значэнне і аўтарытэт вызначаюцца тым, што яна адлюстравала сусветна-гістарычны вопыт рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадства, барацьбы за сацыялізм, заўсёды несла людзям высокія ідэі камунізма, свабоды, міру і прагрэсу».

Пра аўтарытэт нашай літаратуры сведчыць і тая ўвага, якой удастоілі з'езд вядомыя дзеячы прагрэсіўнай культуры свету. Адклаўшы свае надзённыя справы, яны прынялі ўдзел у форуме пісьменнікаў краіны, дзе, як сказаў у сваім уступным слове **Канстанцін Федзін,** «новая эра, новае грамадства, новае жыццё, новы чалавек». Сярод гасцей — **Георгі Караславаў. Ганна Зэгерс, Яраслаў Івашкевіч, Чарльз Сноу, Крышан Чандр, Джозэф Норт, Марці Ларні, П'ер Гамара, Пабла Нëруда, Ганс Энцэнсбергер, Джанкарла Вігарэлі, Рокуэл Кент...** Бурай воплескаў сустрэла зала імёны літаратараў Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам і прадстаўнікоў нацыянальнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама, імя паэта **Костаса Кадзіяса** — пасланца шматпакутнай Грэцыі.

Побач з руплівасцю і творчым гарэннем, якімі поўнілася кожнае выступленне на з'ездзе, у зале панавала прыўзнятасць, урачыстасць, выкліканыя высокай узнагародай — сведчаннем усенароднага прызнання вялікіх заслуг літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Вялікім, незабыўным для ўдзельнікаў з'езда быў дзень 26 мая, калі ў прысутнасці кіраўнікоў партыі і ўрада Старшыня Вярхоўнага Савета СССР **М. Падгорны** прымацаваў да сцяга Саюза пісьменнікаў ордэн Леніна. Пачуцці, якія валодалі ўсімі, хто сабраўся ў той час у зале, і тымі, хто быў там душою і сэрцам, выказаў К. Федзін: «Як раней на працягу рэвалюцыйнай гісторыі, так і цяпер вобраз Леніна клікаў і кліча пад гэты сцяг працы, сцяг міру і дружбы між народамі».



Пасланцы братняга Узбекістана: Ібрагім Рахім, Уйгун, Мірмухсін.



Сяброўскія сустрэчы дэлегатаў у нулуарах з'езда: Кандрат Крапіва, Максім Танк, Мірзо Турсун-задэ, Барыс Сачанка.

Ідэі дружбы між братнімі народамі, ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму былі ў аснове кожнага даклада, кожнай прамовы. Інакш і не магло быць. Бо на з'езд з усіх канцоў Саюза Саветаў сабраліся майстры многанацыянальнай савецкай літаратуры — больш за пяцьсот дэлегатаў, якія прадстаўлялі шэсць з палавінай тысяч членаў Саюза пісьменнікаў. Толькі за перыяд між з'ездамі творчая арганізацыя вырасла на 1807 чалавек — членаў нацыянальных творчых саюзаў.

Савецкая літаратура ствараецца сёння на 72 мовах народаў краіны. І якой жа складанай была задача дакладчыкаў ахапіць хоць бы асноўныя здабыткі кожнай з літаратур, раскрыць яе галоўныя творчыя праблемы, перадаць трывогі і клопаты актыўных байцоў літаратурнага фронту! Пачаты ўступным словам К. Федзіна даклад быў прадоўжан **Георгіем Маркавым,** які намаляваў шырокую карціну развіцця прозы, адзначыўшы яе характэрныя асаблівасці. «Сцвярджаючы заваёвы сацыялізма, усё шырэй і шырэй ахопліваючы рэчаіснасць, усё глыбей раскрываючы вобраз сучасніка — змагара і стваральніка,— сказаў Г. Маркаў пра нашу літаратуру,— яна выяўляла наспяваўшыя праблемы грамадскага развіцця, шукала новыя шляхі і рашэнні актуальных праблем, часам востра і празорліва ўказвала на цяжкасці, заўважала промахі і недахопы. І ўсё гэта адбывалася таму, што абвастранае пачуццё сучаснасці непадзельна валодала савецкай літаратурай у апошнія гады, складала яе асноўны пафас». Гаворачы пра надзённыя праблемы асваення нашай прозай усёй разнастайнасці жыцця, Г. Маркаў не абмінуў і найбольш прыкметныя недахопы ў творчасці асобных пісьменнікаў. «Сапраўднае майстэрства прозы,— сказаў ён,—не церпіць банальшчыны, штампу, дылетантызму, спрашчэнства, абыякавасці. Нам нельга заплюшчваць вочы на тое, што за апошнія гады плынь шэрай, ремесніцкай і так званай забаўляльнай, а па сутнасці сваёй мяшчанскай літаратуры мае тэндэнцыю павялічвацца».

Са словам пра савецкую паэзію выступіў **Міхаіл Дудзін.** Ён паспрабаваў даць карціну шчырага

братэрства шчодрых паэтычных душ. «Свет паэзіі шырокі, і мне яго ахапіць цяжка,— сказаў прамоўца.— Усёй сваёй многанацыянальнай разнастайнасцю ён шуміць на сусветным форуме паэзіі, сцвярджаючы Праўду нашай рэвалюцыі, справядлівасць чалавечага быцця і шчасце чалавечага жыцця... Нашай многанацыянальнай песні пяцьдзесят гадоў. Нашу песню ўзнагародзілі ордэнам Леніна. Яна абавязана быць па свайму духу ленінскай песняй. Песняй урачыстасці жыцця».

Сучаснае развіццё традыцый савецкай драматургіі складала змест выступлення **Афанасія Салынскага.** Звярнуўшыся да літаратурнай практыкі драматургаў, якія стварылі і ствараюць самы перадавы, самы гуманны ў свеце савецкі тэатр, А. Салынскі прасачыў некаторыя тэндэнцыі драматургіі апошняга часу і прыйшоў да вываду, што «развіваць традыцыі народнасці, рэвалюцыйнага гуманізму і партыйнасці можна ў сучасных умовах, ва ўмовах бурнага росту агульнай культуры народа, толькі на падставе высокіх ідэйна-мастацкіх крытэрыяў. Гэта вымагае грамадзянскага падыходу да жыцця, гэта значыць актыўнага сцвярджэння ідэй партыі, вылучэння становучага пачатку як адпраўной пазіцыі мастака».



Чынгіз Айтматаў — дэлегат ад Кіргізіі.

Пра высокае прызванне савецкай дзіцячай літаратуры гаварыў **Сяргей Міхалкоў.** Не абмінуўшы ніводнага колькі-небудзь значнага твора для дзяцей, прамоўца пераканаўча паказаў, што дзіцячая літаратура з'яўляецца неад'емнай часткай нашай агульнай літаратурнай справы, што яна такая ж шматжанравая, як і ўся літаратура.

Грунтоўна, поўна, па-навуковаму глыбока быў прааналізаван **Леанідам Навічэнкам** творчы вопыт крытыкі і літаратуразнаўства. Гэта быў і аналіз усяго сучаснага стану савецкай літаратуры, бо «пытанні крытыкі і літаратуразнаўства — гэта толькі асобная плоскасць пераламлення агульных праблем і задач, што стаяць перад савецкай літаратурай, як актыўнай духоўнай сілай свайго грамадства».

І ў выступленнях пісьменнікаў, што рабілі калектыўны даклад, і ў прамовах пры абмеркаванні гэтага даклада адчувалася імкненне да глыбокага навуковага аналізу літаратурнага працэсу. Не адзнакай слабасці нашай літаратуры быў і аналіз яе недахопаў, недаробак, пралікаў. Гэта — сведчанне імкнення да вышынь пісьменніцкага майстэрства, бо, як заўважыў Л. Навічэнка, «наша літаратурнае развіццё за апошні час унесла нямала новага ў разуменне эстэтычнай праграмы сацыялістычнага рэалізму.

Храктэрнейшай прыкметай сучаснага мастацкага мыслення стала павага да аб'ектыўных фактараў нашага грамадскага развіцця і імкненне ўстанавіць шляхам іх пазнання аптымальныя ўмовы, здольныя даць прастор творчай актыўнасці членаў грамадства, развіццю і ўзбагачэнню іх асобы... Зусім відавочна і ўзмацненне грамадскай, грамадзянскай актыўнасці мастака, якое выяўляецца перш за ўсё ў самастойным і адказным даследаванні жыццёвых пытанняў, і павышэнне тонусу мастацкіх пошукаў літаратуры».

У сувязі з гэтым прамоўца вызначыў і надзённыя задачы таго жанру, які ён прадстаўляў на высокай трыбуне: «Нам вельмі патрэбна сёння такая крытыка — грамадзянская і разам з тым эстэтычна пільная, узброеная надзённымі крытэрыямі, якая павярае літаратуру жыццём і разам з тым памагае ўзбагачаць жыццёвую практыку адкрыццямі і вывадамі літаратуры».

Праз усе выступленні на з'ездзе праходзіла адна галоўная думка, сфармуляваная ў прывітанні ЦК КПСС,— пісьменнікам можа лічыцца толькі той, хто тонка адчувае пульс часу, хто ідзе з народам у бой і на будоўлю, хто жыве яго справамі і клопатамі, хто аддае яму ўвесь свой талент і майстэрства, увесь запал свайго сэрца. Гэтую краевугольную ў жыцці нашай літаратуры думку выказаў і першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі **Максім Танк.**

Прамоўца ад Беларусі звярнуў увагу з'езда на якасны рост беларускай прозы, яе ўзрослую псіхалагічную глыбіню, яркасць вобразаў, культуру мовы, нацыянальны каларыт, яе падкупляючую праўдзівасць. Ён зазначыў, што і беларуская паэзія, не трацячы сваёй самабытнасці, становіцца ўсё больш інтэлектуальнай і універсальнай. Максім Танк прыгадаў той нядаўні час, «калі жаданае прымалася за рэчаіснасць, а ў пагоні за тыповым трацілася сувязь з сённяшнім днём, калі спаборнічалі: не хто глыбей і праўдзівей адлюструе жыццё, а хто больш яго ўпрыгожыць. Ясна, што і ў гэты час нашымі лепшымі майстрамі было нямала створана праўдзівых, рэалістычных твораў. Але і гэтаму бажку гладкапісання нямала было прынесена ў ахвяру, а падобную прадукцыю мы ахрысцілі «лакіровачнай літаратурай». Але гэтая рэч, відаць, настолькі прывабная і спакушальная для некаторых рэдактараў, што перад ёю яшчэ і сёння не гасне зялёнае святло і адкрываюцца шлагбаумы».



Увагай і ласкай былі акружаны на з'ездзе госці з гераічнага В'етнама.

Сур'ёзная заклапочанасць пра далейшы лёс савецкай літаратуры адчувалася ў кожным выступленні з трыбуны з'езда, у кожным прынятым на ім дакуменце, і найперш — у рэзалюцыі. З'езд быў творчай справаздачай пісьменнікаў перад народам і партыяй аб тым, што створана савецкай літаратурай за паўстагоддзе, аб тых ідэйна-эстэтычных заваёвах, якія сталі новым словам у мастацкім развіцці чалавецтва.

Стан літаратурнай справы ў краіне абмяркоўваўся на з'ездзе з самых розных пунктаў гледжання. І хоць пра маладую літаратуру спецыяльнай гаворкі не было, многія прамоўцы ўсё ж спынялі сваю ўвагу на выхаванні таленавітай пісьменніцкай змены. Першы сакратар ЦК ВЛКСМ **С. Паўлаў** адзначыў плённасць праводзімых камсамолам сумесна з Саюзам пісьменнікаў нарад маладых літаратараў і той добры водгук, які былі сустрэты рашэнні аб устанаўленні ў саюзных рэспубліках прэмій Ленінскага камсамола за лепшыя творы пра моладзь. «Увага да пісьменніцкай моладзі,— сказаў С. Паўлаў,— усямерная, і ста-

лая падтрымка пачынаючых аўтараў — гэта адзін з вызначальных бакоў садружнасці камсамольскіх і пісьменніцкіх арганізацый».

Радасцю за з'яўленне новых талентаў, трывогай за іх выхаванне прасякнута было выступленне **Міхаіла Шолахава:** «Калі ж гаварыць пра ўсіх маладых у цэлым, дык нечага ў кулак шаптаць — цудоўная ў нас расце змена!.. Але і тут ёсць над чым паразважаць і паспрабаваць зазірнуць у будучыню. Я хачу прывесці некаторыя



Барыс Палявой і Рокуэл Кент сустрэліся як даўнія сябры.

лічбы, якія прымушаюць прызадумацца і параскінуць розумам.

На першым з'ездзе пісьменнікаў дэлегатаў да 40 гадоў было 71 прац., на другім — ужо толькі 20,6 прац., на трэцім — 13,9 прац. і, нарэшце, з агульнай колькасці на гэтым з'ездзе — усяго толькі 12,2 прац. Старэем, браткі-пісьменнікі! І ці не час падумаць пра тое, каб смялей прыцягваць маладых і на з'езды і ў кіруючыя органы аддзяленняў і саюзаў пісьменнікаў».

Клопат пра вечную маладосць літаратуры народа, які будуе камунізм, быў не апошні ў рабоце Усесаюзнага форуму пісьменнікаў.

Калектыўнымі намаганнямі дэлегаты з'езда вызначылі творчыя і арганізацыйныя задачы, прынялі некаторыя змены ў статуце Саюза пісьменнікаў СССР, пра якія далажыў **Пятрусь Броўка**.

У аднадушна прынятай рэзалюцыі з'езда адзначана, што за міжз'ездаўскі перыяд савецкія пісьменнікі стварылі шэраг значных кніг пра жыццё савецкага грамадства, асноўным пафасам якіх з'яўляецца паглыбленае мастацкае асваенне сучаснасці. З'езд ацаніў поспехі і выявіў недахопы нашай літаратуры і самы сур'ёзны з іх — тэндэнцыю ў некаторых творах да прыніжэння гераічнай традыцыі савецкай літаратуры, яе жыццесцвярджальнай сілы.

З'езд даў наказ новаму праўленню Саюза пісьменнікаў СССР удасканальваць дзейнасць усёй пісьменніцкай арганізацыі, развіваць творчую ініцыятыву і грамадзянскую актыўнасць кожнага літаратара, патрабаваў заўсёды памятаць пра высокую адказнасць савецкага мастака перад часам і народам.

Рэзалюцыя з'езда падкрэслівае, што трэба непрымірыма выступаць супроць ідэалагічна чужых уплываў, бо «няма і не можа быць мірнага суіснавання паміж ідэямі развіцця чалавецтва, якое ідзе да яго светлай будучыні, і ідэямі рэакцыі, якая імкнецца абяззброіць народы ў іх барацьбе за свабоду, мір, дэмакратыю і сацыялізм».

Аб'яднаць фронт сусветнай інтэлігенцыі перад небяспекай новай вайны — такая была адзінадушная думка з'езда, які адзначыў вялікую і плённую работу, праведзеную пісьменніцкімі арганізацыямі па расшырэнню творчых кантактаў з прагрэсіўнымі замежнымі літаратурамі. І як пацверджанне гэтаму, прагучаў зварот з'езда «Да пісьменнікаў свету», дзе выказан заклік усім, хто ўвасабляе ў сваёй творчасці сумленне і розум народаў, вызначыць сваё месца ў духоўнай барацьбе нашага часу. «Усе сумленныя дзеячы культуры, літаратуры, сапраўдныя майстры слова,— гавtechрыцца ў звароце,— павінны аб'ядноўвацца ў змаганні за будучыню чалавека, за гуманізм і дэмакратыю».

Пад воплескі ўсяе залы з'езд прыняў таксама рэзалюцыю ў сувязі з падзеямі ў Грэцыі і рэзалюцыю па в'етнамскім пытанні.

З'езд пісьменнікаў СССР ад імя ўсіх братніх літаратур аднадушна прыняў як праграму сваёй творчай работы высокія ідэйна-эстэтычныя патрабаванні партыі і заклікаў савецкіх літаратараў аддаць усе сілы душы і таленту на яе здзяйсненне. І ў лісце Чацвёртага з'езда пісьменнікаў Савецкага Саюза Цэнтральнаму Камітэту КПСС, прынятым пад бурную авацыю ўсёй залы, урачыста заяўлена:

**«Мы адкрыта і з гордасцю называем нашу літаратуру партыйнай таму, што ў яе няма і не можа быць іншых інтарэсаў, акрамя інтарэсаў народа, якія выражае наша партыя. Мы называем нашу літаратуру партыйнай таму, што бачым у палітыцы партыі найбольш поўнае ўвасабленне запаветных спадзяванняў прагрэсіўнага чалавецтва. І мы гаворым сёння ад імя ўсёй нашай многанацыянальнай літаратуры: «Выбраўшы сваім ідэалам камунізм — мы будзем верныя яму да канца!»**

Узброеныя яснасцю перспектывы, натхнёныя ўвагай народа, клапатлівай падтрымкай Камуністычнай партыі, савецкія пісьменнікі аддадуць увесь свой талент, увесь запал свайго сэрца новым творчым здзяйсненням, каб праўдзіва і яскрава засведчыць час змагання і будаўніцтва, стварыць жывыя вобразы сучаснікаў — будаўнікоў камунізма.

●●●

## У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ

**вершы Міколы АЎРАМЧЫКА, Алеся КАМАРОЎСКАГА, Міколы КУСЯНКОВА, Міхася СТРЫГАЛЁВА**

**Крытык Рыгор БЯРОЗКІН НЕЎЗАБАВЕ ВЫСТУПІЦЬ з артыкулам пра «ІРАНСКІ ДЗЁННІК» Пімена ПАНЧАНКІ.**

50 год Вялікага Кастрычніка

Эльвіра ГЕРАСІМОВІЧ

# ЖЫВОЕ СВЯТЛО

Усенароднае свята — 50-годдзе Вялікага Кастрычніка — савецкія людзі сустракаюць як стваральнікі светлага, свабоднага жыцця на зямлі. За плячамі пакаленняў пяцьдзесят гадоў нястомнай самаадданай працы, натхнёнай высокай ідэяй будаўніцтва камунізма.

У рэчышчы агульнанароднай барацьбы за камунізм жыве і працуе мастацкая інтэлігенцыя нашай краіны. Як вядома, пабудова камуністычнага грамадства — гэта не толькі новыя вёскі і гарады, не толькі стварэнне магутнай эканомікі і небывалае развіццё культуры, але і ўдасканаленне чалавечай асобы, усебаковае і гарманічнае выхаванне новага чалавека.

Узнікшы ў выніку сусветна-гістарычнай перамогі пралетарыяту, савецкая літаратура і мастацтва сталі адным з важнейшых участкаў нашага грамадскага жыцця. Усталёўваючы камуністычную ідэйнасць і сапраўдны гуманізм, яны выхоўваюць у савецкім чалавеку лепшыя якасці будаўнікоў новага свету.

Мара вялікага Леніна аб літаратуры і мастацтве як непарыўнай частцы агульнапралетарскай, агульнапартыйнай справы ўвасобілася ў нашы дні ў жывую рэальнасць. Няма другой такой краіны ў свеце, дзе літаратура і мастацтва перажывалі б такі бурны росквіт, як у нас, дзе б іх так любілі і цанілі народ, дзе б ён так творча і актыўна ўдзельнічаў у стварэнні сваёй мастацкай культуры.

Перамога Вялікага Кастрычніка дала магчымасць не толькі ўспрыняць усё лепшае, што было дасягнута творчымі намаганнямі папярэдніх пакаленняў, але і стварыла рэальныя магчымасці для развіцця і ўзбагачэння лепшых перадавых традыцый мінулага. Разбудзілася творчая энергія многіх таленавітых мастакоў, якія ў першыя ж паслякастрычніцкія гады ўзбагацілі мастацтва нашай краіны. Сапраўдную сілу гэтага разняволення можна ўявіць сабе, успомніўшы, напрыклад, што ў царскай Расіі толькі восем нацыянальнасцей мелі свой тэатр, а цяпер у нас у краіне спектаклі ставяцца больш чым на 50 нацыянальных мовах, кнігі выдаюцца на 58 нацыянальных мовах. Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя дала магчымасць развівацца літаратуры і мастацтву тых народаў, якія да гэтага не ведалі не толькі прафесіянальнага мастацтва, але нават не мелі сваёй пісьменнасці.

У дружнай сям'і братніх савецкіх народаў жыве і працуе беларускі народ. Дзякуючы перамозе Кастрычніка, Беларусь з адсталай ускраіны царскай Расіі, разбуранай і спустошанай войнамі, ператварылася ў адну з перадавых рэспублік нашай многанацыянальнай Радзімы.

У першыя ж гады савецкай улады пачалося бурнае развіццё беларускай літаратуры і мастацтва. Янка Купала і Якуб Колас, Кузьма Чорны і Цішка Гартны, Платон Галавач, Міхась Чарот, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Лужанін і многія іншыя закладваюць трывалыя асновы беларускай савецкай літаратуры. Прыняўшы з іх рук эстафету, немалы ўклад у яе развіццё ўнеслі Кастусь Губарэвіч, Піліп Пестрак, Янка Брыль, Антон Бялевіч, Андрэй Макаёнак, Анатоль Вялюгін, Аляксей Кулакоўскі.

У залаты фонд савецкай літаратуры па праву ўвайшлі творы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Івана Шамякіна, Івана Мележа. Вялікую папулярнасць у апошнія гады набылі нашы маладыя пісьменнікі Еўдакія Лось, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Барыс Сачанка.

У лепшых творах прозы, паэзіі, драматургіі глыбока адлюстравана гісторыя станаўлення і росквіту нашай рэспублікі, гераічная стваральная праца беларускага народа, яго мужная барацьба за свабоду і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы.

Раманы, аповесці, вершы беларускіх пісьменнікаў атрымалі шырокае прызнанне далёка за межамі рэспублікі. Напрыклад, творы Купалы выдадзены на 17 мовах народаў СССР і зарубежных краін, Коласа — на 16, Бядулі — на 7, Броўкі — на 9. Агульны тыраж толькі аднаго рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні» дасягнуў 2 мільёнаў экземпляраў. Ён выдадзены ў Маскве, на Украіне, у Латвіі, у Балгарскай Народнай Рэспубліцы. Раман «Людзі на балоце» Івана Мележа чытаюць на рускай, украінскай, эстонскай, малдаўскай, латышскай, румынскай, фінскай і французскай мовах.

Выяўленчае мастацтва нашай рэспублікі — таксама дзецішча Вялікага Кастрычніка. Станаўленне яго ішло ў барацьбе з варожымі нацыяналістычнымі і фармалістычнымі веяннямі, прадстаўнікі



**У той даўні 1920 год выступленне духавога аркестра ля агітпоезда лічылася ў гамяльчан вялікім святам.**



**Сёння штодзень ладзяць канцэрты шматлікія творчыя калектывы рэспублікі. І сярод іх — Дзяржаўны ансамбль танца БССР.**

Фота **В. Ждановіча.**



**«Чырвоная зорка» — першы гукавы кінатэатр даваеннага Мінска.**

**Сёння гукавыя кінатэатры скрозь — у горадзе і на вёсцы. І найлепшы сярод іх — «Партызан» у Мінску. Тут паказваюцца шырокафарматныя, стэрэафанічна агучаныя фільмы.**





**Перад вайной у Беларусі было разгорнута будаўніцтва новых школ. Гітлераўцы знішчылі амаль усе — і новыя, і старыя. Цяпер толькі ў Мінску кожны год вырастае пяць-шэсць новых будынкаў для школ. На здымку ўнізе — школа № 19 з басейнам для плавання.**



якіх усяляк спрабавалі адарваць беларускіх мастакоў ад жыватворнага ўздзеяння рускага класічнага рэалізму. Беспрадметнікі і абстракцыяністы пад выглядам рэвалюцыйнай ломкі старога стараліся скіраваць маладое беларускае мастацтва на шлях фармалістычнага трукацтва. Беларускія мастакі выйшлі пераможцамі з гэтай барацьбы. Высокае майстэрства многіх з іх дало магчымасць прадстаўляць беларускае выяўленчае мастацтва на ўсесаюзных мастацкіх выстаўках. Асобныя работы выстаўляліся ў братніх рэспубліках і за рубяжом. У радах Саюза мастакоў БССР цяпер налічваецца больш за 300 чалавек. Гэта — скульптары, жывапісцы, графікі, майстры прыкладнога мастацтва. Многія мастакі маюць ганаровыя званні. Сярод іх народныя мастакі БССР З. Азгур, І. Ахрэмчык, А. Бембель, А. Глебаў, Я. Зайцаў, О. Марыкс, С. Селіханаў, В. Цвірка, Я. Чамадураў.

Здаўна славіцца беларускі народ сваёй музычнасцю, любоўю да песеннай творчасці. Народная песня лягла ў аснову беларускай прафесіянальнай музыкі і ў сваіх лепшых узорах увайшла ў творчасць кампазітараў. Музыка стала сапраўды спадарожніцай нашага жыцця. Яна гучыць цяпер усюды: па радыё і тэлебачанню, у грамафонным і магнітафонным запісу, з канцэртнай эстрады, у кіно, тэатры.

Такія творы, як «Міхась Падгорны» і «Алеся» Я. Цікоцкага, «Надзежда Дурава» і «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Князьвозера» В. Залатарова, «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса, «Мара» А. Глебава, пастаўленыя на сцэне тэатра оперы і балета, сімфоніі Д. Камінскага, П. Падкавырава, М. Чуркіна, М. Аладава, Г. Вагнера, Л. Абеліёвіча, песні Н. Сакалоўскага, У. Алоўнікава, Г. Цітовіча, Ю. Семянякі і іншых прафесіянальных і самадзейных кампазітараў трывала ўвайшлі ў рэпертуар музычных калектываў рэспублікі. Іх добра ведаюць і любяць у народзе.

За гады савецкай улады ў Беларусі нарадзіўся і вырас новы від мастацтва — кінематаграфія. Створаныя яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны беларускімі кінематаграфістамі фільмы «Лясная быль» Ю. Тарыча, «Кастусь Каліноўскі» В. Гардзіна, «Шукальнікі шчасця», «Мая любоў» У. Корш-Сабліна з поспехам прайшлі на экранах Савецкага Саюза.

Як вядома, да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі не было прафесіянальных нацыянальных тэатраў, музычных калектываў і канцэртных арганізацый. Але ўжо ў першыя гады савецкай улады адкрываюцца драматычны тэатр у Мінску (цяпер Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), праз некалькі гадоў — у Віцебску (цяпер Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Яку-





**Гонар беларускага тэатральнага мастацтва — акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Гэта здымак трупы купалаўцаў належыць да суровых дзён Вялікай Айчыннай вайны.**

ба Коласа), потым у Гомелі, Мазыры і іншых гарадах. Сапраўдным цэнтрам музычнай культуры становіцца створаны на пачатку 30-х гадоў Дзяржаўны ордэна Леніна акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета БССР.

Перыяд 1921—1930 гадоў увайшоў у гісторыю беларускага тэатра як перыяд закладкі фундаменту беларускага савецкага сацыялістычнага мастацтва. Грандыёзныя перамены, якія адбыліся ў жыцці савецкага народа, знайшлі шырокае адлюстраванне на беларускай сцэне. П'есы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы, Змітрака Бядулі, Міхася Клімковіча, Ільі Гурскага, Эдуарда Самуйлёнка, Віталя Вольскага займаюць трывалае месца ў рэпертуары нашых тэатраў.

Узрослае майстэрства беларускіх акцёраў дазваляе тэатрам рэспублікі ажыццявіць пастаноўку п'ес вялікіх рускіх драматургаў А. Астроўскага, М. Горкага, А. Чэхава і прыступіць да стварэння спектакляў пра генія рэвалюцыі У. І. Леніна.

Шырокі рост сацыялістычнай па змесце беларускай культуры і паспяховае развіццё тэатральнага мастацтва выклікалі вялікую трывогу сярод беларускіх нацыяналістаў, якія спрабавалі выкарыстаць маладыя тэатры рэспублікі ў мэтах ідэйна чужога, буржуазна-нацыяналістычнага ўплыву на гледачоў. Але іх падкопы сустрэлі ўпорнае супраціўленне тэатральных работнікаў, друку і шырокай грамадскасці. Велізарнае значэнне для росквіту беларускай, як і для ўсёй савецкай, культуры мелі пастановы ЦК ВКП(б) па пытаннях творчага метаду развіцця сацыялістычнага мастацтва.

Яскравым паказчыкам росту прафесіянальнага мастацтва з'явілася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе. З выпадку гэтай падзеі газета «Праўда» пісала: «...Беларускі народ усенародна і пераканаўча паказаў сваю рознабаковую таленавітасць і высокую здольнасць і ў музыцы, і ў танцах, і ў песні, і ў тэатральным і выяўленчым мастацтве».

Вераломны напад фашысцкіх захопнікаў, які парушыў мірную працу нашага народа, і часовая

акупацыя рэспублікі прынеслі незлічоныя страты. Абрабаваны і знішчаны былі не толькі прамысловыя прадпрыемствы, але і бібліятэкі, музеі, клубы, тэатры.

Аднак адразу ж пасля перамогі над ворагам працавіты беларускі народ пры братняй дапамозе рускага і іншых народаў пераадолеў вялізныя цяжкасці і ў небывала кароткі тэрмін залячыў цяжкія раны вайны. Ужо ў 1946 годзе была значна аднаўлена сетка тэатраў, кіно, музычных і харэаграфічных калектываў. У рэспубліцы ствараюцца Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, музычныя вучылішчы і школы, Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

Цяпер у рэспубліцы працуе 11 тэатраў, 7 прафесіянальных музычных і танцавальных калектываў, кінастудыя мастацкіх фільмаў «Беларусьфільм», Мінская студыя хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў, філармонія. Выраслі і ўмацаваліся творчыя саюзы рэспублікі, якія аб'ядноўваюць цяпер звыш 1700 чалавек.

Вядучыя тэатральныя калектывы карыстаюцца прызнаннем і любоўю далёка за межамі рэспублікі. З пачуццём законнай гордасці мы можам гаварыць пра такія спектаклі, як «Апошнія» М. Горкага, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы, «Паўлінка» Я. Купалы, «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона (тэатр імя Я. Купалы), «Несцерка» В. Вольскага, «Ворагі» М. Горкага (тэатр імя Я. Коласа), «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага (рускі тэатр імя Горкага), «Брэсцкая крэпасць» К. Губарэвіча (Брэсцкі тэатр імя ЛКСМБ). Належнае месца ў гісторыі савецкага тэатральнага мастацтва занялі вобразы, створаныя народнымі артыстамі Савецкага Саюза Л. Аляксандроўскай, Г. Глебавым, Б. Платонавым, А. Ільінскім, П. Малчанавым, У. Уладамірскім, Л. Ржэцкай, Л. Рахленкам. Паспяховы ўдзел у міжрэспубліканскіх і ўсесаюзных фестывалях і конкурсах, заваяваныя там прызавыя месцы і дыпломы сведчаць аб сталасці нашых музычных калектываў і асобных выканаўцаў, аб здольнасці творчай моладзі.



За пяцьдзесят гадоў савецкай улады ў Беларусі вырасла вялікая група выдатных пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, дзеячоў тэатра і кіно. Сярод мастацкай інтэлігенцыі рэспублікі лаўрэаты Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій, народныя артысты Савецкага Саюза. Больш як тромстам работнікам літаратуры і мастацтва прысвоены званні народных пісьменнікаў і паэтаў, народных і заслужаных артыстаў, заслужаных дзеячоў мастацтва БССР.

Паэт Максім Танк, відны дзеяч музычнага мастацтва народны артыст СССР Р. Шырма, літаратурны крытык Н. Пашкевіч, тэатразнаўца У. Няфёд, тэлевізійны рэжысёр А. Гутковіч, тэлеаператар В. Пронька, народны артыст БССР З. Стома, заслужаны артыст рэспублікі В. Тарасаў, артысты Л. Давідовіч і Г. Гарбук сталі першымі лаўрэатамі ўстаноўленых у мінулым годзе Дзяржаўных прэмій БССР.

З кожным годам мацнее дружба, пашыраюцца культурныя сувязі беларускага народа з братнімі рэспублікамі. Гэта дружба, якая мае вытокі ў далёкім мінулым, развітая ў перыяд першых пяцігодак, змацаваная крывёй у гады Вялікай Айчыннай вайны і яшчэ больш расквітнелая ў пасляваенныя гады, знаходзіць сваё праяўленне не толькі ў развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі і навукі, але і ва ўзаемаабмене шматлікімі духоўнымі каштоўнасцямі. Нараджаюцца і становяцца традыцыяй усё новыя формы творчага супрацоўніцтва дзеячоў культуры братніх рэспублік і сацыялістычных краін.

Дэкады і фестывалі, дні культуры і абмен выканаўцамі, выстаўкі і гастролі, якія сталі добрай традыцыяй, служаць справе ўзаемаабагачэння і збліжэння нацыянальных культур, справе пралетарскага інтэрнацыяналізму і дружбы народаў.

Нашы калектывы і асобныя выканаўцы з'яўляюцца дастойнымі паўпрэдамі савецкага сацыялістычнага мастацтва за рубяжом. Толькі за апошнія дзесяць гадоў прайшоў абмен дэкадамі і днямі культуры з Польшчай, Румыніяй, Венгрыяй, Балгарыяй, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай, Мангольскай Народнай Рэспублікай. У маі сёлетняга года паспяхова прайшлі Дні беларускай культуры ў Францыі. У жніўні група работнікаў літаратуры і мастацтва выязджае ў Манрэаль.

У многіх краінах свету ведаюць народных артыстаў СССР Т. Ніжнікаву і Н. Ткачэнка, народных артыстаў БССР Т. Шымко, Л. Ражанаву, В. Міронава, заслужанага артыста БССР А. Астрамецкага і іншых выканаўцаў ды цэлыя калектывы, якія дастойна прадстаўляюць беларускае мастацтва за рубяжом.

Выезды нашых акцёраў за мяжу не толькі служаць справе збліжэння нацыянальных культур. Яны з'яўляюцца яскравым паказчыкам таго, якіх незвычайных поспехаў, якога росквіту можа дасягнуць народ, калі ён свабодны, самастойны, калі ён працуе для ўласнага дабрабыту.

Цяпер, калі ўвесь савецкі народ актыўна рыхтуецца да сустрэчы паўвекавога юбілею Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і 100-годдзя з дня нараджэння вялікага Леніна, мастацкая інтэлігенцыя нашай рэспублікі таксама імкнецца дастойна адзначыць велічную дату. Гэта вызначыла накіраванасць рэпертуару нашых тэатраў і канцэртных арганізацый, творчасці пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў і кінематаграфістаў. Пішуцца новыя раманы, аповесці, апавяданні, паэтычныя і драматычныя творы. Рыхтуюцца да перавыдання лепшыя літаратурныя творы мінулых гадоў. Нашы пісьменнікі прымаюць удзел у стварэнні зборнікаў мастацкіх нарысаў пра Мінск і рэспубліку, пра рабочы клас Беларусі, пра Герояў Сацыялістычнай Працы, пра новыя гарады. Выдавецтва «Беларусь» выпусціла «Анталогію беларускага апавядання» ў двух тамах, рыхтуе «Анталогію беларускай паэзіі» ў чатырох тамах, «Анталогію беларускай дзіцячай літаратуры» ў двух тамах, пачалося выданне серыі «Беларускі раман» і г. д.



**Не пазнаць былога універсітэцкага гарадка ў Мінску. Адзін за другім узнімаюцца пад аблокі новыя вучэбныя карпусы. У гэтым будынку займаюцца фізікі.**

Рэпертуар тэатраў папоўніўся такімі спектаклямі, як «Людзі на балоце» І. Мележа, «Сэрца на далоні» І. Шамякіна, «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча, «Дзень цішыні» і «Шостага ліпеня» М. Шатрова, «Мурын бор» І.Ісачанкі, «Любоў Яравая» К. Транёва і іншымі.

Адзначаючы вялікія поспехі ў развіцці беларускай літаратуры і мастацтва, неабходна разам з тым адзначыць, што ў нас яшчэ ёсць пытанні, якія патрабуюць свайго



**Мінчане ганарацца канцэртнай залай Беларускай Дзяржаўнай філармоніі. Сёння тут выступаюць Дзяржаўны сімфанічны аркестр і Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР.**

Фота **У. Крука.**



Мастакі выйшлі на плошчы і вуліцы гарадоў. У мастацкім афармленні беларускай сталіцы да яе 900-годдзя прымалі самы чынны ўдзел маладыя таленты і сярод іх мастак Барыс Забораў і мастацтвазнаўца Алег Сурскі.

далейшага вырашэння. Напрыклад, калі гаварыць пра рэпертуар тэатраў, то ў нас яшчэ вельмі мала высокамастацкіх спектакляў, у якіх глыбока і цікава раскрываліся б людзі і падзеі нашых дзён. Спыняючыся на дзейнасці беларускіх мастакоў, асабліва маладых, ацэньваючы іх творчасць па вялікім рахунку, нельга не сказаць, што на нашых выстаўках яшчэ сустракаюцца хуткаспелыя творы, якія носяць павярхоўны, ілюстрацыйны характар. Яны не раскрываюць ва ўсёй глыбіні сутнасць адлюстраванага. Калі глядзіш некаторыя карціны, міжвольна прыходзіць думка: ці не з'яўляюцца так званыя творчыя пошукі прыкметай таго, што іх аўтарам няма чаго сказаць людзям, і яны спрабуюць за вычварнай формай і колерам альбо схаваць сваю духоўную пустату ці творчую бездапаможнасць, альбо імкнуцца абавязкова праславіцца арыгінальнасцю, забываючы пра тую непахісную ісціну, што сапраўдны талент раскрываецца ў творах, якія нясуць у сабе вялікі гуманістычны змест і звернуты да народа, а не да кучкі эстэцтвуючых снобаў.

Апяваючы прыгажосць прыроды роднага краю, мастакі рэспублікі павінны больш аддаваць увагі таму, каб паўней адлюстраваць жыццё і працу савецкага народа, знайсці яркія фарбы, яскравыя рэалістычныя сродкі для праўдзівага ўвасаблення сённяшняй рэчаіснасці, для раскрыцця чысціні і багацця савецкага чалавека, яго ўнутранага свету.

Больш патрабавальнымі ў сваёй творчасці павінны быць і нашы кінематаграфісты. Стварыўшы ў пасляваенныя гады такія агульнапрызнаныя фільмы, як «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Чырвонае лісце», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Масква — Генуя», «Горад майстроў» і некаторыя іншыя, а таксама рад значных хранікальна-дакументальных стужак, кінематаграфісты не дабіліся таго, каб кожны фільм з беларускай маркай пакідаў след у сэрцах гледачоў, прымушаў іх думаць пра ўбачанае, з'яўляўся сапраўды народным творам. Адна з прычын гэтага ў тым, што студыя, яе сцэнарна-рэдакцыйная калегія і мастацкі савет даюць дарогу слабым, прымітыўным сцэнарыям. Няма яшчэ ў студыі належнай прынцыповасці і пры абмеркаванні сваёй прадукцыі.

Патрабавальнасць да сваёй творчасці — вельмі важная якасць у мастацкай дзейнасці. Высокая ідэйная і мастацкая якасць — абавязковая ўмова грамадскай каштоўнасці мастацтва. Думаецца, што некаторым нашым маладым пісьменнікам, мастакам, кінематаграфістам не хапае яшчэ ўмення пры адлюстраванні тых або іншых падзей глыбока асэнсаваць іх, вызначыць і зразумець іх вытокі, іх рухаючыя імпульсы.

Рыхтуючыся дастойна адзначыць 50-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка, савецкія людзі дамагаюцца новых выдатных поспехаў у развіцці эканомікі, навукі і культуры. Разам з усім савецкім народам новымі хвалюючымі творамі літаратуры і мастацтва сустрэне гэту слаўную дату мастацкая інтэлігенцыя ордэнаноснай Савецкай Беларусі.



**«МАЛАДОСЦЬ» горача віншуе баявы орган камуністаў Беларусі газету «ЗВЯЗДА» з яе слаўным 50-годдзем.**



ЗВѢЗДА

Органъ Минскаго Комитета Р. С.-Д. Р. П.

№ 5. — № 5.

У дзень нараджэння.



ЗВЯЗДА

У дні вайны.



Сёння.

**У жніўні 1917 года пачала выходзіць «Звязда» — першая ў Беларусі бальшавіцкая газета. Яе стваральнікамі і рэдактарамі з'яўляліся выдатныя дзеячы камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы Міхаіл Васільевіч Фрунзе і Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў. Баявы орган кампартыі Беларусі адыгрываў велізарную ролю калектыўнага агітатара, прапагандыста і арганізатара мас на ўсіх этапах сацыялістычнага будаўніцтва. Голас «Звязды» гучаў у навальнічныя перадкастрычніцкія дні, клікаў савецкіх людзей на рыштаванні ў гады першых пяцігодак; угневаная сілай дыхалі**

**яе старонкі ў часе суровага адзінаборства савецкага народа з фашысцкай навалай, памагалі мабілізоўваць працоўных на аднаўленне разбуранай вайной гаспадаркі. І цяпер «Звязда» разам з народам у наступе, у калонах камуністычнага паходу.**

**У «Звяздзе» працаваў і працуе вялікі атрад здольных журналістаў. Пра некаторых звяздоўцаў расказвае ў сваіх нататках Рыгор Сяргеенка.**

# МАЕ СЯБРЫ — ЗВЯЗДОЎЦЫ

Парог «Звязды» ўпершыню я пераступіў вясной 1938 года. Рэдакцыя тады знаходзілася ў трохпавярховым доме па Савецкай вуліцы. Шырокая мармуровая лесвіца, засланая дывановай дарожкай, вяла на другі паверх, дзе знаходзіліся выдавецтва і аддзел пісьмаў. На трэцім паверсе размяшчаліся астатнія аддзелы, кабінеты рэдактара Д. Лебедзева, яго намесніка І. Офенгейма і сакратарыят.

Сельскагаспадарчы аддзел, у якім я стаў працаваць раз'язным карэспандэнтам, займаў невялікі пакой. Адзін пры адным стаялі сталы загадчыка аддзела І. Шляфера, яго намесніка М. Вішнеўскага, літаратурнага работніка І. Новіка.

Мне паказалі стол у пакоі, дзе працавала чалавек з дзесяць. Сярод іх — фельетаніст С. Куняўскі, літаратурны кансультант Ф. Канстанцінаў, мастак, стылісты. І хоць гэта быў самы вялікі пакой у рэдакцыі, у ім заўсёды панавала цішыня, ніхто не курыў, не галёкаў.

Хочацца прыгадаць некаторых таварышаў, якія былі маімі настаўнікамі, вучылі журналісцкаму майстэрству, з кім давялося працаваць.

Пачну з **Мікалая Аляксеевіча Вішнеўскага,** які, дарэчы, і «сасватаў» мяне ў «Звязду».

Пазнаёміўся з ім у Асіповічах, дзе я пасля службы ў Чырвонай Арміі працаваў адказным сакратаром рэдакцыі раённай газеты «Калгасная праца». Гэта было ў 1937 годзе, у дні падрыхтоўкі да першых выбараў у Вярхоўны Савет СССР.

Аднойчы ўвечары я сядзеў у рэдакцыі і пісаў справаздачу з перадвыбарнага сходу. Па Асіповіцкай акрузе ў Савет Саюза Вярхоўнага Савета СССР балатаваўся актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, камкор Елісей Іванавіч Гарачаў. Цікавая біяграфія гэтага данскога казака. Ён добраахвотнікам прыйшоў у Чырвоную Армію, хутка стаў камандзірам эскадрона, затым палка, брыгады. Ваяваў з дзенікінцамі, урангелеўцамі, белапалякамі. Грудзі адважнага камандзіра ўпрыгожвалі ордэны і медалі. Адным словам — чалавек цікавага лёсу. І хоць я шмат ведаў пра яго, а карэспандэнцыя выходзіла шэрая.

Раптам у рэдакцыю зайшоў малады чалавек з партфелем. Прывітаўся, працёр акуляры, зняў вушанку і прадставіўся:

— Мікалай Вішнеўскі, спецыяльны карэспандэнт «Звязды».

Я назваў сябе.

— Што ў вас чуваць? — пацікавіўся ён.

— Ды вось сёння быў у Градзянцы на сустрэчы Гарачава з выбаршчыкамі і пішу пра гэта, — адказаў.

— Можна паглядзець?

— Калі ласка, — я падаў яму свае лісткі.





Звяздоўцы 1955 года: Дзмітры Ермакоў, Рыгор Сяргеенка, Веніямін Смірноў, Васіль Пыжкоў, Пятро Казялецкі, Франц Ляпескі (сядзяць), Мікалай Філімонаў, Нічыпар Пашкевіч, Фёдар Кляцкоў, Вячаслаў Палескі (стаяць).

Вішнеўскі хутка прачытаў карэспандэнцыю і сказаў:

— Ты, браце, прабач, але ад такой нуды мухі падохнуць. Навошта тройчы паўтарацца: «З цікавай прамовай на сходзе выступіў», «Вялікую прамову сказаў», «Бліскучая прамова выклікала бурныя апладысменты». Штамп, браце, і казёншчына. Ніводнага жывога слова...

Няёмка было мне слухаць такое. Але нічога не папішаш: праўду кажа чалавек.

А між тым Вішнеўскі працягваў:

— Вось тут у цябе напісана, што ў прысутных вялікую цікавасць выклікала сустрэча Гарачава з аднапалчанінам. Як там было?

Я расказаў, што на сходзе Гарачаў прыгадаў адзін баявы эпізод. У баі з белагвардзейцамі яго эскадрон кінуўся ў атаку, разграміў варожы штаб, захапіў некалькі гармат, кулямётаў, шмат палонных. Разлік кулямётнай тачанкі віхурай пранёсся па кубанскай станіцы і ў цэнтры яе ўзняў чырвоны сцяг. У гэты момант у зале пачуўся ўсхваляваны голас: «Таварыш камандзір, дык гэта ж я быў ездавым на той тачанцы!»

«Сапраўды знаёмы твар», — прыглядзеўшыся, сказаў Гарачаў і раптам ускрыкнуў: «Іван Камок, баявы мой таварыш!» Яны кінуліся насустрач адзін аднаму, абняліся, пацалаваліся, сталі прыгадваць іншыя ваенныя эпізоды. Сотні людзей былі сведкамі гэтай незвычайнай, усхваляванай сустрэчы.

— Вось аб гэтым і пішы, дзівак! Цудоўна атрымаецца, — сказаў Мікалай Аляксеевіч. — А тыя лісткі выкінь у кошык...

Праз якую гадзіну я паказаў Вішнеўскаму сваю новую карэспандэнцыю. Ён падправіў яе крыху, потым сказаў:

— Цяпер яна падыдзе і для рэспубліканскай газеты. Калі не пярэчыш — перададзім яе па тэлефоне ў «Звязду», за тваім подпісам.

Я з радасцю згадзіўся.

Назаўтра першая старонка «Звязды» адкрывалася карэспандэнцыяй з Асіповіч пад буйным загалоўкам: «Абдымкі баявых сяброў». Па прапанове Міколы Вішнеўскага я стаў нештатным карэспандэнтам «Звязды». Ён часта званіў у Асіповічы, даваў заданні, звяртаў увагу на недахопы ў маіх карэспандэнцыях, правіў іх. Скажу шчыра: парады Міколы Вішнеўскага прыносілі мне вялікую карысць.

Праз некалькі месяцаў мне прапанавалі месца ў рэдакцыі «Звязды». З Міколам Вішнеўскім давялося працаваць у «Звяздзе» каля паўтара дзесятка гадоў. Яго карэспандэнцыі, нарысы, апавяданні заўсёды чыталіся з цікавасцю, бо дакладна адлюстроўвалі нашу багатую рэчаіснасць, былі заснаваны на канкрэтных фактах з жыцця, напісаны з агеньчыкам, жывой мовай.

Вішнеўскі прыйшоў у «Звязду» ў 1931 годзе. Працаваў у аддзеле ўдарных брыгад (быў калісьці такі аддзел у рэдакцыі), потым карэспандэнтам па Крычаўскаму кусту, яшчэ пазней у аддзеле інфармацыі. Але па-сапраўднаму яго талент разгарнуўся ў сельскагаспадарчым аддзеле. Вішнеўскі любіць вёску, добра ведае яе і піша пра яе так, быццам увесь час там жыве. Яно і не дзіва, бо ён наведаў сотні калгасаў і саўгасаў. У рэспубліцы, бадай, няма такога раёна, дзе Мікола Вішнеўскі не пабыў у камандзіроўцы. Яго нарысы пра конюха Мікіту Батоўкіна, аўчара Міхаіла Барушкова і многіх іншых вядомых людзей даваенных гадоў памятаюцца і сёння.

Яшчэ да вайны Мікола Вішнеўскі ўступіў у партыю. У гады Вялікай Айчыннай вайны па стану здароўя яго не ўзялі ў армію, але ён пяром журналіста ваяваў з фашызмам, памагаў каваць перамогу над ворагам. На Калінінскім фронце выдавалася для акупіраванай Беларусі газета «За свабодную Беларусь» і лісток сатыры і гумару «Партызанская дубінка». У іх выданні браў самы чынны ўдзел Мікола Вішнеўскі. Потым працаваў у Маскве ў рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь».

Пасля вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў Мікола Вішнеўскі разам з работнікамі рэдакцыі «Савецкай Беларусі» прыбыў у Навабеліцу, а потым — у Мінск, дзе ўзначаліў сельскагаспадарчы аддзел «Звязды», у 1952 годзе яго прызначылі намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». Працавітасць, высокае сумленне, шчырая дружба — характэрныя рысы камуніста Міколы Вішнеўскага.

Цяпер па стану здароўя Мікалай Аляксеевіч знаходзіцца на пенсіі. Але ён не парывае сувязей з рэдакцыяй і героямі сваіх твораў. Нездарма сярод беларускіх журналістаў, якія летась узнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, быў і Мікола Вішнеўскі.

Бадай самы старэйшы звяздовец, якіх я ведаю, гэта **Алесь Лявонавіч Матусевіч.** Яшчэ ў 1923 годзе актыўнага селькора з вёскі Тхарніца Астрашыцка-Гарадзецкай воласці вылучылі на сталую работу ў рэдакцыю газеты «Беларуская вёска», якая тады выходзіла дадаткам да «Звязды». Крыху пазней Алесь Лявонавіч стаў працаваць у «Звяздзе».

Спярша я ведаў Алеся Матусевіча завочна — па яго нарысах і карэспандэнцыях, якія часта друкаваліся на старонках «Звязды». Захапляўся своеасаблівым стылем гэтага спрактыкаванага журналіста, глыбінёй вырашэння тэмы, яснасцю думкі і той шчырасцю, цеплынёй, з якой ён пісаў пра вёску, яе людзей.

Памятаю, аднойчы мы з дзядзькам Алесем былі ў камандзіроўцы на Любаншчыне — рыхтавалі старонку пра асушэнне балот.

У вёсцы Сарачы мы зайшлі ў канцылярыю калгаса. За сталом сядзеў толькі рахункавод.

— Увесь народ на балоце. Вунь там,— паказаў ён у той бок, дзе рос густы лазняк. Кінуў позірк на нашы ногі і дадаў: — Толькі ў вашых чаравіках туды не прайсці...

Ён сказаў праўду. Там, за тым лазняком, была такая твань, што, здавалася, у ёй патануць можна. Мы разуліся, закасалі штаны. Відаць, выгляд у нас быў даволі смешны, бо першы меліяратар, які ўбачыў нас, не без іроніі запытаў:

— Што вы за людзі? Мо палескія рабінзоны?

— А такі трохі і рабінзоны,— пажартаваў дзядзька Алесь.— Толькі не палескія, а мінскія, рэдакцыйныя...

У той дзень мы адмералі па балоце не адзін дзесятак вёрст. Стаміліся страшэнна. Я ўжо гатовы быў павярнуць назад, а мой нястомны спадарожнік усё мясіў і мясіў багну, пераходзіў ад адной купкі людзей да другой. Знаёміўся, гутарыў, пачутае занатоўваў у блакнот.

— Дык, кажаце, у Івана Шаплыкі выпрацоўка вышэйшая? А дзе ж яго дзялянка?

— У «Воўчым ляску», за Арэсай.

І мы падаваліся туды. Куды ні кінь вокам, усюды балотныя абшары, парослыя лазой і нізкарослым беразняком.

Нарэшце дабраліся да «Воўчага ляска», знайшлі Івана Шаплыку. Ён ахвотна расказваў пра сябе. Так, за дзень яго выпрацоўка дасягнула 105 кубаметраў грунту. Гэта не мала. А вось Пятро Брагінец выкідвае сваёй рыдлёўкай 120 кубаметраў!

Пад вечар знайшлі і Пятра Брагінца. Зноў размовы, запісы. У Сарачы вярнуліся позна. Крыху падсілкаваліся. Алесь Лявонавіч прапанаваў напісаць пра ўсё бачанае.

— Дык жа спаць хочацца, ажно вочы зліпаюцца,— заўважыў я.

— Тады кладзіся, адпачывай. А я папрацую.

Раніцай Алесь Лявонавіч паказаў мне напісаны за ноч нарыс «Агні на балотах».

Памятаю яшчэ такі выпадак. У адной вёсцы ля замкнёнай кра-

Старэйшыя супрацоўнікі газеты: Алесь Матусевіч, Тарас Хадкевіч, Уладзімір Мяжэвіч, Пятро Казялецкі, Павел Кавалёў, Васіль Самуцін, Мікола Вішнеўскі.
Фота У. Кітаса.



мы мы з Алесем Лявонавічам убачылі натоўп жанчын. Яны на чым свет лаялі нейкага Саўку. Высветлілася, што крамнік Саўка разам са старшынёй сельпо трэці дзень п'янствуюць, а людзі не могуць купіць солі, запалак, газы.

— Гэта дзікунства,— сказаў Алесь Лявонавіч.— Мы гэтага вашага Саўку з-пад зямлі дастанем і адсцябаем як след...

Пра п'яніц-кааператараў Матусевіч паведаміў у райком партыі, напісаў крытычную заметку і не супакоіўся, пакуль не былі прыняты меры.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю Алеся Матусевіча ў гады гітлераўскага нашэсця. Здарылася так, што па сямейных абставінах, праз хваробу дзяцей і жонкі, ён не паспеў эвакуіравацца ў савецкі тыл і мусіў жыць на акупіраванай тэрыторыі. Не мог спакойна глядзець Алесь Лявонавіч, як палалі гарады і вёскі, як лілася нявінная кроў. Ён стаў актыўным удзельнікам мінскага падполля, стварыў нелегальную друкарню і пераправіў яе ў партызанскую брыгаду «Штурмавая». Пазней Алесь Лявонавіч разам з жонкай і малымі дзецьмі пакінуў Мінск і стаў народным мсціўцам. У партызанах ён рэдагаваў газету «Мы адпомсцім».

У лютым 1943 года па асабістаму заданню гітлераўскага райхміністра Розенберга ў Мінск з Берліна прыехаў верхавод беларускіх нацыянал-фашыстаў стаўленік СД Фабіян Акінчыц. Знішчыць гітлераўскага вылюдка было даручана Матусевічу. Разам з маладым журналістам Рыгорам Страшком ён выканаў гэта баявое заданне.

У барацьбе з фашысцкімі акупантамі актыўна ўдзельнічала ўся сям'я Алеся Матусевіча, яго сваякі. Жонка Раіса Сямёнаўна і брат Сцяпан Лявонавіч загінулі ў баі, карнікі расстралялі швагра Васіля Харэвіча. Расстраляны і спалены былі ўсе жыхары яго роднай вёскі Тхарніца, у якой жылі стрыечныя браты, сёстры і іншыя сваякі Алеся Лявонавіча.

Пасля выгнання акупантаў з беларускай зямлі Алесь Матусевіч зноў у «Звяздзе». У 1958 годзе, калі быў створаны Саюз журналістаў БССР, яго выбралі адказным сакратаром праўлення Саюза.

Вялікія заслугі ветэрана беларускай журналістыкі перад Камуністычнай партыяй, Радзімай, савецкім друкам адзначаны ордэнамі Чырвонага Сцяга і Айчыннай вайны першай ступені, медалямі «Партызану Вялікай Айчыннай вайны», «За працоўную доблесць», «За працоўную адзнаку».

Алесю Лявонавічу 65 гадоў. І хоць галава яго стала белая, як снег, але ён па-ранейшаму рухавы, непаседлівы. Задорна свецяцца яго разумныя вочы. Алеся Матусевіча можна застаць і ў Саюзе журналістаў, і ў рэдакцыі, на творчым сходзе, і на піянерскім зборы.

У рэспубліцы няма такой рэдакцыі раённай газеты, у якой не ведалі б **Пятра Уладзіміравіча Казялецкага.** Ведаюць па голасе, па тэлефонных размовах, па пісьмах, атрыманых ад яго. Ён загадчык аддзела карэспандэнцкай сеткі «Звязды», галоўны сувязны рэдакцыі.

Кожную раніцу Пятро Уладзіміравіч з'яўляецца ў рэдакцыю. А між тым, ён ужо даўно персанальны пенсіянер. Чатыры гады назад звяздоўцы праводзілі яго на заслужаны адпачынак. Але хіба журналіст-камуніст можа застацца ў баку ад роднага калектыву, у якім працаваў многія гады? Безумоўна, не. Па загаду ўласнага сэрца, на грамадскіх асновах выконвае ён тыя абавязкі, якія выконваў раней, калі не быў пенсіянерам.

Пятро Уладзіміравіч парадніўся з савецкім друкам вельмі даўно — яшчэ ў першыя дні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Было гэта ў Гомелі. Жвавы хлапчук з рабочай сям'і з ахвотай распаўсюджваў бальшавіцкія газеты. У 1919 годзе ён ужо камсамолец. З юнацкім запалам прымае ўдзел у аднаўленні разбураных прадпрыемстваў, у арганізацыі атрада ЧОНа.

Наперадзе былі вялікія планы. І раптам здарылася аварыя на вытворчасці. Пятро Уладзіміравіч застаўся без ног.

Сябры не пакінулі таварыша ў бядзе. Яго накіравалі на вучобу ў Камуністычны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, які знаходзіўся ў Мінску. Жыццёвыя нягоды не зламалі яго волі. Казялецкі вучыўся выдатна, актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. Яго выбралі намеснікам сакратара парткома, даручылі рэдагаваць універсітэцкую шматтыражку.

Вучоба закончана. З 1937 года П. У. Казялецкі ўзначаліў адзін з аддзелаў «Звязды». З таго часу і да сённяшняга дня (за выключэннем гадоў Вялікай Айчыннай вайны, калі ён працаваў у вучэбнай гаспадарцы Стаўрапаль-Куйбышаўскага зааветтэхнікума) журналістыка стала для Пятра Казялецкага асноўным заняткам, а рэдакцыя — родным домам. І кожны з нас, яго таварышаў па працы, заўсёды знаходзіў у яго шчырую падтрымку, параду, дапамогу.

Такіх, як журналісты Мікола Вішнеўскі, Алесь Матусевіч, Пятро Казялецкі, было шмат у кагорце звяздоўцаў. Узяць хоць бы Васіля Емельянавіча Самуціна. Яшчэ ў трыццатыя гады прыйшоў ён у «Звязду». Потым — падпольная дзейнасць у былой Заходняй Беларусі, якая тады знаходзілася пад прыгнётам буржуазнай Польшчы, турэмныя камеры ў Беластоку і Серадзі. Пасля верасня 1939 года — зноў праца ў рэдакцыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны Васіль Емельянавіч — рэдактар абласной газеты «Віцебскі рабочы», якая выдавалася ў партызанскай зоне, сакратар падпольнага абкома партыі, камандзір партызанскага злучэння. Пасля вызвалення Беларусі ён зноў працуе ў «Звяздзе» рэдактарам.

Яшчэ ў даваенныя гады ў «Звяздзе» пачалі свой творчы шлях Тарас Хадкевіч, Антон Бялевіч, Павел Кавалёў, Анатоль Вялюгін, Аляксандр Міронаў. Працавалі ў рэдакцыі і Макар Паслядовіч, і Пятро Прыходзька, і Еўдакія Лось. На пасадзе адказнага сакратара, потым намесніка рэдактара, шмат гадоў плённа працаваў у «Звяздзе» Вячаслаў Палескі. Цяпер ён узначальвае Дзяржаўны камітэт па радыёвяшчанню і тэлебачанню пры Савеце Міністраў БССР.

Цімох Сазонавіч Гарбуноў, які быў рэдактарам «Звязды» ў перадваенныя гады, цяпер акадэмік Акадэміі навук БССР. Былыя звяздоўцы Усевалад Сікорскі, Іван Навуменка, Барыс Умецкі сталі вучонымі.

У ліку тых журналістаў, якія доўга працавалі ў «Звяздзе» і пасля сябе пакінулі добры след,— Аляксандр Бараноўскі, Мікалай Бутрымовіч, Міхаіл Валатковіч, Васіль Грыгор'еў, Даніла Драгун, Сямён Казначэеў, Фёдар Кляцкоў, Рыгор Лях, Мікалай Матукоўскі, Віктар Плешавеня, Нічыпар Пашкевіч, Анатоль Стук, Яфім Столін, Георгі Шчарбатаў, Антон Яблонскі, Дзмітры Ермакоў, Уладзімір Мяжэвіч, Сідар Конанаў і іншыя.

Нельга не ўспомніць добрым словам нябожчыка Франца Ляпескага, які аддаў увесь свой светлы розум і журналісцкі талент нашай старэйшай беларускай газеце. Яшчэ юнаком ён пачаў працаваць у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У гады фашысцкай навалы ён — партызан, рэдактар падпольнай газеты. За гераізм і адвагу, праяўленыя ў баях з акупантамі, Франц Ляпескі быў узнагароджан ордэнам Айчыннай вайны і медалямі. Пасля выгнання нямецка-фашысцкіх захопнікаў ён





Уладзімір Амельянюк. Міхаіл Барашкаў.
Яны рэдагавалі «Звязду» ў падполлі.

працуе адказным сакратарам рэспубліканскай газеты «Савецкі селянін». І, нарэшце,— «Звязда». Дванаццаць гадоў Франц Іосіфавіч узначальваў аддзел прапаганды, з'яўляўся членам рэдакцыйнай калегіі «Звязды». Не зважаючы на цяжкую хваробу, Франц Ляпескі заўсёды знаходзіўся на пярэднім краі барацьбы: выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі, прыцягваў да ўдзелу ў газеце шырокі аўтарскі актыў. Сябры па рабоце захапляліся працавітасцю Франца Іосіфавіча, яго цікавымі задумамі, удалымі знаходкамі. За шчырасць, сяброўства, выключную сціпласць яго любілі і паважалі ў калектыве.

Як вядома, у гады фашысцкай навалы «Звязда» выходзіла ў падполлі, а потым — у партызанскай зоне. Яе рэдактары Уладзімір Сцяпанавіч Амельянюк і Міхаіл Парфёнавіч Барашкаў загінулі на баявым пасту. Уладзіміру Амельянюку пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Не вярнуліся з фронту былы намеснік рэдактара Аляксандр Джэлюк, супрацоўнікі Сямён Куняўскі, Якаў Івашын і многія іншыя.

Амаль трыццаць год, як я пачаў працаваць у «Звяздзе». За гэты час шмат вады ўцякло, шмат падзей і змен адбылося ў калектыве рэдакцыі. Я расказаў толькі пра старэйшых звяздоўцаў. Але і сённяшні калектыў «Звязды» не менш баявы і згуртаваны.

Звяздоўцы-ветэраны разам з журналістамі, якія прыйшлі ў рэдакцыю ў апошнія гады, робяць усё, каб «Звязда» была баявым памочнікам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў выхаванні працоўных, у мабілізацыі іх на паспяховае вырашэнне задач камуністычнага будаўніцтва, каб яна заўсёды была цікавая, змястоўная, задавальняла б нашага патрабавальнага чытача.

**Рыгор СЯРГЕЕНКА.**



# НАСЛЕДНІКІ

Віктар Капульцэвіч зноўку адзін на адзін з сабой: захацелася падумаць аб сённяшнім, асэнсаваць мінулае. Нядзельным ранкам, не спяшаючыся, ідзе ён па-над Бярэзінай, малады, дужы, прыгожы. Ідзе і пільна ўглядаецца ў срабрыстыя хвалі, якія бягуць тут з незапамятных часоў. І раптам на твары Віктара прамільгнула ледзь прыкметная ўсмешка. Прыпомніў, як аднойчы, калі ён з хлопцамі блукаў па заблытаных воўчых сцежках, яго сябар Сашка нечакана праваліўся ў яму. Тады яны шукалі мясціны, дзе некалі партызаны грамілі фашысцкіх захопнікаў.

## АДКУЛЬ ПАЧЫНАЕЦЦА ПАТРЫЯТЫЗМ

Палік для Віктара — не толькі легендарнае партызанскае возера. З ім звязаны, бадай, самы яркі ўспамін з яго камсамольскай біяграфіі. Не так даўно Капульцэвіч, загадчык арганізацыйнага аддзела Барысаўскага гаркома камсамола, з групай актывістаў выконваў «баявое заданне» на востраве Багун.

Хлопцы агледзелі востраў, знайшлі рэшткі зямлянкі. Пазней высветлілася, што ў гады грамадзянскай вайны тут збіраліся змагары за савецкую ўладу, а ў часы Вялікай Айчыннай вайны ў ёй кватаравалі партызаны брыгады «Дзядзі Колі», якую ўзначальваў Герой Савецкага Саюза Пятро Рыгоравіч Лапацін. Зняўшы шапкі, моўчкі стаялі яны ля брацкай магілы, ля тых, хто не скарыўся. Нечакана прыйшла думка: а што, калі аднавіць зямлянку?..

— Мы ўжо думалі пра гэта, — сказалі ў ЦК камсамола рэспублікі. — Зямлянку трэба аднавіць.

Вераснёўскім ранкам група моладзі на чале з Віктарам накіравалася на Палік. Праз нейкі час грузавік спыніўся: балота...

Юнакі і дзяўчаты ўскінулі на спіны рэчавыя мяшкі і пайшлі пешшу. Ішлі па вадзе, па коўзкай багне і твані.

— За мной трымайцеся, — гаварыў час ад часу Даніла Фролавіч Капыткоў, былы рэдактар партызанскай газеты, які добра ведаў гэтыя мясціны. Цяпер ён працуе ў райкоме партыі і ахвотна згадзіўся памагчы моладзі.

Ішлі адзін за адным, як сапраўдныя партызаны. Гэтак жа цяжка было ступаць па гразкім балоце, гэтак жа нязручна несці паклажу, як некалі партызанам. Толькі за спінамі гэтых маладых людзей не паўзлі страхі, не пляліся трывожныя думкі. Балота не таіла нечаканасцей. Віктар думаў пра тое, пра што не раз гаварыў на камсамольскіх сходках: малады чалавек павінен пачынаць жыццё з вывучэння роднага краю, ведаць гісторыю вуліцы, горада, вёскі, раёна, ведаць гераічнае мінулае. Сапраўдны патрыятызм пачынаецца з невялікага — з любві да тых мясцін, дзе нарадзіўся, жывеш.

Нарэшце прыйшлі, адпачылі і — за справу...

Праца была нялёгкая. Самае цяжкае — спілаваць сосны і вытралёўваць бярвенні. Увішна працаваў Іосіф Ляднік, сакратар камсамольскай арганізацыі завода аўтатрактарнага электраабсталявання.

— Ці помніш, Юзік, як тут соладка жылося? — падышоў да яго Даніла Фролавіч. — Ты ж ледзь не памёр тут у вайну...

— Помню трошкі... У блакаду, хворы і галодны, я ляжаў у палатцы. Запомнілася, як прыйшоў узброены фашыст і вырваў з маіх рук лустачку хлеба. Я моцна заплакаў і страціў прытомнасць...

— Ты апрытомнеў праз двое сутак. Фашысты ўжо адступілі. Не ведаю, адкуль узялася скарынка чэрствага хлеба, і яе далі табе. Пачакай, колькі ж табе тады было?.. Пяць гадкоў, здаецца...

Хлопцы і дзяўчаты пачалі ўспамінаць смелыя подзвігі камсамольцаў-барысаўчан Барыса Качана, Артура Ржэуцкага, Грышы Носава, Барыса Фролкіна, Мікалая Капшая. На цэнтральнай вуліцы Барысава пастаўлен помнік Люсі Чалоўскай. Яе маці — партызанка Марыя Гаўрылаўна — жыве цяпер па вуліцы, якая носіць імя роднай дачкі. Аб гэтым ішла гамонка ў той вечар каля партызанскага кастра.

...На трэці дзень пайшоў зацяжны дождж, але работа не спынілася ні на мінуту. Хлопцы ўкладвалі бярвенні ў зруб, масцілі столь. Калі ж усё было зроблена, высеклі памятны надпіс на зрубе.

Аднаўленне зямлянкі — гэта шчырая павага да тых, хто аддаў сваё жыццё за людское шчасце, хто адстаяў заваёвы Кастрычніка, хто завяшчаў нам нястомна працягваць рэвалюцыйныя традыцыі.

## ЯК АД ГІМНА, ШЧЫМІЦЬ СЭРЦА...

Віктар, можа, і не сказаў бы адразу, чаму кожны раз, калі ён праходзіць каля помніка танкаваму экіпажу Паула Рака, заўсёды спыніцца і доўга-доўга глядзіць на яго, нібы бачыць упершыню.

Летам 1944 года савецкія войскі падышлі да Барысава. Першым уварваўся ў горад танк, якім камандаваў лейтэнант Павел Рак. Шаснаццаць гадзін ён сеяў смерць і перапалох у варожым гарнізоне, разграміў камендатуру, расстраляў дзесяткі гітлераўцаў, выратаваў дзвесце савецкіх ваеннапалонных. Потым у экіпажа танка скончыліся боепрыпасы...

...І вось яна — на высокім пастаменце, ля моста, застыла баявая машына — суровы помнік людзям, якія не паміраюць.

Здарылася так, што гэты помнік стаў для Віктара часцінкай яго жыцця, нечым сваім, асабістым. Вось з чаго гэта пачалося...

Подзвігам экіпажа зацікавіліся піянеры сярэдняй школы № 1. Сакратаром камсамольскай арганізацыі школы была тады Ларыса Краўчанка. Для грамадскай работы яна не шкадавала ні сіл, ні часу ды яшчэ паспявала і выдатна вучыцца.

Даведаўшыся пра намеры Ларысы, Віктар паехаў у школу. Пайшлі да дзяцей. А тыя рады старацца: расказалі, як стварылі музей гісторыі камсамола, як вучацца і што іх цікавіць. Выявілася, што кожны амаль на памяць ведае прамову У. І. Леніна на III з'ездзе РКСМ. Наперабой дэкламавалі:

— «Камуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць ведамі ўсіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва».

У той жа дзень дамовіліся, што Віктар дапаможа школе арганізаваць тэматычны «агеньчык», адрамантаваць майстэрню, а піянерская дружына вырашыла змагацца за тое, каб лепшаму атраду было прысвоена імя Героя Савецкага Саюза Паўла Рака.

Піянеры і камсамольцы моцна пасябравалі з Капульцэвічам. Ён прыходзіў у школу, як свой, дапамагаў, калі трэба было, працаваў разам з усімі. А справы знаходзіліся кожнаму. Вучні старэйшых класаў разам з камсоргам Ларысай Краўчанка стваралі музей У. І. Леніна, шукалі для яго экспанаты, рабілі фотакопіі, майстравалі рамкі. Малодшыя, на чале з Валяй Лаўранюк, збіралі матэрыял аб гераічнай гібелі бясстрашнага экіпажа танкістаў. І пошукі не прапалі марна. З далёкага Нарыльска ў Барысаў прыехала старэнькая маці лейтэнанта Рака. Гэта былі хвіліны ўрачыстага смутку для ўсіх вучняў.

— Помнік будзе для нас свяшчэнным месцам, — сказалі на развітанне школьнікі.

З таго дня вучні часта прыходзяць да помніка, каб прынесці свежыя кветкі, каб самым дастойным павязаць тут гальштукі ці ўручыць камсамольскія білеты.

## КАРЧАГІНЦЫ НЕ ЗДАЮЦЦА

Захварэў Лёнька Рашкоўскі. Доўга лячыўся ў гарадской бальніцы, аб'ездзіў паўднёвыя курорты, і — нічога не памагло... Перасталі слухацца ногі. Пакінута вучоба ў інстытуце. Хатнія сцены ізалявалі ад сяброў, грамадскага жыцця. Чалавек застаўся адзін на адзін з сабой. У безнадзейнасці, у роспачы...

Задумаўся Віктар, чым дапамагчы Лёньку, як зрабіць яго актыўным камсамольцам-змагаром. Тады і хвароба павінна адступіць. І юнак будзе з намі.

Параіўся з сакратаром гаркома камсамола Фёдарам Гаспадарыкам.

— Зробім яго членам гарадскога штаба «Камсамольскі пражэктар», — прапанаваў Фёдар.

— А на кватэру правядзем тэлефон... — дадаў Віктар.

І вось пачалі Леаніду званіць, прасіць дапамогі: камусьці рамонт зацягнулі, абсталяванне прастойвае, камусьці зарплату затрымалі. З райкома партыі прасілі:

— Напішы вершаванае прывітанне да Дня хлебаробаў.

Лёнька званіў, пісаў, дапамагаў — жыў разам з сябрамі, адчуваў сябе ў камсамольскім страі. Ад гэтага станавілася лягчэй на душы.

У Леаніда — шырокія інтарэсы. Ён вывучае мінулае Беларусі. Ён добра ведае гісторыю Барысаўскага камсамольскага падполля. Нядаўна з цікавасцю ўзнаў пра дзейнасць выдатнага рэвалюцыянера, барысаўчаніна Антона Данілавіча Трусава, саратніка Кастуся Каліноўскага, члена рускай секцыі І Інтэрнацыянала, аднаго з аўтараў вядомага пісьма рускіх дэмакратаў да Карла Маркса.

Калі Леанід хоча пра што даведацца, ды не мае дапаможнікаў, звяртаецца да сяброў.



У Леаніда Рашкоўскага шмат сяброў. Ім ён давярае свае запаветныя думкі і пачуцці, што выліліся ў паэтычныя радкі.



Віктар Капульцэвіч, нядаўна выбраны першым сакратаром Барысаўскага гаркома ЛКСМБ.

## ЧАМУ ВІКТАР ЗАДУМАЎ СТАЦЬ ФІЛОСАФАМ

Пасля дзесяцігодкі, не задумваючыся, Віця Капульцэвіч пайшоў на аўтарамонтны завод. З першых дзён ён не баяўся запэцкаць рукі мазутам, не баяўся перанагрузкі. Моцна падружыўся з такарным станком, які перадаў яму стары ветэран. Працоўны лёс звёў яго з сям'ёй Петракоўскіх, цудоўнай сям'ёй патомных рабочых. Самы малодшы — Толя Петракоўскі — быў універсальным рабочым. Калі Віктара выбралі камсоргам завода, Толя стаў яго намеснікам. Яны разам запальвалі «Камсамольскі пражэктар», разам стваралі палітгурткі, мастацкую самадзейнасць, першымі выходзілі на камсамольскія суботнікі, спартыўныя спаборніцтвы.

Спачатку Віцю проста здзіўля-

ла, як гэта Толя знаходзіў падыход да кожнага. Такому ўмельству нельга не пазайздросціць. Варта было яму пагаварыць з чалавекам, нават з самым незгаворлівым, як той згаджаўся і абавязкова рабіў тое, што трэба было калектыву. А ў гэтага хлопца ўсё было: і свежая думка, і рамантычная ўзнёсласць, і ветлівая ўсмешка, і здзіўляючая прастата, і нястомная рухавасць. Яму не спатрэбілася ісці ўсляпую — перад ім быў шлях сяброў.

Так, ён пайшоў па шляху лепшых і, выкарыстоўваючы іх вопыт, шукаў свой стыль работы. Бо стыль — гэта чалавек, натуральнае выражэнне яго сутнасці. Стыль Віктара — быць сярод моладзі, ведаць яе настрой, разумець запатрабаванні, памагаць расці. Яго рабочае месца не ў кабінеце, а ў цэхах, майстэрнях, школах, клубах — там, дзе выконваюцца вытворчыя планы, дзе моладзь узбагачаецца ведамі, дзе гартуецца характар новага чалавека. Яго прафесіяй стала работа з людзьмі. А гэта патрабавала ўмення вызначыць галоўнае і ўсякую справу даводзіць да канца.

Віктар не пайшоў па самым лёгкім шляху — павучаць людзей, на што так здатныя некаторыя камсамольскія кіраўнікі. Яму было сорамна, як сказаў паэт, «народ агітаваць, каб людзі больш і больш штодня рабілі». Ён бачыў, як добра працуюць людзі, як выдатна робяць сваю справу. Таму ён не імкнуўся «ахапіць» усю масу, а стараўся ўздзейнічаць, дапамагчы ў першую чаргу тым, хто меў у гэтым патрэбу.

Пільныя вочы Віктара не прамінулі таго, як недаверліва пераглядвалі рабочыя на Міхася Казака, які прыйшоў на завод «з грашком». Адным махам, як кажушок з плеч, былую «славу» з сябе не скінеш. Трэба даказаць, што ты ўсё зразумеў і што цяпер ты не горшы за іншых.

Міхась працаваў старанна. Адпрацуе і — дамоў... Не адну гадзіну правёў Віктар ля станка Казака. Пра што толькі яны не перагаварылі. Не адзінаю працай хацеў жыць Міхась, і Віктар прапанаваў хлопцу тое, на што ён быў вельмі здольны:

— Прыходзь на стадыён, будзеш гуляць у футбол.

Хутка Міхась стаў душой футбольнай каманды. Немалая заслуга яго ў тым, што каманда аўтарэмзавода выступала на першынстве рэспублікі і заняла першае месца ў горадзе. Цяпер Міхась — універсальны слесар. Марыць паступіць у завочны палітэхнікум. Віктар спакойны за лёс Міхася. А вось што будзе з Віцькам Чарняўскім — гэтая думка ні на хвіліну не выходзіла з галавы.

У семнаццаць год Чарняўскага судзілі. За дробнае хуліганства ён атрымаў год турэмнага зняволення. Вярнуўшыся, уладкаваўся ў будаўнічым трэсце і трапіў у асяроддзе ненадзейных дружбакоў, ад якіх можна чакаць усяго. Але ж ганебнае не павінна паўтарыцца. Віктар дазнаўся, што Чарняўскі добра спявае.

— Дапамажы нашым хлопцам правесці канцэрт, — прапанаваў ён Чарняўскаму. — А калі спадабаецца, можа, застанешся ў нас?

Канцэрт удаўся. Чарняўскі тэмпераментна, весела вёў праграму, спяваў.

— Дзе вы адкапалі гэтага хлопца? — запытаўся дырэктар у камсорга. — Вось бы нам такога!

Капульцэвіч расказаў яму пра Чарняўскага.

Але дырэктар не суняўся:

— Пагавары з ім. Можа, згодзіцца?..

Заручыўшыся згодай Чарняўскага, Капульцэвіч пайшоў у аддзел кадраў.

— А ці ўтрымаецца? — спыталіся там.

— Утрымаецца, — упэўнена адказаў камсорг. — Ён будзе з намі.

Чарняўскага прынялі на завод. Яму патрэбна была падтрымка, і яна, як яму здавалася, прыйшла неспадзявана. На душы было суцешна і радасна. Цяпер, нарэшце, ён стане кваліфікаваным рабочым. Ён не пашкадуе сіл, каб крок у крок ісці з камсамольцамі, з лепшымі рабочымі. Яму ўжо хапіла часу, каб разабрацца ў сабе, каб назаўсёды пакончыць з ганебным пачаткам. За дабрату плаціць дабратой...



Не было дня, каб Віктар Капульцэвіч не сустракаўся з Чарняўскім. Цяпер ні аднаго вечара адпачынку, ні аднаго тэматычнага «агеньчыка» не абыходзілася без Віцькі Чарняўскага, без яго песень і арганізатарскай ініцыятывы. Калі на вечарах дзяжурылі Чарняўскі і Міша Казак, Капульцэвіч мог быць упэўненым — усё будзе, як трэба.

Нялёгкі шлях прывёў Віктара Капульцэвіча ў гарком камсамола. Ён заслужыў гэтае пачэснае права, як узнагароду, якую атрымоўваюць тыя, хто ўсё добрае аддае людзям бескарысна, а не па разліку. Яго важным здабыткам было тое, што Віктар навучыўся разумець чалавека, навучыўся падысці да кожнага паасобку. Ён умеў пагаварыць з навічком і старым рабочым, з галоўным інжынерам і майстрам, з піянерважатай і проста бабуляй. Ён навучыўся слухаць кожнага і не кідаць словы на вецер.

Капульцэвіч прыйшоў у гарком студэнтам завочнага аддзялення філасофіі БДУ імя У. І. Леніна. Ці выпадкова выбраў ён гэтае аддзяленне? Кожны дзень камсамольскай работы сутыкаў яго з рознымі пераменамі, фактамі, новымі з'явамі і рысамі людзей, часам нечаканымі і супярэчлівымі. Ён бачыў лёс людзей, іх імкненні, хваляванні, памылкі. Усё гэта прымушала думаць і думаць. Усё трэба было самому асэнсаваць, зразумець, узважыць. Ён заглядаў у працы Маркса, Энгельса, Леніна, Пляханава, Чарнышэўскага. Як паветра, яму неабходны былі грамадскія навукі. Першай сярод іх стала філасофія — навука аб агульных законах развіцця прыроды, грамадства і чалавечага пазнання. Яна дапамагала Віктару бачыць вялікае ў самым маленькім, удасканальвала пачуццё новага, дапамагала разумець дыялектыку жыцця.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ.**

Фота **В. Ждановіча**

# ...ІМЯ ЛУНАЧАРСКАГА

**Фотарэпартаж**

Беларуская дзяржаўная кансерваторыя імя Луначарскага — дзецішча Кастрычніка. Яна ўзнікла ў выніку клопатаў партыі і дзяржавы пра здзяйсненне ленінскай нацыянальнай палітыкі. Ля яе калыскі стаялі такія выдатныя дзеячы музычнай культуры, як М. Аладаў і В. Сямашка, А. Бясмертны і В. Залатароў, М. Мацісон і Ю. Дрэйзін, Я. Зільберберг і П. Ціханаў, Г. Папавіцкі і А. Амітон, А. Уласаў і А. Клумаў.

Сёння на двух яе факультэтах — кампазітарскім і выканаўчыцкім — займаецца звыш 900 студэнтаў, у трыццаць разоў больш, чым трыццаць пяць гадоў таму назад, калі кансерваторыя засноўвалася. Тут выкладае амаль



Наталля Дзікун, Валянцін Бадзяра, Таццяна Сапетка, Міхаіл Каган, Соф'я Савіцкая. Яны пераступілі парог кансерваторыі.
Пройдуць гады і іх прозвішчы мы прачытаем у канцэртных праграмках, на тэатральных афішах.

200 прафесароў, дацэнтаў, асістэнтаў, сярод якіх і тыя, хто вучыўся некалі ў кансерваторыі: яе рэктар дацэнт У. Алоўнікаў, загадчык кафедры кампазіцыі прафесар А. Багатыроў, загадчык кафедры народных інструментаў дацэнт Г. Жыхараў, прафесар І. Жыновіч.

Акрамя дванаццаці кафедр і аспірантуры, кансерваторыя мае оперную студыю і падрыхтоўчае двухгадовае аддзяленне для вакалістаў і кампазітараў з ліку тых, хто выявіў выдатныя творчыя здольнасці.

Беларуская дзяржаўная кансерваторыя рыхтуе музыкантаў вышэйшай кваліфікацыі не толькі для нашай рэспублікі. Яе выхаванцаў можна сустрэць у творчых калектывах шмат якіх гарадоў краіны Саветаў.

Нашы фотакарэспандэнты **Валянцін Ждановіч** і **Марат Рубінштэйн** запрашаюць вас завітаць у будынак кансерваторыі, што на плошчы Свабоды ў Мінску.



**Старэйшы беларускі кампазітар прафесар Мікалай Ільіч Аладаў стаяў ля калыскі кансерваторыі. Ён і сёння ў страі. І не толькі як творца і педагог... А і як грамадскі дзеяч. Дзе не даводзіцца бываць Мікалаю Ільічу ў гасцях... На гэты раз — у ваенных маракоў.**



**Прыклад выкладчыкаў пераймаюць іх выхаванцы. Выпускнік Сяргей Выдрын, перш чым паказаць сваё майстэрства дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, «здае іспыты» на шэфскім канцэрце.**



**Віктар Біцюцкіх скончыў толькі другі курс. Ён задаволен, што выбраў сабе шлях спевака.**



**Прафесар Анатоль Васільевіч Багатыроў трыццаць пяць гадоў назад вось гэтак, як яго сённяшнія выхаванцы Леанід Захлебны і Віктар Войцік, пільна слухаў свайго настаўніка, вядомага кампазітара Васіля Андрэевіча Залатарова.**



**Марыя Бяспамятных — цымбалістка. Яна ўключана ў групу выканаўцаў, якая будзе браць удзел у днях Беларускай ССР на сусветнай выстаўцы «ЭКСПО-67».**

**Штогод оперная студыя кансерваторыі рыхтуе адзін ці два спектаклі. Сёлета студэнты паказалі оперу Вісарыёна Шабаліна «Утаймаванне свавольніцы». Таісія Паныш выконвала партыю Катрын.**





**Галіна Кандрацюк даўно пасябравала з віяланчэллю. Сёлета яна скончыла першы курс. Наперадзе — праца, праца і праца...**



**Хто не ведае цудоўных песень Ігара Лучанка. Творчую дзейнасць ён удала спалучае з педагагічнай. Нядаўні выпускнік кансерваторыі ў ёй і выкладае.**

**Наталля Жога здае канцэрт-залік.**







Беларускі кампазітар Пятро Падкавыраў стварыў оперу «Паўка Карчагін». Першае сцэнічнае ўвасабленне яна атрымала ў кансерваторыі. Леанід Паляноў выступіў у загалоўнай ролі, а Раіса Пркашко ў ролі Тоні. Гэты спектакль студэнты прысвяцілі 50-годдзю Кастрычніка.

Перш чым выйсці на сцэну, даводзіцца шмат працаваць у класе. Алег Купчанка (злева) займаецца ў вядомага саліста беларускай оперы народнага артыста рэспублікі Леаніда Бражніка.

● ● ●

# ГАНДЛЁВЫЯ СВЕТАЦЕНІ

**ЗДОБА І САХАРЫНА. НЕЙЛОНАВАЯ ПРАБЛЕМА. 700 РУБЛЁЎ НА ПАКУПКІ. КНІЖНЫ СНАБІЗМ? АГУРКІ Ў МАІ. ЗАВОД І ПРЫЛАВАК. ЗДАБЫЧА ЗОЛАТА НА АБУТКОВАЙ БАЗЕ. ГАНДЛЁВАЯ ЭСТЭТЫКА. АДСПЯВАНЫЯ «ШПІЛЬКІ». МАЛАДЫЯ АФІЦЫЯНТЫ І НОВЫЯ КАФЭ. УСЕ МЫ — ПАКУПНІКІ...**

Ля мінскага ЦУМа заўсёды людна.



У сорак трэцім, прамяняўшы апошні бацькаў гарнітур на пуд жыта, маці казала:

— Так мне і трэба. А то, бывала, прыйдзеш у булачную і пачнеш носам круціць: гэтага не хачу, тое — не смачна... Выбіраеш самае свежае, цёпленькае ды здобнае...

І пасля вайны яшчэ ціснуліся з пяці гадзін раніцы ў чарзе, каб толькі а дзесятай купіць бохан ацеслівага хлеба. І яму былі рады бясконца.

Не верыцца, што жылі ў такі цяжкі час...

Сёння зноў прыйдзеш у булачную і круціш носам: гэта счарсцвелае, тое — макам не пасыпана. Выбіраеш самае свежае, цёпленькае...

Ды што хлеб! У нас цяпер і да хлеба ўсяго хапае.

Кінем позірк на прыхамаці сучаснага пакупніка. Якая эвалюцыя адбылася ў яго поглядзе на дэфіцытнасць тавару. Што ў яго патрэбах займае першае месца?

Нейлонавая сарочка. Імпартны мадэльны абутак. Шарсцяны трыкатаж. Чырвоная ікра. Армянскі каньяк. Панчохі з узорам. Апельсіны...

А дваццаць гадоў назад ён лічыў раскошай купіць на базары дзве самаробныя цукеркі на сахарыне.

Эвалюцыя ў густах пакупніка адбылася таму, што наш гандаль надзвычай вырас. Штогод у рэспубліцы таваразварот вырастае на пятнаццаць-дваццаць працэнтаў.

— Лічбы добрыя,— гаворыць намеснік міністра гандлю БССР **Леанід Іосіфавіч НАРКЕВІЧ**,— а тавараў усё роўна не хапае. Я растлумачу гэта...

За апошнія два гады значна павялічыліся рэальныя даходы насельніцтва. Павышана зарплата работнікам многіх спецыяльнасцей. І асабліва выраслі даходы сельскага насельніцтва: на 65 працэнтаў! На восеньскіх раённых кірмашах у мінулым годзе некаторыя калгасныя сем'і куплялі тавараў на 700 рублёў!

Нейлонавую, трыкатажную і часткова (бо ёсць і ў нас добры абутак) абутковую праблемы дзяржава вырашае пакуль што за кошт імпарту. Імпарт тавараў прамысловай прадукцыі павялічваецца ў 2,3 раза. За вопратку з замежнымі ярлыкамі дзяржава разлічваецца не толькі абменнымі аперацыямі, але і валютай.

Нашу моладзь цікавяць таксама матацыклы, турысцкія палаткі, скураныя мячы, гантэлі, транзістарныя прыёмнікі, лыжы і хакейныя клюшкі. Усё гэта ці было, ці не перастае быць дэфіцытам...

Скажам, матацыклы. Зімою іх навалам, а летам купіць вельмі цяжка. За выключэннем мінскіх машын. І не таму, што завод пад бокам. Завод халадзільнікаў у нас таксама свой, але мінскі халадзільнік хутчэй купіш у Вільнюсе, чым у нашым ЦУМе. Значыць, мінскія матацыклы... Адным словам пакупнікі з большай ахвотай купляюць «Явы», «ІЖы», «Панноніі», «Урал».

— Вось дык задача!
Знайсці кнігу, якая выдавалася мо дзесяць гадоў таму назад нялёгка нават такому спрактыкаванаму прадаўцу, як Мейер Барбараш.





Лепшая секцыя ў ЦУМе — па продажу галантарэі. Гэта вынік старанняй працы Ларысы Ходаравай і Зоі Размысловіч.

Раней цяжка было набыць брызентавую палатку. Цяпер «Белкультгандлю» трэба паставіць «пяцёрку»: палатак удосталь. Толькі ў мінскім магазіне «Турыст» іх ажно дванаццаць відаў...

З гантэлямі таксама. Іх у Беларусь завозілі з іншых рэспублік. Эканамічная рэформа прымусіла гаспадарнікаў рабіць іх на заводзе запчастак, на шарыкападшыпнікавым. Выгадна, бо палавіна прыбытку ад продажу шырспажыву застаецца на заводзе. Цяпер у Беларусі выраблююць пакрышкі для скураных мячоў, лыжныя мацаванні, гімнастычныя маты. Толькі два буйнейшыя прадпрыемствы Мінска — аўтамабільны і трактарны заводы — да-



юць на 575 тысяч рублёў у год тавараў шырокага ўжытку.

З транзістарамі горш. У нас няма пакуль прыёмніка, які мог бы канкурыраваць са «Спідолай». А яе днём з агнём не знойдзеш.

Прадаўцы гарадскіх магазінаў «Белкнігагандлю» толькі патыліцы чухаюць, калі ў іх запытаешся, скажам, пра зборнікі вершаў Барыса Слуцкага, Яўгенія Яўтушэнкі, Леаніда Мартынава... Творы гэтых і іншых папулярных пісьменнікаў разыходзяцца, не трапляючы на прылаўкі. А ў «глыбінцы», у далёкіх раённых крамах, яны ляжаць месяцамі. На радасць камандзіровачным.

Адзін знаёмы бібліяфіл сказаў наконт кніжнага гандлю з-пад прылаўка:

— Ахвотнікаў купіць навінку больш за яе тыраж. Кніжны снабізм ахапіў самыя шырокія колы: футбалістаў, інжынераў, мастакоў, манекеншчыц,



Умеюць прапанаваць новыя тавары ў сталічным магазіне сінтэтыкі.

адміністратараў, сцюардэс. Снобы «дастаюць» кнігі дзеля сенсацыі, каб выхваляцца: а ў мяне, маўляў, ёсць і такая!.. Затое пісьменнікі, журналісты, выкладчыкі мовы і літаратуры, тыя, для каго кніга — іх хлеб надзённы, маюць мінімальныя магчымасці яе набыць. Можа, няблага было б увесці кніжны «паёк» для філолагаў, як гэта было ў трыццатыя гады?..

У інстытуце «Мінскпраект» давялося назіраць такую сцэну:

— Іван Іванавіч! Хочаце мець Бабеля?

— Бабеля?..

— Бабеля, Бабеля. Беня Крык расказвае за Адэсу...

— Н-ну, давай, давай...

Павел Пятровіч, намеснік Івана Іванавіча, услед:

— І мне.

А Марфа Сідараўна, машыністка, з чароўнай усмешкай:

— Не забудзьцеся пра мяне, галубок! Вельмі люблю Бебеля (?)...

— Раз, два, тры — пяць экземпляраў! Заўтра будзе...

Як помніцца, 1964 год быў ураджайны на яблыкі. Тады ні гандаль, ні апрацоўчая прамысловасць не справіліся з «яблычным патопам». Кажуць, што некаторыя калгасы тады нават сіласавалі яблыкі.

Ураджай на агуркі летась не быў надта вялікі. Сярэдні быў ураджай. Але з агуркамі атрымалася нешта падобнае на тое, што з яблыкамі. У маі ў мінскіх магазінах толькі і чуеш ад прадаўцоў:

— Папярэджваю, агуркі мяккія, перакіслыя.

Іх рэдка хто купляе: папярэджанне дзейнічае. Што ж будзе з агуркамі? Выкінуць, спішуць, як спісваюць змарнаваныя на базах памідоры і цыбулю, вінаград і яблыкі. А ці не варта ўвосень прадаваць больш свежых агуркоў для дамашняга засолу!..

Нашаму эканамічнаму росквіту перашкаджаюць міжведамасная цеганіна, дрэнная арганізацыя вытворчасці і гандлю, слабыя сувязі паміж прадпрыемствам і магазінам. Перадавыя гандлёвыя арганізацыі імкнуцца скасаваць гэтыя недахопы. Вось што зроблена ў рэспубліканскай канторы «Белабутакгандлю» і ў мінскім ЦУМе.

Пры гэтай канторы ёсць Мінская гарадская і абласная база. Праз яе праходзіць абутак не толькі нашых прадпрыемстваў, але і замежных. Тут можна ўбачыць тавары амаль усіх еўрапейскіх краін, а таксама з Індыі, В'етнама, Пакістана. Гадавы таваразварот — 411 мільёнаў рублёў.

ЦУМ — буйнейшы магазін Беларусі. Ён разлічаны на 300 прадаўцоў. За кошт рацыянальнага выкарыстання гандлёвай плошчы паставілі яшчэ 60. Універмаг трымае пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства гандлю БССР.

Кіраўнік «Белабутакгандлю» **Пятро Васільевіч ЮСНЕВІЧ**, галоўны таваразнаўца **Марыя Рыгораўна ЖАРКОВА**, камсорг ЦУМа **Жана ЛІПЕНЬ** расказваюць:

**Юсневіч:** Мы цяпер больш пачалі ўплываць на выраб абутку. Калі два гады назад з іншых рэспублік мы ўвозілі дзесяць працэнтаў абутку, дык цяпер толькі паўпрацэнта. Беларускія прадпрыемствы сёлета ў першым квартале далі звыш плана 97 тысяч пар абутку з адыходаў сыравіны. Абутак гэты выраблены ў цэхах шырспажыву, ён даволі танны.

**Жаркова:** Мы цяпер лепш правяраем абутак на базе. Робім гэта таму, што патрабаванні пакупніка да якасці павялічыліся.

**Ліпень:** Цікавы сход адбыўся ў галантарэйным аддзеле. Дзяўчаты запрасілі прадстаўнікоў фабрыкі імя Куйбышава. Расказалі ім пра водгукі пакупнікоў. Паказалі ўзоры скургалантарэі, якія маюць у пакупніка попыт.







Якіх толькі краін не «наведае» за свой рабочы дзень Вячаслаў Высоцкі. Ён ужо трыццаць сем гадоў працуе грузчыкам на базе «Белабутакгандаль».



А сюды прыбываюць кантэйнеры і з Югаславіі, і з Чэхаславакіі, і з Польшчы, і з ГДР...

Камсамольцы аддзела культтавараў на свой сход запрасілі работнікаў радыёзавода. Выпусцілі сумесную насценгазету і вывесілі яе на заводзе. Наша крытыка так падзейнічала на начальніка заводскага АТК, што ён сабраў майстроў, прывёў іх у ЦУМ і рэзка крытыкаваў сваіх калег за нядбальства і брак.

**Юсневіч:** Колькасць і якасць прадукцыі — галоўны наш клопат. Але ёсць яшчэ і меншы, хоць не апошні ў эканамічным балансе. Па-першае, мы цэнтралізавалі перавозку, ліквідавалі прастоі, потым дамагліся ўдасканалення тары. Раней і 38 і 44 памеры ўпакоўваліся ў каробкі аднолькавай велічыні, а цяпер кожнаму памеру адпаведны карабок. І нарэшце, прымусілі прадпрыемствы прымаць назад сваю тару. На гэтым эканоміцца цэлыя эшалоны лесу. А гэта ж наша золата!

**Жаркова:** Наша супрацоўніцтва з прамысловымі прадпрыемствамі мае шмат форм. Мы памагаем фабрыкам хутчэй наладзіць вытворчасць новых мадэлей. Мода цяпер хутка мяняецца. Выстаўкі-продажы ў гэтым сэнсе даюць добрыя вынікі. Пакупнік дакладна рэагуе на ўдачы і промахі вытворчасці. Праўда, у апошні час, калі «шпількі» і «вострыя насы» сталі выцясняцца іншымі фасонамі, нашы модніцы перажываюць гэты паварот крыху балюча. Але «шпількам» прыйшоў канец. Я нядаўна была за мяжой і бачыла, што ні адна жанчына ўжо не носіць «шпілек» на вуліцы. Нашы мадэльеры вельмі смела і аператыўна адгукнуліся на новую моду. Ужо зацверджана шмат цікавых узораў на 1968 год.

А ці не тлумачыцца аператыўнасць нашых мадэльераў тым, што абутковыя прадпрыемствы рэспублікі так і не паспелі асвоіць па-сапраўднаму «шпілек»?

**Ліпень:** Мы заклапочаны, каб выхоўваць эстэтычныя густы ў пакупнікоў, часта запрашаем лектараў па эстэтыцы. Сярод дзяўчат знайшліся энтузіясткі, якія дэманструюць перад пакупнікамі новыя мадэлі вопраткі і абутку. У нас працуе мастацка-асартыментны савет. Ён раіць пакупнікам, як падабраць падарунак да свята ці юбілею. Нашы агенты перад Новым годам і 8 Сакавіка прывозяць з поўдня кветкі. Стол раскрою тканін, бюро добрых паслуг, падгонка гатовай вопраткі па фігуры, бясплатная дастаўка на дом падарункаў, шэфства над інвалідамі Айчыннай вайны, клопаты аб рэкламе — нам ёсць дзе завіхацца. Каб так усюды...

**Юсневіч:** Задача нашай канторы — як мага вышэй узняць гандаль абуткам. Таму мы і націскаем на вытворчасць. Але не забываемся пра тое, каб было дзе гандляваць.

Пакупніку хочацца мець больш магазінаў непадалёку ад дома. І яны будуюцца. У кожным горадзе, у кожным мікрараёне, на сяле. Вось самыя буйныя з тых, што адкрыюцца ў 1967 годзе: «Усё для жанчын» — універмаг на Паркавай магістралі ў Мінску; двухпавярховы камбінаваны магазін у Салігорску; вялікія гастра-



**Растуць кварталы, мікраараёны, а ў іх — новыя кафэ...**



**Ветлівай усмешкай сустракае Марыя Кожыч усіх, хто заходзіць у рэстаран «Турыст». Яна — пераможца рэспубліканскага конкурсу афіцыянтаў.**

номы і прадмагі ў Гродне, Маладзечне і Віцебску; прамтаварны магазін у Мазыры; універмаг у Баранавічах, і г. д., і г. д.

Гандаль не толькі адзявае чалавека, але і корміць яго. Грамадскае харчаванне ўсё ямчэй уваходзіць у штодзённы побыт чалавека. Сталовак, кафэ, рэстаранаў за пяцігодку адкрываецца на 86 тысяч месц. Як паведаміў начальнік упраўлення грамадскага харчавання Міністэрства гандлю **Давід Львовіч ГЕЛІН**, у гэтай галіне таксама ідзе спецыялізацыя. Дзіцячыя кафэ, бульбяныя, блінныя, піражковыя, кафетэрыі, буфеты ля заводскіх прахадных, кулінарныя і кандытарскія магазіны ў прамысловых раёнах гарадоў будуюцца з такім разлікам, каб рабочыя і служачыя трацілі мінімальны час на абед.

У нашай рэспубліцы яшчэ мала вячэрніх маладзёжных кафэ. Няма дзе, як у Літве ці Эстоніі, пачытаць газету за шклянкай кавы. Маладым людзям застаюцца толькі кіно, танцы. А яшчэ шмат якія праблемы куды лягчэй абмяркоўваюцца за столікам, чым на афіцыйных дыспутах і пасяджэннях.

На базе сталовых цяпер ствараецца 50 вячэрніх рэстаранаў і кафэ. Але ж у самым сучасным кафэ стане няўтульна, калі абслугоўваючы персанал будзе працаваць толькі для таго, каб атрымаць зарплату.

Калі ў матэлі на Брэсцкай шашы адкрыўся рэстаран «Турыст», увесь яго штат быў набраны з моладзі. Большасць афіцыянтаў — выпускнікі дзесяцігодак. Кухары, кандытары толькі што скончылі вытворча-тэхнічнае вучылішча. Пасля таго, як афіцыянты-навічкі прайшлі двухмесячныя курсы, пасля таго, як цярпліва і доўга папрацавалі, каб згуртаваць камсамольска-маладзёжны калектыў, пасля таго, як была ўведзена брыгадна-матэрыяльная адказнасць,— толькі пасля ўсяго гэтага «Турыст» лічыцца адным з лепшых рэстаранаў у Беларусі. Яму і трэба быць лепшым, бо замежныя турысты, якія сюды прыязджаюць, ведаюць добра, што такое сэрвіс. А ці ж мы самі не павінны гэта ведаць? Менавіта нам і патрэбен сэрвіс. А то ёсць такія кафэ, як «Усмешка», дзе буфетчыца яшчэ ні разу з дня адкрыцця нікому шчыра не ўсміхнулася.

Усе мы пакупнікі. Нават тыя, што працуюць за прылаўкам, таксама штодзень нешта купляюць. Калі мы ўсе — пакупнікі і прадаўцы — па-сапраўднаму зацікавімся якасцю гандлю і будзем супрацоўнічаць з ім не з дапамогай адных толькі кніг скаргаў, дык ёсць гарантыя, што наш гандлёвы сэрвіс стане найдасканалейшым. І ў гандлі будзе яшчэ больш святла і куды менш ценяў.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**
Фота аўтара.





# ПАЭТЫЧНАЕ ЗАСТОЛЛЕ

**ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1966**



Перад намі кніжка ў прыгожым пераплёце. Як доўгачаканы госць у мяккім вагоне. Выходзім на перон. Сустракаем госця. Будзем ветлівыя! Гасцінныя! Але не будзем няшчырыя, як з тым госцем, з якім прыходзіцца быць дыпламатычным.

Гартаем блакітны зборнік. Вось яны — вершы! Вось яны — імёны паэтаў! Амаль усе — па алфавіту. Бо роўнасць неабходна для паэтаў. Як для членаў літфонда. А роўнасці ў творчасці не бывае. Хто возьме на сябе смеласць ацаніць вартасць кожнага! Таму алфавіт — добры выхад з такога становішча. І ўсё ж я пачну не па алфавіту. Пачну з тых, чый голас даўно склаўся, а творчы лёс у многім вырашаны. Відаць, такім паэтам ужо спакайней за сябе. Спакайней? Але колькі трывогі ў такіх радках Канстанцыі Буйлы:

Чаму маўчыць душа? А часам мне здаецца,
Што гэта ўжо канец. Што больш не запяе...

Пройдзены этап для паэта калі і існуе, то толькі як успамін. Калі адзін этап заканчваецца, трэба пачынаць новы. А раптам не выйдзе? Страта голасу — страшней за фізічную смерць.

Рух наперад — самы цяжкі з усіх рухаў. Куды лягчэй даецца рух, які можна назваць тантаннем на месцы. Але гэта — не для паэта.

Дарог у свеце вельмі многа,
А ты між іх сваю знайдзі,
Няхай нялёгкая дарога —
А ты ідзі,
А ты ідзі...,—

чытаем мы ў вершы Петруся Броўкі.

І зноў — трывога. Ёю прасякнуты рэфрэн. Паэт яшчэ не ведае, што яго сустрэне, бо «трывожна даль гудзіць». І няхай. «А ты ідзі, а ты ідзі...»

А Максім Танк піша: «О, як лёгка ісці...» Але гэта, аказваецца, на пачатку шляху. У юнацтве. А потым — «...як цяжка...» Трывожаць успаміны,

...посвіст куль,
Цяжкіх салдацкіх ботаў стук,
Рыдлёвак звон і цішыня
На пераклічцы перамогі,
А гэта — не так мала.

Гэтага хапае, каб ісці. А калі прыйдзецца ўпасці, то, як Арлан у Алеся Звонака: «з асколкам неба ў воку ашклянелым...»

Але пакуль жывы, чалавек радуецца новаму дню. Так у Аляксея Пысіна мы чытаем:

Не ўсе лясы мае згарэлі,
Не ўсе пасечаны сады.
Дубоў жывыя каруселі
Ідуць па крузе. Жалуды
Зрываюцца, як небажаты,
Узрываюцца, каб прарасці.
Свет неспазнаны, непачаты
Да нас спяшаецца прыйсці.

Чалавек, які ўмее думаць і адчуваць, не можа перасыціцца жыццём незалежна ад узросту. Не можа быць і стомы, якая пазбавіла б такога чалавека дзейнасці. Хоць і жылося нялёгка.

Кожны паэт, калі яму за сорак, быў на ваенных дарогах. Беларусь у мінулай вайне панесла страты як ні адна іншая рэспубліка. І калі зямля з гадамі залечвае раны, то былы салдат, — да таго ж яшчэ і паэт, — будзе помніць гэтую вайну да канца сваіх дзён.

...Я гляджу на даўняе курганне,
На траву, на рыжых мурашоў.
Ведайце, калі мяне не стане, —
Я ў сваю дывізію пайшоў.

Гэтыя цудоўныя радкі належаць Аляксею Пысіну. І ўвесь верш, адкуль яны ўзяты, цудоўны!

Але калі паэт і не быў на вайне, то і тады тэма мінулай вайны непазбежна прысутнічае ў яго творчасці.

Калі дзіцём я ўцякаў ад смерці,
Калі жывыя ў агні гарэлі, —
Балеў не чэрап, балела сэрца,
Душа ад болю тады знямела, —

гаворыць Уладзіслаў Нядзведскі ў сваім вельмі сур'ёзным вершы «Не трэба будзе лячыць паэтаў...» Дзяцінства паэта — вайна, калючы дрот, што аплёў родную зямлю. Сталасць — успаміны пра вайну, клопат пра лёс свету і чалавецтва.

Лёсам кожнага чалавека заклапочаны і Анатоль Вярцінскі. Вельмі трывожны ў гэтым сэнсе яго верш «З жалем гляджу на дзіця»:

*Як? Як памагчы чалавеку?*

Але, магчыма, гэта адно з тых пытанняў, якія заўсёды застаюцца нявырашанымі? Не. Апошні радок — «А памагчы яму я павінен!» — сваім бясспрэчным сцвярджэннем пакідае ў чытача ўпэўненасць: адказ будзе знойдзены.

Пры ўсёй сваёй розніцы ў сталасці таленту, пры ўсёй разнастайнасці творчых почыркаў, усіх гэтых паэтаў аб'ядноўвае адно: іх вершы трывожныя. Ды і як жа інакш! Паэзія ж — сама трывога. Яна не пакідае паэта нават у хвіліны адпачынку. Гэты настрой адчуваецца ў такіх радках Кастуся Кірэенкі:

Вандроўніка не будзі. Няхай спачывае,
Паклаўшы галаву на далонь.
Ён сам праз сон заўжды адчувае,
Калі патухне агонь.

«Дзень паэзіі» быў бы аднастайны, калі б у ім былі сабраны толькі адна сур'ёзнасць, адзін напружаны роздум. І таму неяк вельмі дарэчы ў ім вершы Васіля Віткі:

Чаму ля дзетсада
Маршы і песні?
Снежная баба
Едзе на пенсію.

Выдатныя дзіцячыя вершы! І праблемныя. На паверхні — праблема вясны. Так і ў людзей, як у прыроды: адзін ідзе на пенсію, другі, яшчэ з веснавымі настроямі — на яго месца. Але асноўная праблема гэтага верша, як і наогул у творчасці Васіля Віткі, гэта праблема выхавання мастацкай фантазіі, мастацкага густу ў дзяцей. А магчыма, і ў дарослых.



У вершы «Праводзіны снежнай бабы» столькі выдумкі, яркасці, дасціпнасці! Ён нідзе не расфарбаваны пад народны, ён па-сапраўднаму, панароднаму маляўнічы. Верш пабудаваны на спалучэнні магчымага з немагчымым: вось снежная «бабка садзіцца на самазвал» і едзе на той вакзал, з якога адпраўляюцца на пенсію. Але і для яе існуюць фармальнасці:

— Прашу, паважаная,
Здаць інвентар, —

патрабуе кладаўшчык.

Здайце, бабуля,
Па акту ў кладоўку
Кій і каструлю,
Мятлу і маркоўку.

А малым незразумелая гэтая казённая прычына валакіты. Так і растаяць можна! «Спяшайся, бабуля!..» — крычаць самыя маленькія, самыя нецярплівыя, але

Вяртайся
Зімой
Снежнаю,
Свежаю
І маладой!

Мяне парадаваў верш Рыгора Рэлеса «Дом» у перакладзе Рыгора Барадуліна. У ім столькі задушэўнасці, сціпласці. І так хораша сказана пра вечную блізкасць чалавека да свайго дзяцінства.

А цяпер невялікая гаворка пра верш Леаніда Дайнекі «Сосны». Вось ён:

Я лесорубом был и сосны
Валил безжалостной пилой.
Мой верный друг, топор мой острый
Пропах зимовьем и смолой.

Меня деревья не любили
И сторонились, как огня.
Деревьям в их родной Сибири
Привольней было без меня.

Я в декабре домой приехал,
Чтоб отдохнуть хоть раз в году.
В густом лесу гуляет эхо.
И я за эхом вслед иду.

Я отпускник. Иду серьёзный.
И с каждой веточкой не груб.
Но слышу — шепчут, шепчут сосны:
Замрите... Тише... Лесоруб...

И нет границ великой грусти,
Стою, убитый наповал.
О, сосны, сосны Белоруси,
Кто вам об этом рассказал?

Лічу, што гэты верш добра задуманы і, часткова, добра напісаны. Тэма верша? Ён шматпланавы. Першая тэма: суладнасць усёй прыроды — лес з лесам заадно. Другая тэма: чалавек ведае і любіць лес, але ён вымушаны ўмешвацца ў яго існаванне. І яшчэ: чалавек, які знішчае лес, у той жа час «с каждой веточкой не груб». Але сосны бачаць у ім толькі лесаруба...

А цяпер — па страфах.

У першай страфе кожнае слова нясе сэнсавую нагрузку. Нічога лішняга. Канкрэтнасць дэталей, умелае іх выкарыстанне пакідаюць у чытача пачуццё праўдзівасці. А далей пайшло:

Меня деревья не любили
И сторонились, как огня.

І яшчэ:

Я в декабре домой приехал,
Что б отдохнуть хоть раз в году.

Тое ж самае паведамляецца і ў чацвёртай страфе:

Я отпускник. Иду серьёзный.

Такія немастацкія паўторы недапушчальныя, тым болей у кароткім вершы. Яны аслабляюць увагу чытача. Пазбаўляюць верш эмацыянальнасці.

У апошняй страфе кідаецца ў вочы недарэчнасць: «Стою, убитый напавал». Як можна стаяць забітаму напавал?! А гэтым жа «напавал» можна было даць новую інтанацыю: герой верша сам валіць дрэвы, а тут яны яго — напавал.

Вельмі хацелася б, каб аўтар не пакінуў верш у такім выглядзе. Тут і работы не многа. Але паправіць трэба. Такімі вершамі не кідаюцца.

Рэдкалегія «Дня паэзіі» шчодра прадставіла жанчын-паэтэс. Данута Бічэль-Загнетава. Яе вершы — на трох старонках. Еўдакія Лось. У зборніку змешчана чатыры яе вершы. У Вольгі Іпатавай — таксама чатыры вершы. У Жэні Янішчыц — дзесяць. І толькі ў Ніны Тарас — чамусьці адзін...

Я вылучыла паэтэс асобна, а сама разумею: паэзія — не шахматныя турніры. Чытача нельга падзяліць на мужчын і жанчын. Чытач — гэта чытач, і да паэтэс, як і да паэтаў, ён патрабавальны аднолькава.

У абсягу свайго пакалення маладая паэтэса Данута Бічэль-Загнетава пераўзыходзіць многіх мужчын. Яна часцей за ўсё валодае словам, умее жывапісаць ім.

Вось хата дзяцінства яе гераіні:

Кашлатая страха пакрыта мохам.
Вуглы, падпёртыя адной любоўю...

Летам рака Гаўя пахне сырадоем,

А малако рукамі той жанчыны,
Што ва ўсім свеце для мяне адна.

Усё ясна. Проста. І здаецца, лёгка да гэтага дадумацца. Так, лёгка. Таму, хто ўмее карыстацца паэтычнай дэталлю. Хто ведае, як іншую прозу зрабіць паэзіяй.

А вось зноў пра хату:

У гэтай хаце ёсць адзін пакой
З акном-люстэркам, у якім заўсёды
Прычэсвае фарсісты дзядзька Нёман
Свае сівыя хвалі-валасы.

Гэта не проста добра напісаныя радкі. Між радкоў — пачуццё. І хоць яно павінна быць у паэзіі заўсёды, але сустракаецца не так ужо часта.

О, як мне лёгка беглася тады!
О, як мне звонка пелася тады!
О, як мне смачна елася тады!
Як бесклапотна спалася тады,—

гаворыць паэтэса пра дні юнацтва, і я ёй веру.

А цяпер крышку дзёгцю (якраз столькі, каб не сапсаваць смак усяго мёду). Я ім памажу толькі такія радкі: «У квецені сады — мае гады...», «Мая звонкагалосая вясна...» І такое вялае інфармаванне, як:

Якраз адгэтуль толькі пачаліся
Дарогі таямнічыя да шчасця,
Да слёз, да песень, да харошых спраў.

Хацелася б у наступным «Дні паэзіі» ўбачыць вершы Дануты Бічэль-Загнетавай, адзначаныя такою ж свежасцю, але каб яны неслі ў сабе ўсе прыкметы ўзрослага майстэрства.

Я не буду гаварыць пра ўсіх паэтэс, прадстаўленых у зборніку. Скажу толькі пра Еўдакію Лось. Яна выпусціла нямала паэтычных кніг, вельмі энергічна ўваходзіць у літаратуру. Пра такога аўтара, з такім аўтарам можна гаварыць толькі ўсур'ёз.



Першы верш падборкі — «Яснавокія мальвы». Не падабаецца ўжо сама яго назва. Гэтак жа, як у другіх вершах не падабаецца, што «дзявоцтва праплыло... песняй лебядзінай», што «у маладой красуні — танцорскія паўнаватыя ножкі», што «дрэвы пыхнулі... ліствой пазалочанай».

Але, магчыма, вершы ўражваюць нечаканасцю тэмы, якім-небудзь цікавым паваротам? Магчыма, яны проста моцна «збіты»? Вернемся да першага верша. Яго герой — перасяленец. Беларус. На «поўначы далёкай» ён сумуе па бульбоўніку і яшчэ «па сінім цвеце васількоў». Але жыццё ёсць жыццё. Сумуй не сумуй — працаваць трэба. Для таго ён туды і паехаў. Яго чакае шэрая, стылая зямля. Яе трэба «сагрэць, наблізіць да душы». І ёй, гэтай зямлі, «перасяленец дарыў насенне спакваля».

Спачатку мне здалося, што герой верша там праводзіў пасяўную кампанію. Але чаму ён сеяў у стылую зямлю, чаму «спакваля»? Чаму — «дарыў»? Дарыць — гэта аддаваць з радасцю, але беззваротна. Потым я зразумела, што гаворка ідзе пра «стройныя мальвы», насенне якіх, па-мойму, таксама не варта кідаць у мёрзлую зямлю.

У вершы шмат банальнасцей. Кожны радок — гэта жаданне гаварыць прыгожа.

Я вяду гаворку толькі пра вершы гэтага зборніка. У Еўдакіі Лось, у яе пісьмовым стале, павінны быць другія вершы. Лепшыя, добрыя. Вельмі добрыя. Вядома, яны, такія, не пішуцца, як па заказу, адзін за адным, але патрабавальныя да сябе паэты ведаюць, як важна ў творчасці адабраць гатовае.

Дарагія паэтэсы! У адным сур'ёзным тэхнічным часопісе я прачытала, што праз сто гадоў жанчына будзе пераўзыходзіць мужчыну ростам, сілай. Але мы не будзем чакаць параўнальна блізкага матрыярхату з тым нецярпеннем, з якім старажытныя іудзеі чакалі свайго месію. Нам і так добра. Толькі ніякіх скідак для жанчын у паэзіі быць не павінна. Паэзія адзіная. І мы павінны яе любіць больш, чым сябе ў ёй. А для гэтага трэба быць да сябе такімі ж патрабавальнымі, як і да іншых...

Крытыкаваць маладых — у гэтым, на першы погляд, няма ніякай небяспекі,— не крытыкаваць жа Максіма Танка! Але гэта толькі на першы погляд. Чалавек, талент якога па-сапраўднаму склаўся, часцей за ўсё, цярпліва пераносіць дробязныя «ўкусы», калі ў іх няма подласці. А маладыя, з іх напорыстасцю, з іх схільнасцю на першым часе да родавага ладу: адзін за ўсіх, усе за аднаго, з іх несумненнай будучыняй,— іх якраз і не трэба было б чапаць! Але што рабіць?! Прыходзіцца.

Маладыя паэты прадстаўлены ў зборніку гэтак жа шчодра, як і паэтэсы. У такой масе вершаў сустракаюцца, вядома, вершы цікавыя. Але адна акалічнасць павінна выклікаць трывогу: падабенства большасці вершаў. Паэты, як родныя браты — па аднолькавасці вобразаў, інтанацый, слоўнікавага складу. Паспрабую давесці на прыкладах.

Цішыня на палянах лясных,
Пахне кветкамі познімі, травамі,—

піша Уладзімір Ляпёшкін.

А ў Міколы Чарняўскага чытаем:

Пахне ліпамі, пахне ліпамі,
Пахне ліпамі цішыня.

Пра цішыню піша і Міхась Рудкоўскі:

А пачыналася песня
Ў жніўнай далёкай цішы.

Цішыня. Усюды цішыня. Што гэта? Літаратурны напрамак?

Але вось радкі пра тую ж цішыню, якія належаць Аляксею Пысіну:

І прапісана мне цішыня,
Сталы роздум нясу замест лекаў.
Адчуваю на выкаце дня
Зябкі подых наступнага веку.

Радкі гавораць самі за сябе. Усё ў гэтай страфе ад жыцця, ад жадання. Нічога — ад халоднай выдумкі.

Прывяду яшчэ некалькі цытат.

Алесь Разанаў:

Дымяцца горача, як рана,
У цёплых росах паплавы.

Віктар Ракаў — пра лясы:

У песнях птушыных,
У кроплях расы.

Давід Сімановіч — пра вагоны, што спяшаюцца з лесу:

...с капелькамі роснымі
на стеклах,
как у леса на ветвях.

Міхась Стрыгалёў:

І ліпы звонкія ў расе...

Навошта без патрэбы цягнуць усе гэтыя росы ў паэзію?!

Крыўдна ў маладых сустракаць банальнасці, штампы. І крыўдна, калі, замест пачуцця, шчырасці, у паэзіі маладыя прапануюць чытачу дэкларацыі, накшталт:

Мы такія —
адкрытыя людзі.
Мы пачуццям не ведаем меры,
Калі любім,
то шчыра любім.
Калі верым,
то моцна верым.

Тут у Пятра Сушко ўсё дрэнна — і сама дэкларацыя, і набор штампаў і фанабэрыстая самаўпэўненасць: «мы — адкрытыя людзі», мы «шчыра любім», мы «моцна верым». Вядома, усё гэта можа ісці ад нявопытнасці. І я ні ў якім выпадку не хачу самога аўтара назваць фанабэрыстым, самаўпэўненым.

Другая дэкларацыя, любоўная, у паэта Уладзіміра Бабкова:

Хочаш, я падарую
Хвалю табе марскую.

Прыкладна такія штукі хацеў падарыць Тамары лермантаўскі Дэман, але ён у сілу сваёй дэманічнай прыроды, відаць, мог ажыццявіць свой намер.

Паэт павінен быць культурным. Пісьменным ён павінен быць. У нашай краіне справа пачалася з усенавуча, з лікбезу, а закончылася тым, што ўсе чытаюць. Чытаюць настолькі ўважліва, што заўсёды могуць падлавіць пісьменніка, калі ён дазволіў сабе быць непісьменным.

Перада мной верш пра родную мову. Адказная тэма! Аўтар Кастусь Цвірка. Назва верша — «Жамчужыны роднай зямлі». Я разумею трывогу паэта за лёс роднай мовы. Але, відаць, гэтую тэму трэба разглядаць не толькі розумам, але і паэтычным сэрцам. І ўжо безумоўна — тут недапушчальная безгустоўшчына і непісьменнасць. Магчыма, ва ўсходняй паэзіі жэмчуг і ўсякія там каштоўныя каменні — гучаць. Але ў нас?! Я, напрыклад, не ўяўляю цану жэмчугу. Дзе ён? Хто яго носіць? А жыве жэмчуг у моры, на марскім дне. Марское дно — не зямля. Ва ўсякім выпадку — не тая, дзе можа гучаць родная мова.

Мне не хацелася б абразіць каго-небудзь сваімі заўвагамі. Толькі памагчы, імкнучыся быць справядлівай. Бо калі пісьменнік трапляе пад колы несправядлівай крытыкі, яго становішча можна параўнаць са становішчам чалавека, зарэзанага коламі «хуткай дапамогі». Не пажадаю гэтага нікому. Многіх з нас абражалі прадузятыя або проста непрафесіянальныя крытычныя артыкулы. Непісьменная пахвала абражае не менш.

Хочацца асобна сказаць пра верш Кандрата Крапівы «Асёл Ісуса Хрыста». Лёс таленту і лёс яго спадарожніка — вось асноўная тэма верша. Як давялося самому таленту, мы здагадваемся, ведаючы легенду. А вось як давялося аслу, прыстасаванцу, які паразітуе на таленце:



Пакуль на ім Ісус Хрыстос
Па свеце вандраваў,
Заўсёды быў Аслу авёс
І свежая трава.

А калі праслаўлялі гаспадара, самазадаволеная пасрэднасць усю пашану прыпісвала сабе.

Я неяк не чула, каб пра сатыру казалі: тут прысутнічае паэзія. Але пра гэты верш скажу іменна так. Увесь ён прасякнуты гневам і мудрым смуткам. І сапраўды — сумна. Бо Асёл пасля смерці гаспадара здолее няблага ўладкавацца. Ён, магчыма, выдасць успаміны: «Я быў...», «Я бачыў...» Будзе выступаць на арганізаваных сустрэчах. Ён скарыстае нават гэтую смерць на сваю карысць...

Маладыя пісьменнікі — гэта наша літаратура заўтра. Але ўжо сёння ад маладых залежыць, каб у літаратуру пранікла як мага менш людзей, непатрэбных ёй. Таму што, калі ў такіх людзей выявіцца адсутнасць таленту, яны вымушаны будуць прыстасавацца або пайсці з літаратуры. А пайсці іншы раз ужо бывае позна.

Загортваючы кнігу, я думаю пра тое, што ў ёй вельмі многа і ў той жа час вельмі мала імён. Вельмі многа таму, што не ўсе заслугоўваюць гонару быць надрукаванымі ў такім зборніку. І вельмі мала таму, што мы не знаходзім у ім ні Аркадзя Куляшова, ні Пімена Панчанкі, ні Максіма Лужаніна, ні Анатоля Вялюгіна, ні Аляксея Русецкага...

Безумоўна, нельга аддаваць старонкі «Дня паэзіі» толькі масцітым. Але паколькі «Дзень паэзіі» — свята, як жа без гэтых паэтаў за нашым сталом?

І ў той жа час падумаем пра другое: для сапраўднага паэта Дзень паэзіі — усё жыццё.

Сёння я віншую паэтаў з тым, што яны жывыя! Віншую з тым, што, пакуль паэт жывы, у яго ёсць магчымасць выпусціць сваю лепшую кнігу. Віншую з тым, што і сёлета ў нас будзе новая кніга — «Дзень паэзіі».

**Святлана ЯЎСЕЕВА.**



# ПЯСНЯР СУЧАСНАСЦІ

У гэтым годзе, на дваццаць трэцім дні ліпеня, яму спаўняецца шэсцьдзесят год. Аднак няшчодры лёс удзяліў яму з гэтых шасці дзесяткаў толькі трыццаць два гады: за астатнія, недададзеныя, ён падараваў яму вечную маладосць у абмен на жыццё. Можа таму такі загадкава-глыбокі позірк на знаёмым са школьных гадоў здымку, што не паспеў за



Алесь Дудар і Эдуард Самуйлёнак. 1936 год.

свой нядоўгі век сказаць усяго таго, што ведаў і што хацеў сказаць.

Эдуард Самуйлёнак працаваў на літаратурнай ніве ўсяго дзесяць гадоў, ды і то няпоўных — іх укарочвала бязлітасная хвароба. Але і тое, што ён паспеў зрабіць за гэтыя гады, стала адразу прыкметным у літаратуры, дзе ў той час працавалі такія майстры, як Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Міхась Зарэцкі, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў.

Беларус па нацыянальнасці, пецярбуржац па нараджэнню, пільшчык па прафесіі, пісьменнік па ўсёй сваёй духоўнай сутнасці, дваццацігадовым юнаком «пастукаўся» Эдуард Самуйлёнак у літаратуру і, як пазней выявілася, спачатку не ў тыя дзверы: хоць газета «Чырвоная Полаччына» і надрукавала ў 1928 годзе яго першы верш, прызванне яго было не ў паэзіі. Выявіцца сапраўднаму прызванню памагла тая ж «Чырвоная Полаччына», прыняўшы здольнага юнака ў шэрагі рэдакцыйных супрацоўнікаў.



Эдуард Самуйлёнак (першы справа) на дачы ў сям'і Мархеля. 1935 год.

З архіву дачкі пісьменніка **М. Самуйлёнак.**

З гэтага і пачалося. За газетнымі карэспандэнцыямі і нарысамі, пад якімі стаяла прозвішча Эдуарда Самуйлёнка, неўзабаве паявілася апавяданне «Апошні заказ», а за ім і наступныя — «Абухам у лоб», «Русалчыны сцежкі», «Цагліна казэмата», «Пункт апоры». Малады пісьменнік імкнецца асэнсаваць бурлівыя падзеі трыццатых гадоў, пранікнуць у духоўны свет свайго сучасніка.

Бадай ні адна кніга не карысталася такім вялікім поспехам у чытачоў трыццатых гадоў, як аповесць Эдуарда Самуйлёнка «Тэорыя Каленбрун». Пісьменнік узняў у ёй свой голас пратэсту супраць прошукаў фашызму, які прыйшоў да ўлады ў Германіі ў 1933 годзе. У тым жа трыццаць трэцім годзе была напісана аповесць «Паляўнічае шчасце» — адзін з лепшых твораў, які заваяваў аўтару сталае месца ў літаратуры.

У 1935 годзе Эдуард Самуйлёнак з групай беларускіх пісьменнікаў наведаў Грузію. Паездка гэтая ўзбагаціла яго новымі ўражаннямі, і на матэрыяле барацьбы грузінскага народа за савецкую ўладу ён задумвае раман у трох частках. На жаль, задуму гэтую здзейсніць не давялося: пісьменнік паспеў напісаць толькі першую частку — раман «Будучыня».

Апошні год свайго жыцця Самуйлёнак, ужо будучы цяжка хворым, працаваў над п'есай «Пагібель воўка» — пра класавую барацьбу на вёсцы ў часы калектывізацыі. У яго быў задуманы і пачаты раман пад такою назвай, але, відаць, адчуўшы, што напісаць яго не паспее, ён звярнуўся да драматургічнага жанру. П'еса «Пагібель воўка» ішла на сцэне многіх тэатраў краіны.

Эдуард Самуйлёнак памёр 12 лютага 1939 года. «Дружа мой, сокале ясны...» — журботна прачытаў свой верш над яго магілай Янка Купала. А Якуб Колас у той дзень напісаў: «Не доўгім быў жыццёвы шлях Эдуарда Самуйлёнка. Ён толькі ступіў на парог свайго пісьменніцкага поўдзеня. Яго выключнае дараванне шырокага мастацкага дыяпазону не



паспела яшчэ разгарнуцца ва ўсю сваю красу і сілу. Гэта быў пісьменнік з ярка акрэсленым, сугуба сваім мастацкім голасам».

Пісьменнік, вельмі чулы да сучаснасці, пясняр сучаснасці, Эдуард Самуйлёнак у сваёй творчасці ішоў па самых гарачых слядах падзей, імкнучыся ляпіць вобразы сваіх герояў з неастылай жыццёвай магмы. У такой дзёрзкасці мастака заўсёды ў нейкай ступені тоіцца рызыка: матэрыял, астуджаны часам, можа паблекнуць, патрэскацца, рассыпацца ў друз.

Такога не здарылася з лепшым, што напісана Эдуардам Самуйлёнкам: жывы, гарачы жыццёвы матэрыял, надзейна змацаваны талентам пісьменніка, жыве вось ужо колькі гадоў і будзе жыць надалей, малюючы гісторыі жывы воблік бурлівых трыццатых гадоў нашага стагоддзя.

● ● ●

# АКІЯН СВЯТЛА




**Рыгор БАРАДУЛІН. Неруш. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1966.**

Часам інтэлектуальнасць мы разумеем вельмі спрошчана: маўляў, чым болей будзе ў вершах нейкіх навуковых тэрмінаў, чым часцей мы будзем успамінаць пра Галілея, Ван-Гога ці Сікейраса, тым больш інтэлектуальна будзе выглядаць наша паэзія. Інтэлектуальнасць паэзіі — гэта ў першую чаргу ўсё-такі, мусіць, культура паэтычнага адбору, культура выбару тэм, якія неабходны менавіта гэтаму (і толькі гэтаму!) таленту. Адбор якраз і паказвае, як шырока разбягаецца кругагляд паэта, ці адпавядае гэтаму кругагляду форма мыслення і ўвесь вобразны і музычны склад верша.

Калі чытаеш новую кнігу Рыгора Барадуліна, вельмі ж ужо хораша і чыста названую самабытным словам «Неруш», радуешся якраз вось гэтай культуры паэтычнага адбору, сапраўднай інтэлектуальнасці яго лірыкі, хаця ў кнізе і няма глыбакадумных, стандартных галілееў і вангогаў. Радуешся сталасці паэтычнага майстэрства паэта, якое зніто́ўвае ў адно цэлае і думку, і вобраз, і пачуццё, і музыку, і слова, нараджаючы вялікі неўтаймаваны акіян святла, імя якому — сапраўдная паэзія. Рыгор Барадулін, сталы і тонкі майстар (хоць яго ўсё яшчэ па інерцыі называюць маладым!), адчувае сябе сапраўдным гаспадаром гэтай неўтаймаванай і яшчэ не зусім даследаванай стыхіі: акіян, паслухмяны яму, то сцішваецца, услухоўваючыся ў слова, ва ўнутраную музыку, то б'е ў бераг гнуткім і моцным рытмічным радком.

Для таго, каб лепей прыгледзецца і прыслухацца да гэтага паэтыч-

нага акіяна, мы паспрабуем раскласці яго на асноўныя састаўныя часткі.

**Думка** — самае галоўнае і неабходнае ў творчасці кожнага паэта. Гэта якраз тое, для чаго і пішацца сам верш. Менавіта за гэта, помніцца, часцяком і крытыкавалі Барадуліна: часам яму і сапраўды бракавала глыбокай думкі, а часам рэцэнзенты змагаліся за вонкавую, лабавую падачу гэтай думкі і не прызнавалі яе лірычнасці, яе тонкага псіхалагічнага пераламлення.

Здавалася б, на першы погляд, якую думку, якую нагрузку мыслення можа несці верш пра звычайную шапку. Але прачытаеш яго — і цябе ўразіць глыбіня і радасць думкі: шапка расказала пра нялёгкі сялянскі год з яго клопатамі, з яго радасцямі і засмучэннямі. І ты прыемна спатыкаешся на такіх цудоўных мясцінах, дзе

...гаспадарскі сын яе прымерваў.
З-пад доўгага брылька ружовашчокі
глядзеў малы, як яблык з-пад лістка;

дзе месяц Чэрвень загарэлы

Дакошвае лугі — знаходзіць гнёзды,
Кладзе ў яе цяплюткіх птушанят;

дзе

Брылёк
сасмяглы Ліпень перакручвае
і нагінаецца крыніцу выпіць.

Лірызм — гэта абавязковая аправа барадулінаўскай думкі — прысутнічае і там, дзе ўзнімаецца трагічная тэма. І, галоўнае, лірызм не замінае вырашэнню гэтай тэмы, а наадварот, агаляе трагічнасць сітуацыі. Вось, напрыклад, невялікі верш «Арцель інвалідаў». Працуе бязногі шавец. Лірычна выпісаны малюнак. І раптам — канец, таксама лірычны:

Прыхваткамі шые бацька шчаслівы
На абедзве нагі
сыну
Новыя боты.

І вось гэтыя адрывістыя, як імпульсы, словазлучэнні («бацька шчаслівы», «на абедзве нагі», «сыну», «новыя боты» — заўважце, як паслядоўна яны пастаўлены і як дарэчы тут слова «шчаслівы») даводзяць думку да вышэйшага завяршэння, да раскрыцця яе антываеннага пафасу. Тая ж самая лірычная пачуццёвасць праяўляе думку і ў вершы «Атланты — інваліды Вялікай Айчыннай вайны», якія напоўнены, здавалася б, адвольнымі перажываннямі, але пакідае нейкае трывожнае адчуванне.

З гэтымі творамі пераклікаецца верш «Зямля», дзе паэт сцвярджае:

А русам руні маладой здавён
Заслана ты, як круглы стол
шырозны, —
Для ўсіх павінен быць не цесны ён!

Думка паэта сягае шырока: ад трывожных успамінаў мінулай вайны да адкрыцця ласкавага мацерыка — мацярынства; ад прачулага гімна мове, пра якую сцвярджаюць, што, «нібыта перажытак, аджыць павінна абавязкова мова маці маёй — беларуская мова», да вершаў пра далёкі акіян.

Праўда, часам і спатыкнешся, бывае, на нейкай уяўнай глыбакадумнасці, як, скажам, у вершы «Угаманіўся бор». Думка пра тое што вавёркі спакойна гуляюць у падсочаным лесе і вывад: «Такой бяды ім, што сосны падсочаны!» — не ўзаемаабумоўлены. Думка не атрымала лагічнага завяршэння, а таму верш атрымаўся крыху наіўнаватым. Ведаючы, як непрымірымы Барадулін да ўяўнай філасафічнасці, будзем лічыць такія вершы простай выпадковасцю.

Дбаючы пра расшырэнне тэматыкі вершаў, некаторыя паэты прывозяць з камандзіровак так званыя падарожныя цыклы, дзе ўсё створана па прынцыпу — убачыў і напісаў. Прызнаюся, што я з недаверлівасцю пачынаў чытаць і вершы Барадуліна, напісаныя пасля творчых падарожжаў. Але потым гэты недавер прайшоў, бо ў вершах пра Сібір і пра Далёкі Усход я пазнаваў Рыгора Барадуліна і менавіта ім убачаныя гэтыя далёкія мясціны. І яшчэ, яны, гэтыя вершы, былі нейкія вельмі ж ужо беларускія. Возьмем хоць бы верш «Цішыня».

Размарыла тайгу,
заглуш млее на пасецы,
Спляліся лімонніку пруткія ліны.
Самапасам
на выпасах верасня пасвіцца
Зброддлівы статак пчаліны.

Як хораша, па-беларуску, дыхае і жыве ў паэта тайга, нават нягледзячы на рысу экзатычную — «лімонніку пруткія ліны». Тут паэтычны настрой і вобразны склад верша злучае ў адно і тайгу і той паэтаў куток, які заўсёды будзе называцца яго радзімаю.

Менавіта **вобраз** памагае Рыгору Барадуліну падпарадкоўваць думку ўсяму настрою верша, яго першапачатковай задуме. Менавіта вобразу — гэтаму абавязковаму кампаненту сапраўднай паэзіі — паэт аддае вялікую ўвагу і таму дамагаецца заслужанага поспеху: па вобразнай сістэме яго вершаў адразу ж пазнаеш Барадуліна і не зблытаеш ні з кім з яго сучаснікаў. Вобраз, нягледзячы на некаторую ўскладнёнасць, у Барадуліна заўсёды дакладны, зразумелы.

Зязюлямі гадоў пракукаваны,
Бор галавы маёй аснежыш ты...

Гэта пра час, пра вечнасць. І як дарэчы тут злучаны і складаюць адно непарыўнае цэлае народнае павер'е «зязюлі лічаць гады» і сучаснае — «бор галавы маёй».

Азяблыя, як сінічкі,
Пальцы твае ляцелі
У рыжскія рукавічкі.

Гэта пра замілаванасць дзяўчынай, пра каханне. Колькі пачуцця ў гэтых сінічках! Колькі радасці і пяшчоты нясе нам новае адкрыццё гэтага пачуцця.

Вока ў нулятага мянтая,
Нібыта
Планета жаху,
Сыходзіць з арбіты...

Гэта пра смерць. І спачатку, на першы погляд, вобраз здаецца недакладным. Але ўчытаешся глыбей ў гэтае «вока», у гэтую «планету жаху», якая сыходзіць з арбіты... Дакладна, вельмі дакладна сказана.

Паэт умее выклікаць уражанне нечаканасці вобраза, пасля якога чытач абавязкова спыніцца, здзівіцца і задумаецца:

Вязу я на поўнач спякоту,
Нібы кантрабанду, у сабе.

Праўда, здараецца часам, што вобраз не слухаецца і Барадуліна, выходзіць з-пад яго кантролю. Я маю на ўвазе верш пра заядлага рыбака Адвячорка, які «для прынады ў раку накрышыў дробных зорак» і «слуп тэлеграфны, што стаяў на беразе», «нажывіў, як чарвяка». Гэта — разгорнутая метафара і, трэба прызнацца, крыху штучнаватая. Затое з якой радасцю адкрываеш іншыя вершы-метафары, вершы-вобразы, падобныя вось на гэты:

Ты — мой трывожны ўспамін,
Шчыміш і не даеш спакою,
Нібыта ўдар тугіх галін,
Адпушчаных чужой рукою...

Наноў не зашуміць лясам,
Туга на лядах гаспадарыць.
Я дрэвы ўсе павысек сам —
Галіны больш не ўдараць.

У Рыгора Барадуліна свая паўнаводная рака вобразаў і параўнанняў. І бярэ яна пачатак з маленства, з таго цудоўнага краю, дзе ўсё было адкрыццём і здзіўленнем: і конь, і зерне, і ручай, і аблачына. Таму і большасць параўнанняў, большасць вобразаў паэта, нягледзячы на наш век развіцця навукі і тэхнікі, усё ж вяртаецца да маленства, да тых ісцін, якія склаліся менавіта там. Некаторыя рэцэнзенты наракаюць на гэта, і, здаецца, наракаюць беспадстаўна, бо вяртанне ў свет свайго маленства памагае паэту застацца самім сабою, не дае згладжвацца творчай індывідуальнасці. І калі Барадулін піша пра акіян, які

З далоні на далонь
Перакідваў кацяркі
І дзьмухаў на нас,
Нібыта
Ад зерня ён адвяваў асцюкі,
Набраўшы ў прыгаршчы жыта, —

я разумею і адчуваю, як дарэчы тут, у шырокай прасторы, вось гэтае «зерне», гэтыя «асцюкі», гэта «жыта».

Таксама, як строй думак і вобразная сістэма, у Барадуліна свая, адметная, рытмічная будова верша. І якім бы памерам ні пісаў паэт — ці ямбам, ці гекзаметрам — рытмічны малюнак яго вершаў усё роўна набывае нешта сваё, барадулінаўскае. У яго любы памер гучыць па-свойму.

**Музыка** ў Рыгора Барадуліна — гэта нястомны і вельмі шчыры працаўнік, добры памочнік. Для

таго, каб падмацаваць сваю думку, варта прывесці хоць бы ўрывак з верша «Маралу зразаюць панты»:

Дрыжыкі на целе,
Марал пацее
У тры паты.
Панты
Зразаюць
Нажоўкай.
Капыты
Б'юцца на жоўклай
Траве...
Трывае...
Рэжце ж!
Ці нажоўка тупая?
Нарэшце!..

Дзякуючы жорсткай схеме рытму тут кожнае слова нясе вельмі вялікую нагрузку. Але, нягледзячы на гэтую жорсткасць, якая ўсё ж шырыня дзеяння, пачуцця! Рытм поўнасцю ўзнаўляе ўнутраны стан марала, яго страх перад невядомым. Рытм тут мітуслівы, але вельмі дакладны — ён нібы паўтарае рухі нажоўкі.

А колькі інтанацыйных пераходаў у цікавым вершы «Карчыраа». Чытач, які ніколі не чуў гэтых своеасаблівых і самабытных гарлавых спеваў, адчуе іх прыгажосць, услухаўшыся ў цікавую рытмічную пабудову ўсяго верша. Напеўнымі, музычна дакладнымі становяцца радкі, дзякуючы ўмела скарыстанай алітэрацыі: «плывуць плыты па плыні плыткай», «на стыках са стукам парыпвае» і інш. Праўда, часам алітэрацыя, працуючы на музычнасць верша, уступае ў канфлікт з думкаю. Скажа, напрыклад, Рыгор Барадулін «рабынечка-арабіначка» (як цудоўна гучыць гэта рытмічна!), а потым яму доўга трэба тлумачыць, чаму ўсё ж рабіна — раба.

Цяпер — **слова.** Тут Барадулін адчувае сябе ўпэўнена і лёгка — як дома. Але за гэтай упэўненасцю і лёгкасцю якраз бачна вельмі цяжкая, настойлівая і няспынная праца над словам. Затое ж як мілагучна, як па-народнаму шчыра і даверліва гучаць яго вершы — не, за мову Барадуліна не папракнеш!

Неруш ранішні —
Матчына слова,
Мне, як бору, цябе засланяць.

У Рыгора Барадуліна — свой моўны неруш. У яго раса «халадае», слова «крыляе», раніца «залачае», а коннік «скача наўскапыта — кохкаюць лёгка падковы». Па-свойму Барадулін гаворыць пра ўзыход сонца: «Было на ўскоце сонца». Не «ўзыходзіла сонца», не «узнімалася над лесам», а «было на ўскоце». Хораша, вельмі хораша сказана.

Нават наватворы гучаць у Барадуліна зусім па-народнаму і добра ажыўляюць мову: «у Белавежы — лосьна, язьна ў Шчары», «з далёкага цяплыньскага павета». Бо словы гэтыя адразу ж становяцца звыклымі, зразумелымі. Мове яго твораў можна пазайздросціць: тут усё на месцы, усё дарэчы.

І апошняе, на чым хацелася б яшчэ спыніцца — гэта **пачуццё.** Праўда, пачуццё ў Барадуліна нараджаецца і самой думкаю («Арцель інвалідаў»), і вобразам («Рыжскія рукавічкі»), і музыкаю («Маралу абразаюць панты»), і словам. Можа таму ўся кніга пранізана нейкім светлым, напятым, як сама цішыня, пачуццём, замілаваннем да ўсяго жывога. А таму Рыгору Барадуліну ўжо часам бывае дастаткова сказаць «На Беларусі пчолы, як гусі» або «Цыганяты, ад вогнішчаў смуглыя, як жалуды, сняць яны цёплы кухан», каб чытачу перадалося само пачуццё радасці.

Часам пачуццё нараджаецца ад злучэння палярных слоў, як, напрыклад:

Рунь прагавіта цягне зябкі сок,
Расці, з гарачых снежак гурба,
Што маці сыпле з сагана.

Словы, якія па сваёй сэнсавай аснове павінны былі б выключаць адно другое, у Барадуліна, наадварот, працуюць дружна і нараджаюць натуральнае пачуццё. Гэта вельмі яскрава можна прасачыць па невялікай паэме «Вяртанне ў першы снег», напісанай цёпла і сардэчна, ці па шчырых вершах, прысвечаных маці, якія заўсёды — цэлы свет пачуцця. Або возьмем верш «Лісток ушацкай восені». У ім — трошкі суму... І раптам

...тут, як сяброку,
лісток цялячай мокрай пысай
з даверам торкнуўся ў руку.



Ад гэтага «даверу» адразу становіцца весела, радасна. І няма ўжо ніякага суму.

Так і ў новай кнізе вершаў Рыгора Барадуліна «Неруш». То думка, то вобраз, то слова з даверам зірне на цябе, і табе ўжо становіцца светла і прыемна, што ёсць такая сапраўдная даверлівая паэзія, якая абуджае радасць.

**Янка СІПАКОЎ.**




# ДАСЛЕДАВАННЕ ТАНЦА

**Юлія ЧУРКО. БЕЛАРУСКІ БАЛЕТ.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», 1966**

Кніга маладога мастацтвазнаўцы Юліі Чурко, прысвечаная гісторыі ўзнікнення і развіцця беларускага балету, не засталася незаўважанай нашай крытыкай. І гэта не толькі таму, што ў ёй шырока пастаўлена адна з вельмі цікавых праблем нацыянальнага мастацтва, але і таму, што даследаванне гэтай праблемы вядзецца на добрым прафесіянальным узроўні.

Асноўная тэма кнігі — традыцыі рускай класікі і наватарства савецкай і, найперш, беларускай нацыянальнай харэаграфіі. Наследуючы класічныя традыцыі, слушна сцвярджае аўтар, наш тэатр сказаў і сваё самабытнае слова ў жанры балету. Гэта — тэатралізацыя народных танцаў, з'яднанне класікі з фальклорам, наданне самастойнага значэння мужчынскаму танцу, стварэнне вобразаў сучаснікаў, павелічэнне сцэнічнай выразнасці ансамблевых, масавых карцін і эпізодаў.

Героі і асабліва гераіні балетаў на сучасную тэму ўзбагацілі прывабнымі рысамі нашых вядомых артыстаў, надалі іх майстэрству большую адухоўленасць, рамантычную акрыленасць, дапамаглі раскрыцца іх драматычнаму таленту.

Аўтар падрабязна разглядае харэаграфію нацыянальных спектакляў — «Салавей» М. Крошнера, «Князь-возера» В. Залатарова і варыянты гэтага балету — «Аповесць аб каханні» і «Палымяныя сэрцы», «Мару» Я. Глебава, «Падстаўную нявесту», «Святло і цені» Г. Вагнера. Мы знаёмімся з творчай біяграфіяй балетмайстраў К. Мулера і С. Дрэчына, з плённай рэжысёрска-балетмайстарскай дзейнасцю на беларускай сцэне. А. Ермалаева, А. Андрэева, О. Дзідзішкіліані, Ф. Лапухова, В. Вайнонена, Р. Захарава і іншых майстроў.

Нельга не пагадзіцца з той ацэнкай, якую дае даследчыца названым творам. У іх адлюстраваны старонкі гісторыі народа і яго сучаснага жыцця, дзейнічаюць новыя героі, якія былі невядомы класічнаму балету, ёсць танцы, крыніцай якіх з'яўляецца фальклор.

Чытачы дазнаюцца з кнігі Ю. Чурко пра мастацкую біяграфію вядучых салістаў і заснавальнікаў беларускага балету А. Нікалаевай, С. Дрэчына, З. Васільевай, а таксама маладзейшых майстроў Л. Ражанавай, Н. Давыдзенка, А. Карзянковай, В. Давыдава, В. Міронава. Даследчыца імкнецца індывідуалізаваць іх сцэнічныя партрэты. Яна пераканальна даводзіць, што Нікалаевай найбольш уласцівы героіка і гумар, Давыдзенка — рамантыка і лірыка, Карзянковай — уменне шырока зазірнуць у псіхалогію людзей.

У кнізе дадзена разгорнутая крытыка недасканалага ў спектаклях. Слушна сцвярджаецца, што некаторыя героі-сучаснікі, у прыватнасці Алесь («Святло і цені») і Мікалай («Мара»), не ўдаліся лібрэтыстам і балетмайстру. У іх многа слабага, павярхоўнага. Унутраны свет, думкі, перажыванні герояў глыбока не раскрыты, сучаснасць паказана без паўнаты фарбаў.

Параўноўваючы балеты-першынцы беларускага тэатра з балетамі іншых рэспублік («Сэрца гор», «Алі-Батыр», «Лейлі і Меджнун»), Ю. Чурко робіць правільнае заключэнне, што наш

тэатр у пошуках новага героя і сучаснай харэаграфічнай мовы ішоў самастойным шляхам, знаходзіў рысы нацыяльнай своеасаблівасці. Найбольш гэта ўдалося ў спектаклях «Салавей» (пастаноўка А. Ермалаева) і «Князь-возера» (рэжысёр Б. Мардвінаў, балетмайстар К. Мулер). Значна менш — у балетах «Мара», «Святло і цені», якія пастаўлены А. Андрэевым.

«...Не многа гаварылі пра нацыянальнае аблічча беларускай дзяўчыны Марыі,— піша крытык,— яе шматлікія варыяцыі і маналогі ў балеце «Мара»... Былі расплывістыя і амаль не мелі нацыянальнай характэрнасці таксама танцы моладзі ў фінале балету «Святло і цені». Гэта рабіла іх яшчэ больш трафарэтнымі, традыцыйна балетнымі, падобнымі на танцы тых, якія не маюць дакладнага адрасу месцажыхарства, «пейзан», ад якіх з такой цяжкасцю адыходзіла балетнае мастацтва. Бледнымі, стандартнымі, «блакітнымі» героямі выглядалі Мікалай і Алесь, галоўныя мужчынскія дзеючыя асобы «Мары» і «Святла і ценяў». І немалая віна ў гэтым іх танцавальнай мовы. Не прасякнутая народнымі струменямі, яна не несла ў сабе жывыя рысы рэальнасці...»

Станоўчая вартасць кнігі Ю. Чурко — у прынцыповасці яе даследчыцкай пазіцыі. Загана большасці лібрэта, на думку Ю. Чурко, у недасканаласці іх драматургіі. Аўтары гэтых лібрэта не ўлічылі ў дастатковай меры змест музыкі і спецыфіку харэаграфічнага мастацтва.

У крытыка былі і свае цяжкасці пры даследаванні гісторыі нацыянальнага балетнага мастацтва. Чурко, не з'яўляючыся спецыялістам-музыказнаўцам, параўнальна мала спыняецца на тым, «што гаворыць музыка»,— аснова спектакля. У яе няма разгорнутага, самастойнага, прафесіянальна сталага аналізу музыкі. І таму пры разглядзе сінтэзу музыкі і харэаграфіі мастацтвазнаўца ў асобных выпадках выказвае супярэчлівыя думкі: «Балет «Палымяныя сэрцы»,— сведчыць Ю. Чурко,— быў з поспехам паказаны на дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. Друк адзначыў свежасць і арыгінальнасць балетмайстарскага вырашэння спектакля, высокае майстэрства выканаўцаў, мастацкасць афармлення». Узнёслая ацэнка дадзена выканаўцам цэнтральных партый Л. Ражанавай і С. Дрэчыну. А пра музыку «Палымяных сэрцаў» мы чытаем у кнізе нешта супрацьлеглае: «У балетах «Палымяныя сэрцы», «Аповесць пра каханне» музыка В. Залатарова гвалтоўна падганялася пад зусім новы змест, і тым самым ігнараваўся ўнутраны змест музычных вобразаў... Разбурэнне цэласнасці музычнай драматургіі балету В. Залатарова знутры падарвала асновы харэаграфічнага спектакля».

Тут цяжка зразумець даследчыцу. Выходзіць, што і яна згодна лічыць магчымым нараджэнне добрага спектакля пры відавочнай рознастылёвасці, *пры розным змесце музыкі і харэаграфіі*. Такая думка супярэчыць эстэтыцы Наверра, да якой далучаецца Чурко, і ўвогуле не ў згодзе з добрым густам аўтара кнігі.

Сінтэтычны разгляд гісторыі развіцця музыкі і харэаграфіі быў бы вельмі карысным, для мастацтвазнаўчай навукі. У кнізе названа многа выканаўцаў-артыстаў. Але пра большасць з іх сказана агульна, без дастатковага аналізу іх творчай дзейнасці. Мы маем на ўвазе нават такіх вядомых балерын, як Н. Млядзінская, Б. Карпілава-Разенблат, Т. Караваева і іншыя. Варта было напісаць і пра *выключныя заслугі народнай артысткі* рэспублікі З. Васільевай у выхаванні маладых танцоўшчыц, пра яе плённую дзейнасць у якасці мастацкага кіраўніка харэаграфічнага вучылішча.

Кніга Ю. Чурко будзе з карысцю прачытана не толькі прафесіяналамі, але і аматарамі танца, асабліва моладдзю.

**Міхась МОДЭЛЬ.**



Іван РАЛЬКО

# ШАЎЧЭНКА І КУПАЛА

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БЕЛАРУСКАГА І ЎКРАІНСКАГА АКЦЭНТНАГА ВЕРША

**Шаўчэнка і Купала — два вялікія паэты, два палымяныя будзіцелі нацыянальнай самасвядомасці сваіх народаў. Менавіта дзякуючы іхняй натхнёнай паэтычнай працы ўкраінская і беларуская паэзія сталі сапраўды нацыянальнымі не толькі па зместу, але і па форме яго выяўлення. У гэтым няцяжка пераканацца, азнаёміўшыся хоць бы з такой вельмі пашыранай у паэзіі Шаўчэнкі і Купалы формай, як 14-складовы ляонінскі (8×6) верш.**

Форма 14-складовага ляонінскага, ці як называюць яго ўкраінцы каламыйкавага, верша знайшла шырокае распаўсюджанне ў творчасці Шаўчэнкі і Купалы не таму толькі, што яна бытавала ў народна-песеннай паэзіі ўкраінцаў і беларусаў, але перш за ўсё таму, што нацыянальныя геніі ўкраінскага і беларускага народаў успрынялі гэтую вершавую форму, як адну з форм выяўлення характару народа і свайго ўласнага нацыянальнага характару.

Такое ўспрыняцце народна-песеннай творчасці і яе паэтычных форм зусім зразумела і заканамерна, калі размова ідзе пра ўкраінцаў і беларусаў, гістарычны лёс якіх у многім падобны. Аб дакастрычніцкім перыядзе гісторыі кожнага з гэтых народаў (тут маецца на ўвазе перш за ўсё XVI—XVIII ст. ст.) можна сказаць словамі М. В. Гогаля: «...націск прыгнёту і неперааодольных вечных перашкод не давалі яму ні на мінуту заснуць і нараджалі ў яго нараканні і... гэтыя нараканні не маглі інакш і нідзе выявіцца, як толькі ў яго песнях». Звяртае на сябе ўвагу той факт, што, запазычыўшы ў народна-песеннай творчасці сілабічны ў сваёй аснове 14-складовы ляонінскі верш, Шаўчэнка і Купала зрабілі яго непараўнана больш разнастайным рытмічна, багацейшым эўфанічна, а ў выніку — выключна экспрэсіўным і дынамічным, надзвычай меладычным і інтанацыйна гнуткім.

Вітер в гаї не гуляє —  
Вночі спочиває;  
Прокинеться — тихесенько  
В осоки питає.

*Шаўчэнка.*

З шумам бораў, ясакораў,
Ой, гаю, ой, гаю,
На жалейцы-дабрадзейцы
Думку дум зайграю.
*Купала.*

Перад намі — надзвычай своеасаблівая форма верша, форма, якая сінтэзавала асобныя элементы розных сістэм вершаскладання і ўтварыла вельмі арыгінальны рытмамеладычны малюнак. Настолькі арыгінальны, што яшчэ і сёння мы не маем больш-менш дакладнага азначэння адной з самых пашыраных у Шаўчэнкі і Купалы вершаваных форм.

Узнікае пытанне: што ж гэта за такая зменлівая і няўлоўная вершаваная форма? Для Максіма Багдановіча, напрыклад, гэты тып шаўчэнкаўскага верша быў не чым іншым, як «...вельмі звычайным ва ўкраінскай народнай паэзіі сямістопным харэем з цэзурай пасля чацвёртай стапы». Гэта, вядома, ніколькі не азначае, быццам Багдановіч быў аднабаковы або нячулы да зменлівых і нечаканых, але сэнсава і пачуццёва апраўданых рытмічных ходаў шаўчэнкаўскага верша. Наадварот, Багдановіч, магчыма, як ніхто іншы, зразумеў і вытлумачыў некаторыя асаблівасці шаўчэнкаўскага верша, адзначанага ім як «сямістопны харэй». Параўноўваючы гэты шаўчэнкаўскі верш з яго ж «заўсёды дастаткова вытрыманым... чатырохстопным пушкінскім ямбам», Багдановіч указваў, што ў ім (г. зн. «сямістопным харэі») «...парушэнне асноўных патрабаванняў верша робіцца звычайным, праяўляецца ў такім крупным маштабе, што не можа быць і гутаркі аб звычайнай няўважлівасці ці неахайнасці з боку паэта. ...З-пад гэтай няправільнасці верша зусім яўна прасвечвае бессвядомы ці, можа быць, нават свядомы эстэтычны прыём, які вырашае пэўную мастацкую задачу і мае сваё карэнні ў народнай творчасці».

Крыху ніжэй Багдановіч тлумачыць сутнасць гэтага эстэтычнага прыёму, які мае глыбокія карэнні ў народна-песеннай творчасці, наступным чынам: «Для вершаў народнага стылю метр, падпарадкаваны рытму, з'яўляецца найбольш падыходзячым сродкам, і Шаўчэнка, застанавіўшыся на ім, толькі лішні раз праявіў тут сваю геніяльную паэтычную інтуіцыю».

Такім чынам, «метр, падпарадкаваны рытму», або інакш: «звычайная няправільнасць у разглядаемай групе вершаў Шаўчэнкі,— замена харэя ямбам ці амфібрахіем...», для Багдановіча зусім апраўданы эстэтычны прыём. У такім поглядзе на 14-складовы шаўчэнкаўскі верш, відавочна, праявіліся як моцныя, так і слабыя бакі бліскучага даследчыцкага таленту паэта.

Моцным у багдановічаўскім аналізе з'яўляецца тое, што ён бачыў у своеасаблівай рытмічнай структуры шаўчэнкаўскага каламыйкавага верша дзейсны эстэтычны прыём, слабым — спроба вытлумачыць гэты прыём законамі сілабатонікі. Аднак аўтарытэт Багдановіча такі вялікі, што пераважная большасць даследчыкаў, па сутнасці, паўтарае яго тэарэтычныя вывады. Сапраўды, калі мы яшчэ раз успомнім тое, што Багдановіч назваў шаўчэнкаўскі верш «вельмі звычайным ва ўкраінскай народнай паэзіі сямістопным харэем з цэзурай пасля чацвёртай стапы», і тут жа працытуем выказванне Максіма Рыльскага аб гэтым вершы: «звычайны для Шаўчэнкі так званы каламыйкавы верш, але з некаторымі адхіленнямі ў бок разнастопнасці», то адразу заўважым, што вядомы ўкраінскі паэт у сваіх вывадах ідзе ўслед за Багдановічам.

Варта, аднак, падкрэсліць, што Рыльскі, называючы каламыйкавы шаўчэнкаўскі верш умоўна сілабічным, указваў перш за ўсё на тое, як далёка адышоў гэты верш у працэсе развіцця ад сваёй першаасновы — сілабічнага 14-складовага лянонінскага верша. Так далёка, што ад сілабізму засталося ўсяго толькі і знаку: пастаянная цэзура пасля 8-га складу, ды пастаянная колькасць складоў, ды рыфма, як адзінка дынамічнасці рытмараду. Вядома, гэта — нямала! Але дзякуючы генію Шаўчэнкі, названыя рытмастваральныя кампаненты ўступілі ў такія складаныя ўзаемасувязі з фанетычнымі, фаналагічнымі, музычнымі і сінтаксічнымі асаблівасцямі ўкраінскай мовы, што ўтварылі зусім новы тып верша, які вымагае і новага тэарэтычнага асэнсавання.

Перачытаем вядомыя шаўчэнкаўскія радкі:

Ві́тре буйни́й, ‖ ві́тре буйни́й, ‖
Ти з мо́рем гово́риш.
Збуди́ його, ‖ загра́й ти з ним, ‖
Спита́й І синє мо́ре.

Што нам кідаецца ў вочы? Перш за ўсё тое, што тут акцэнтуецца не кожнае сэнсава-значнае слова рытмараду, а толькі тыя словы, якія нясуць на сабе найбольшую сэнсавую, а разам з тым і рытмаўтваральную нагрузку. Гэтыя моцна акцэнтаваныя словы рытмараду выразна дамінуюць над акцэнтамі другога, дапаможнага, плану, падпарадкоўваюць іх сваёй сіле і ўтвараюць такім чынам фразавае ці рытміка-інтанацыйнае адзінства. Такое фразавае адзінства выступае надзвычай ярка тады, калі падкрэслена пастаяннай цэзурай (першы і трэці радкі) або адзначана паўзай, залежнай ад тэмпу і стылю мовы (глядзі другі і чацвёрты радкі). Звяртае на сябе ўвагу і тое, што сінтаксічны падзел мовы супадае тут з пастаяннай цэзурай пасля 4-га і 8-га складоў (першы і трэці радкі). Адзначаная з'ява, відавочна, яшчэ больш падкрэслівае ролю фразавага адзінства ў рытмарадзе і садзейнічае павышэнню экспрэсіўнасці і інтанацыйнай выразнасці шаўчэнкаўскага верша. Варта прачытаць радкі.

Збуди́ його, загра́й ти з ним,
Спита́й синє море,—

каб лішні раз пераканацца ў сказаным. Сапраўды, дзякуючы супадзенню сінтаксічнага падзелу мовы з пастаяннай цэзурай, фразавае адзінства набывае выключную маналітнасць, а слова, якое нясе найбольшую сэнсавую нагрузку, так моцна акцэнтуецца («загра́й ти з ним»), што, нягледзячы на словы, якія ідуць пасля яго, яно знаходзіць як бы водгалас у наступным моцна акцэнтаваным слове (спита́й...»), утвараючы такім чынам аналог кругавой рыфмы. Ці ж гэта не яскравае сведчанне надзвычайнай музычнасці слыху геніяльнага Кабзара! Пасля сказанага становяцца асабліва важнымі і зразумелымі словы Гердэра пра народныя песні: «Песні трэба слухаць, а не глядзець, слухаць унутраным слыхам душы, які не адлічвае, не ўзважвае, не адмервае асобныя склады, а прыслухоўваецца да водгаласу і плыве далей разам з ім». Так мы прыходзім да разумення каламыйкавага верша Шаўчэнкі як верша акцэнтнага, які ўзнік, аднак, на аснове народна-песеннага, што суправаджаецца мелодыяй, і таму захаваў у значнай ступені яго асаблівасці: музычнасць, паліфанічнасць гучання.

Акцэнтны верш Шаўчэнкі — не простае запазычанне, не копія народна-песеннага верша, але новы і надзвычай арыгінальны тып літаратурнага верша, у якім «...музыка з напеву і суправаджэння перайшла ў слова — напаіла рытм, інтанацыі, зрабіла гнуткім сінтаксіс і гэтым змяніла якасна структуру верша» *.

Дарэчы, пасля нашага азначэння каламыйкавага шаўчэнкаўскага верша, як верша акцэнтнага ці танічнага (з двума акцэнтамі ў кожным рытмарадзе), становіцца відавочнай недакладнасць наступнай характарыстыкі, дадзенай шаўчэнкаўскаму вершу ў першым томе «Гісторыі ўкраінскай літаратуры»: «...Шаўчэнка побач з шырока ўжываным так званым каламыйкавым рытмам ...карыстаецца і танічнымі і сілаба-танічнымі рытмамі». Як бачым, шаўчэнкаўскі каламыйкавы верш тут не адносіцца ні да адной з форм акцэнтнага ці танічнага верша, хоць і адзначаецца, што Шаўчэнка карыстаўся танічнымі рытмамі. Так, на жаль, у гэтым выказванні мы не атрымалі навукова дакладнага азначэння каламыйкавага верша як верша акцэнтнага (двухакцэнтнага), бо нельга ж лічыць навукова дакладным такое, напрыклад, азначэнне, у якім гаворыцца, што Шаўчэнка напісаў вельмі многа твораў «вільним пісенним коломийковим ритмом». Відавочна, што ў такім азначэнні можна бачыць толькі чыста знешнюю характарыстыку з'явы, а не яе сутнасць.

Характарызуючы каламыйкавы верш Шаўчэнкі як верш акцэнтны, заснаваны на колькаснай упарадкаванасці моцных акцэнтаў (па два на радок), нельга не звярнуць увагі на такую з'яву, як пераакцэнтоўка галосных, у тым ці іншым слове ў няпарных рытмарадах, бо яна ў многім памагае выявіць адну з надзвычай важных сутнасных асаблівасцей гэтага верша.

Неабходна адзначыць, што пераакцэнтоўка галосных або перанос націску з граматычна акцэнтаванага складу ў слове на неакцэнтаваны як свядомы эстэтычны прыём паявіўся ў творчай практыцы Шаўчэнкі пад непасрэдным уплывам народна-песеннай творчасці.

Народна-песенная паэзія, дзе пануе пераважна стыхія музыкі, знае нямала прыкладаў, калі моцныя долі музычнага такту не супадаюць з граматычна акцэнтаваным галосным. Такая з'ява ў музыцы носіць назву сінкопы. Заўважаючы такую з'яву ў паэтычнай практыцы Шаўчэнкі, думаецца, мэтазгодна ў далейшым вызначаць яе як адзін з «тэхнічных» прыёмаў яго шматфарбнага верша, а менавіта — прыём сінкапіравання.

Характэрна, што для Шаўчэнкі прыём сінкапіравання ніколі не быў самамэтай. У адносінах вялікага Кабзара да прыёму сінкапіравання нельга знайсці і ценю той празмернасці, якая, напрыклад, вельмі выразна выступала ў творчасці Бальманта і некаторых яго сучаснікаў пры скарыстанні аднаго з дзейсных эўфанічных сродкаў — алітэрацыі.

* Уладзімір Огнеў. «Кніга пра вершы». «Советский писатель», М., 1963, стар. 192. Гэтымі словамі аўтар сцвярджае, што музычны пачатак вельмі адчувальны і ў сучасным вершы. Але, відавочна, словы гэтыя найбольш дарэчы пры характарыстыцы верша Шаўчэнкі.

У паэтычнай практыцы Шаўчэнкі прыём сінкапіравання сустракаецца ў двух выпадках. У творах, напісаных ямбам, сінкопа знаходзіцца ў сярэдзіне рытмараду:

Уже весною, як орали,
Два трупи нá полі найшли
І на могилі поховали.

У каламыйкавых вершах яна ўзнікае (за рэдкімі выключэннямі) толькі на канцы вершаванага радка, у рыфме: «камінь—áмінь»; «каламутнýю—святую».

Характэрна, што прыём сінкапіравання знайшоў значнае пашырэнне і ў творчай практыцы Янкі Купалы. У беларускага паэта, як і ў Шаўчэнкі, прыём сінкапіравання скарыстоўваецца (за рэдкімі выключэннямі) толькі ў клаўзулах. Напрыклад:

Уцякала Бандароўна,
Ды паміж платамі,
А за ёю тры гайдукі
З голымі шаблямí.

У сувязі са сказаным звяртае на сябе ўвагу наступнае выказванне Рыгора Бярозкіна аб вершы, якім напісана купалаўская «Бандароўна»: «...падзеі, апісаныя ў паэме, ...гавораць уласным голасам: голасам каламыйкавага, васьмі-, шасціскладовага верша з вельмі рухомай сістэмай націскаў (так званыя сінкопы)...» У адносінах да каламыйкавага верша Купалы Бярозкін дапускае такую ж самую недакладнасць, якую зрабіў Я. Шабліоўскі, гаворачы пра разнастайнасць націскаў у каламыйкавым вершы Шаўчэнкі. Сапраўды, калі Шабліоўскі прыводзіў у доказ разнастайнасці націскаў у шаўчэнкаўскім каламыйкавым вершы наступныя радкі:

Зóре моя || вечíрняя
Зійди над горою,
Поговорим || тихесенько
В неволі з тобою.
Розкажú, || як за горóю
Сóнечко сідає,
Як у Дніпрá || весéлочка
Воду позичає,—

то нельга было не згадзіцца з тым, што разнастайнасць націскаў тут у наяўнасці. Аднак разнастайнасць націскаў тут не ёсць свядомы эстэтычны прыём, пакольк, відавочна, прастаўлены яны Шаўчэнкам з мэтай правільнага прачытання таго ці іншага слова.

Што ж датычыць заўважанай Бярозкіным «вельмі рухомай сістэмы націскаў» у купалаўскім каламыйкавым вершы:

Уцякáла || Бандарóўна
У пóле I з цёплай хáты.
Абымáла || яе нóчка,
А вéцер I крылáты
Расплятáў ёй || кóсы буйны,
Пéсціў I белы грýдзі...,

то трэба зноў-такі згадзіцца, што сістэма націскаў у гэтым вершы сапраўды вельмі рухомая, аднак дасягнута яна не за кошт скарыстання ў рытмарадах сінкопаў, а дзякуючы граматычна правільнай пастаноўцы націскаў у сэнсава- і рытмаапорных словах кожнага з «прасадычных перыядаў» * акцэнтнага каламыйкавага верша.

Калі б мы атоесамілі «вельмі рухомую сістэму націскаў» у каламыйкавым купалаўскім вершы з паняццем сінкопы, то нам давялося б убачыць разбурэнне рытмамелодыкі купалаўскага каламыйкавага верша. Бо што такое сінкопа ў вершаваным рытмарадзе, як не пераакцэнтоўка складоў, г. зн. перанос націску з граматычна акцэнтаванага складу на граматычна неакцэнтаваны склад у слове пад уплывам рытмамелодыкі, музыкі верша. Відавочна, што, атоесаміўшы паняцце сінкопы з «вельмі рухомай сістэмай націску» ў шаўчэнкаўскім ці купалаўскім каламыйкавым вершы, нам прыйшлося б, напрыклад, чытаць наступныя купалаўскія радкі:

З дзікім смéхам || учапіліс
За кóсы I і рýкі,
Пацягнýлі || нешчаслíву
На вялікі I мýкі.

* Прасадычныя перыяды, па два на рытмарад, адасоблены адзін ад другога цэзурай (II) і факультатыўнай паўзай (I).



Ночка цёмная || глядзéла
Ды цямнéйша I стáла,
Áдна зóрка || мігацéла —
I тáя I прапáла,—

такім чынам:

З дзікім смехам учапіліс
Зá косы і рукі,
Пацягнулі нешчасліву
На вялікі мукі.
Ночка цёмная глядзела
Ды цямнейша стала,
Áдна зóрка мігацела —
І тая прапала.

Няцяжка заўважыць, што расстаноўка націскаў, зробленая на аснове атоесамлення рухомай сістэмы націскаў з сінкопай, разбурае ўнутраную стройнасць і непаўторную гарманічнасць каламыйкавага акцэнтнага верша.

Націскі ці «моцныя акцэнты» і ў Шаўчэнкі і ў Купалы маюць сапраўды вялікую рухомасць, аднак рухомасць гэтая вызначаецца пераважна месцам моцнага акцэнту ў адносінах да цэзуры ці факультатыўнай паўзы. Моцны акцэнт то наближаецца ўпрытык да іх, то аддаляецца на адзін-два-тры склады.

Неабходна, думаецца, указаць яшчэ на тое, што і сінкопы ўдзельнічаюць, хоць і ў вельмі нязначнай ступені (таму нельга поўнасцю адмаўляць і вышэй прыведзенае выказванне Р. Бярозкіна), у стварэнні вельмі рухомай сістэмы націскаў у купалаўскім акцэнтным каламыйкавым вершы. Аднак сінкопы ў каламыйкавым вершы Купалы, як і ў Шаўчэнкі, сустракаюцца пераважна толькі ў клаўзулах («платáмі—шаблямí»).

Купала дапускаў часам сінкопу і ў сярэдзіну рытмараду. Аднак гэта рабілася, як і ў Шаўчэнкі, толькі ў тых выпадках, калі неабходна было захаваць ямбічную кадэнцыю. Розніца толькі ў тым, што Купала падпарадкаваў строга ямбічнаму рытму каламыйкавы верш:

1. Яшчэ не дрэме чорнае
У закутках груганнё
І душы непакорныя
Сачýць, як воўк ягнё.
2. Мяркуюць так і раюцца
Ідýчы сват і кум...
Ніхто не дакапаецца
Да іхніх слоў і дум.

У словах «сачыць» і «ідýчы» няцяжка заўважыць свядомую пераакцэнтоўку з мэтай захавання ямбічнай кадэнцыі. Скарыстанне сінкопы ў сярэдзіне рытмараду, відавочна, выклікана пошукамі рытмічнай разнастайнасці не толькі за кошт прымянення шматлікіх варыяцый таго ці іншага з класічных вершаваных памераў, але і за кошт поўнага падпарадкавання акцэнтнага каламыйкавага верша сілаба-танічнай рэгулярнасці.

Калі мы звернем увагу на тое, што і ў Шаўчэнкі і ў Купалы сінкопа ў сярэдзіне рытмараду сустракаецца пераважна толькі ў вершах, падпарадкаваных сілаба-танічнай рэгулярнасці, а ў іхніх каламыйкавых вершах, якія пазбаўлены строгай урэгуляванасці ў чаргаванні націскных і ненаціскных складоў, яна за рэдкімі выключэннямі адсутнічае, то можна з упэўненасцю гаварыць пра гэтыя апошнія як вершы акцэнтныя ці чыста танічныя, дзе лічацца не склады, не стопы, а толькі моцныя акцэнты (па два на рытмарад), якія падаюць на сэнсава- і рытмаапорныя словы васьмі- і шасціскладовых рытмарадоў. Вывад гэты пацвярджаецца і статыстычнымі дадзенымі. У паэме «Безназоўнае», напрыклад, дзе ёсць толькі адзін невялікі раздзельчык (28 радкоў), напісаны ўрэгуляваным каламыйкавым вершам, знаходзім дзве сінкопы ў сярэдзіне рытмараду, а ў паэме «Бандароўна» на 384 рытмарады не прыпадае... ні аднаой!

Нарэшце, нельга не звярнуць увагі на рытмастваральную ролю ўнутранай рыфмы ў акцэнтным каламыйкавым вершы Шаўчэнкі і Купалы.

У вядомым артыкуле «Краса і сіла» Максім Багдановіч, характарызуючы асаблівасці шаўчэнкаўскага каламыйкавага верша, вельмі тонка прыкмеціў, што ў ім «...усе ўнутраныя рыфмы... пастаянна камбініруюцца з цэзурай, якая, такім чынам, падкрэслівае і выдзяляе іх»:

Сонце гріє, || вітер віє,
З поля на долину;
Над водóю || гне з вербóю
Червону колину.

Характэрна, што ўказаную Багдановічам асаблівасць шаўчэнкаўскага каламыйкавага верша мы знаходзім і ў арсенале купалаўскай паэтыкі:

Ой, зайгра́ю, ‖ запыта́ю.
За што, за якое
Плачуць пе́сні, ‖ як не трэ́сне
Сэрца маладое?

Сапраўды, унутраныя рыфмы тут знаходзяцца ў цесным спалучэнні з цэзурай і выступаюць не толькі ў якасці гукавой аздобы вершаванага радка, але адначасова выконваюць і свае рытмастваральныя функцыі. У чым гэта выяўляецца? Перш за ўсё ў тым, што, дзякуючы ўнутранай рыфме, цэзура падкрэслівае сіметрычную двудзельнасць 8-складовых рытмарадоў. У выніку — кожны паўверш у нячотных рытмарадах каламыйкавага верша набывае большую, чым без унутранай рыфмы, сэнсавую і рытмічную самастойнасць, г. зн. яшчэ больш аддаляецца ад фразавасці ў пабудове вершараду, якая ўласціва класічнаму, напеўнаму вершу, і ўпрытык набліжаецца да той сэнсавай і рытмічнай самастойнасці амаль кожнага слова, якую можна назіраць у чыста танічным вершы У. Маякоўскага. Адзначаная намі тэндэнцыя ў развіцці купалаўскага верша асабліва яскрава выступае тады, калі ў нячотных рытмарадах з'яўляецца ўжо не адна, а дзве ўнутраныя рыфмы, падмацаваныя рытмічнай паўзай ці цэзурай, напрыклад:

К до́лі, ‖ к во́лі, ‖ гэт, па по́лі,
Як леў, пабягу;
Спа́ці, ‖ жда́ці ‖ ў курнай ха́це
Ўжо больш не магу.

Гэты прыклад, думаецца, дастаткова грунтоўнае сведчанне таго, што цэзура ў адзінстве з унутранай рыфмай у купалаўскім каламыйкавым вершы выконвае тую ж самую ролю, якую ёй прыходзіцца выконваць у чыста танічным вершы Маякоўскага, а менавіта: яна выступае ў якасці аднаго з важнейшых элементаў рытму.

Цікава адзначыць, што цэзура ў спалучэнні з унутранай рыфмай выступае як важнейшы элемент рытму не толькі ў каламыйкавым купалаўскім вершы. Вось характэрны прыклад:

Устань!
Ўсе, глянь,
Пайшлі...
І вот —
Свабод!
Зямлі!
. . . . . . . . .
Эх, бой,
Як стой,
(Зазлуй),
Злаўчы,
Крычы,
Ваюй!
Ці так
Бядак
Прапаў,
А мо
Ты б што
Дастаў?!
*(«Устань», 1907.)*

Мы перакананы, што разглядаць дадзены твор з пункту погляду сілаба-танічнай рэгулярнасці будзе памылкай. Праўда, хто-ніхто, каму важней мёртвая схема, чым жывое дыханне верша, можа тут вельмі лёгка праставіць націскі і сказаць: перад намі аднастопны ямб або, калі запіша радкі такім чынам:

Устань! Ўсе, глянь, пайшлі...
І вот — свабод! зямлі!..,—

вызначыць памер як трохстопны ямб. Даўшы такое азначэнне, ён будзе, бясспрэчна, па-свойму правы. Аднак нельга прыняць такое вызначэнне, бо, па нашаму меркаванню, яно супярэчыць рэальным фактам. Сапраўды, калі б Купала падыходзіў к гэтаму вершу з меркай сілаба-танічнай рэгулярнасці, то ён, напэўна, запісаў бы яго, як і наш уяўны апанент, двухрадковымі страфамі. Пры такім запісу роля цэзуры, як элементу рытму, у нейкай ступені аслабела б, але ўсё ж не настолькі, каб на яе можна было забыцца і аддацца пры чытанні ва ўладу добрай «класічнай» манатоніі напеўнага верша. Наадварот! Нават пры запісу двувершам названы твор Купалы не траціць выбуховай сілы свайго рытму. І ўсё дзякуючы таму, што цэзура ў спалучэнні з унутранай рыфмай стварыла тут выключны па дзейснасці рытмічны эфект, у выніку якога парушыліся прывычныя для рэгулярнага верша сэнсавыя і рытмічныя сувязі, а менавіта: амаль кожнае слова ў вершы стала выступаць у якасці самастойнай сэнсавай адзінкі. Відавочна, што паэтычны слых Купалы, надзвычай чулы да ўсякіх (нават ледзь улоўных!) зрухаў у рытмамелодыцы сваіх твораў, заўважыў гэтыя перамены, а заўважыўшы — не мог не адзначыць новыя якасці свайго верша графічна.

Трохстопны класічны ямб, дзякуючы спалучэнню цэзуры з унутранай рыфмай, распаўся ў Купалы на тры сіметрычныя часткі, кожная з якіх выступіла ў якасці самастойнай рытмічнай і сэнсавай адзінкі. Што з гэтага вынікае? Перш за ўсё тое, што, заўважаная Багдановічам у шаўчэнкаўскім каламыйкавым вершы рытмастваральная роля цэзуры ў спалучэнні з унутранай рыфмай, у нашым прыкладзе, узятым з паэтычнай практыкі Я. Купалы, вырасла да такой ступені, што скарыстанне яе прывяло да падпарадкавання законам чыстай тонікі аднаго з памераў сілаба-танічнага вершаскладання, у прыватнасці — трохстопнага ямба.

Дарэчы, тое, што ў купалаўскім акцэнтным ці чыста танічным вершы «Устань» можна заўважыць і сілаба-танічную рэгулярнасць, у прыватнасці ямбічную кадэнцыю, нас не павінна бянтэжыць. Такую ж з'яву, г. зн. падпарадкаванне ямбічнага рытму законам чыстай тонікі, мы заўважаем у вершах Маякоўскага, у паэме «На ўвесь голас», напрыклад:

Мой сти́х
трудо́м
громаду ле́т прорвёт
и я́вится
весо́мо,
гру́бо,
зри́мо,
как в на́ши дни́
вошёл водопрово́д,
срабо́танный
ещё раба́ми Ри́ма.

Сутнасць гэтай з'явы ў творчай практыцы Маякоўскага вельмі добра растлумачана Л. Цімафеевым: «...тут адасобленасць слова не разбурае цэласнасці радка. Верш гучыць як цэласная мова, а не як рад разарваных трагічных усклікаў... Тут не было адмаўлення ад прынцыпаў ранняй паэтыкі; прыход да ямба, напрыклад, зніжэнне клічных інтанацый і г. д. — усё гэта не было парушэннем ранейшых творчых прынцыпаў; гэта было пашырэннем іх новымі элементамі выразнасці, якія дазвалялі даць максімальна шырокі аб'ём перажыванняў».

Застаецца толькі дадаць, што Л. Цімафееў гаворыць тут пра позняга Маякоўскага, які, захоўваючы асноўны прынцып сваёй паэтыкі — прынцып ударнасці, ужо не адмаўляўся ад выяўленчых магчымасцей верша рэгулярнага. Аднак, робячы так, ён разам з тым сілаба-танічную рэгулярнасць падпарадкаваў прынцыпу ўдарнасці. Мы ж вядзем размову пра верш маладога Купалы (1907), дзе, нягледзячы на прысутнасць ямбічнай кадэнцыі, вельмі выразна выступае адасобленасць кожнага слова і верш гучыць менавіта так, як у ранняга Маякоўскага, «як рад разарваных трагічных выкрыкаў». І хоць у Купалы гэта, па сутнасці, адзін з нешматлікіх прыкладаў такога плану, аднак ён сведчыць аб тым, што беларускі будзіцель чуйна ўлавіў трагічныя рытмы сваёй эпохі, тыя рытмы, якія потым сталі характэрнай рысай паэтыкі ранняга Маякоўскага. Сказанае, вядома, не прыхамаць даследчыка, а сцверджанне гістарычнай справядлівасці. Бо сапраўды і ўкраінская (Шаўчэнка) і беларуская (Купала) паэзія прыйшлі к такой форме, як акцэнтны верш, сваім самастойным шляхам і нават крыху раней, чым У. Маякоўскі. Праўда, гістарычная справядлівасць патрабуе адразу і пэўнага ўдакладнення, а менавіта: чыста танічны верш Маякоўскага выступіў, па сутнасці, у якасці новай сістэмы вершаскладання, акцэнтны ж каламыйкавы верш Шаўчэнкі і Купалы хоць і быў з'явай вельмі сімптаматычнай, успрымаўся пераважна ўсяго толькі як адна з арыгінальнейшых форм верша, які ўзнік на грунце народнай песні.

Зразумела, што дадзеная акалічнасць у многім спрыяла таму, што маладыя беларускія паэты, асабліва ў 20-я гады, пераймалі, часам вельмі знешне, характэрныя асаблівасці чыста танічнага верша У. Маякоўскага, абыходзячы пры гэтым свой нацыянальны мастацкі вопыт, у прыватнасці — вопыт Янкі Купалы ў галіне стварэння акцэнтнага верша на нацыянальнай беларускай глебе.

# НА ФОРУМЕ АСІЛКАЎ

— У старажытных германцаў існавалі зборышчы, так званыя «цінгі»,— расказваў мне карэспандэнт цэнтральнага спартыўнага органа ГДР «Дэйчэ шпортэха» Гюнтэр Хот.— На іх нашы продкі спаборнічалі ў сіле і спрыце. Дык вось у Мінску мне здалося, што я трапіў на «цінг», так маім уяўленням пра яго адпавядала ўсё тое, што я ўбачыў у вашым цудоўным Палацы спорту.

Сапраўды, усе лепшыя сілы барацьбы класічнага стылю сканцэнтраваны на еўрапейскім кантыненце, і таму чэмпіянат Еўропы ў Мінску, практычна, не ўступаў па свайму складу першынству свету. Калі б суддзя-інфарматар уздумаў пералічыць усе тытулы спартсменаў, якія выходзяць на дыван, узнікалі б працяглыя паўзы. Сярод удзельнікаў было нямала такіх, хто не раз валодаў тытуламі чэмпіёнаў сваіх краін, Еўропы, свету, алімпійскіх гульняў. Адным словам, такога сузор'я праслаўленых спартсменаў Мінск яшчэ не бачыў. Гэтая акалічнасць і прывабіла мноства гасцей — спецыялістаў, прадстаўнікоў прэсы і проста аматараў барацьбы. Яны з'ехаліся з усіх канцоў нашай краіны і з-за яе рубяжоў. І таму,



Кіраўнікі міжнароднай аматарскай федэрацыі барацьбы на чале з яе прэзідэнтам Ражэ Кулонам (другі злева) занялі свае месцы.



Перад пачаткам спаборніцтваў.

што ні дзень — новая сустрэча, адна цікавейшая за другую...

Знаўцы барацьбы, вядома, добра памятаюць Васіля Зеніна. Гэты высокі, чарнавалосы асілак валодаў адточанай тэхнікай, заўсёды змагаўся агрэсіўна, не раз перамагаў на чэмпіянатах краіны, а ў 1961 годзе Зенін стаў чэмпіёнам свету ў сярэдняй вазе. Тады ён жыў у Валгаградзе, а цяпер прыехаў у Мінск з Сафіі. Зенін быў запрошаны ў Балгарыю трэнерам-кансультантам нацыянальнай зборнай і вось ужо другі год перадае свой багаты вопыт мясцовым спартсменам, знаёміць іх з асновамі савецкай школы барацьбы, якая здабыла славу самай перадавой у свеце.

Васіль у кароткіх прамежках паміж сустрэчамі расказваў пра свае ўражанні аб Сафіі, радаваўся працавітасці і кемлівасці балгарскіх спартсменаў. Яшчэ перад пачаткам спаборніцтваў ён раіў прыглядзецца да «мухача» Петра Кірава і — не памыліўся. Петр стаў чэмпіёнам Еўропы ў найлягчэйшай вазе.

Сярод спартсменаў у ярка-сініх куртках з надпісам «Італі» вылучаўся немалады ўжо, распаўнелы чалавек. Такі ж брунет, як і ўсе італьянскія барцы, ён тэмпераментам сваім не саступаў самым маладым і схільным да захаплення. Але імя ў яго аказалася зусім не італьянскае — Нуры Байтарон. Па нацыянальнасці ён турак і памагае італьянскім барцам рыхтавацца да буйнейшых чэмпіянатаў.

Байтарон прыехаў у Савецкі Саюз праз 35 год пасля свайго першага візіту. Тады нашы спартсмены толькі яшчэ завязвалі міжнародныя сувязі, і сярод іх першых сапернікаў былі турэцкія барцы. Нуры сустракаўся на дыване з савецкім чэмпіёнам Рыгорам Пыльновым. Аб лёсе свайго саперніка, з якім ён пасябраваў, турэцкі ветэран не ведаў нічога. Яму расказалі, што Пыльноў у 30-я гады не раз бываў у Мінску, удзельнічаў у стварэнні шырока вядомай цяпер беларускай школы барацьбы. А ў часе вайны добраахвотнікам пайшоў у славутую АМСБАП — брыгаду асобага прызначэння, разам са сваімі таварышамі па спорту храбра змагаўся ў варожым тыле і геройчна загінуў. Байтарон разам з намі аддаваў належнае светлай памяці выдатнага спартсмена Рыгора Пыльнова і радаваўся, што ў яго ёсць вартыя нашчадкі.

Як звычайна на буйных міжнародных спаборніцтвах, крынічыла жыццё ў прэсцэнтры. Для асвятлення ходу чэмпіяната прыехалі 36 замежных карэспандэнтаў, прадстаўнікі ледзь не ўсіх цэнтральных выданняў нашай краіны. Побач з імі працавалі і беларускія журналісты. Тэлефаністкі ў Палацы спорту выклікалі то Стамбул, то Маскву, то Стакгольм, то





Крынічыць жыццё ў ложы прэсы.



Найбольшыя хваляванні, як заўсёды, у трэнераў. Першы злева — Нуры Байтарон (Італія).

Будапешт, то Хельсінкі, то Варшаву. Карэспандэнты шукалі сенсацый, прадказвалі прагнозы, нерваваліся ля тэлефонных трубак. Адным словам, усё было, як звычайна...

І ўсё ж у журналісцкім корпусе не абышлося без сенсацый. На чэмпіянаце па барацьбе — гэтаму цалкам мужчынскаму віду спорту — сярод карэспандэн-



На дыване Сяргей Агамаў у сутычцы з прадстаўніком Румыніі.

Перамог наш!..



Венгерскі асілак Козма.

таў, акрэдытаваных у прэс-цэнтры, аказалася маладая і прыгожая Хрысціна. Сама ў нядаўнім мінулым спартсменка, яна аддала цяпер свае сімпатыі і інтарэсы вострым, мужным сутычкам на дыванах і нядрэнна разбіраецца ў хітрасцях класічнай барацьбы. Асабліва радавацца поспехам сваіх суайчыннікаў ёй не давялося. Адзін толькі Пер Свенсан вяртаецца дамоў з медалем. Але Хрысціне вельмі спадабаліся савецкія барцы, асабліва Сяргей Агамаў, па яе словах, «вельмі смелы і сімпатычны».






Калі свой прайграе...

Аднак маладая шведка аказалася не адзінай госцяй чэмпіяната. Побач з «патрыярхамі» з міжнароднай аматарскай федэрацыі барацьбы — ФІЛА — яе прэзідэнтам французам Ражэ Кулонам, віцэпрэзідэнтам Аляксеем Катуліным, генеральным сакратаром югаславам Міланам Эрцэганам за сталом ФІЛА сядзела немаладая жанчына. Удава віцэ-прэзідэнта міжнароднай федэрацыі фіна Арва Хімберга атрымала ў спадчыну ад нябожчыка мужа любоў да барацьбы, як да спорту. У Мінск Хэлена Хімберг прыбыла як кіраўнік фінскай каманды — выпадак зусім унікальны!

Падрабязна ўспамінаць ход сутычак, называць імёны чэмпіёнаў і прызёраў ці варта. Паспрабую лепш адказаць на пытанне, якое хвалюе многіх аматараў барацьбы: чаму савецкім спартсменам далося менш залатых медалёў, чым звычайна?

Перш за ўсё — не варта гэты чэмпіянат, яго вынікі разглядаць як паражэнне нашых барцоў. Савецкая каманда, якая перамагае ўжо вось 15 гадоў на ўсіх без выключэння сусветных і еўрапейскіх першынствах па класічнай барацьбе, не здрадзіла сваёй традыцыі. Яна стала фактычным уладальнікам кубка за камандную перамогу яшчэ за дзень да заканчэння спаборніцтваў. І гэтая вось акалічнасць — выкананне першай, але важнай задачы датэрмінова — зрабіла пэўны ўплыў на псіхалагічную падрыхтоўку савецкіх спартсменаў да заключных паядынкаў. Некаторым з іх у апошніх сутычках дастаткова было зрабіць нічыю, і яны выходзілі таму на дыван з непрыхаваным намерам «адштурхацца» дзевяць мінут і дамагчыся патрэбнага выніку. А «штурхачы» ў іншых камандах былі мацнейшыя за нашых. Вось і атрымалася, што выйграваць паядынкі савецкія барцы ўмеюць, а рабіць нічые не навучыліся. Так сплылі залатыя медалі з рук Мяркулава, Казакова, Вяршыніна. Што датычыць спартсмена цяжкай вагі Шмакава, дык ён не здолеў настроіцца на сур'ёзнае супраціўленне венгерскаму волату, алімпійскаму чэмпіёну Козме і, яшчэ не выходзячы на дыван, асудзіў сябе на паражэнне.

Рашучы паядынак Мікалая Шмакава.



Каманда Савецкага Саюза.

Чэмпіянат у Мінску быў першы, які праводзіўся па новых правілах. Памянялася не толькі формула паядынку — тройчы па тры мінуты. Памяняліся і правы суддзяў. Цяпер ад думкі кожнага з іх залежыць больш, чым раней. Мне давялося гутарыць са старшынёй усесаюзнай федэрацыі барацьбы, віцэ-прэзідэнтам ФІЛА Аляксеем Катуліным. Ён звярнуў увагу на тое, што цяпер да арбітраў прад'яўляюцца новыя патрабаванні. Калі раней яны павінны былі быць сумленнымі і аб'ектыўнымі, то цяпер павінны стаць сумленнымі ўтрая. На жаль, выпрабаванне на аб'ектыўнасць вытрымалі не ўсе суддзі на чэмпіянаце. Іх памылкі — наўмысныя або выпадковыя — бясспрэчна, зрабілі ўплыў на вынік заключных паядынкаў, у якіх выступалі нашы барцы Рыбалка і Агамаў.

Нарэшце, нельга забываць і пра тое, што на чэмпіянаце Еўропы зборная СССР выступала, па сутнасці, другім складам. Пры тым шырокім выбары майстроў вышэйшага класа, які маюць трэнеры савецкай каманды, мы можам дазволіць сабе такую раскошу — рыхтаваць дзве розныя групы спартсменаў: адну для еўрапейскага першынства, другую для сусветнага. Ні адной «барцоўскай дзяржаве», акрамя СССР, такое не пад сілу. І можна спадзявацца, што на чэмпіянаце свету наш асноўны склад барцоў выступіць больш паспяхова.

Мінчанам, якія прыклалі шмат намаганняў для таго, каб спаборніцтвы прайшлі найбольш арганізавана, каб удзельнікі пастаянна адчувалі ўвагу і добразычлівыя адносіны да сябе, было прыемна чуць самыя высокія водгукі ад самых высокіх аўтарытэтаў. Агульную думку падагуліў Ражэ Кулон, запісаўшы ў кнізе пачэсных гасцей мінскага Палаца спорту наступныя радкі:

«Я сардэчна віншую горад Мінск за цудоўную арганізацыю 23-га чэмпіяната Еўропы па класічнай барацьбе. Таксама віншую ўсіх спартыўных кіраўнікоў Савецкага Саюза, якія так актыўна і эфектыўна папрацавалі, каб была забяспечана ўдача гэтых спаборніцтваў. Ад імя кіраўнікоў ФІЛА вялікае дзякуй усім.

Ражэ Кулон.

21 мая 1967 г. г. Мінск».

Закрываючы чэмпіянат, старшыня арганізацыйнага камітэта першынства, старшыня выканкома Мінскага гарсавета Васіль Шарапаў выказаў спадзяванні, што калі-небудзь Мінск стане арэнай першынства свету па барацьбе. Трэба меркаваць, што цудоўнай арганізацыяй спаборніцтваў наш горад заслужыў такое права, і таму нашы спадзяванні могуць здзейсніцца.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**

Фота **А. Дзітлава.**




— Гэта пераможца. Як жа тады выглядае пераможаны?

Без слоў.



